# ЗМЕСТ

Крыніца

Я

# Сымон БУДНЫ




(каля 1530–1593)

*Пра Мяне*

Сымон БУДНЫ

# КОЖНЫ, ХТО ЗГІНУЦЬ НЕ ХОЧА:

*прадмова да катэхізіса*



КОЖНЫ, ХТО ЗГІНУЦЬ НЕ ХОЧА:

*прадмова да катэхізіса*

**Слова,
што ў назве прыводзіцца:
катэхізіс,–
узятае з грэцкай мовы;
яно азначае,
калі перакласці
яго на славянскую мову,
агалашэнне,
ці навучанне ўголас.**

**Мае быць ведама,
што раней
апосталы
і іх вучні
не гэтак хутка
і не так латва
наварачэнцаў
з элінаў ці з габраяў,
якія да веры
Хрыстовай прыходзілі,
дапускалі
да прычашчэння таемствам
святым.**

**Ахрысцілі
Пётр і апосталы,
што былі
з ім разам у дзень
сшэсця Святога Духа,
тры тысячы
людцаў ізраільскіх,
што прынялі
іхняе слова ахвотна
і сэрцам расчуліліся;
а Піліп –
у ліку сямі абраны
дыяканам –
ахрысціў
еўнуха, ці скапца,
царыцы Мурынскай зямлі,
што здзейсніў**

*Пра Мяне:*

## багаслоў, філосаф, літаратар

Таленавіты пісьменнік, выдатны педагог, філосаф і багаслоў Сымон Будны належыць да ліку першарадных асоб нашай старажытнай культуры, дзеячаў еўрапейскага маштабу. Выхаваны на рэнесансава-гуманістычных ідэях, ён прадоўжыў традыцыі, закладзеныя вялікімі папярэднікамі, славянскімі асветнікамі – Кірылам і Мяфодам, Ефрасінняй Полацкай, Кірылам Тураўскім, Аўрамам Смаленскім, Рыгорам Цамблакам, Міколам Гусоўскім, Францыскам Скарынай.

Кнігі беларускага пісьменніка, выдадзеныя ў Нясвіжы і Лоску, набылі вядомасць літаральна ўва ўсіх краінах Заходняй Еўропы. Гуманістычныя ідэі С.Буднага ў абарону свабоды чалавечага духу, ягоныя палымяныя заклікі да паўсюднага панавання ў грамадстве розуму і навукі знайшлі глыбокі водгук не толькі ў сэрцах суайчыннікаў, але і ў Нямеччыне, Швейцарыі, Францыі, Англіі, Італіі, Маскоўскай Русі. Будны стаў увасабленнем вальнадумства і рэнесансавай смеласці, сімвалам духоўнай велічы і таленту славянскіх народаў.

Першая дакументальная згадка пра С.Буднага – кароткі запіс у метрыцы Кракаўскага універсітэта за 19 кастрычніка 1544. Калі зыходзіць з таго, што юнаку ў час паступлення ва універсітэт было каля 14 гадоў,– звычайны для пачаткоўцаў узрост – то можна меркаваць, што ён нарадзіўся прыкладна ў 1530 г. або ў самым канцы 20-х гадоў XVI ст. у нейкай Будзе. Дзе знаходзілася тая Буда – загадка, бо вёсак з такім найменнем на Беларусі, таксама як і ў Польшчы, безліч. На карысць жа яго беларускага паходжання паказваюць многія факты. Найперш, ён вельмі кепска ведаў Польшчу. Гэта і нядзіўна, бо дакладна вядома, што ўсё сваё свядомае жыццё Будны пражыў у Вялікім княстве Літоўскім і толькі зрэдку выязджаў у Польскае Каралеўства для ўдзелу ў пратэстанцкіх Сінодах.

Аднак асабліва важна тое, што Будны напісаў свае першыя творы – «Катэхізіс» і «Апраўданне грэшнага чалавека перад Богам» – акурат на старабеларускай мове. Матчынай мовай асветніка несумненна была бела-

руская мова. Пра гэта красамоўна сведчыць і палымяны заклік Буднага да князёў Радзівілаў шанаваць яе ва ўсе часы, берагчы як неацэнны скарб. «Слушная бо речь ест,– пісаў ён у звароце да Радзівілаў,– абы ваши княжацские милости того народу язык миловати рачили, въ котором давъные предъки и их княжацъские милости панове отци ваших княжецских милости славне преднейшие преложеньства несуть». Чужынец не напісаў бы гэткіх пранікнёных слоў пра нашу мову, яны маглі нарадзіцца толькі ў сэрцы патрыёта, чалавека з непахісңай верай у свой народ.

На жаль, дакладна невядома, дзе Будны атрымаў пачатковую адукацыю. Праўда, ёсць падставы гаварыць пра яго знаходжанне на Падляшшы, магчыма ў маёнтку Хадкевічаў, у Заблудаве, ці ў Супрасльскім манастыры. Пра гэта ўскосна сведчыць гісторыя з выпраўленнем кніг Святога Пісання архімандрытам Супрасльскага манастыра Кімбарам у сярэдзіне 30-х гадоў XVI ст., пра якую асветнік расказаў у сваёй «Прадмове да Чытача», змешчанай у Новым Запавеце 1574 г. Там якраз выклікаюць цікавасць занатаваныя Будным розныя дэталі, нават дробязныя факты, якія мог ведаць толькі сведка тых падзеяў.

У 1558 г. С.Будны распачынае дзейнасць у Вільні. Сакратар Віленскага кальвінскага гуртка ў адным з пратаколаў, пазней падрыхтаваных да друку Янам Зарэмбам, 11 студзеня 1558 года запісаў: «У той дзень Сымон (Зак.– *І.С.*), казнадзей збору ў Літве і на Падляшшы, а таксама суперінтэндант кальвінскі, паведаміў прысутным пра велізарную карысць ад вывучэння Катэхізіса і з дазволу старэйшых братоў прызначыў Сымона Буднага катэхізістам». Дарэчы, гэта самая ранняя дакументаваная звестка пра знаходжанне Буднага ў Вільні.

С.Будны выкладаў асновы тэалогіі ў Віленскім пратэстанцкім зборы, атрымліваючы за гэта, як сведчаць крыніцы, шчодрую па тым часе ўзнагароду. У сталіцы Вялікага княства Літоўскага С.Будны знайшоў не толькі надзейны жыццёвы прытулак, але і атрымаў выдатную мажлівасць удасканаліць свой талент педагога, пісьменніка, філосафа і багаслова. У Вільні панавала спрыяльная для творчасці атмасфера. Там яшчэ лунаў дух асветнікаў і гуманістаў Эразма Вітэлія, Міколы Гусоўскага, Францыска Скарыны. Вольналюбівыя віленчукі першыя пазнаёміліся з новымі

**вандроўку ў Ерусалім,**
**каб там**
**учыніць пакланенне,**
**і быў Піліпу**
**абвешчаны праз анёла.**

**А Пётр**
**яшчэ ахрысціў Карніла,**
**чые малітвы**
**і міласціны ўзышлі**
**да Бога**
**і пра каго,**
**тройчы прадказваючы,**
**гаварыў**
**голас Гасподні Пятру,**
**калі той**
**у звышчэнне ўваходзіў:**
**«Што Бог ачысціў,**
**таго не лічы нячыстым»;**
**і на каго,**
**калі яшчэ Пётр навучаў,**
**відавочным чынам**
**сышоў Святы Дух.**

**Ахрысціў**
**таксама апостал Сіла**
**вартаўніка астрога**
**у Піліпусах;**
**аднак, спачатку**
**той да апосталаў,**
**каючыся,**
**звярнуўся:**
**«Гаспадары,**
**што мне рабіць,**
**каб займець паратунак?»**
**І перш чым Павел і Сіла**
**яму абвясцілі**
**Гасподняе слова,**
**увёў іх у дом свой**
**і, увёўшы, абмыў**
**іхнія раны.**

**Я апускаю**
**іншыя прыклады,**
**бо даволі**
**і гэтых,**
**каб зведаць і ўпэўніцца,**
**што нікога**
**з габраяў альбо з паганцаў**





**апосталы не хрысцілі,**
**перш чым навуцы Хрыстовай**
**не навучалі**
**і ў веры не выпрабоўвалі.**

**Потым**
**давалася тым,**
**што хрысціцца хацелі,**
**яшчэ**
**важчэйшае выпрабаванне.**
**У пісьмах вучыцялёвых**
**і ў пастановах царкоўных**
**знаходзім**
**правілы,**
**ім абавязкавыя:**
**яны**
**спачатку павінны былі**
**на працягу**
**даволі вялікага часу**
**стаяць**
**у царкве апрочна;**
**пачуўшы**
**чытанне евангельскае,**
**прыпадаць**
**на калені;**
**а перад тым**
**як вячэрні Гасподняй**
**пачацца,**
**выходзіць з царквы;**
**павінны былі**
**пасціцца**
**прызначаны час**
**і «веру»**
**перад прэсвітэрам**
**альбо перад біскупам**
**кожны тыдзень,**
**у чацвяртковы дзень,**
**спавядаць.**

**Таго,**
**хто спаўняў паслухмяна**
**гэтыя ўмовы,**
**але яшчэ**
**хрышчоны не быў,**
**агалошаным называюць,**
**саму ж навуку –**
**а г а л а ш э н н е м.**

**Быў гэта звычай**

павевамі Рэфармацыі, вучэннямі Лютэра і Кальвіна. Яны памяталі палымяныя казані Абрама Кульвы, які пасля навучання ў Кракаве, Сіене, Вюртэмбергу вярнуўся на радзіму доктарам багаслоўя і заснаваў у Вільні пры падтрымцы Боны Сфорца першую ў Вялікім Княстве лютэранскую школу.

У віленскі перыяд жыцця Будны, аднак, не прымаў актыўнага ўдзелу ў тых дыскусіях, што распачаліся ў асяроддзі пратэстантаў і ў выніку якіх адбылося рэзкае размежаванне адзінай дагэтуль рэфармацыйнай плыні на Беларусі, спачатку на два, а пасля і яшчэ на некалькі кірункаў. Мяркуючы па яго першых творах, ён схіляўся да кальвінскай дактрыны.

Будны не спяшаўся ўслед за сваім патронам Мікалаем Радзівілам Чорным прымаць погляды антытрынітарыяў. Ён не хацеў браць на веру чужыя думкі, рызыкуючы, вядома, трапіць у няміласць да ўсемагутнага князя. Як бачна, ужо тады выявілася неардынарнасць натуры Буднага, імкненне самастойна адшукаць ісціну, дайсці самому да сутнасці з'явы. Ён, разам з тым, не кінуўся на злом галавы ў вір дыскусій, а бесперапынна назапашваў далей веды – грунтоўна аналізаваў біблейныя тэксты, скрупулёзна параўноўваў пазіцыі і погляды шматлікіх аўтарытэтных багасловаў, заходніх і ўсходніх айцоў царквы, нарэшце, прыводзіў у сістэму свае веды пра Сусвет, Бога і Чалавека і, такім чынам, набліжаўся да выпрацоўкі ўласнай тэалагічнай дактрыны.

Каля 1560 г. С.Будны пераехаў з Вільні ў Клецк, дзе ў мясцовым кальвінскім зборы прадоўжыў справу, распачатую ў Вільні, адначасова рыхтуючы да друку свой першынец.

На пачатку лета 1562 г. з Нясвіжскай пратэстанцкай друкарні, што належала пану Мацвею Кавячынскаму, выйшла дыхтоўная, з густам аздобленая кніжка паважных памераў, больш за пяцьсот старонак, пад тытулам «Катэхізіс, або Старадаўняя хрысціянская навука для простых людзей». Яна адразу прыцягнула ўвагу адукаваных людзей як у Вялікім княстве Літоўскім, гэтак і далёка за яго межамі. Незаменная чытанка для дарослых і выдатны падручнік для дзетак, надрукаваны «Катэхізіс» з'яўляўся ў той жа час неардынарным філасофска-багаслоўскім творам, адметным паводле свайго зместу ды глыбіні выказаных думак. Ён выклікаў шырокую літаратурную палеміку, якая сталася прыкметнай з'явай усяго еўрапейскага рэфармацыйнага руху.

Свой зварот да друкаванага слова

асветнік растлумачыў нясцерпным жаданнем спыніць распаўсюджанне «хлуслівых вучэнняў», «злых рэчаў, якія перамаглі ў Хрыстовай Царкве».

Яго «Катэхізіс» 1562 г. прываблівае чытачоў як зместам, гэтак і манерай выкладання матэрыялу, выключнай логікай разважанняў і пераканаўчасцю доказаў. Апрача «Прысвячэння князям Радзівілам», напісанага ў сааўтарстве з М.Кавячынскім і Л.Крышкоўскім, «Прадмовы да Чытача» і «Пасляслоўя», выданне Буднага мела чатыры асноўныя раздзелы: «Аб дзесяці запаведзях Божых», «Аб веры», «Пра малітву Госпада», «Аб Святых Тайнах». Гэткі парадак раздзелаў знешне паўтараў вядомы «Вялікі Катэхізіс» 1529 г Марціна Лютэра. Але «Катэхізіс», што выйшаў з-пад пяра беларускага пісьменніка,– гэта не пераклад і не плагіят, а бясспрэчна арыгінальны твор, вынік уласнай творчасці нашага унікальнага філосафа і тэолага XVI ст.

Літаральна праз тры месяцы пасля з'яўлення «Катэхізіса» 11 кастрычніка 1562 г. з Нясвіжскай друкарні выйшаў новы твор С.Буднага на старабеларускай мове – «Апраўданне грэшнага чалавека перад Богам», у «Пасляслоўі» да якога пісалася: «Доконана ест сия книга о Оправдании... 1562, октября 11 дня на городе Несвижском, вытеснена накладом благочестивых мужей Матвея Кавечинского, Лаврентия Крышковского и Симона Будного». Кніга гэта прысвячалася тагачаснаму земскаму падскарбію Вялікага Княства, вядомаму дзяржаўнаму дзеячу Астафе́ю Валовічу. Ён выдаткаваў значную суму грошай на пабудову Нясвіжскай друкарні і забеспячэнне яе ўсім неабходным.

Вельмі крыўдна, што да цяперашняга часу не захавалася ніводнага паасобніка «Апраўдання» С.Буднага, хоць яшчэ ў XIX стагоддзі яго бачылі даследчыкі мінуўшчыны. А твор гэты, напэўна, не менш унікальны чым «Катэхізіс». Недарма ж супроць яго выступіў пісьменнік-паleміст XVI ст. сучаснік Буднага Арцёмій, які ўцёк ад ганенняў з Маскоўшчыны і атайбаваўся ў маёнтку Юрыя Слуцкага.

Жывучы ў Клецку, С.Будны каля 1562–1563 гадоў пачаў наладжваць непасрэдныя кантакты з дзеячамі заходнееўрапейскай Рэфармацыі. Публічная дыскусія пачатку 60-х гадоў XVI стагоддзя паміж клецкімі, нясвіжскімі, віленскімі і малапалянскімі пратэстантамі, прысвечаная досыць складанаму тэалагічнаму пытанню пра зыходжанне Святога Духа, падштурхнула Буднага да напісання твора «Аб

дужа спажытны,
бо праз яго
людзі прыходзілі
да спазнання
Бога і праўды Божай
і, уваходзячы паступова
у святое жыццё,
у ім
раслі і ўмацоўваліся.

Таксама
мусілі пільнымі быць
заўсёды
вучыцялі
у служби сваёй.
Аднак
д'ябал не дапусціў,
каб гэты,
усім хрысціянам карысны,
звычай
усталяваўся трывала
і сярод іх
утрымаўся надоўга.
Калі,
як зазначаецца
ў слове евангельскім,
людзі спалі,
тады ён прыйшоў і насеяў
на ніву пшанічную
пустазелля.

Дык вось жа,
калі пачалі
нядбайнічаць вучыцялі
і ахвотней
знацца з лянотай,
чымся вучыць і вучыцца,
тады навучыў
людзей невучоных д'ябал,
каб верылі ў тое,
што можа
без веры,
без споведзі
і навукі
ратунак займець
чалавек,
абы толькі
ахрышчаны быў
у маленстве вадою,





а, увабраўшыся ў розум,
абы не еў
па днях пэўных мяса,
умеў
маліцца святым,
даваў
мíласціну ад набытку,
хоць бы нажыў набытак
зладзейскім чынам,
і не пярэчыў
парадку звычнаму рэчаў
абы.

Урэшце
дайшло да таго,
што папам,
годзячы,
колькі хто мог даць,
давалі
са скарбу свайго,
каб тыя
нябожчыка пахавалі
у асвячонай зямлі,
каб праводзілі,
каб паміналі,
чынілі трацiны
ды дзевяціны,
паўсарачыны
ды сарачыны,
паўгодкі
ды гадавіны
ды іншыя гэтакія
прыдумкі.

Спадзеючыся,
што ўзнагароджаны будуць,
што ўратаванне займеюць,
што Божае царства
здабудуць
і ў вечным жыцці
сабе месца знойдуць,
заможныя людзі
адпісвалі вёскі,
мястэчкі,
маёнткі,
засноўвалі манастыры,
будавалі цэрквы,
стаўлялі званіцы,
куплялі пацяры,

зыходжанні Святога Духа». Беларускі тэолаг, жадаючы пачуць меркаванні знаных еўрапейскіх тэарэтыкаў Рэфармацыі, паслаў падрыхтаваны на лаціне багаслоўскі трактат у Цюрых, Генрыху Булінгеру. Суправаджальны ліст Буднага да лідэра швейцарскай Рэфармацыі таксама надзвычай цікавы. У ім паведамлялася пра поспехі новага вучэння ў Вялікім Княстве, ухвалялася дзейнасць мецэната Мікалая Радзівіла, якому, дарэчы, Булінгер таксама прысвячаў свае творы. Будны пісаў славутаму вучонаму пра цяжкасці, з якімі сутыкаліся беларускія пратэстанты, асуджаў уціск з боку каталіцкай і праваслаўнай цэркваў, а таксама перашкоды, якія чынілі яму прыхільнікі паганства.

Прыкладна ў сярэдзіне 1563 г тэалагічныя погляды С.Буднага радыкальна змяніліся. Ён перайшоў на бок антытрынітарыяў і пачаў вызнаваць адзінага Бога, адмовіўшыся ад догмату Тройцы. Светапоглядныя зрухі асветніка знайшлі адлюстраванне ўжо ў польскамоўным выданні «Катэхізіса» (Нясвіж, 1563–1564), у якім ён змясціў асобныя раздзелы з крытыкай трайчакоў і аргументы супраць іхнай дактрыны Абсалюта(-Бога).

Неўзабаве пасля выхаду з друку «Катэхізіса» на польскай мове і публічных антытрынітарных выступленняў клецкага катэхізіста праваслаўныя і каталіцкія дзеячы абвінавацілі яго ў сувязях са «старазаконнікамі», ці інакш – «старазапаветнікамі», вучэнне якіх было мадыфікацыяй юдаізму Але гэта быў несправядлівы папрок, наўмысная хлусня ворагаў.

Погляды Буднага і іншых беларускіх антытрынітарыяў сапраўды ў некаторых другасных момантах супадалі з вучэннем «старазапаветнікаў». Да прыкладу, іх пазіцыі супадалі ў адмоўным стаўленні да абразоў, малітваў да святых і ў адносінах да некаторых іншых неістотных догматаў. Аднак яны разыходзіліся ў галоўным: С.Будны і ўсе антытрынітарыі, у адрозненне ад «старазапаветнікаў», ніколі не выракаліся хрысціянскага вучэння; яны верылі ў выратавальную місію Сына Божага, лічылі Законам Божым не толькі Стары, але і Новы Запавет і г.д. Між імі існаваў непераадольны бар'ер: тэалагічная і этычная дактрына антытрынітарыяў – гэта толькі адметны кірунак Хрысціянства, у той час як вучэнне «старазапаветнікаў» – не што іншае, як абноўлены юдаізм.

Каб адмежавацца ад юдаізму і раз-

веяць усякія сумневы сучаснікаў у дачыненнях са «старазапаветнікамі», С.Будны ўзяўся за пераклад на польскую мову твора раннехрысціянскага апалагета Юстына «Размовы Святога Юстына, філосафа і пакутніка, з Трыфанам Жыдом», у якім якраз выкрывалася юдэйскае вучэнне, паказваліся «перавагі» над ім хрысціянскае дактрыны. 16 кастрычніка 1564 г. «Размовы» Юстына былі надрукаваныя С.Будным у Нясвіжскай друкарні. У сваёй «Прадмове» перакладчык яшчэ раз падкрэсліў адмоўнае стаўленне да юдаізму і выклаў уласнае разуменне сутнасці Хрыстовай навукі. Гэта быў вычарпальны і годны адказ на неабгрунтаваную крытыку ідэйных праціўнікаў.

У Клецку С.Будны працягваў самаадукацыю. Ён набываў для сваёй бібліятэкі кнігі заходнееўрапейскіх аўтараў, захоплена аналізаваў творы грэцкіх і лацінскіх апалагетаў хрысціянства, асабліва шануючы Тамаша Аквінскага. Пасля выдання польскамоўнай Берасцейскай Бібліі 1563 года беларускім асветнікам авалодала ідэя зрабіць новы, больш дасканалы пераклад Святога Пісання і выправіць нарэшце хібы, што з розных прычын трапілі ў яго на працягу некалькіх стагоддзяў. У здзяйсненні гэтай грандыёзнай задумы С.Будны натуральна разлічваў на матэрыяльную падтрымку М.Радзівіла, які быў не толькі сталым фундатарам і арганізатарам кнігавыдавецкай справы, але і сам някепска валодаў пяром, выступаў як пісьменнік-публіцыст і таму як ніхто іншы мог ацаніць нялёгкую працу творцы і вучонага.

Аднак ажыццявіць свой план перакладу Бібліі ў клецка-нясвіжскі перыяд С.Буднаму не ўдалося. У 1565 г. памёр Мікалай Радзівіл Чорны. С.Будны, як і ўвесь рэфармацыйны рух Беларусі, пазбавіўся сваёй галоўнай апоры. Неспадзяваныя жыццёвыя абставіны прымусілі беларускага гуманіста таксама шукаць новы, прыдатны для творчасці, прытулак.

Але час няпэўнасці быў кароткі: дзесьці ў канцы 1565 г. ці на самым пачатку 1566 г. яго запрасіла ў Хоўхава Ганна Кішчына, віцебская ваяводзіна, кіраўніком або, як тады казалі пратэстанты, – міністрам тамашняга арыянскага збору. У жыцці нашага асветніка пачаўся новы перыяд.

Упэўнены ў сваіх ведах і здольнасцях таленавіты прапаведнік нарэшце апантана ўзяўся за сталую працу над уласным перакладам Бібліі і апокрыфаў на старазапаветныя і новазапаветныя тэмы, адначасна навукова асэнсоўваючы гэтыя творы. Ён меў намер самастойна, без непасрэднага творчага супрацоўніцтва з іншымі тэолагамі, справіцца з вырашэннем найскладанейшае задачы. І ўжо на Сінодзе 1568 г. у Іўі Будны не без радасці паведамляў прысутным пра пэўныя поспехі сваіх безупынных перакладчыцкіх зан250няткаў.

У часе знаходжання ў Хоўхаве С.Будны адхіляўся ад працы над перакладам, бадай, толькі для ўдзелу ў Сінодах. Так, вядома, што ён браў удзел у рабоце арыянскіх Сінодаў у Венграве (1566, снежань 1567) і Скрыне (чэрвень 1567), на якіх выступіў з абвяржэннем тэорыі спрадвечнага існавання Хрыста. З яго ўдзелам праходзіў вядомы Сінод у Іўі (з 20 да 26 студзеня 1568). На ім С.Будны выступаў літаральна на кожным з пытанняў, вакол якіх узніклі дыскусіі.

У сакавіку 1569 года С.Будны прыехаў на чарговы вельмі прадстаўнічы пратэстанцкі Сінод, што праходзіў у Бельжыцах. Сярод 24 слухачоў-арыянаў, якія ўдзельнічалі ў рабоце гэтага Сінода, названы і Васіль Цяпінскі, аднадумца Буднага, яго блізкі і надзейны сябра. На Сінодзе ў Бельжыцах пры найактыўнейшым удзеле Буднага абмяркоўвалася каля сарака пытанняў, сярод іх – аб школе для хрысціянскіх дзетак, пра навуку для простага люду, пра купцоў і спекулянтаў, аптэкараў і лекараў, падаткі і мыта, зборавых рамеснікаў, хрысціянскіх слуг, абавязкі паноў і інш. Вынікам удзелу Буднага ў хрысталагічных дыскусіях на ўсіх Сінодах 1566–1569 гадоў сталася з'яўленне каля 1569 г. яго твора «Аб зачацці Сына Божага», які, на жаль, не захаваўся да нашых дзён.

У 1570 годзе С.Будны зноўку быў вымушаны перапыніць сваю перакладчыцкую працу, каб адказаць П.Гоняду, які абвінаваціў яго ў «эбіёнскай ерасі». Каб абвергнуць довады апанента, С.Будны ў чэрвені 1570 г. надрукаваў у берасцейскай друкарні на сродкі А.Валовіча невялікую брашуру на лаціне «Аб асноўных догматах веры». Дзесьці ў канцы 1570 г., прыкладна пасля 5–6 гадоў руплівай працы, С.Будны нарэшце надрукаваў у Нясвіжскай друкарні Даніэля з Лэнчыцы пад адной вокладкай пераклад Новага Запавету і Апокрыфаў. Кніга выйшла накладам нясвіжскага старасты Мацвея Кавячынскага і адразу сталася найбуйнейшай з'явай духоўнага жыцця 70-х гадоў XVI ст.

Каля 1571 г. С.Будны з не вядомых

дыскасы,
рызы,
свяцільні
ды абразы.

Усё гэта,
пэўна,
таму і ўвайшло
у Хрыстову царкву,
што звычай
святы,
ад Хрыста пачаты,
якога трымаліся пільна
першыя цэрквы,
парушыўся;
што насеяў
д'ябал на ніве пшанічнай
шкоднага пустазелля
і што хрысціяне
дазволілі
добраму згінуць,
а кепскаму прышчапіцца.

Хрыстос
вучням сваім казаў:
«Ідзіце
і навучыце
усе народы,
хрысцячы іх!..»
А цяпер святары
не толькі
не навучаюць іншых,
але і самі
не ведаюць праўды,
а тым, што маглі б
і хацелі б
людзей навучаць,
затыкаюць раты –
як гэта рабілі
законнікі-святары
у колішнія часіны.

Пра іх
азываецца Госпад,
кажучы:
«Гора, законнікі, вам,
бо ўзялі
вы ключ разумення;
і самі, аднак, не ўвайшлі,
і тым, хто ўваходзіў,
забаранілі».

Не варта
пра гэта пісаць падрабязна,
і без таго
добра відаць,
якіх маем
цяпер мы вучыцялёў.
Бадай,
свет увесь ведае,
як яны
ды на ступені свае
уступаюць,
і тое не таямніца,
як яны там
стаяць і справуюцца.
Лепей плакаць,
чым норавы іх
выпісваць.
Адно
з пэўнасцю можна зазначыць,
не баючыся
на гэты конт памыліцца:
марная справа
чакаць, што яны
выправяцца ў навуцы
і высведчацца ў жыцці.

Было б лепш,
каб кожны,
хто згінуць не хоча,
шукаў сабе
іншых лекаў,
а гэтакім пастырам
даў спакой.

Вось жа, загадвае Госпад,
калі гаворыць
апосталам –
гэта значыць
вучыцялям хрысціянскім:
«Вы – соль зямлі!
Калі ж соль
спятрэе,
чым зробіш яе салёнай?!»
Ужо
яна ні на што не прыдатна
і будзе ссыпана прэч

сёння прычын пакінуў Хоўхава і пераехаў у Заслаўе да мінскага кашталяна Яна Глябовіча. У Заслаўі С.Будны пражыў каля двух гадоў. Тут у чэрвені 1572 г асветнік скончыў працу над перакладам кніг Старога Запавету, якія неўзабаве разам з перапрацаваным Новым Запаветам і «Прадмоваю да Чытача» былі надрукаваны Д.Лэнчыцкім, няйнакш, ва Уздзе, куды Гектар і Альбрэхт Кавячынскія, па смерці брата Мацвея, перавезлі колішнюю Нясвіжскую друкарню, што стала іхнай уласнасцю.

Залатою парою ў творчасці С.Буднага стаўся перыяд з 1573 да 1583 гадоў, калі ён жыў у Лоску ў доме вядомага беларускага магната, прыхільніка арыянаў Яна Кішкі. Той прыдбаў у братоў Кавячынскіх друкарню, запрасіўшы да сябе і яе кіраўніка Д.Лэнчыцкага.

У Лоску Будны знайшоў выключна спрыяльныя ўмовы для плённай працы. Не губляючы часу, ён неадкладна прыступіў да выпраўлення сапсаванага Гектарам і Альбрэхтам Кавячынскімі перакладу Новага Запавету і ўжо літаральна праз год надрукаваў яго ў Лоску, напісаўшы «Эпіграму на герб Яна Кішкі» і грунтоўную «Прадмову да Чытача».

Пасля з'яўлення Новага Запавету 1574 г. імя Буднага набыло яшчэ большую папулярнасць у краінах Заходняй Еўропы – Англіі, Францыі, Германіі; з ім імкнуцца завесці знаёмства, пачуць ягоныя меркаванні па тых ці іншых праблемах. Красамоўнае сведчанне шырокай вядомасці беларускага тэолага – ягоная перапіска з англійскім гісторыкам Іаганам Фоксам. Да нашых дзён захаваўся «Ліст» Буднага да яго ад 4 мая 1574 г., які цяпер зберагаецца ў Оксфардскай бібліятэцы.

У Буднага, вядома, з'явіліся не толькі новыя сябры і шчырыя хаўруснікі, але і новыя апаненты, да ліку якіх належаў цюрыхскі багаслоў Сімлер. Так, напрыклад, па выхадзе ў свет кнігі Буднага «Аб дзвюх прыродах Хрыста» (Лоск, 1574) Сімлер выступіў з вострай крытыкай яе ў сваім творы «Абвяшчэнне праўдзівага вучэння аб дзвюх прыродах Хрыста» (1575).

Хрысталагічныя ідэі Буднага, выказаныя ім у творы «Кароткі доказ таго, што Хрыстос не з'яўляецца такім жа Богам, як Бог Айцец» (1574), раскрытыкаваў другі апанент беларускага асветніка Ян Віганд у кнізе «Туман арыянскай ерасі».

У 1572–1576 гадах С.Будны спрычыніўся да палітычных падзей, што адбываліся ў Беларускім гаспадарстве

і стаптана людзьмі.
Называе соллю
Госпад настаўнікаў-вучыцялёў,
бо, як соль
захоўвае ўсё,
што пасоліцца ёю,
не дазваляючы, каб яно
псавалася і смярдзела,
гэтак вучыцель
растлумачэннем,
вучэннем
і напамінам
захоўвае і зберагае
людзей ад гнілечы духоўнай.
Калі ж таго
не чыніць ён,
дык належыць
яго, нібы соль,
што сапсела
і страціла сілу,
выкінуць і стаптаць.

Чаму ж
не слухаемся загаду
самога Божага Сына?
Папраўдзе,
не варта было б
недаважваць ці абмінаць
увагай гэтае слова.
І пра другое
Господняе слова
павінны былі б заўсёды
мы памятаць добра:
калі сляпы
водзіць сляпога –
абодва
зваляцца ў яму.

Ці чуеш ты,
браце любы,
што сам Хрыстос
асцерагае цябе,
каб ты
у яму не ўпаў?!
Заўсёды,
кожны, хто дазваляе
весці сябе сляпому,
блукае ў цемры,
жыццё нявечыць





і набліжае згубу.

Чаму ж
мы ўцякаць не ўцякаем,
убачыўшы,
што ў іх за вочы,
ад гэтакіх слепакоў?
Чаму
згаджаемся,
зразумеўшы,
што самі яны не цямяць,
як выцярэбліваца са змроку,
каб нас
за сабой вадзілі?

Злітуйся дзеля Бога
сам над сабой,
чалавеча!
Устань,
ад сну абудзіўшыся:
ці не пара
наўкола агледзецца
і пабачыць,
дзе ты,
які ты,
хто?!
Мы і так
спалі даволі
і, сіле сляпых
па[illegible]гначаліўшы свае душы,
не [illegible]цалі Бога,
не разумелі
ратунку свайго
і таго,
на чым ён грунтуецца,
не ўсведамлялі.

Няхай
быў гэта час адпомсты,
няхай
быў гэта вынік гневу
Божага
за грахі
нашых продкаў,
якія,
паддаўшыся забабонам,
ці, можа, дакладней,
снам
і старэчым

ў першы і другі перыяд жыцця Вялікага Княства без манархаў. Па смерці ў 1572 г. вялікага князя Жыгімонта Аўгуста ён, няйнакш, далучыўся да палітычнай партыі, якая выступала супраць абрання на вялікакняскі пасад француза Генрыха Валуа, пра што ўскосна сведчыць ягоны пераклад на польскую мову твора Эрнеста Варамунда Фрыза «Аб фурыях, альбо Французскім шаленстве» (Лоск, 1576), які быў скіраваны супраць французскіх уладаў.

У жніўні 1576 г. С.Будны надрукаваў у Лоску на польскай мове свой найважнейшы тэалагічны трактат «Аб асноўных артыкулах хрысціянскай веры». Гэты трактат складаўся з двух частак – «Вызнання веры» і «Абароны Вызнання веры». Да кожнай з іх былі напісаныя асобныя прадмовы, дзе раскрывалася гісторыя іх узнікнення.

Так, ідэя стварэння «Вызнання веры» зарадзілася ў беларускага асветніка ў часе арыянскага Сінода, што адбываўся, напэўна, у Вільні ў 1573 г. Пасля ягонага выступлення прысутныя там браты якраз і параілі лоскаму міністру пісьмова сфармуляваць выказаныя ім думкі, што ён неўзабаве і зрабіў, вярнуўшыся ў Лоск.

Задума напісаць «Абарону» да «Вызнання веры» ўзнікла ў Буднага пазней, недзе ў канцы 1575 года, пасля новых палемічных выпадаў у яго адрас Пётры Гоняда, Сімлера, Мацвея Бжазоўскага, Яна Віснёўскага, Геранiма Занхіуса, Станіслава Фарноўскага і Марціна Чаховіца.

Пасля выхаду ў свет кнігі «Аб асноўных артыкулах хрысціянскай веры» (Лоск, 1576) палеміка не толькі не прыпынілася, а, наадварот, яшчэ больш узмацнілася. Асабліва з'едліва С.Буднага крытыкавалі П.Скарга і Я.Віганд. Апошні адгукнуўся на новы твор беларускага тэолага кнігай «Аб Ісусе Хрысце» (1576).

На працягу некалькіх наступных дзесяцігоддзяў трактат С.Буднага «Аб асноўных артыкулах хрысціянскай веры» заставаўся ў цэнтры рэфармацыйнай палемікі. З яго высновамі дыскутавалі Станіслаў Астроўскі ў кнізе «Аб спрадвечнай боскасці Ісуса Хрыста» (1588) і Марцін Сміглецкі ў творы з гэткай жа назваю, што выйшаў з Віленскай езуіцкай друкарні ў 1595 г.

У 70-я гады XVI ст., калі на землях Вялікага княства Літоўскага і Польшчы пачаўся працэс выпрацоўкі дзяржаўна-палітычнай і этычнай дактрыны пратэстанцтва, між прадстаўнікамі розных яго накірункаў узніклі вострыя дыскусіі, найперш па

пытаннях аб прызначэнні дзяржавы, сутнасці ўрада, абавязках урадоўцаў. Свой погляд на гэтыя надзённыя пытанні часу С.Будны выказаў у творы «Абвяржэнне Чаховіца, які лічыць, што хрысціяніну нельга займаць дзяржаўную пасаду». Пасля апублікавання твора ў адрас беларускага асветніка з боку гэтак званых анархістаў – Якуба з Калінаўкі, Пётры Гоняда, Яна Немаеўскага, Паўла з Візны і інш.– нібы град пасыпаліся надзвычай рэзкія абвінавачванні.

Будны, аднак, займаў і далей цвёрдую пазіцыю і пры кожным зручным моманце даказваў неабходнасць урада. У 1577 г. ён прымае чынны ўдзел у падрыхтоўцы перавыдання кнігі Анджэя Фрыча Маджэўскага «Аб выпраўленні дзяржавы», у якой якраз прыводзіліся шматлікія гістарычныя і лагічныя аргументы ў абарону ўрада і пацвярджалася права хрысціяніна займаць свецкія пасады.

У студзені 1581 г. С.Будны склікаў у Лоску пратэстанцкі Сінод Вялікага Княства і зноў вынес на яго абмеркаванне пытанне пра ўладу. Калі прыйшоў час галасавання, увесь Сінод, за выключэннем двух чалавек, пайшоў следам за сваім духоўным лідэрам і выказаўся ў абарону ўрада.

Наступны агульны антытрынітарны Сінод Буднаму ўдалося склікаць у сакавіку 1582 г. (праходзіў у Любчы). Спрэчкі доўжыліся два дні. Ідэйныя ворагі лоскага міністра, імкнучыся ўхіліцца ад абмеркавання пытання пра ўрад, здолелі навязаць Любчанскаму Сіноду другасную на той момант дыскусію пра Сына Божага. «Яны,– пісаў пазней Будны,– гвалтам прымусілі нас да тае размовы, паставіўшы ўмову: калі мы не захочам гаварыць аб Сыне Божым, то яны адмовяцца весці гутарку пра ўрад».

Праціўнікі Буднага скарысталі яго неаднаразовыя пратэсты супраць абмеркавання на Сінодзе тэалагічных пытанняў дзеля сваіх карыслівых мэт; яны ўзвялі на лоскага міністра паклёп, нібыта ён абвяргае ў сваіх казанях боскасць Хрыста, а на Сінодзе не хоча пра гэта гаварыць. На наступным Луцлавіцкім Сінодзе, які адбываўся ў траўні 1582 г., ворагі беларускага асветніка, абапіраючыся толькі на ўласную хлусню, адлучылі яго ад Збору. Ян Кішка, напэўна, не надта разумеючы прыроду разыходжанняў асветніка з аднаверцамі, калі даведаўся пра рашэнне Сінода, пазбавіў Буднага месца міністра ў Лоску і адмовіў яму ў далейшай падтрымцы. Здарылася

**выдумкам-байкам,**
**пакінулі,**
**самі не ўбачыўшы — я к,**
**Божае слова.**

**Мусіла тым не меней**
**тое адбыцца:**
**святыя апосталы**
**прараклі**
**і напісалі пра тое.**
**Так, Павел,**
**абраны судзень Хрыстовы,**
**піша да салунянаў:**
**«Пашле,— зазначае ён,—**
**Бог**
**дзеянне зману,**
**дык будуць**
**верыць хлусні;**
**і суд**
**прымуць усе,**
**што не верылі ісціне,**
**а ўспадабалі**
**няпраўду».**

**Разгледзься і ўбач,**
**багалюбча,**
**малю цябе,**
**ці не збыліся**
**словы апостальскія?**
**Разваж:**
**хто ўвасабляў**
**тое дзеянне зману,**
**якое Бог меўся пасланць,—**
**ці не той,**
**хто нашых бацькоў**
**яшчэ ў райскім садзе,**
**адвёўшы ад Божага слова,**
**увёў у спакусу**
**і ў зман?**

**Немагчыма**
**інакшым чынам**
**яму спакусіць чалавека:**
**дакуль чалавек**
**трымаецца Божага слова,**
**датуль заблудзіцца не можа,**
**бо мае з сабою свечку,**
**якой сабе свеціць;**
**і гэта —**

**закон Твой:**
**сонца**
**маім вачам,**
**маім нагам**
**сцежка.**

**Ды варта згубіць яе,**
**свечку тую,**
**і кожны апынецца ў цемры**
**і, як сляпы,**
**будзе дарогу**
**рукамі мацаць.**
**Таму і кажа прарок:**
**«Калі б**
**нам Бог Саваоф**
**не пакінуў семя,**
**то мы**
**зрабіліся б, як Садом».**

**Называе**
**семем ён Божае слова,**
**і д'ябал**
**якраз спакушае**
**людзей у гэтым,**
**бо ведае,**
**калі толькі**
**адступяцца людзі**
**ад Божага слова,**
**тады ўжо,**
**што ён пажадае,**
**учыняць.**

**На тое ён і навёў**
**гэтакія часіны,**
**каб не казалі вучыцялі**
**Божага слова**
**і каб у царкве**
**зламысныя словы**
**займелі сілу.**
**Але і цяпер**
**міласцівы Бог,**
**шкадуючы нас,**
**ад нас,**
**грэшнікаў,**
**не адымае**
**праўдзівага слова свайго,**
**а штодня**
**адкрывае яго ўсё болей**
**і здатных вучыцялёў**



найвялікшая несправядлівасць: лепшага і разумнейшага палічылі за ворага і выгналі са сваіх шэрагаў. Гэта была трагічная памылка, што сведчыла пра глыбокі ідэйны і арганізацыйны крызіс тагачаснага рэфармацыйнага руху на Беларусі.

Пацярпеўшы няўдачу, С.Будны ўсё ж не пакінуў арэны змагання. Ён зноўку ўзяўся за пяро і пачаў дзейнічаць праверанымі сродкамі. За кароткі тэрмін пры матэрыяльнай дапамозе шляхціца Аляксандра Хамутоўскага асветнік напісаў бліскучыя публіцыстычныя трактаты на польскай мове «Вызнанне аб урадзе і ўрадоўцах» і «Абарона ўрада», якія склалі аснову ягонай кнігі «Аб свецкай уладзе». Яна выйшла ў студзені 1583 г. з Лоскай друкарні з дазволу яе фундатара Я.Кішкі, які, няйнакш, пашкадаваў свайго былога духоўнага настаўніка і выканаў яго апошнюю просьбу. Кніга была надрукавана коштам любельскага падчашага, вядомага арыянскага дзеяча Крыштафа Ласоты. Якраз на ягоны герб С.Будны і паплечнік беларускага асветніка Ф.Даманоўскі напісалі два панегірычныя вершы на лаціне.

Трагічныя падзеі 80-х гадоў XVI ст. пазбавілі С.Буднага душэўнае раўнавагі, назаўсёды выбілі яго са звыклай жыццёвай каляіны. Каля 1583 г. ён пакідае Лоск і, напэўна, накіроўваецца ў Іўе, дзе дзейнічала арыянская акадэмія. Асветнік, мусіць, зноўку паспрабаваў знайсці сябе на педагагічнай ніве. Ускосным доказам знаходжання Буднага ў Іўі з'яўляецца вядомы факт ягонага супрацоўніцтва з рэктарам Іўеўскай акадэміі Янам Ліцыніем Намыслоўскім, на падручнік якога ён у 1589 г. напісаў панегірычны верш.

У канцы 80-х гадоў XVI ст. С.Будны разам з Ф.Даманоўскім удзельнічаў у дыспуце з полацкімі езуітамі, пра што ёсць паведамленне ў кнізе «Апісанне Навагародскага дыспуту 1594 г.».

Жыццёвы шлях нашага славутага асветніка, чалавека універсальных ведаў, унікальнага філосафа і прапаведніка, таленавітага пісьменніка і перакладчыка, завяршыўся 13 студзеня 1593 г. у Вішневе, у доме шляхціца-пратэстанта Лявона Моклака.

Іван САВЕРЧАНКА

час-почас
нам пасылае.

Таму неабходна
і нам усім
старацца самааддана,
каб мы былі
варты тае
невыказнае ласкі,
каб Божае слова
рукамі абедзвюма
прынялі,
каб моцна трымалі яго,
каб жылі
паводле яго
і прыводзілі да яго
іншых людзей.

Па прычыне,
што многа жніва,
а рупліўцаў мала,
і я,
недастойны,
найменшы служка
святое царквы,
напісаў,
згодна з Пісаннямі Божымі,
гэтую кніжку,
каб кожны,
хто прагне
Божага слова
і зразумець
ісціну хоча,
меў,
з чаго навучацца самому
і дзетак сваіх
навучаць.

Грунтоўней,
я ведаю,
гэту навуку
мне варта было б апісаць,
ды няхай
будзе ўжо так,
як зрабілася,
як спарадзілі,
што напісалася мною,
уменне маё
і час.





Прытым
цешуся думкай,
што потым,
калі будзе Божая воля
на тое,
пэўна,
змагу напісаць
і паўней, і шырэй,
змагу
нанава выкласці,
што ўжо выклаў.
І асабліва
тычыцца гэта
чацвёртае часткі —
пра святы хрост
і вячэру
Божага Сына.
Парупіцца варта было б,
каб выдаць гэтую частку
асобнаю кніжкай.

Ласка
Госпада нашага
Ісуса Хрыста
з усімі
вернікамі.
Амін.

Пісана ў Клецку
ад нараджэння
Госпада й Збаўцы
і нашага Бога
Ісуса Хрыста
лета 1562,
месяца чэрвеня,
дзесятага дня.

*Са старабеларускай мовы*
*ўзнавіў Алесь РАЗАНАЎ.*

# Леанід Дранько-Майсюк



*Преследуемый*
*Аполлоном,*
*я превращусь*
*в осенний куст золотой,*
*одетый сеткой дождя*
*на лесной поляне.*

**Аляксандр БЛОК**

# ІНТРАДУКЦЫЯ

**21 верасня 1991.** У змроку, пад халодным дажджом, кожны бледны ліхтар – праўдзівае сэрца, з якога выцекла кроў Любячы дождж і змрок, я йшоў па Людаманце і назіраў за ліхтарамі, нібыта за мноствам бяскроўных сэрцаў. Мусіць, гэты мой візуальны занятак і навёў на трывожную думку, што паэзіі часам бывае недастаткова, каб зразумець каханую. Героны (нястомныя дарадчыкі майго пісьма, імя якім – смутак і весялосць), праслухаўшы першыя вершы, прысвечаныя Ёй, павучальна прамовілі: «Гэта цудоўна, але ты спіш. Каб зразумець каханую па-сапраўднаму, трэба прачнуцца». І яны падказалі, што выйсці з вершаванага сну можна пры дапамозе кароткай дзённікавай прозы і што занатоўваць гэтую прозу трэба не за сталом, а... у ложку. І нават не зусім у ложку, а, перагнуўшыся праз яго край, пісаць на паперы, якая павінна ляжаць на падлозе. «Чаму?» – я неверагодна здзівіўся. «А таму, што дзякуючы такой позе, надта не разгонішся,– усміхнуліся хітрыя героны,– і твая белетрыстыка сапраўды будзе кароткай. А яшчэ, і гэта найважней для адчуванняў (тут іхні голас пасур`ёзнеў), пры такой нязручнай для пісьма паставе сэрца баліць гэтак жа, як і ад разумення, што каханне тваё – лістападнае».

**23 верасня 1991.** Дык вось, пачынаю занатоўваць імгненні сваёй прыватнай вечнасці, пішу прозу, каб выйсці з вершаванага сну Аднак не ўпэўнены, ці варта захоўваць прапанаваную тэхналогію пісьма. Мае героны ў парадах сваіх часам бываюць віртуозна-насмешлівыя. Тым не менш, перагнуўшыся праз край ложка, гэтыя вось радкі марудна выводжу на паперы, якая ляжыць на падлозе, і адчуваю, што сапраўды пры такой нязручнай для пісьма паставе сэрца баліць гэтак жа, як і ад разумення, што каханне маё – лістападнае

**25 верасня 1991.** Вырастае непахісная герма стомы. Замест скульптурнае галавы яе вянчае мая цярплівасць, а долу пакладзена экзальтацыя Блока. «Гибель Titanic'а, обрадовавшая меня несказанно (есть еще океан)» Аднак далей прыпісана: «Бесконечно пусто и тяжело. » Чакаю Яе, але Яна не прыйшла, адно пажалілася па тэлефоне: «У нас не ладзіцца размова, таму што я даўно не чула тваіх вершаў». Прамаўляю на памяць «Ты,– памножаная на неба...», і Яна лагодна заціхае. Спрабую выбраць у Блока нешта светлае. Не чытаць жа каханай пра пагібель Titanic'а.

**26 верасня 1991.** Размаўляем. Блок наш трэці суразмоўнік: «Печальное возвращение домой – мокро, женщины возвращаются из театров похорошевшие и возбужденные...» У алькове маёй свядомасці стаілася нецярпенне. Чырвоная свяцільня крыві асвятляе тунель адамізму. Першаю ў гэтым тунелі апынаецца душа, і яе працінае нястрымная страла срэбра.

**27 верасня 1991.** Тут, на Людаманце, і там, на Нямізе, а таксама скрозь у гэтым горадзе, жанчыны захоўваюць у сваіх кветаложах эфірны халадок – напамін пра далікатныя пальцы гінеколага. Кожная жанчына трывожна прыслухоўваецца да раптоўна выяўленай фібраміёмы, але чуе хіба што актаўны шэпт удвое складзенага рэцэпта ці адажыо надзеі, якая раптам здраджвае і памірае першай.

**28 верасня 1991.** Хвіліны, калі ў жанчыне апафеозна гучыць кіфара фізіялогіі – хвіліны асаблівай адкрытасці, хаця запаветную нішу ўсё адно закрывае плюшч Венеры.

**3 кастрычніка 1991**. Немагчыма гаварыць пра шчасце, калі дыхаеш ім. Немагчыма ўтойваць яго ў сэрцы, калі ў позірку –рымскі дамінат паганства. Але можна цудоўна памерці, разбіўшы галаву аб гранітны шар Фартуны. І можна выдатна сканаць, з разбегу праламаўшы дубовыя краты экстазу... Размаўляем, і Яна прызнаецца, што толькі тады супакойваецца, калі бачыць мяне.

**5 кастрычніка 1991.** Імперыя разбураецца, але гэта не галоўная навіна. Музыканты выходзяць на вуліцы, але іхняя ігра поўная фальшу. Рознымі шрыфтамі і фарбамі зіхацяць слова Крама. Няхай. Мой настрой усё адно застаецца суверэнным. Мая ўлада над шчасцем бясконцая. Я йду па трамвайных дахах, як па асфальце, і мяне суправаджае акампанемент нязздзейсненай роспачы: «Божа, гэтай вясной я магла б назаўсёды пакінуць Беларусь! Мы не сустрэліся б, і ты не напісаў бы ніводнага верша...»

**6 кастрычніка 1991.** Цела неверагодна маладзее. Магчыма, гэта старасць наадварот. Праз фалангі пальцаў праходзяць вальфрамавыя ніці. На вуснах барталініевая крыніца пакідае жаданую салёную цеплыню. Суставы напоўнены пругкім выраем, і таму кожная бетонная лесвіца ператвараецца ў эскалатар.

**7 кастрычніка 1991.** Ад кавярні «Світанак» да плошчы Якуба Коласа і ад плошчы Якуба Коласа да кавярні «Світанак» я прайшоў за пяцьдзесят восем хвілін. У гэты цёплы

вечар кожны трэці юнак прасіў у мяне закурыць. Маё шкадаванне, што сёння не магу пачуць Яе, увасаблялася ў лабіяльныя гукі змяркання. Надыходзіла доўгая дэфларацыя ночы, і я ведаў, што кроў світання ўпрыгожыць менскія прасціны без маёй прысутнасці

**10 кастрычніка 1991.** Даўно было сказана. страху няма ў любові, калі яна дасканалая. Дасканалая любоў гоніць страх. І яшчэ было сказана: той, хто баіцца, пасапраўднаму не любіць. І зноў жа было моўлена... Не, досыць! Надакучыла эндагамія трывожных думак, у выніку якой нараджаецца яшчэ большы неспакой

**15 кастрычніка 1991.** Кніга жанчыны даецца не ў рукі – у душу. Фізічна яе немагчыма ўтрымаць і нельга таксама бясклапотна перагортваць. Гэтая кніга разгорнецца сама, калі ў тваім цярпенні дастаткова металу І ты абавязкова прачытаеш яе першую старонку, калі твая рахманасць нязмыўная, як аверс манеты. Аднак памятай – калі хочаш быць шчаслівы, астатнія старонкі чытаць не варта.

**16 кастрычніка 1991.** Квадратныя слёзы вострымі вуглямі прадзіраюць амальгаму абавязку і бясклапотнасці Я – геаметрычна слязлівы і гэтым, напэўна, адметны. Мае слёзы ўстойлівыя, як піраміды У іх цені я знаходжу ўсё новыя і новыя метафары.

**17 кастрычніка 1991.** Мы ў тэатры, у другім радзе партэра. У антракце Яна гаворыць, што я стомлены, што я зусім не адпачываю Яе клопат ап'яняе, і я разумею, што Яна з тых жанчын, якія дораць мужчынам знойдзеную будучыню. Я гляджу на Яе профіль –тонкі профіль патрыцыянкі з вокам, поўным антычнага агню У зале паволі патухае люстра, і я заўважаю, што цыліарнае цела вока пакутуе ад французскай касметыкі... На выхадзе з тэатра Яна вяртае мне верш «Хацеў бы я па вечарах...» На Яе думку, верш патрабуе больш пранікнёнай коды. Мы ідзём па ўтульнай Падгорнай вуліцы ў бок вакзала. Мяккаму цёпламу змроку не замінаюць нашыя лёгкія крокі і маё адмаўленне падману Я ведаю – падман, нават несвядомы, адгародзіць мяне ад кахання, а то і назаўсёды схавае яго ў нетрах свайго чорнага адзення І яшчэ я ведаю кахаць – штодзённа прасіць у каханай прабачэння А што ведаюць мае геронты? Яны ведаюць шмат, а пакуль што разважаюць аб тым, што разлад з уладаю не бывае доўгім, улада ўсё ж такі рэч эфемерная, а вось разлад з душою зацягваецца да самай смерці

**20 кастрычніка 1991.** Гэтыя запісы насцярожваюць. Яны небяспечныя, як і кожная проза. Так, небяспечныя, бо нават самай таленавітай прозай жанчыну вельмі лёгка пакрыўдзіць. Не забываючы пра гэта, да кожнага спаткання рыхтуюся, як да складанага экзамену Аднак у маёй «падрыхтоўцы» заўсёды тоіцца эгаістычны намер – гаварыць з Ёю толькі пра тое, што цікава самому

**21 кастрычніка 1991.** Хіба што адным геронтам і вядома, як я марыў убачыць Яе ў сне: «Прысніся. Ты не снілася ні разу Да вазы прыхініся галавой. .» І вось яно – свята сну Праўда, ніякай вазы не было. Быў доўгі калідор. Здаецца, калідор вагона. Яна йшла, некуды спяшалася Раптам калідор скончыўся, пачалося поле, і Яна ўбегла ў шыпшынавы куст, які стаў рваць на ёй сукенку

**23 кастрычніка 1991.** Спатканне. Гвалт пацалункаў і слоў «Я аддам табе ўсю сябе, усю – да кропелькі...» І зноў, зноў пацалункі. Пасля – рэфлексіўны адпачынак. З каханай усё ж такі трэба гаварыць толькі пра хараство і пра тое, што будзе Ні слова – пра Яе і сваё мінулае, бо мінулае распальвае рэўнасць. Я спытаў: «Каханне чакае, каб мы рабілі яго прыгожым ці яно прыгожае й без таго?» Яна ўсміхнулася: «Як мы робім, так і трэба. .» Развітаўшыся, Яна ніколі не аглядвалася. А тут, адышоўшы на адлегласць, роўную даўжыні Парфенона, азірнулася і памахала мне рукой

**24 кастрычніка 1991.** «Мяне ўсё тут палохае – дрэвы, камяні, трава, а таксама людзі, якія блізка ад нас праходзяць. .» Мы шукаем зацішнае месца і нарэшце апынаемся ў бязлюдным кутку парку Аднак і тут Яна гаворыць пра дрэвы, камяні, траву і пра ўсё тое, выпадковае, што не дае любіць мяне так, як Ёй хочацца. Геронты знайшлі пад высокай таполяй глінянага фаўна і, як дзеці, пачалі з ім забаўляцца. Яна не заўважае гэтай гульні, як і не заўважае таго, што над намі яшчэ дастаткова лісця, каб ушанаваць нашае каханне пошумам наступнасці, і што дрэвы даволі густа стаяць, каб мы не згубілі ўяўлення аб смерці, і што ў кожным нашым спатканні ўсё менш і менш гучыць музыка рандо. Я жыву поўным жыццём тады, калі з`яўляецца жанчына. І я ўбачыў рубеж гэтага жыцця, калі з`явілася Яна

**29 кастрычніка 1991.** Неабходна было трапіць у Афіны і ўзысці на Акропаль, каб здагадацца, што Яна ё с ц ь, і праз некалькі гадоў адчуць, як перыкардная пустата





цярпення завяршаецца пераможным выдыхам· «У Вашым голасе квітнеюць астры.. » Рытмізаваная вільгаць крыві рвецца вонкі, і я гадзінамі блукаю па Менску, чуючы асцінатнае дыханне прасодыі. Але пачынаюцца халады, і прасодыя – цеплалюбівая расліна – усё часцей і часцей застаецца пад таршэрным святлом.

**7 лістапада 1991.** «Чаму ты не пішаш? Сумую без тваіх вершаў!..» Не ведаю, што адказаць, а тым часам геронты вядуць эклектычны дыялог Геронт смутку даводзіць. «Каб душа набыла яшчэ і фасетачны зрок, трэба навучыцца чытаць аблокі і траву». А геронт весялосці, не слухаючы яго, замілавана ўспамінае сябе, васьмігадовага, калі ўпершыню выпадкова пакаштаваў хлеб, абліты гарэлкай

**8 лістапада 1991.** Яна сказала, што я больш адкрыты кнігам, чым людзям, і ў гэты ж момант у маім пакоі вецер адчыніў фортку Узляцела льняная штора, і пахіснуўся таршэр Калыхнулася люстра, і пад столлю ўзнік пыльны спеў плафонаў. У прыстолках архіўна варухнуліся колішнія польскія фотаздымкі і давыд-гарадоцкія цікеткі. Светлае віно, купленае на запас, пацямнела. Усё ў пакоі нібыта ачалавечылася, набыло мітуслівыя рысы. І толькі кнігі засталіся кнігамі Яны паводзілі сябе, як багі.

**10 лістапада 1991.** Цудоўны той цынізм, які не на паказ! Цынізм, глыбока схаваны Часам ён дапамагае выжыць, асабліва тады, калі лопаецца незваротная павуціна нерваў. Часам хаваецца пад маскай кахання Здавалася б, дзіўна, але так здараецца. Калі застаюся адзін, ён вырываецца з мяне – мой маленькі везувій – і ў ягонай магме назаўсёды знікаюць пампеі жабрацтва.

**11 лістапада 1991.** Ашчадна ўдыхнуць прахалоду вечара, усё адно што зірнуць у пустую паштовую скрынку. Слухаць піяніста, адгароджанага ад залы бранявым шклом, нібыта з чорным палатном на вачах прайсці праз батанічны сад. Заняцца гандлем эпітафій, але з умоваю, што першая з іх аздобіць надмагілле свабоды Замкнуцца ў банкаўскім сейфе, папярэдне выкінуўшы з яго нялічны лік школьных прамакатак. Пра што яшчэ можна думаць, калі немагчыма сціснуць да пераможнага хрусту крыштальнае горла кахання!

**15 лістапада 1991.** Былі і ў мяне дні, загорнутыя ў шоўк і высланыя аксамітам Я не забыўся на іх,– і па сёння яны дарагія мне суразмоўцы. Ёсць у гэтым горадзе месцы, дзе мы сустракаемся – паркі, могілкі, балконы сімвалісцкай паэзіі Але часцей за ўсё гэта паркі, дзе словы можна браць у дрэў, пачуцці ў галубіных крылаў, а настрой – у гульнях дзяцей Тыя дні засталіся такімі ж, як і былі, святочнымі – яркі шоўк не выцвіў, а густы аксаміт не зблажэў І я, здаецца, той жа – на маёй шыі ранейшае срэбра ў выглядзе ненадзейнай пятлі . Вось мы ідзём па алеі, весела перамаўляемся, і на безыменным пальцы нашай вандроўнай бяседы зялянее буйны алівін Мы не заваёўнікі, бо свет заваяваны да нас, і не спажыўцы, бо хлеб свой здабываем самі Мы – субяседнікі, і гэтая алея – брадзільня нашых думак. Удосталь нагаварыўшыся, мы цёпла развітваемся і ведаем, што неўзабаве сустрэнемся зноў Аднак мне заўсёды балюча ўспамінаць, як некалі гэтыя дні, загорнутыя ў шоўк і высланыя аксамітам, мяне ашукалі – замест вечнага кахання далі трохмесячную закаханасць. Праз іхні падман мой адамізм не авалодаў дасканаласцю

**16 лістапада 1991.** Сёння Яна была вясёлая, але я не здолеў падтрымаць Яе весялосць. Чамусьці ў кожным маім слове шумела зламысная асака Хутка развітаўшыся, мы нібыта страцілі адно аднаго назусім.

**17 лістапада 1991.** Успомніце маіх любімых паэтаў і зразумееце. яны вучыліся ў мяне Перачытайце іхнюю інтымную лірыку і ўбачыце. яны кахалі, абкрадваючы маё каханне. І хто ж тады больш пачцівы – яны, што не пакінулі мне нават слова падзякі?! Ці я, штодзённа ўдзячны ім за іхняе вучнёўства і крадзеж?!

**18 лістапада 1991.** Убачыў маладую жанчыну, у позірку якой успыхнула інталія неверагодна-цудоўнага папроку мужчынскай нехлямяжасці няма перашкодаў, ёсць адсутнасць волі.

**1 снежня 1991.** Сцэна опернага тэатра створана для паэзіі, але не для чытання вершаў. Гэта я зразумеў, убачыўшы ў зале Яе, аддзеленую ад мяне арыстакратычным дном аркестравай ямы

**2 снежня 1991.** Яна можа знікнуць гэтак жа, як учора ў святле сафітаў знікалі Яе шафранавыя ўборы.

**9 снежня 1991.** Спатканне Блок наш трэці суразмоўнік: « приближается одино-

чество. Как-то мысленно блуждая по душам, вижу всюду сопротивление ..» Узнікае адпаведны лад настрою, але Яна прамовіла, што перачытала мае вершы і палюбіла іх яшчэ больш. Ад шчасця дыханне маё памерла, нібыта меладычныя трысціны лагодна пранізалі сэрца, і кроў зайграла флейтай Пана

**12 снежня 1991.** Няміга – вуліца кароткая, некалькі сот метраў, але па ёй можна вандраваць бясконца, калі пад уражаннем просьбы: «Не адпускай мяне...» з букіністычнай крамы, што на Багадзельнай, марудна йсці па Нямізе на Гарадскі вал і, крыху да яго не дайшоўшы, паволі вяртацца назад, паварочваць направа і ў вузкім рукаве Багадзельнай шукаць і не знаходзіць букіністычную краму, у якой засталася жальба: «Не адпускай мяне.. » І зноў па Нямізе ісці на Гарадскі вал .

**13 снежня 1991.** Ішлі па Раманаўскай слабадзе, і я на памяць прачытаў «Мы дажылі да першае зімы. .» «Да Новага года вершаў не пішы, добра?» – папрасіла Яна.

**18 снежня 1991.** Мой адамізм толькі тады набывае творчы сэнс, калі Яе засмучэнне пераходзіць у замілаванне, калі Яна прамаўляе. «Ты мая выдумка.. »

**19 снежня 1991.** Вось тая хвіліна, калі ты ўпэўнены, што ніхто і ніштo, нават насмешлівыя геронты, не перашкодзяць адамізму Вось тое імгненне, калі жаданне цялеснай любові мацнейшае за неабходнасць разгарнуць кнігу любімага паэта. Вось той дзень, калі ў марозным небе пралятае чырвоны голуб. І вось тая ноч, калі па неонавым снезе прабягае чырвоны кот

**20 снежня 1991.** Пасля таго, як вынайшлі пісталет, гісторыя самазабойстваў невымерна ўзбагацілася. Аднак жа дасюль невядома, хто першы застрэліўся.

**21 снежня 1991.** Яна бачыла ў сне новыя строфы. Каб даведацца, што гэта за верш, трэба дажыць да Новага года, бо я ж паабяцаў да канца снежня маўчаць. Маё маўчанне, дарэчы, мацуецца адкрыццём геронтаў· прыгажосць не тое самае, што і хараство. Прыгажосць – люстэрка маладосці, а хараство – старасці.

**22 снежня 1991.** Шчасце бывае і такім – ты заходзіш у пад'езд не свайго дома, хвіліну чакаеш і здабываеш упэўненасць, што дзверы бліжэйшай кватэры неўзабаве адчыняцца і выйдзеш на пляцоўку ты сам, толькі дваццацігадовы

**23 снежня 1991.** Слабыя промні сонца падаюць на латок, на жоўта-зеленаватыя лімоны. Пачынаецца ігра скупых рэфлексаў, адпаведная гэткім жа скупым пакупніцкім здольнасцям. Я выбіраю адзін лімон і асцярожна кладу на металічную шалю. Лімон заважвае на чатыры рублі 70 капеек. Гэта і ёсць прымітыў паэтычнай дакладнасці. Я расплачваюся і ў ажынавых вачах старой прадаўшчыцы заўважаю знаёма-забытае ўзрушэнне, якое, каб зразумець яго, неабходна, як матчын ліст, прачытаць уголас.

**24 снежня 1991.** Віншаваў Яе з каталіцкімі Калядамі, і Яна заплакала, і таму хочацца забраць Яе слёзы, як непатрэбную рэч. . У двары, каля суседняга пад'езда, мы ўбачылі катафалк, атачаны бязладнай гаворкай, у якой пераважала слова крэматорый. Каб не чуць далей гэту гаворку і не ўбачыць труны, якую ўжо зносілі з верхніх паверхаў, мы паскорылі крок. Дапытлівыя геронты даймалі мяне халоднымі шэптамі: «Калі б нябожчыкаў не хавалі ў зямлю, а толькі спальвалі, Зямля катастрафічна палягчэла б. І тады вецер, нават і не ўраганны, падхапіў бы яе, як паветраны шар, і занёс бы некуды далёка-далёка. Магчыма, нават за межы нашай зорнай сістэмы.. »

**25 снежня 1991.** Вочы бачаць тое, што ёсць, а душы, як і заўсёды, хочацца большага, таму паэзія шукае ў рэчаіснасці свой нерэчаісны змест і называе яго парфенонам.

**26 снежня 1991.** Яна аддаляецца ад мяне, набліжаецца і зноў аддаляецца. Учора быў амаль разрыў, аднак сёння Яна прымірэнча прамовіла. «Хачу разгладзіць твае маршчынкі. » Век бы слухаць такія словы, праз якія адкрываецца сэнс надзейнага супакаення: бойся не таго, што табе ўяўляецца самым небяспечным, бойся таго, чаго ты наогул нават уявіць не можаш. . Не ведаю, ці выйшаў я з вершаванага сну і ці зразумеў каханую, але (усё адно дзе пішучы – на падлозе, перагнуўшыся праз край ложка, ці ўтульна седзячы за пісьмовым сталом) адчуваю, што гэтыя запісы трэба завяршаць, нават абрываць на палове старонкі, каб яны канчаткова не апынуліся ў палоне плеаназмаў і рэфрэнаў, а таксама ў сваёй цытатнай празмернасці не сышлі да цэнтоннага пісьма. І наогул – наіўная гэта спроба зразумець каханую, калі сістэма таемных сімвалаў кожнай жанчыны не падлягае расшыфроўцы! І ўсё ж я ўдзячны сваім геронтам, іхняй парадзе пісаць кароткую прозу, бо менавіта гэтая проза дала маёй каханай імя – з гэтага дня Яна ператвараецца ў А.





# *Вершы для А.*

* * *

**Пра вуліцу Уманскага хто б ведаў,**
**Ці паланіў бы гэты ўскрай душу,**
**Калі б не мы і не азартны ветах –**
**Адзін ліхтар на Брэсцкую шашу!**

**Калі б не пасажыры-чалавекі –**
**Стваральнікі бясконцай цеснаты;**
**Калі б не нашы клопаты пра лекі,**
**Пра грошы, дактароў і лёс пусты;**

**Каб не маё жаданне (шал юначы)**
**На ручаіне рук тваіх і ног**
**Не з «Панарамы» шоўк валютны бачыць,**
**А з крамы орсаўскай лянок;**

**Каб не хваробы золата пустое,**
**Што наталіла вераснёвы пах**
**Галечаю і весялосцю тою,**
**Якая спіць у д'ябла на губах...**

**Але даволі сумных пералікаў!**
**Глядзіць ласкава на цябе круп'е,**
**Прамавугольнай цемры базіліка**
**На дзве гадзіны ўтулле нам дае.**

**І гэты ўскрай ускраем застаецца,**
**Хоць і спрабуе нам дапамагчы –**
**Ён стаўкаю апошняю кладзецца**
**На стол ігральны, тонучы ўначы.**

7 кастрычніка 1994

* * *

**Ты, як малітва да Бога,**
**Недашаптаная мной,–**

Чыстага снегу знямога
Над беларускай зімой!

Бачыць такое магчыма
Хіба што ў райскім агні,
Дзе не старэюць жанчыны
І не канчаюцца дні...

Ты і ў калядную сцюжу
Шчодрая на цеплыню,
Кідаеш майскую ружу
Мне і марознаму дню.

Ты — ад нямоты збавенне,
Мой пурпуровы ўзвіў.
Знай — і тваё нараджэнне
Снег віфлеемскі спавіў.

27 снежня 1994

* * *

Ёсць нешта польскае ў табе
                    — таемнасць тая,
Непадуладная Міцкевічу
                    самому.
Я разгадаць яе не дам нікому,
Аднак і сам ніяк не разгадаю.

І не спрабую нават, не жадаю
І ведаю — да смерці маладому
Як добра быць, калі вартуюць
                    стому
Падсвечнік бронзавы і свечка
                    залатая.

Таемнасць, маладосць —
                    бальзам адзіны,
Адзіны для мужчыны
                    і жанчыны,
Які дапамагае не старэць.

Але мацней жаданне — піць
                    і плакаць,
Крыштальны туфлік твой
                    мяняць на лапаць
І ні сяброў ні ворагаў не мець.

5 студзеня 1995

* * *

Ад снежня снеж, ад студзеня
                    я студу
Адломваю незразумела як
І п'ю тады, мардуючы
                    прастуду,
Не малако гарачае — каньяк.

Настоены на каранях зімовых
Калядных слоў, ён горлу аддае
Гаючую неспадзяванасць мовы
І якасці вакхічныя свае.

І так заўсёды — вечарамі,
                    днямі
Наканавана з нейкае пары
Лячыцца словамі, іх каранямі,
Аптэчныя мінаючы дары.

І кашаль, глухнучы,
                    брыльянтам свеціць
Ў аправе горла.

25 студзеня 1995

* * *

Што ў сэрца банальны змест,
Спавіты ў рэальнасць
                    грубую,—
Адчуў, калі ехаў у Брэст
Праз Курасоўшчыну любую.

Цягнік набіраў разгон,
І праз мітульгу каляровую
Глядзеў я на твой балкон
З адлегласці кіламетровае.

Чыгунка паўз дом ішла,
Паўз вокны, здалёку
бяздонныя,
І трэцім акном ад вугла
Свяцілася ніша кухонная.

Твой дом уздыхаў, як сад,
І раіў блакітнай лістотаю
Не ехаць, вярнуцца назад
І дыхаць вінай і пяшчотаю.

Твой дом не маўчаў, а ты
Не звала мяне і не клікала,
Ружоўнік тваёй нематы
Ахоўвала крыўда вялікая...

Сябе я адчуў старым,
А сэрца ў трывозе
настуркавай,
Губляючы звычны рытм,
Банальную просьбу
выстуквала:

«Вярніся, вярніся ў паэзію
І пыл з маіх літар сатры,—
Чырвоны крышталік лемезіі
Дастань з геліконскай гары...»

28 красавіка 1995



Антон КУДЛАТЫ

У НАС



# ТРЫНАЦЦАЦЬ ДЗЁН З ДЗЁННІКА

*(26 кастрычніка — 7 лістапада 1994 года)*

# Ад аўтара

**Я не ведаю, што гэта: аповед ці пераказ, споведзь ці пропаведзь, адкрыццё ці духоўны вопыт? Я нічога не выдумаў, а ўсё, што апісваецца, пераў на самай справе. Не напісаць гэта я не мог, але пытанне: ці *я* пісаў? Дакладней, я проста запісваў – гэта мой выратавальны круг, кінуты вышэйшай Сілай, каб я змог выплысці да людзей.**

**Таго, хто сумняваецца, што гэта чысцюткая праўда, адсылаю да людзей, якія сутыкаліся са мной з 26 кастрычніка па 7 лістапада мінулага года, або да тых літаратараў, якія штодзённа запісваюць свае ўражанні і думкі. Колькі не прымушаў сябе, не мог рэгулярна весці такія запісы, а толькі тады, калі нейкія Сілы абступаюць мяне з усіх бакоў сцяною і ў мяне застаецца вузенечкі віхлясты калідор, па якім я выбягаю да сябе нармальнага – вось у такія часы я і хапаюся за «дзённік» і запісваю ўсё, што са мной адбываецца.**

**Наколькі гэта магчыма для чалавека, я пастараўся захаваць усё так, як і было ў маіх абрывістых і ліхаманкавых запісах: штосьці згубілася, штосьці я парваў і выкінуў ці спаліў – яго ўжо ніколі не вернеш, як нельга павярнуць назад нават імгненне нашага жыцця. Я захаваў усе словы, думкі (нават недарэчныя), якія прыйшлі ў «тым» стане, захаваў паслядоўнасць запісаў і храналогію датаў, калі гэта адбывалася. Адзінае, што я прыўнёс ад сябе,– гэта архітэктоніка. Безумоўна, лепш было б надрукаваць так, як было ва ўрыўках, напісаных маёю рукою: на пачках цыгарэт, на старонках кніг, газет і часопісаў (што траплялася пад руку), нават на шпалерах і на далоні сваёй рукі,– але гэта немагчыма таму, што мой почырк магу чытаць толькі я і пішу іншы раз не толькі словамі, а і знакамі, «меткамі», вядомымі толькі мне «вузлякамі на памяць». Безумоўна, рукапісны варыянт лепей пераконваў бы ў тым, што я не ўмею і не магу хлусіць у такіх рэчах.**

**Шмат загадак і таямніц звязана і з машынапісным тэкстам. Калі я пераводзіў рукапіс на машынку, са мной і вакол мяне таксама адбываліся непаразуменні і дзівосы, па якіх я выйраў і перапраўляраў правільнасць і праўдзівасць шляхоў свайго тэксту. Напрыклад, сарваліся са сцяны і ўпалі дзве кніжныя паліцы (я сам іх прыбіваў здаравеннымі дзюбелямі!), упалі ў пядзі ад галавы майго сына, які гуляў на падлозе з цацкамі; або, калі я выдрукоўваў «д'яблава кола» – ноччу прыснілася, што ўзарвалася мая «Ятрань», выбухнула, нібы ядзерная бомба, а на другі дзень, калі ў гадзіны чатыры ночы жонка зазірнула ў кабінет, а я сяджу і ўсё выстукваю «кола»,– яна моцна пакрыўдзілася і раззлавалася, не паспела легчы ў ложак, як тут жа лопнула лямпачка, – я зразумеў: сапраўды, яна мае рацыю – ужо запісаўся не ў той бок, хуценька памаліўся і ў пасцель: «Прабач, я вінаваты, больш не буду, вунь мой анёлачак нават лямпачку ў кабінеце разбіў, каб ты не хвалявалася».**

**Я даўно зразумеў: выпадковасцяў няма! Выпадковасці ўяўленыя, і толькі тады – калі яшчэ глядзіш на свет цялеснымі вачыма. Калі пачынаеш хоць крышачку разумець штосьці, бачыш, што нават муха, якая села табе на руку, або абліцовачная плітка, што сарвалася са сцяны як бы сама сабою, настолькі абгрунтавана ў сваім палёце і падзенні, настолькі выцякае з мільярдаў прычын і вынікаў, з усяго твайго жыцця, настолькі падпарадкавана вышэйшай логіцы, што сапраўды «ні адзін волас не ўпадзе» без волі Божай. Вось вам і «яблык Ньютана», які пераварочвае светапогляд: трэба ж упасці на тую галаву, у тыя думкі і ў той час – ці не зашмат супадзенняў?**

**Я захаваў усё, наколькі мог, адзінае, паўтараю, што я прыўнёс ад сябе – архітэктоніка. У сваё апраўданне скажу, што гэта таксама не «выпендрож» і літаратуршчына – рабіў гэта дзеля таго, каб максімальна наблізіць машынапісны варыянт да рукапісу і перадаць тое, што немагчыма данесці звычайнай фразай. Пісалася ўсё на адным дыханні: і «крыж», і «клетка», і ўсё астатняе – адно, з чым прыйшлося паваждацца, гэта «круг долі», менавіта тады – і «машынка ўзарвалася», і лямпачка лопнула, і шмат чаго іншага. Хутчэй за ўсё «круг» – гэта пастка, у якую заціснулі маю душу і энергію (першапачатковы сэнс я захоўваў у любым выпадку, проста ўтрамбоўваў гэты сэнс у зададзеную форму). Варыянтаў «кола» было сем ці восем, а мо і трынаццаць, я не лічыў: чым больш я намагаўся ўдасканаліць «кола», тым больш яно павялічвалася ў памерах, як снежная гурба, станавілася вуглаватым, тым больш заставаўся я незадаволены вынікам, і тым большае жаданне ўзгаралася зрабіць яго беззаганным, без сучка і задзірынкі. А потым я адчуў, што мяне «з興лавілі» якраз на жаданні славы, на тым, каб ніхто і ніколі не змог перасягнуць мяне ў майстэрстве, на ганарыстасці, на якую купіўся і сам Люцыпар.**

**На маю думку, гэтую рэч нельга перакласці на іншую мову, хаця б таму, што ў беларускім «Ісус» – чатыры літары, а ў рускім – пяць; што слова «вось» у нашай мове гэта і ўказальная часціца, і стрыжань, на якім штосьці круціцца, што «справа»– г.зн. з правага боку і, калі сказаць па-руску, то гэта яшчэ і «дело» і г.д., што яшчэ раз пераконвае: беларус, паляк, (іспанец...), можа вытлумачыць і спазнаць сябе толькі той моваю, якую даў Бог, таму што перад тым ён даў табе душу беларуса або іспанца, а ўжо потым ты пачаў вучыць СВАЮ мову як адэкватнае адлюстраванне беларускай ці іспанскай душы, выражанае і замацаванае ў слове. Вывучаючы мову – спазнаеш сябе. Мова не цацка, мова – Дух.**

**Шмат таямнічага звязана і з машынапісным тэкстам, і я папрашу рэдакцыю, калі гэта магчыма – пакіньце маю нумарацыю старонак! Чаму? Не ведаю, напэўна, і яны штосьці значаць. Інакш нельга, так трэба. Чаму? А чаму я быў 13 дзён як у ліхаманцы? Чаму ўсё пачалося менавіта 26 чысла? Чаму я жыў у 26 пакоі, калі насіў мянушку Кудлаты? Чаму калі ад майго ўзросту адняць 26, то атрымаем 7 гадоў, калі вядуць дзіця на першую споведзь? Чаму скончылася «ліхаманка» з 6-га на 7-е? Чаму ў 1917 годзе ў гэтыя чыслы рэвалюцыя? Чаму «дэманічнае нападзенне» было ў «сатанінскі» дзень? Чаму 13 дзён – гэта прорва, якая ляжыць паміж старым стылем летазлічэння і новым? Чаму верш, ахвяраваны Сысу, пачынаецца на 13-й старонцы? Чаму праваслаўны крыж выпаў на старонку N 33? Чаму мне зараз 33 гады? Чаму лік 13 праследуе мяне заўсёды?– я не ведаю, вы – таксама, дык няма чаго мяняць і нумарацыю старонак: так далі мне, так вы павінны перадаць у часопісе іншым.**

**А пачыналася ўсё звычайна: 20 кастрычніка пасварыўся з жонкай, а 26 яна сказала: «Хопіць, маё цярпенне скончылася...», а пазней я прачытаў у Першым Пасланні Апостала Паўла Карынцянам «Для мяне найменшая рэч, як судзіце пра мяне вы, ці як судзяць людзі; я й сам не суджу сябе», і падумаў, вазьму кавалак жыцця, як ёсць, без прыхарошванняў, як прыйдзе, без прыўкрас, і пакладу на паперу, можа пасля гэтага штосьці зразумею (?), і сустрэнуся з сабой маладым і наіўным, колішнім, якога любіў калісьці за дабрату і шчырасць, які баяўся біць чалавека па твары і, дурны, мучыўся, што – баязлівец, які любіў усіх людзей і гэты свет і так верыў у людскую дабрыню, і з якім я размінуўся недзе, якога згубіў, і якога любілі людзі, таму што ён яшчэ нічога не ведаў, а жыў толькі сэрцам – можа, калі пакладу кавалак жыцця, і сустрэнуся з сабою, з тым, з якім размінуўся?**



## 1

– Хопіць,– сказала жонка,– маё цярпенне скончылася! Калі для цябе работа ўсё, а сям'я толькі прыдатак, дык і жыві работай забірай канапу ў кабінет, гатуй сабе ежу, мый бялізну, адзенне А то, як я пагляджу, ты не дрэнна ўладкаваўся на ўсім гатовым.

Усё ж такі яна дапамагла мне перацягнуць канапу Не ісці ж мне прасіць аб гэтым суседа? Навошта выносіць смецце з хаты мы калісьці ўблытвалі ў сямейныя праблемы родных і суседзяў – нічога добрага не атрымлівалася Ну і цудоўна, падумаў я· нарэшце вольны! Трэба прымаць жыццё такім, якім яно прыходзіць. Што будзе – таго не мінеш Здолее, адважыцца, каб развесціся, хопіць у яе на гэта сілы – калі ласка, трымаць не буду, але я і пальцам не павярушу для разводу А не – дык плынь жыцця некуды вынесе, знойдзе сабе рэчышча: не можа вада біцца ў адну і тую ж загату, каб урэшце не разбурыць яе дашчэнту?

Да нядаўняга часу я думаў, што работа, сапраўды, галоўнае ў маім жыцці, і заўсёды гаварыў жонцы: «Зразумей, калі цябе яшчэ не было, то маё захапленне, мая творчасць жыла ўва мне, дакладней, я жыў ёю. Калі б не творчасць, па-першае, мы нават не сустрэліся б з табою, а па-другое, сядзець бы мне ў якой-небудзь псіхушцы да канца

дзён маіх. Уратавала творчасць. Мяне няма без яе як чалавека, а ты крыўдуеш: не магу ж я секчы сук, на якім сяджу? Калі дадзена, я павінен аддаць, гэта ж не маё, мне прыйдзецца трымаць адказ перад Тым, ад Каго атрымаў дар – гэта шлях майго выратавання»

Вядома, як усе грэшныя людзі, я шмат нарабіў памылак у жыцці, не ведаю, ці магчыма іх выправіць? Ну, скажыце, хто дадумаўся б да такога. «Любая,– гаварыў я адразу ж пасля прапановы, каб выходзіла за мяне замуж (трэба ж быць такім дурнем?),– любая,– кажу,– я хачу, каб ты ведала. я паэт, а потым ужо чалавек, муж, бацька » (Чамусьці я часта размяжоўваў у сабе чалавека і паэта. Доўга вагаўся, што ж першаснае, галоўнае? Падумаеш аднойчы: самае галоўнае чалавек, а ўжо потым ён ці паэт, ці слесар, ці хто іншы Але наступіць час і ўсё пераварочваецца, пачынаеш разумець, што твой асноўны чалавек,– гэта паэт у табе Паэзіяй ты апраўдаешся перад Усявышнім. Тады ўсё чалавечае становіцца такім нікчэмным і неабавязковым, а з пункту гледжання абывацеля такой брыдой! Але хто такі звычайны чалавек? Чалавек, які жыве мудрасцю гэтага свету, а сказана было: той, хто для свету стане дурным, будзе разумным перад Богам, хто не адрыне «мудрасці» гэтага свету – не спазнае мудрасці Божай.)

Падступіць іншы раз з усіх бакоў і здаецца, калі не сядзеш зараз за пісьмовы стол, надыдзе канец свету, або выбухнеш вулканам, што клякоча ўнутры цябе Так я і жыў, разрываючы сябе між паэтам і чалавекам Рэдка ўдавалася прымірыць гэтых двух ворагаў, хіба толькі, як знаходзіў іх у гармоніі, і дапаўняў паэт чалавека, і толькі тады я мог лічыць сябе шчаслівым.

Дык вось і кажу жонцы: калі добра ў мяне будзе складвацца ў творчасці – добра будзе і ўсёй сям'і, мала таго, як бы я ні любіў цябе, як бы ні любіў тых дзяцей, што народзяцца потым, я хачу, каб ты ведала, калі аднойчы пытанне стане рубам: або сям'я, або работа – для мяне галоўнае апошняе Вядома, не праца за хлеб штодзённы, а менавіта «магчымасць пісаць» і ўсё, што з гэтым звязана. Пачуўшы такія словы, жонка, напэўна, як і ўсякая жанчына, падумала. «Ты гавары-гавары, вось паставяць у пашпарце пячатку, надыдзе і мая чарга сказаць важкае слоўца, і тады па-іншаму заспяваеш: зробім з цябе чалавека!» – і па першым часе ніколі не ўспамінала той размовы. Хто ведае, можа жыццё пагоршала, можа што іншае, але за апошні год я неаднойчы чуў: «Канечне, у цябе ж сям'я на семнаццатым месцы», або: «Калі б ты павярнуўся да мяне тварам, то быў бы самы шчаслівы, я табе ўсе ўмовы стварыла б для працы, ты сам не ведаеш, колькі губляеш, заняўшы такую пазіцыю!» Што яна вярзе, думаў я, нібыта не клікаў яе ў сваю творчасць, нібыта не хацеў зацікавіць яе тым, што пішу, ці не дапамагаю ёй па хатняй гаспадарцы?! І па крамах бегаю, і грошай не прапіваю, а пад добры настрой магу нават вячэру згатаваць ды бялізну памыць. . Можа, сапраўды, гавораць людзі праўду, чым больш жанчыне аддаеш часу, тым хутчэй яна хоча зарабаваць цябе цалкам, каб дыхаў і жыў кожнай думкай толькі ёю адной? Я таксама мог бы выкласці на яе рахунак тысячы прэтэнзій, але ж маўчу Няўжо яна думае, што ідэальная? І ці многа мне трэба? Толькі, каб не перашкаджала працаваць, не заходзіла ў кабінет, калі я за пісьмовым сталом, не клікала, адрываючы ад працы, глядзець «вакол смеху» – і ўсяго толькі. . Ну прабачыла б іншы раз маю неахайнасць. не выгаворвала б, што не туды нешта паставіў ці не зачыніў дзвярэй – вось і ўсё! Напэўна, я чагосьці не разумею, і вось вынік: яна прынесла прасціны, коўдру і падушку,– шпурнула ўсё гэта на канапу:

– Жыві тут! Гэта таксама будзеш мыць сам

– Ці магу я да разводу карыстацца электрычнай плітой?– з'едліва спытаў я

– Пакуль дазваляю, а там пагляджу: калі не будзеш прыбіраць пасля сябе, купіш плітку і будзеш гатаваць ежу ў кабінеце

Нічога, падумаў я, паразводзіцца дый перастане. Колькі разоў я сам парываўся развесціся, колькі разоў яна пагражала, аднак жывём жа да гэтага часу? Што «кумедзь ламаць», вырашыў я, добрая яна жонка, ідэальных няма зусім, ды і сын у мяне, якога люблю вельмі, грэх гэта вялікі, пакідаць дзяцей сіротамі, але калі ўжо ёй так няўсцерп – хай паспрабуе, я і пальцам не паварушу для разводу А шчасце, на якое я раней спадзяваўся, сямейная гармонія – дык яе няма ў жыцці, я цвёрда ў гэтым пераканаўся. Усё прыдумкі, не дзеля гэтага чалавек прыходзіць на зямлю Галоўнае, з якімі рахункамі мы прыйдзем у вечнасць, як будзем трымаць адказ перад Госпадам?

Калі пасля авансу яна запатрабавала 25 працэнтаў на сына як аліменты, я зразумеў: на гэты раз у яе сур'ёзна – развядзецца! Што ж, падлічыў я: заява, суд, раздзел кватэры – гэта можа цягнуцца гадамі, але на горшы выпадак у мяне ёсць 2 – 3 месяцы, іх трэба скарыстаць.





## 2

*(26 кастрычніка 1994 года)*

І я засеў за працу. Час прыспешваў. Адзінае, на што я мог спадзявацца пры разводзе – інтэрнат: шум, бязладдзе, непрасыпныя п'янкі і вечны прахадны двор, калі заставацца сам-насам змагу толькі глыбокай ноччу.

Спачатку я разбіраў свае паперы, корпаўся ў старых рукапісах, адбіраў найбольш важныя і расфасоўваў іх у папкі. Потым тры ночы запар упісваўся ў навелу, высільваўся, каб нарэшце зладзіць з галоўным героем. Нічога не атрымлівалася. Герою навелы раптам адкрылася будучыня, ён становіцца пракорам, і ў той жа час не помніць, забыў сваё мінулае. Матэрыял распаўзаўся, і я ніяк не мог давесці яго да ладу, разабрацца з героем было цяжка: уявіце сабе чалавека, які помніць толькі будучыню? З гора я вырашыў напіцца і пасля работы пайшоў у Дом літаратара. Шукаў Сыса, які заўсёды там ашываўся. Як цудоўна было раней, калі працаваў бар, яго заўсёды можна было знайсці вечарам там за столікам. Вакол Сыса заўжды кучкаваліся свае хлопцы. Шмат змянілася апошнім часам, але нехта казаў, нібыта працуе кафэ?

.. А першы раз я ўбачыў Сыса ў 89 годзе на свяце маладой літаратуры ў Ісачы. Фестываль працягваўся дні чатыры. Ён прыехаў, здаецца, на другі дзень. Яшчэ да прыезду толькі і гаварылі, што пра яго. Вядома, я заінтрыгаваўся: што за фрукт такі? І вось яго прывезлі на чорнай «Волзе». Нехта схахміў і кінуўся па-лакейску адчыняць дзверцы, сагнуўшыся да зямлі ў паклоне. Усе мы любім пажартаваць, асабліва ў маладосці. Вечарам зладзілі «капуснік». І тут я ўбачыў нешта, што ніяк не ўкладвалася ў маё ўяўленне аб нармальных чалавечых паводзінах. Уразіла не тое, што Сыс выкінуў зусім непрыстойны жарт, а здзівіла, што ўсе гэта прынялі як належнае: глядзелі яму ў вочы і люба ўсміхаліся. Не знайшлося чалавека, які б запярэчыў Я настолькі быў шакіраваны, што таксама прамаўчаў. Але пасля бяссоннай ночы раніцай на ганку выказаў яму наступнае:

– Як ты думаеш, мог бы той чалавек, што забіваў цвікі ў рукі Хрыста, напісаць верш, каб расчуліць іншага?

– Не ведаю.. – ён прагаворваў словы, быццам абсмоктваючы іх у роце, нібы ўзважваў кожнае на языку. – А хто забіваў цвікі?

І тут мяне ўзарвала: «Я не ведаю, што ты там за паэт, тут усе гавораць: геній, геній . Я не ведаю, я цябе не чытаў! Я не чытаў ЦЯБЕ, у цябе не можа быць вершаў!

– Дарма, – абарваў ён

– Чаму дарма? Я што – дурны? Я бачыў, які ты чалавек, і з мяне досыць! Ты маёй душы нічога не зможаш даць. Я не чытаў і ніколі не буду чытаць тваіх вершаў! Запомні гэта!! – здаецца, я крычаў тады, гаварыў апантана.

Я жахаюся сябе ў такія моманты, нейкі чорны дух апаноўвае мяне, цалкам забірае нада мной уладу, і праз які час мне становіцца страшна. мог бы зрабіць непапраўнае .

А ён стаяў і толькі ўсміхаўся. «Давай лепш спрачацца вершамі», – сказаў нарэшце.

– Як гэта вершамі? – асекся я, – Я не пішу вершаў на зададзеную тэму

– Дык лепш, чым дарэмна крычаць, сеў бы і напісаў верш.

. . Так і разышліся. Але пасля размовы ён стаў чорны, як хмара, хоць мне здавалася, што яго немагчыма «прабіць» ніякімі словамі. Да гэтага смяяўся, жартаваў, адкідваў нумары, а тут ходзіць моўчкі, і нішто не можа яго вывесці з унутранай зацятасці. Усе толькі й пытаюцца: «Анатоль, што з табою? Хто цябе пакрыўдзіў? Чаму ты такі?» Я адчуваў, што віною наша размова на ганку. Мне зрабілася не па себе што я ведаю пра яго, пра гэтых людзей? (Я тады ўпершыню трапіў у беларускае літаратурнае асяроддзе. Гаварыў на «трасянцы», і ўвогуле было адкрыццём, што па-беларуску пішуць, размаўляюць, чытаюць цудоўныя вершы і нават спяваюць песні пад гітару Мне здавалася, што жывая беларуская літаратура засталася ў мінулым. А тут маладыя хлопцы майго ўзросту . ) На душы было брыдка. А яшчэ горшала ад таго, што ён не «выдаваў» мяне. Я нікога не разумеў і не знаходзіў там свайго месца. То здавалася, што я адзін дурны сярод іх, а ўсе яны разумныя і нешта спазналі такое, да чаго мне ніколі не дарасці, то ўяўлялася, што ўсе гуляюць у нейкую гульню, а я жыву сапраўдна, то наадварот, нібыта я распачаў і раскруціў якісьці сцэнарый... Гэта нельга было спісаць на нявопытнасць багемных зносін: за плячыма было два гады Літаратурнага інстытута.. Адзіны чалавек, з якім я знайшоў агульную мову – гэта малады празаік Андрэй Худзенькі. Я таксама любіў Талстога, які быў для яго кумірам, што нас і зблізіла. Помню: прачынаецца Андрэй раніцай, штосьці шукае пад падушкай, выварочвае навалачку, заглядвае ў тумбачку і раптам:

– Ну гэтыя пісьменнікі і свінні!

– Што такое?– здзіўляюся я
– Гэта ж схаваў пад падушку бутэльку гарэлкі, а нехта ўкраў Ты не бачыў, хто заходзіў сюды, калі я спаў?
– Не .. – «Яшчэ падумаюць, што я сцягнуў іхнюю гарэлку?»– занепакоіўся я, толькі гэтага мне не хапала, а ўголас дадаў·– Здаецца ніхто не заходзіў.
– Напэўна, Сыс, больш ніхто, акром яго,– вырашыў ён.
І калі я спытаўся ў Андрэя. што за паэт гэты Сыс?– той адказаў· «Добрыя вершы ў яго, пачытай абавязкова» Адзін чалавек, які быў мне сімпатычны, і той гаварыў супраць майго цвёрдага пераканання. Значыцца, я штосьці зрабіў не так або чагосьці не разумею, ад таго і няма спакою ў душы
Перад ад'ездам я падышоў да Сыса
– Анатоль, прабач, я, можа, нагаварыў што лішняе, ты не бяры да сэрца
Ён толькі махнуў рукою, ат, маўляў, дробязь гэта – але, здаецца, пасвятлеў
Тады на ганку, калі ён прапаноўваў спрачацца вершамі, я ўсё-ткі запісаў яго адрас, хоць быў упэўнены, што ён не спатрэбіцца мне І па прыездзе ў Давыд-Гарадок, я жыў у той час на Палессі, адразу купіў яго «Агмень». Прачытаў Хоць і адкрываў кніжку з патаемнай зласлівасцю і цвёрдым скепсісам, перачытаў яшчэ· ну ёсць жа вершы, ёсць жывое слова ад сэрца! Вядома, гэта не Цютчаў, якога я прымаю цалкам, шмат тлумнага і незразумелага, але ж ёсць дзесяткі вершаў, якія «прабіваюць»! Гэтага хопіць, каб называцца паэтам. Вось і паўстала перада мною праблема: чалавек і паэт, геній і ліхадзейства – як ужываецца гэта ў адной асобе?

### 3

Дзесьці праз год я пераехаў жыць у Мінск. І не збіраўся ж, здаецца, жаніцца, але закруціўся ў віры кахання і панесла.
Праз месяц справа дайшла да вяселля. Напэўна, такі мой лёс, ад якога не ўцячэш І неяк перапісваючы адрасы ў новы нататнік, выявіў, што Сыс жыве ў тым жа інтэрнаце, што і мы
І запытаўся ў жонкі, ці ведае яна паэта Анатоля Сыса?
– А чаму ж не, ён жыве паверхам ніжэй, у нас на тэлебачанні працуе.
– Што ён за чалавек?
Жонка адказала не адразу, неяк сумелася «Пачакай, я пайду пачышчу зубы, памыюся, а потым скажу» Калі яна вярнулася з умывальні, на хаду выціраючы ручніком рукі, адразу падышла да паліцы, стала на дыбачкі і дастала яго новую кніжку «Пан лес» «До убожества безлика моя мысль пред Верой в Нику» – прачытаў я надпіс і, што мяне здзівіла, па-руску, таму што ведаў яго як апантанага нацыяналіста, ён заўсёды здзекаваўся з рускамоўных: «Извините, я на русском мову не разумею» Маю жонку звалі сапраўды Верай, але двухсэнсоўнасць у надпісе азадачыла мяне·
– Дык гэта табе падпісана? – жонка кіўнула галавою Напісаў бы проста Садоўскай Веры Іванаўне ад такога, а то не разбярэш: ці жартам, ці ўсур'ёз? Ён, напэўна, шмат думае аб сабе?
– Не ведаю, у нас былі з ім канфлікты, але ён мяне паважае.
Мы запрасілі яго на мой дзень нараджэння Ён зрабіў выгляд, што бачыць мяне ўпершыню, а можа сапраўды забыўся, таму што, калі пазней я нагадваў яму выпадак у Іслачы, Анатоль гаварыў· «Не разумею, пра што ты гаворыш, ужо каторы раз, ты, напэўна, мяне з кімсьці блытаеш? Нічога не помню!– ён хапаўся дзвюма рукамі за галаву, нібы далонямі намагаўся закрыць вушы,– адчапіцеся вы ад мяне, самі штосьці наблытаеце, а потым чэпіцеся з пытаннямі» Як ні намагаўся, я не мог зразумець, што робіцца ў яго душы: калі ён гаворыць сур'ёзна і шчыра, а калі іграе нейкую завучаную ролю. Мяне вельмі здзівіла. ён гаварыў, што да 27 гадоў зусім не піў і цярпець не мог, ненавідзеў п'яных людзей Але чаму ён зараз не прасыхае? Сяды-тады я спускаўся ў яго пакойчык і амаль заўсёды там хто-небудзь быў з яговых сяброў· пілі гарэлку або піва. Я не ведаю, калі ён працаваў, і ці працаваў увогуле, можа таму і піць пачаў, што нічога не пісалася? Кніжкі гурбамі як папала валяліся тут і там, было прадчуванне, нібы гаспадар збіраецца хутка пераязджаць на новае месца, што ён тут часова, але праходзіў месяц, два, прайшоў год, а ён не перасяляўся Яшчэ некалькі разоў мы запрашалі яго ў госці· за сталом ён гаварыў мала, больш маўчаў, паглыблены ў свае думкі, а калі адпускаў ці то жартам, ці то ўсур'ёз якое-небудзь брыдкае слова, то маім вушам гэта чулася настолькі фальшыва і штучна, што я гатоў быў званітаваць тут жа за сталом. Разгадаць яго немагчыма, вырашыў я, але бясспрэчна тое, што ён, як кожны паэт, ранімы, а ўсё астатняе – толькі знешняя абарончая абалонка. Шчырай размовы ў нас ніколі не атрымлівалася. Для мяне ён быў загадкай. Спытаешся што-небудзь, вымавіць у адказ два-тры словы, і – маўчанне. Спачатку гэта мяне раздражняла, а пасля звык. Калі доўга не бачыш яго, хочацца сустрэцца, а пасядзіш побач хвілін пяць – і адчуваеш няёмкасць, нават цяжар на душы і думаеш. як бы гэта пайсці, але так, каб не пакрыўдзіць яго. То ён здаецца мёртвым чалавекам, то іншым разам – самым жывым з усіх нас. Вельмі добра запомніўся пераезд на новую кватэру: мы ўдвух узвалаклі на трэці паверх усю маю няхітрую мэблю – тады ў ім бачыўся чалавек. Аднойчы я вырашыў: што мне разбірацца з чужою душою, тут і са сваёй не заўсёды як след уладуешся, і падумаў· «Анатоль добры паэт, нармальны чалавек, які дапаможа ў цяжкую хвіліну і ні пры якіх умовах не здрадзіць (я фізічна адчуваў гэта), але яго мала хто разумее Трэба прымаць Сыса такім, які ёсць».
Чамусьці многім хочацца бачыць сваіх паэтаў акуратненька прычасанымі, у manішцы, пры матыльку, у адпрасаваных портках і накрухмаленай кашулі – а на тое забываемся, што Высоцкі быў алкаголікам і задзіракам, Ясенін – непераборлівым у жанчынах і амаль алкаголікам, што співаліся Стральцоў і Сербантовіч, што Дастаеўскі хадзіў у лахманах і суткамі праседжваў за карцёжнымі сталамі, прагульваючы ганарары за яшчэ не напісаныя кнігі, заганяючы сябе ў кабалу, што Талстой, высокі мараліст, усё жыццё здзекаваўся са свайго сямейства і памёр, як самы апошні грэшнік, без споведзі і прычасця, што нават Пушкін у паводзінах быў непераносным чалавекам· трынаццаць разоў страляцца на дуэлі – хіба ж гэта нармальна? І хто такія паэты, як не прадвеснікі царства Божага? Як не тонкі чуллівы нябесны арган? Ці не таму Гасподзь праводзіць іх па самым днішчы жыццёвага пекла, што любіць іх, як сваіх дзяцей? Каб яны адпакутавалі тут, і пазбеглі апраметнай пасля жыцця? «Не здаровыя патрабуюць урача, а хворыя» І хворыя не яны, а вы, усе вы, што вечна задаволеныя жыццём і сабою, усе вы, што ведаеце, як трэба рабіць, а як не трэба, вы, што судзіце паэтаў! Вы, што лічыце сябе здаровымі, а іх вар'ятамі – яны хоць ведаюць, што «мир во грехе лежит», а што ведаеце вы? Ці не хадзіў Хрыстос сярод мытнікаў і грэшнікаў, ці не піў разам з імі віно? А каго першага ўваскрасіў, каго найпершага забраў з сабою ў царства нябеснае, яшчэ нават патрыярхі іудзейскія трывалі пакуты ў прадонні, ну, адкажыце, вы ж усё ведаеце, вы так лёгка судзіце, хто вінаваты, хто не, ну ўспомніце? А першага забраў з сабою разбойніка, што быў укрыжаваны праваруч Госпада.
А вам хочацца бачыць сваіх паэтаў прыпудраных і акадэмічна беззаганных і не заўважаць іх балячак і язваў, а яны ж таксама былі жывымі людзьмі? Калі б вы не наводзілі на іх знешні глянец, не прыкрывалі, нібы каляровымі лапікамі, іх чалавечую брыдоту напісанымі творамі, можа самі даўно сталі б больш дасканалымі, таму што ідэал любімцаў не быў бы такі недасягальны: звычайныя простыя людзі, якія змагаліся са сваімі заганамі, а не сядзелі склаўшы рукі.
Дык вось, трэба прымаць Сыса такім, які ёсць.
Перайшоўшы на працу ў Бюро прапаганды мастацкай літаратуры, я крыху ўведаў Анатоля і з творчага боку Скажу толькі, што ніхто не ўмее так чытаць сваіх вершаў, як ён. Яго слухалі, намагаліся не прапусціць ні аднаго слова, лавілі кожны гук, інтанацыю Іншы раз ён шчыра і па-чалавечы цёпла распавядаў пра свае прыгоды людзям, якіх бачыў упершыню. Гэта падкупляла. Менш здольныя паэты павінны былі яму зайздросціць, яго нельга было не любіць у такія моманты: кудысьці выветрываўся яго заўсёдны эпатаж, дзесьці знікала прыліплая да твару акторская маска. На той час ён нідзе не працаваў, а на выступленні пагаджаўся зрэдку – сякія-такія грошы за гэта плацілі. не ведаю, з чаго і на што ён жыў.

### 4

Я адчуваў, што Сыс шукае сваёй гібелі, ці, можа, мне толькі здавалася ён знарок рабіў так, каб усе адвярнуліся ад яго, і – потым ужо.. Я не ведаю, чаго ён хацеў, але ўявіў, калі б ад мяне адвярнуліся ўсе, хто любіў (а яго трымалі на шчыце ўсе першыя гады перабудовы), калі б мяне выкінулі за дзверы, як вашывага ката, – пайсці на самагубства было б няцяжка. Мне блюзнілася, ён дабіваўся менавіта гэтага, але каб усе засталіся

вінаватымі, каб усе пакутавалі. Смерць сапраўднага паэта, калі яна ляжыць на сумленні многіх людзей, прымушае і ўнукаў нашых здрыгануцца і ў роспачы закрычаць: куды вы глядзелі?!

Тады і напісаўся верш, які два гады трымаў мяне на ўзводзе і змушаў дзень і ноч думаць пра яго:

**АНАТОЛЮ СЫСУ**

**Музаю чорнай вянчаны,**
**Заручаны д'ябальскім злом,**
**Брыдзеш у разгуле п'яным**
**І душы вядзеш на злом.**
**А Юда – не той, хто чорны,**
**І жыд – не гарбаты нос,**
**А той, хто ў вясёлых жорнах**
**Расплюшчыць славянскі лёс.**
**І ты сярод іх найпершы**
**Прыблудны Іскарыёт:**
**За трыццаць прадажных вершаў**
**На здзек аддасі свой род.**
**І што ў цябе там, пад маскай –**
**Са скурай хіба сарваць:**
**Жыдоўская хіжасць ласкі,**
**Пярэварацень, паяц?**
**Па душах людскіх і сэрцах –**
**Нібы пад нагамі брук,**
**А потым паплачаш вершам –**
**І гэта ўсё сходзіць з рук.**
**Папера і болей сцерпіць,**
**Баліць не табе – жывым!**
**Скажы, ты не пішаш вершы**
**Крывёю чужой душы?**

Я наўмысна браў за жывое, ведаў, што будзе балець, думаў, можа, хоць гэтым змушу ўстрапянуцца яго, адумацца. Перадрукаваў верш на машынцы, павесіў на дошку аб'яў у Доме літаратара, і адзін экземпляр аднёс яму ў бар. На другі дзень якраз быў з'езд ТБМ і Дом літаратара гудзеў, як вулей. Праз палову гадзіны заходзіць Сыс, працягвае руку·

– О, вялікі беларускі паэт, здароў!– (Рукі я не падаў).– А чаго так?– разгубіўся ён.

– Вось, калі адкажаш мне дастойна вершам, тады я пацісну табе руку

– Што, усе?! Усе ад мяне адвярнуліся?

Мне яго зрабілася шкада, хацелася падысці, як тады ў Іслачы, і сказаць. «Прабач, Анатоль, не бяры да сэрца» – ён сапраўды застаўся АДЗІН, а мне так хацелася, каб ён зноў пасвятлеў... Але я стрымаўся.

Неўзабаве ён зноў ловіць мяне на калідоры і неяк вінавата цягне руку.

– Ну што ты?

Як толькі я паціскаю руку – ён адскоквае ўбок, нібы ўкушаны: «Я тваім вершам смаркачы выцер!»

– А мне што да гэтага? Што хочаш, тое рабі.

– Можаш размножыць і хоць на верталёце раскідвай свае вершы, а мне ўсё гэта цьфу – смачна сплёўвае ён, ґрэбліва скрывіўшы губы і махнуўшы рукой,– вось да гэтага месца.

– Ну, толькі ў мяне й праблем, што Сыс.. Ты што, думаеш ты пуп зямлі? У мяне сваіх турбот поўны рот, хопіць з цябе і аднаго верша, адкажы, ну што ж ты?

– Я ананізмам у паэзіі не займаюся!

– Вось, якраз ты ім і займаешся, успомні: чатыры гады назад у Іслачы, ці не ты гаварыў, давай спрачацца? Я напісаў, чарга за табою!

І тут падскочыла адна жанчына і таксама накінулася на яго, ёй падалося, што мы збіраемся зводзіць рахункі па-мужчынску· «Што, біцца?! Я табе пакажу, ты, алкаголік і п'яніца, ты нічога больш не напішаш, а вось ён пісаў і будзе пісаць. .» Яна выплюхнула на яго ўсе ранейшыя крыўды, якія цярпліва пераносіла.





Усе мне паціскалі руку, гаворачы: «Малайчына! Так яму і трэба!» Але радасці не было. Падтыкала запытацца ва ўсіх, хто віншаваў мяне: «Ці не вы хацелі яго бачыць менавіта такім? Ці не вы зрабілі яго, ці не ваша віна ў гэтым?» Я баяўся, што гэты верш маглі выкарыстаць не зусім сумленныя людзі, якіх заўсёды шмат круцілася вакол яго, і, скарыстаўшы момант, зусім дабіць... А літаральна на другі дзень падышоў адзін з функцыянераў Саюза пісьменнікаў і сказаў· «Давай напішам калектыўны ліст яго маці, каб яна дала дазвол на прымусовае лячэнне ў ЛПП»

– Вы што, падурэлі? Як можна? Ніякага ліста я падпісваць не буду, ён жа Паэт! Хто вас падвучыў?! І не ўздумайце рабіць гэтага.

Мае трывогі напярэдадні аказаліся небеспадстаўнымі, яго, нібы ваўка, пачалі абстаўляць сцяжкамі і з улюлюканнем гнаць на «паляўнічых» Я адчуў, што нехта хацеў нашымі рукамі пазбавіцца ад Сыса і казырнай картай разлічвалі зрабіць мяне, зрабіўшы выснову, што ён мне ў чымсьці насаліў Не ведаю, каму гэта было трэба? На шчасце, ён выйшаў на мяне і праз дзень-другі, нібы нічога не здарылася, падаваў па-ранейшаму руку, а пра верш сказаў толькі: «Ну напісаў, дык тваё права» – і дарэмна паляўнічыя, разлічаныя па нумарах, сляпілі вочы свае, чакаючы «звера» ў падрыхтаваную пастку.

Пра той верш мы з Сысам больш не гаварылі. Але неяк праз паўгода, калі ён прыехаў з «гарошкаўскіх вакацый» (летам ён надоўга з`язджае ў сваю вёску), і вось па прыездзе адразу зайшоў да нас, і за шклянкай гарэлкі сказаў· «Давайце вып`ем за тое, каб мы ніколі не забывалі адзін аднаго, заўсёды помнілі. Вось я цэлае лета быў у Гарошкаве, і кожны дзень вы былі са мною· і ты, Ядзя, і ты, Арына, і ты . І як мне прыемна было ад думкі, што вы таксама помніце мяне,– і раптам звярнуўся толькі да мяне,– ты што думаеш, я не помню, што ты напісаў? Думаеш, не баліць мне?»

Потым, і ў бары, і пры будзённых сустрэчах, і ў час, калі ён рэдагаваў мае апавяданні, зноў ніколі не вяртаўся да гэтай размовы.

**5**

*(1 ці 2 лістапада 94 года тады яшчэ ў кафэ журналісты ладзілі нейкі банкет, можаце спытаць пра гэта ў Трафімчука, Стрыжака, Жалязоўскага, Супрунчука...)*

... І вось я ішоў у Дом літаратара, каб проста напіцца, забыцца на сваю сямейную драму, адагнаць дакучлівыя вобразы і хады недапісанай навелы, якія праследавалі мяне. Я шукаў Сыса. Увогуле, заўважыў даўно, калі ён ад'язджае на некалькі месяцаў у Гарошкаў, жыццё ў Саюзе пісьменнікаў застойваецца, нібы ў балоце, быццам усе пісакі, упадаючы ў анабіёз, зусім сканалі ў спячцы· пачынаеш фізічна адчуваць смурод. Сыс – нібыта індыкатар на подласць, як лакмусавая паперка, што выяўляе гніласць і брыду чалавечых адносін. Пры ім, мне здаецца, ніхто не адважыцца двурушнічаць і шукаць свае карысці, прыкрываючыся любоўю да радзімы: што думае, тое і гаворыць.

З'явіўся ён нечакана, у светлым і, здаецца, цеснаватым касцюме, адразу падышоў да мяне. Я з радасцю павітаўся. моцна ціснуў і трос яго руку. За лета ён амаль не змяніўся, толькі крыху пакруглеў твар, ды на носе выскачыла бліскучая чырванаватая гуля ці свішч – так і карцела: прапароць яго іголкаю і выпусціць гной, белы стрыжань якога віднеўся якраз пасярэдзіне балячкі. Праз хвілін пяць мы ўжо сядзім утрох у кафэ: Андрэй Худзенькі, Анатоль і я. Гаворым пра новую «Крыніцу», часопіс, два нумары якога нядаўна выйшлі. Анатоль сказаў, што ноччу пасварыўся з-за часопіса з Някляевым.

– А чаго яны на кожнай старонцы: «Я», «Мы», «Ты», што за мудрагелістасць такая?– спытаўся я.– Для чаго гэта?

– Ну, гэта нібы на «эўрапейскім» узроўні,– засмяяўся Худзенькі.

– Ай, сабраліся адны жыды,– сумна прагаварыў Сыс.

– Во, ты ж таксама назваў у сваім вершы Сыса жыдам,– звярнуўся да мяне Худзенькі,– няўжо ён не пакрыўдзіўся? А, Анатоль?– падскокваў Андрэй на табурэтцы, смыкаючы яго за рукаў.

Сыс маўчаў. Мне таксама было няёмка, што краналі балючае.

Праз нейкі час ён падняў на мяне мутнаватыя ад гарэлкі вочы: «Напішы абвяржэнне ў ЛіМ ..»

– Як гэта?.. Я думаў, хоць ты разумееш...

– О-о!– запляскаў у ладкі Худзенькі,– усё-такі пакрыўдзіўся, малайчына! Гэта ж трэба, Сыса прабраў... А што, на самай справе, напішы, надрукуюць... Калі для рэкламы... Во, тады яны пакруцяцца...

У той вечар мы напіліся. І гэта была апошняя ноч, у якую я спаў спакойна.

### 6

*(Вечар 4 лістапада 94 года – праваслаўныя Дзяды, і ноч з 4 на 5 лістапада 94 года)*

А яшчэ праз дзень, калі я вечарам прыйшоў дахаты, жонка сказала, што ў нас чатырохгадовы юбілей. «Адсвяткуем апошні раз...» Паклікалі суседзяў. Пасядзелі. Выпілі. Пагаманілі. І калі яны разышліся, я засеў за працу. Вырашыў: напішу артыкул, выкажу свае думкі наконт прызначэння літаратуры і паспрабую растлумачыць, паказаць, што верш, ахвяраваны Сысу, не так зразумелі. Здаецца, я намацаў некалькі базісных ісцін. Яны простыя.

«Што ёсць ісціна?»– напісаў я і задумаўся: не, я пастаўлю словы Пілата ў загаловак. Гэта будзе канцэпцыя: я не бачу на гэтым чалавеку віны, я ўмываю рукі – гэта вы хочаце яго распнуць, і яго кроў будзе на вашым сумленні Ад загалоўка будзе прасочвацца ўвесь падтэкст. Напісаў я так: «Неаднойчы пераконваўся, што лепш за ўсё мне працуецца на ўзводзе, калі палец увесь час на спускавым курку, націснеш – і стрэліць! Ты нават не ведаеш, куды: у сябе самога, у сябра ці ворага.. Творца, як граната, з якое вырвалі чаку: адзін, два, тры... дзесяць секунд – выбух! І вось гэтыя дзесяць секунд да выбуху і ёсць момант творчасці»

Хачу звязаць думкі словамі, асэнсаваць тое, што адчувае душа – а слоў няма. Ісціна выслізгвае, як рыбіна з невада. Каб апісаць праўду сэрца, мала адных слоў, думаў я, ёсць звычайныя простыя словы, але я не заўсёды прачытаю сэнс, азначаны імі, іншы раз яго не ўгадваю. Калі я пачну перачытваць гэтыя ж словы ў другім душэўным стане, можа так здарыцца, што яны змярцвеюць, пададуцца пудзіламі ісціны – грубыя каркасы, прадзьмутыя скразнякамі бессэнсоўя. Чаму так? Тыя ж самыя словы, а робяцца пустапарожнімі?! Ім не даеш веры. Схапіць ісціну словамі – тое ж самае, што злавіць камара ў сілок для птушак або прывязаць за нітачку сонца,– немагчыма – а чаму так, калі мы словамі даносім усё-ткі нейкі сэнс? А чаму мы не заўсёды бачым прыгажосць вакол сябе, а толькі калі-нікалі? Чаму трэба пражыць трыццаць вёснаў, каб аднойчы ўбачыць і сказаць, што прыйшла ВЯСНА! Хто яго ведае? Напэўна яшчэ і таму, думаў я, што словы, як разменная манета ў зносінах паміж людзьмі. ад частага ўжывання трацяць сваю вагу, сціраюцца і абясцэньваюцца. Золатам сэнсу, што закладзена ў Слова Усявышнім, аплачваюць брыдоту і гніль матэрыяльнага існавання, ужываючы словы дзе трэба і не трэба, да месца і наўздагад, без меры і ўсякай патрэбы...

«Адна з мэт паэзіі,– запісаў я, вяртаць словам страчаны сэнс, напаўняць іх згубленай вартасцю.

Ёсць боязь, што словамі можна напалохаць ісціну, панатыкаўшы іх, нібы чучалы, пустыя і падробныя, яны праглынаюць святло, рассейваюць ісціну ў прасторы. Мэта мастацтва. так выкласці на тканіне твора словы-люстэркі, каб яны кучна давалі святло.

Тлумачыць напісаны верш – дарэмная справа. І я не буду гэтым займацца, хоць мог бы абараніць кожны радок і вобраз, абгрунтаваўшы адзіны верш мноствам бясспрэчных ісцін і сілагізмаў, але для гэтага патрэбна было б напісаць яшчэ дзесяць тамоў сваіх пачуццяў і думак, каб вам стала зразумела, альбо апісаць усё маё жыццё амаль ад нараджэння, каб вы прынялі маю ісціну.. і ўсё адно: вам не забаліць тое, што баліць мне. Не вырывайце верш з кантэксту жыцця, і калі ўжо сапраўды хочаце зразумець штонебудзь, прачытайце хаця б папярэдні верш.

Няпраўда, што ёсць элітарная паэзія Такой не існуе! Усе людзі дыхаюць паветрам, глядзяць вачыма, умеюць радавацца прыгажосці – усім баліць! Элітарная?– гэта апраўданне, калі ніхто не разумее, гэта вывернутыя словы, нібы люстэркі, што павернуты да чытача не срэбнай паверхняй, а смаліста-чорнай. Смала нічога не адлюстроўвае, яна проста аберагае ад драпін срэбнае напыленне Нельга ўявіць сімфонію, гарманічнае суладдзе гукаў, калі яны не выцякаюць адзін з аднаго, не





папярэджваюць і прадвызначаюць паслядоўнасці, калі яны не ўпарадкаваны і не аб'яднаны агульнай мэтай – будзе проста нясцерпны шум, так і са словамі ў літаратурным, у «элітарным» творы»,– напісаў я і задумаўся

«Вядома,– пісаў я далей,– у кожнай душы свой вопыт, сваё разуменне і адчуванне мастацтва, асабовая, калі хочаце (не люблю гэтага слова), і н т э л е к т у а л ь н а я п а д р ы х т а в а н а с ц ь, але, калі чалавек прыходзіць з жывою душою (не думаю, што ёсць мёртвыя), то яна хоць слабым водбліскам, але адсвечвае ..

Паэзія ажыўляе душы»

На гэтым я скончыў пісаць і зноў паглыбіўся ў думкі. навошта літаратура, калі ёсць Евангелле, Слова, дадзенае Богам? Навошта людзі высільваюцца, пішучы свае дробненькія і нікчэмныя «дабравесці»? І ці на самай справе ДАБРАвесці? Можа ім толькі здаецца так? Творчасць – ці не самы вялікі грэх? Ці не ад д`ябла ўся літаратура, ці не ад празмернай чалавечай ганарлівасці і славалюбства? Мы называем сябе ўлюбёнцамі багоў, а ці не з`яўляемся паслугачамі і наймітамі «Князя мира сего»? Ці не пасыльныя цемры, каб уводзіць у зман людзей? Чаму я пішу, хто дазволіў мне, хто даў мне права несці ўласную ісціну? Я ж ведаю, што самы горшы за ўсіх – я, дык што магу прынесці светлага людзям? У Бібліі ёсць усё! Няма нічога новага пад гэтым сонцам. Што я магу дадаць да сказанага? Але ж ёсць літаратура, нікуды не дзенешся ад гэтага. чытаюць яе Я сам упершыню ўзяў у рукі Біблію, дзякуючы Талстому, якога палюбіў, якога Царква аддала анафеме. Але ж ён і падштурхнуў мяне? Я паверыў спачатку яму, а потым ужо дакрануўся да вечнай Ісціны Мяне ўражвае, што Евангелле не ўсе разумеюць, не ўсе чытаюць – у многіх застаўся сорам, прышчэплены часамі цемрашальства нібыта толькі цёмныя людзі вераць у Бога. Калі я спытаўся ў аднаго «паэта», які мае нават вучоную ступень філалагічных навук. «Ці чыталі вы Біблію?», то ў адказ пачуў, што ўсё няма часу. Божа мой, Божа, падумаў я, і гэта чалавек, якому хутка паміраць, гэта чалавек, які піша вершы і дысертацыі па мовазнаўстве і літаратуры,– няўжо ён не ведае, што амаль уся еўрапейская літаратура ад біблейскага? З гэтага боку мая маці больш адукаваны і дасведчаны чалавек, хоць і скончыла чатыры класы і за ўсё жыццё прачытала толькі тры кнігі, але ў тым ліку і Вечную Кнігу Літаратура не патрэбная як апошняя ісціна, літаратура павінна гаварыць, што ёсць Евангелле. На ўсёй сусветнай літаратуры павінен стаяць (ды і стаіць, але не кожны і не заўсёды здольны прачытаць яго) надпіс: ЧЫТАЙЦЕ СЛОВА БОЖАЕ! Яна, як указальнік на дарозе жыцця, што скіроўвае да пракавечных ісцін. Але ж ёсць іншая . чорная літаратура? Якая гаворыць адваротнае. Усё правільна, таму што яна злепак, адлюстраванне рэчаіснасці, як і ў жыцці, так і ў літаратуры ідзе вечная барацьба светлых і дэманічных сіл

Я зразумеў, што верш, напісаны два гады назад, вытлумачыць немагчыма. Каб расставіць правільныя акцэнты для разумення верша другімі, патрэбна растлумачыць, што такое літаратура, чалавек, жыццё. . Але ж зноў: растлумачыць не тое, што ёсць на самай справе, а растлумачыць так, як гэта адкрываецца мне, і каб чытач з маёй званіцы, па-новаму прачытаў той самы верш,– гэта немагчыма. Тым больш мне, слабаму і грэшнаму чалавеку Трэба проста напісаць другі верш, вырашыў я, можа пасля яго штонебудзь праясніцца? Я ўзяў чарнавік і напісаў першае, што прыйшло ў галаву:

**Ці ведаеш ты сваю глыб?**
**Ці бачыш яе так, бы відушчыя,**
**Вешчуны і прарокі?**
**Сусветы хістаюцца ў цябе пад нагамі,**
**А што калі гэта апошні шанец?**
**Ці чуеш ты, ці ты аглух?**
**А раптам трэсне зямная вось –**
**І што тады?**
**А ты ж мог...**
**Ці ведаеш ты?**

«Што́ ведаеш?– падумаў я,– штосьці не тое, тлумна, незразумела! Немагчыма выказаць сябе і растлумачыць тое, што ведаеш»

А што я ведаю?– нічога! Не ведаю, не знаю, нічога не ўмею . Не магу выказаць. Няма слоў, няма думак, няма пачуццяў. Як няма? Ёсць жа яны, ёсць. Ёсць!!! Як змагчы з імі? І тут я ўспомніў, што днём купіў два нумары «Крыніцы» Едучы ў аўтобусе, прачытаў словы Кірыла Тураўскага ў перакладзе Разанава, нават здзівіўся яшчэ· як гэта ён

адважыўся Святога ператтумачваць на сучасную мову? Але пераказ не рэзаў слых. Калі я зусім бяздарны, падумаў я, трэба паглядзець, як пішуць іншыя Прачытаў Асташонка – штосьці ёсць, але ж каго чакаюць? Можа, мяне? Хто ідзе да іх? Таксама цёмна... І што за мудрагелістасць на кожнай старонцы· «Я», «Ты», «Мы»? Ад чыйго імя гавораць яны пад рубрыкай «Я»? Да каго звяртаюцца пад указальным «Ты»? Успомніліся словы Андрэя Худзенькага: «Барыс Пятровіч – гэта «Наш». Што ён меў на ўвазе? Што ж там напісаў Пятровіч? Я трымаў часопіс у руках, перагортваў старонкі, торкаўся вачыма то ў адно, то ў другое месца Я нешта адчуваў, нейкая падспудная ісціна прабівалася да мяне звонку, і такая ж ісціна вырывалася насустрач з глыбіняў маёй душы, намагаючыся злучыцца ў адну НЕПАДЗЕЛЬНУЮ Іншы раз здавалася, я выразна бачыў Нешта, але баяўся прызнацца ў гэтам сам сабе

Што яны згаварыліся з гэтымі «Я», «Мы», «Ты»? Навошта гэта? Як добра, што яны паставілі Ніцшэ на старонцы «Ён», але было б лягчэй прадыхнуць зараз, калі б Ніцшэ стаяў пад займеннікам «ЯНО». Як усё-ткі трэба быць асцярожна са словамі!

Прабач, Госпадзе, грахі мае. Даруй слабасць маю. Што ж я не веру? Эх, які брыдкі. Агідны сабе!! Які нікчэмны! Дрыжу за сваю шкуру, сябе шкадую . Які я мізэрны і слабы.. Слабы, Госпадзе, дык дай сілы, дай моцы мне!!! Блаславі.

Госпадзе, зноў я знайшоў гэтую ісціну. І ўсё так проста. Так зразумела Чаму людзі. Ці я зноў звар'яцеў, зноў тое ж самае, што было . Зноў тысячы супадзенняў Што гэта, Госпадзе? Ратуй мяне, Божа мой! Ці я не такі, як усе, ці ўсе не такія, як я? Памажы мне, Госпадзе, не крыўлю перад табою, ты ж ведаеш! Як на духу, усю праўду.. Знаю, як нясцерпна гэта, як страш.... Жах!! Няўжо я зноў памыляюся? Ці зноў звар'яцеў? Беражы мяне, Божа, барані ад зло. . Хай тое ліха на балота ды ў куп'ё! Што рабіць, Госпадзе, каб не скруціўся розум у гэтым д'яблавым коле? Знаю, каго ты хочаш пакараць, таго пазбаўляеш розуму, але ж калі я хачу, каб усім было добра? Калі па Тваіх словах? Няўжо гэта вар'яцтва? Як і ТОЙ восенню. Няўжо павядзеш мяне па старых шляхах. А ты ж на крыжы. Я што хіба прыняў Твой крыж? Твае пакуты? Мне ж не баліць пакуль, ды і што такое фізічны боль у параўнанні з пакутай душэўнай...

Я лёг на канапу Выключыў святло. Думкі не давалі спакою, выйшлі з-пад маёй улады, здавалася, яны прыраслі да маіх пачуццяў і бунтавалі душу Я адбіваўся ад іх, увесь час гаварыў тры малітвы «Ойча наш», «Ісусаву малітву» і малітву Мытара. «Будзь літасцівы, Божа, і да мяне грэшнага. .» Тры малітвы, якія я ведаў на памяць. Але, о жудасць! Нават словы малітваў, якія я добра ведаў, блыталіся Заснуць я не змог Колькі прайшло часу?– не ведаў Быццам глытаў разам з паветрам расплаўленае жалеза то ўсокваў, то зноў кідаўся на пасцель..

Уключыў святло. Зноў ухапіў «Крыніцу». Знайшоў «Планіду» Пятровіча. . Чытаю... Чытаю – тое ж самае .. І ён ведае! У яго тое ж кола, з якога трэба вырвацца. Тыя ж праблемы: зачараванае кола, кругаварот жыцця, замкнуты ланцуг падзей і здарэнняў, кругавая парука людзей і дзеяў, парука ў хлусні і няшчырасці – словам, квадратура круга, і для таго каб выжыць, трэба рашыць гэтую задачу. Я плакаў

Пачуў, што нехта ходзіць у суседнім пакоі. Жонка? Асцярожна падкраўся да дзвярэй і зачыніўся на замок. Здаецца, не чула майго галашэння? Д'яблавае кола! У кожнага чалавека гэта падобна. Як лёгка дыхалася «Глінай» Разанава, але ж ён нейкі рэрыхавец... Ці ходзіць у царкву Пятровіч?..

Дастаў дзённік. Што ж было ў мяне ТОЙ восенню? Чытаў, перагортваў старонкі, пераконваўся. усё тое ж самае! Паўтараецца!!! Я зноў ступаю на свае сляды. Я пазнаў іх: такія ж хісткія і безнадзейныя, акропленыя потам і крывёю, такія ж спешныя і адпакутаваныя – я на сваіх слядах! Гэта мае, пакінутыя калісьці, калі я спяшаўся, уцякаючы ад сябе самога, калі хацеў збегчы ад свайго лёсу, і жыццё наноў завярнула мяне на сваю дарогу: я ступаю след у след, я пазнаю сваю мінулую хаду,– вось сляды, да краёў поўныя чырвонай вадзіцы – то кроў мая, цёплая, і пара падымаецца над слядамі, і паветра яшчэ не ахалодала ад колішняй ліхаманкі.. Я зноў на сваіх слядах.

«Значыць, вясною?!»– бліснула думка. Не! Не... Не хачу!! Мяне ловяць у пастку! Яны хочуць залыгаць мяне. Хто яны – я не ведаю, але адчуваю іх чорныя цені за спінаю. збоку... яны вісяць над маім ложкам, адбіраюць словы малітваў... чытаюць мае думкі, сочаць за кожным маім рухам ..

Столькі супадзенняў сёння. А ўчора? Падумаў пра Жука – і праз пяць хвілін сустрэўся з ім у метро... Падумаў пра Трафімчука, што добра было б убачыць яго,– і вось спаткаў адразу ж каля Дома літаратара. Што гэта? Усё робіцца само сабою. Канечне, другую ноч не сплю. Столькі супадзенняў за той дзень! За тую ноч і за гэты дзень, і за гэтую





ноч, што не хочацца класціся спаць. Цёмная ноч забярэ ўсё І ці можа паўтарыцца ТОЕ ж імгненне яшчэ раз? І ці будзе залежаць ад мяне?

Я ўхапіў чарнавік і таропка пачаў пісаць.

**Баюся, што прасплюся,**
**прачнуся заўтра**
**і ўсё зноў зробіцца будзённым і шэрым.**
**Здаецца, вечна не клаўся б спаць**
**і вечна трымаўся б за хвост ісціны.**
**А навошта спаць?**
**Але ж усе спяць.**
**Так спакон веку было.**
**А хто не клаўся ў пасцель**
**дзень, два ці тры –**
**той, напэўна, вар'яцеў...**
**А можа сон, гэта прыдумка?**
**Можа, калі не класціся спаць –**
**дык і наступае вечнасць.**
**Можа, гэта і ёсць уваскрашэнне:**
**не спаць!**
**Ну, пэўна ж, я вар'ят –**
**не слухайце лепш.**
**Спіце!**
**Але ж нехта гаварыў, што хоча ўваскрэснуць,**
**а яшчэ НЕХТА...**
**Даруй, Госпадзе!**
**Думайце самі, мне за вас не ўваскрасаць,**
**кожны ўваскрасае паасобку!**

7

І тут нешта грукнула на вуліцы Я ўскочыў, доўга трывожна ўглядаўся ў акно – нічога: цёмная ноч Цішыня. Горад «спіць»? А чаму ж маю душу раздзіраюць крыкі?

Ухапіў чарнавік, каб прачытаць напісанае, доўга круціў яго ў руках і не мог разабрацца. дзе ж пачатак? Мяне здзівіла, што радкі былі выраўнены не з таго боку, як звычайна. Гэта азадачыла і ў той жа час мурашкі забегалі па спіне, ад чагосьці нетутэйшага стала страшнавата пакуль я не зразумеў – усё проста калі я пісаў, на чарнавіку ляжаў тоўсты слоўнік, а я настолькі быў захоплены, што не заўважаў гэтага і рука, даходзячы да перапоны, аўтаматычна адскоквала на пачатак. «Я магу вырвацца з кола сваім словам!»– падумаў я.

«Дык мы ўсе разам ці кожны паасобку?– на гэтым трымаюцца сусветы. Ці кожны асобна,– думаў я,– у дамавіне-кокане? У сваёй шкарлупіне? Калі разам – дык давайце нешта рабіць! А калі кожны ў сваёй шкарлупіне – дык трэба трушчыць і выходзіць на свет Божы. Пакуль не разарвецца кокан – матыль не навучыцца лётаць», – падумаў я і пачаў пісаць далей Словы клаліся як заўгодна...

**У пакутах нараджаецца новае,**
**Праз пакуты пазнаецца вечнае,**
**І толькі праз пакуты ўваскрашэнне!**
**А недзе Сыс сядзіць,**
**таксама боль у яго,**
**і таксама, магчыма,**
**не спіць.**
**???**
**Не, ён проста нажэрся гарэлкі і**
**«вырубіўся»...**
**Божа, Божачка, ці я звар'яцеў,**
**ці ўсе...**

Анатоль Сыс: «Напішы абвяржэнне!» Ага, але ж тваё імя па бацьку ЦІХАнавіч? Гэта значыць ціха, ціха. . цышш... Абы ціха, абы асцярожна і не ўпасці куды ў яям-уу!

**У-уух!!!**

Мне зноў зрабілася страшна, жах заварочаўся ў душы Няўжо я адзін такі ненармальны? Няўжо адзін нічога не разумею? Усе людзі як людзі, адзін я нібы пракажоны Хіба мне больш за ўсіх трэба? Страшна кранаць свае вершы што там – бездань душы, ці зеўра, праз якую адчыняецца прадонне космасу? «Замрите, проклятые книги! .»

Калі сляпы вядзе сляпога, ці не ўпадуць яны разам у ЯМУ? Яму трэба верыць! . Трэба верыць, заплюшчу вочы . І вось яно, бяздонне, перада мною. яны навучыліся хлусіць і падманваць – я не развучыўся гаварыць праўду Як выблытацца з гэтага? Я пісаў і, пішучы, заўважыў, што ў літарах часта паўтараецца «я», «м» і «а», што значыць: я м а, і пачаў выдзяляць іх пры друкаванні, чым далей пісаў, тым цяжэй мне было выбрацца, дапісацца да кропкі, тым глыбей я загрузаў у сэнсе ямы Я доўга не мог скончыць той верш, атрымлівалася, што я сцвярджаў, выдзяляючы літары я – яма, або вінавацціў людзей у тым, што яны ямы а мне не хацелася ні таго, ні другога І было там яшчэ выслоўе Яму вер і не трапіш у Яму,– можа яно і ўратавала мяне, таму што душа, нібыта правальвалася ў бездань.

Так, я баюся чорных людзей, пра якіх згадваў у тым вершы і якія падманам могуць пасадзіць у псіхушку . Усе ведаюць, што яны ненармальныя, не такія, як усе, але баяцца прызнацца ў гэтым. Не людзей баюся, а д'яблаў, што валадараць людзьмі. Не кожны ведае, што ў ім сядзіць? Але ж паэты... Іх так і ўспрымаюць. Ну і што? Усе пад Богам! Але кажуць. душа захварэла... А можа, яна выздаравела? Адкуль вы ведаеце, можа, у вас заўжды хворая была і засталася такою? Чаму ж вы п'яце сасмаглымі губамі словы і песні, спароджаныя нібыта хворымі душамі паэтаў? (У восеньскім садзе, абцяжараным пладамі, яблык падае на галаву Ньютана, і ён з гэтай прычыны адкрывае закон сусветнага прыцягнення целаў Але ж яблыкі падалі на зямлю і да Ньютана? Мільёнам людзей падалі на галовы – ніхто не адкрыў, значыць, Ньютан ёсць вар'ят? Не? Але ж яблыкі падаюць? Няўжо, каб адкрыць закон касмічнага прыцягнення душаў, яблык павінен упасці ў сусвет? Такога закону пакуль не існуе Але ж душы людскія прыцягваюцца ўвесь Час. Значыць, мы вар'яты? Архімед бег голым па вуліцы і крычаў «Эўрыка!»– пэўна вар'ят, ніхто не бегае па вуліцы голы, але ёсць рычаг Архімеда, ёсць законы яго, а што застанецца пасля цябе, разумнік? А ці забыўся, за каго прымалі такія, як ты, Хрыста?– пачытай Евангелле, успомні ) Кажуць, душа захварэла, а можа яна выздаравела?

**Чаго баюся я?**
**Чорных і злых дэманаў, што круцяць людзьмі,**
**як ім уздумаецца і хочацца.**
**Яны нацкуюць на мяне добрых людзей, і людзі**
**пасадзяць мяне ў псіхушку...**
**Але ж паэты заўжды вар'яты, калі яны сапраўдныя.**
**Я бачыў сёння іх тут усіх,**
**Калі жонка не спала,**
**Яны прыходзілі да мяне з першых і другіх**
**«Крыніцаў»: сядзелі і вялі гамонку да трэціх**
**пеўняў. Вось толькі аднаго Юду я выгнаў за дзверы...**
**Някляеў?.. Разанаў?.. Пятровіч?.. Як плакаў я, Пятровіч,**
**над тваёю «Планідаю», горкімі слязьмі...**
**Нават жонка, напэўна, пачула, але прытварылася...**
**Аднаго Юду я выгнаў за дзверы,**
**Не люблю яго,**
**Ён сам гаварыў (а можа не ён?),**
**Што трэба забіваць слабых.**
**Ён – нішто!**
**Але чаму я баюся назваць імя яго?**
**Страшна памыліцца,**
**Нават яго (нішто) не магу забіць!**

Якім важкім можа быць слова!! Як цяжка бывае падняць адно-адзінёханькае слоўца над сваёю душой. Якую адказнасць павінны несці мы, тыя, хто гаворыць гэтае слова, асабліва, калі гаворым не аднаму чалавеку – многім, тыя, хто засявае насенне слоў у душы чалавечыя «За кожнае слова дасце адказ!» Як трэба баяцца легкадумнасці ў слове. Я ўспомніў, якім маўчуном быў мой дзед Мікалай, за ўвесь дзень ад яго можна было пачуць два-тры сказы – ён ведаў, што такое СЛОВА. Ён мог гадзінамі корпацца каля сваіх вуллёў, назіраючы за працай пчол, і як раздражняла яго маё балбатанне. «Трэба падумаць, перад тым як сказаць,– вучыў ён мяне,– сказаў, нібыта адрэзаў, каб ніхто не паправіў. Словы, як цагліны: ляжаць адно да аднаго ў падмурку, і нішто іх не можа зрушыць. І хата стаіць. А што было б, калі б панакідалі цэглы, як ты слоў? » Эх, дзед Мікалай, дзед Мікалай, як табе там цяпер?

Класціся спаць ці не? І тут я ўспомніў, што сёння ж праваслаўныя Дзяды. Асяніны Успомніў сваіх памерлых: Міколу, Івана, Пятра, Паўла, Антончыка. . Дзяды, яны глядзяць на мяне Яны чакаюць! Спадзяюцца. .

**Госпадзе, няхай будзе так, як Ты хочаш.**
**Сяджу і не сплю –**
**Гэта і ёсць вечнасць? (Не!)**
**А так хочацца на дыбачках падкрасціся да маёй жоначкі**
**і паглядзець: спіць яна ці не?**
**Але вельмі асцярожна, каб не разбудзіць незнарок**
**перад тым, як падкрасціся.**
**Калі я не сплю – і яна павінна не спаць.**
**Калі мне баліць – ёй таксама.**
**А можа, цяпер усе людзі не спяць?**
**Толькі таму, што я не сплю...**
**У іх жа ёсць душы!**
**Яны такія ўпэўненыя, што ёсць.**
**Яны кожны дзень крычаць пра гэта.**
**Я ўсё чую, хоць яны і не ведаюць!**
**Не магу ж я класціся спаць, калі на мне завязалася.**
**А то лягу спаць – і...**

Ненармальна гэта! Але ўсё адно пайду ціхенечка-ціхутка на дыбачках і паслухаю: спіць жонка ці не? Як мякка ступаюць босыя ногі, якая цёплая падлога.

**Спаць?– Не! Спаць?– Не!**
**Спяць?– Так! Спяць?– Так.**
**Спяць?– Не... Спаць – Не!**

Усяго дванаццаць крокаў да ісціны, а колькі можна не спаць, вы ведаеце? Вечнасць? Што ж маўчыце? – я іду ў спальню, на хаду шукаючы прычыну, па якой быццам бы мне трэба зайсці. Уключыў святло. Прз імгненне жонка расплюшчыла вочы· «Што ты?»

– Ды вось, гадзіннік спыніўся, ты спала?

– Ну вядома, пытаеш яшчэ, цішэй, малога разбудзіш!

Я так і не зразумеў: спала яна ці не? – я падмануў, што быццам гадзіннік спыніўся, яна – таксама, што нібыта спала..

**Сяджу і не сплю.**
**Гэта і ёсць вечнасць! (?)**
**Можа, сёння ўсе людзі не спяць,**
**Толькі таму, што я не сплю!**
**А я лягу спаць зараз,**
**А на мне ўсе вузлы заціснутыя былі...**
**А сёння ж праваслаўныя Дзяды,**
**А я не сплю з каталіцкіх:**
**Жонка ж у касцёле хрышчаная...**
**Не даюць Дзяды заснуць, таму што і другі паэт не спіць!**
**Хочуць Дзяды ўваскрашэння!!!**
**Ад каталіцкіх да праваслаўных так мала,**
**А мы пальцам баімся паварушыць...**
**Падумаеш, не паспаць тры дні – смехата!**

**Давайце разам закрычым на ўсю зямлю: «Ну,**
**Уваскрэсніце, Дзяды!!!»–**
**Іх жа столькі палегла за нас –**
**Без споведзі, без прычасця... Што ж мы?**
**Яны ж толькі праз нас могуць падняцца,**
**Іх жа надзея ў нашых душах жыве;**
**Калі мы кожны паасобку не ўваскрэснем – і Яны**
**Памруць на векі вечныя.**

Можа, штосьці ў гэтым ёсць? Як бяжыць час.. «Час – гэта тое, што праходзіць. было, ёсць, будзе – усё гэта час?»– «Не, час – гэта тое, што я пражываю. Без мяне не будзе часу. Як не будзе яго без цябе, без нас. Калі б не было на зямлі нікога – не было б і часу Хто сачыў бы за ім? Я – вымярэнне і мера Я быў, я ёсць і буду. Я – вечны!» Але ж не могуць на адным чалавеку завязвацца ўсе вузлы зямныя? А Хрыстос жа ўзяў на сябе пакуты? Дык ён жа Бога-Чалавек! І Яго Крыжам мы ўратуемся, і кожны нясе свой крыж. Ёсць нейкая тайна ў Крыжы Гасподнім, падумаў я, нават у самім знаку крыжа: вось бы паспрабаваць укласці словы верша ў крыж, можа тады што-небудзь стане зразумелым?

Раптам!!! Разуменне ўсіх людзей адразу Куды ні торкнешся – усё ведаеш. Напэўна, так вар'яцеюць.

«Дык гэта ж не знікае, калі ўжо было аднойчы?»– падумаў я і тут жа дадаў:– «А хто яго ведае ..»

Мне чуліся абрыўкі нейкіх дыялогаў і спрэчак:

– Так не можа быць: каб усіх ды адразу, цалкам увесь свет і абняць, гаварыў адзін голас.

А чаму б і не? Што мы ведаем пра сябе і пра сусвет?.. І для чаго? І як?– пярэчыў другі.

Усё зразумела з самім сабою: вельмі проста тут, адзін на адзін, вельмі складана там, з людзьмі – дзе ісціна. тут? там? пасярэдзіне, паміж людзьмі і мною? Мяне зноў уразіла трыадзінства ў пытаннях і ў адказах. Зноў трыадзінства Божае, якім прасякнута ўсё! Я вырашыў паказаць гэта графічна і сеў за машынку:

**Што вельмі проста тут адзін на адзін**
**І што вельмі складана там...**
**Дзе ж можа быць**
**І**
**С**
**Ц**
**І**
**Н**
**?А?**
**Ці тут? Ці там?**
**Ці яна пасярэдзіне?**
**І тут ісціна. І там яна. І пасярэдзіне.**

Паспрабуй падняць – і развяжацца пуп Гэта прыходзіць не часта, можа, раз у трынаццаць, ці ў дзесяць гадоў хто іх лічыў? Гэта было апошні раз, таму што да 2000-га (???) засталося толькі шэсць з палавінаю . ... . А мне трыццаць тры гады

**І сёння Дзяды**
**ПРАВАСЛАЎНЫЯ**

Я адчуваю, што на НЕБЕ чакаюць ад мяне нейкага рашэння. Назіраюць за маімі паводзінамі, што недзе там ідзе страшэнная барацьба за маю душу, і кожная думка кладзецца на шалі вечных вагаў: ці за, ці супраць. . Ці светлае, ці чорнае Там НЕБА, там УСЁ ведаюць! Мне некалі пакажуць, што адбываецца ў гэты момант на самай справе, калі я адстукваю на машынцы, выліваючы з літараў свайго сэрца, форму ПРАВАСЛАЎНАГА КРЫЖА, некалі потым, калі душа адляціць ад грэшнага цела, і буду стаяць я на апошнім, на Страшным Судзе перад ПРАСВЕТЛЫМ л і к а м





**Я Г О**
**І С Ц І Н Ы:**
**ХРЫСТОВАЙ АДЗІНАЙ.**
**ІСЦІНА – ГЭТА МЕЧ**
**ДВУГОСТРЫ, ІСЦІНА, ЯК**
**ЗМЯЯ З ДВАЙНЫМ ДЖАЛАМ,**
**УХОПІШ ЯЕ ЗА БРЫДОТНЫ**
**ХВОСТ, КАЎЗАНЕЦЦА**
**РУКА, ВЫПРУГНЕЦЦА,**
**ВЫСЛІЗНЕЦЦА ГАДЗЮКА І ПЫРСНЕ АТРУТАЮ ПРОСТА Ў ВОЧЫ, ДЖГАНЕ Ў**
**ТВАР – І СМЕРЦЬ! КАЛІ ЎЖО ХАПАЦЬ ГЭТУЮ ГАДАЎКУ, ДЫК ТОЛЬКІ ЗА ГАЛАВУ,**
**НІЖЭЙ, ЗА ШЫЮ, КАБ З УСЁЙ МОЦЫ ЗАЦІСНУЦЬ ЯЕ ПРАКЛЯТУЮ, КАБ**
**АДНО ЗДРЫГАНУЛАСЯ,**
**ЗАБІЛАСЯ Ў СУТАРГАХ**
**І ВЫСАЛАПІЛА РАССЕЧАНАЕ**
**ДЖАЛА. ХАЙ СЦЯКАЕ,**
**КАПАЕ СМЕРТАНОСНЫ**
ЯД **НА ЗЯМЛЮ,– НЯХАЙ УГНОЙВАЕ**
**ГЛЕБУ, ЦЯПЕР ЁН УЖО НЕШКАДЛІВЫ.**
М**ОЖА, ШТО ВЫРАСЦЕ ДОБРАЕ ПАСЛЯ** АД
**ЯГО СА ЗЛЯКАНАЙ ЧУ-**
ЖОЙ ДУШЫ. НІЖЭЙ НОГ
**ГОСПАДА, З ЧЭРАПА** АД-
**АМА, ЯКІ ЛЯЖЫЦЬ** ПАД
**КРЫЖАМ – УВАСКРЭСНЕМ,**
**КАЛІ НЕ РАСПНЁМ ЗНОЎ.**
**БОГАВА КРОЎ ЦУРЧЫЦЬ**
**КОЖНЫ ДЗЕНЬ НАНАВА,**
**І МАЦНЕЙШАЯ ЗА ЎВЕСЬ**
**ДЭМАНІЧНЫ ЯД ХЛУСЛІВАЙ**
**ПРАЎДЫ ЧАЛА-**
**ВЕЧАЯ ВЕЧНАЯ**

**і с ц і н а.**

Калі я адстукаў на машынцы знак крыжа, мне стала спакайней, больш упэўнена я адчуў сябе. Я адчуў, што Сіла за мною, хоць не мая Сіла, але яна мяне абароніць. Мусібыць, прыйшла ў маю душу Вера. Вера – гэта аснова Аснова – доўгія ніткі, што намотваюцца на калаўрот кроснаў. Якой даўжыні аснова – такім будзе і сувой палатна. Вера – гэта аснова жыцця. Яна пранізвае ў чалавеку ўсё ад пачатку да канца, ад калыскі да труны. На веру, нібы на аснову, тчэцца жыццёвы сувой нашай долі, толькі дзякуючы веры, аснове, кладуцца на палатно лёсу вясёлкавыя ўзоры і арнаменты. Выцягні з палатна аснову – яно распадзецца на шматок каляровых нітак. Знікне суладдзе і гармонія.

Нават немаўлятка робіць першы крок з прычыны веры: ходзіць маці, бацька, людзі, якія навокал – а яно такое падобнае да іх... Яно верыць у тое, што будзе хадзіць!

Чалавек ніколі не навучыўся б ні чытаць, ні пісаць, ні шмат чаго іншага, калі б не верыў, што гэта магчыма. Вялікая вера – вялікія здзяйсненні! Вера – гэта павадыр, які вядзе сляпога чалавека па дарозе лёсу, гэта аснова, на якой трымаецца палатно долі

А чалавек менавіта сляпы, і вышуквае, і бачыць тое, што яму не патрэбна. Мой супакой быў кароткім. Я доўга ўглядаўся ў крыжовы меч ісціны і заўважыў, што з правага боку крыжа тры словы «Ад», па-беларуску· пекла. Чаму з правага? З правага павінны быць праведнікі? Што я наблытаў? Зноў неразбярыха!

І я зноў ухапіўся за дзённік. Так, гэта было восенню 83 года, таксама ў лістападзе. Сёння 94-ты. А заўтра субота. я таксама павінен ісці ў цырк. Жонка даўно ўжо, яшчэ да сваркі, узяла білеты, так што не адкруцішся: я абяцаў! Я лічыў: колькі ж гадоў прайшло? Лічыў і не мог зрабіць простае арыфметычнае дзеянне: думкі блыталіся, не давалі засяродзіцца. Рукі трэсліся. Спачатку атрымалася 9 гадоў, потым 10, і, нарэшце, інтэрвал паміж гадамі аказаўся 13. Можа, таму я памыліўся, што напісаў гады слупочкам і хутка зусім заблытаўся· якія прамежак, паміж якімі гадамі я пралічваю ў даны момант часу Потым я адначасова пралічваў адрэзкі гадоў восені 82 года і вёснаў 84 і 86, звязаныя з духоўнымі катаклізмамі, вядомымі толькі мне аднаму Штосьці прыпадала на вясну 96 года і на 99 год. Калі атрымалася «13»– зразумеў· гэта канец!

Я адчуў, яны злавілі мяне. Гоняць на загубу. Як мне вырвацца з гэтага кола? Але ж я не магу не пайсці ў цырк? Жонка не зразумее. Усё зноў заблытваецца і ўскладняецца. Калі пайду – усё выйдзе з-пад маёй улады і кантролю. Назад ходу не будзе Можа. . Мне што, навучыцца лгаць? Падмануць? А ці змагу? Заўтра, не, сёння ранкам перад цыркам, трэба прарвацца ў царкву. На споведзь. Тады я быў без Бога, з Богам будзе інача́й. Ён не пакіне, уратуе. Божа, не дай аступіцца, завядзі мяне заўтра на споведзь.

Госпадзе, Ісусе Хрысце, Сыне Божы, памілуй мя.

«Барані мяне сваім крыжам насподнім.. Насподнім?»– жахнуўся я вымаўленага слова. Дык якому крыжу я малюся, якога Бога прашу?

Я зноў выключыў святло. Але праз хвіліну падхапіўся, нейкая сіла шаптала і падказвала мне пішы, пішы, пішы... Занатоўвай, а то зноў усё пераблытаеш і забудзеш Мой розум пралічваў тысячы варыянтаў, шукаючы мне выратавальны шлях· адно, адзінае выйсце! Яно павінна быць!

Усё паўтараецца. Вечны калаўрот, як у таго праклятага Ніцшэ, але я не хачу прымаць яго халодную, ганарлівую «ісціну». Мне добра з Богам

Я зноў ступаю на свае сляды. Вечнае вяртанне – гэта тупік, лабірынт, дзе ж ты, нітачка Арыядны,– пуцяводная ніць? Тупік!

Ёсць тупіковыя сітуацыі, але няма безвыходных. Выйсце заўсёды ёсць! Павінна быць! З тупіка можна павярнуць назад.

Радуйся, калі ідзеш з тупіка зваротным шляхам, ты ўсё адно рушыш наперад. Адмоўны вопыт таксама патрэбны. Не апякаючыся, не навучышся баяцца агню – і тады згарыш аднойчы

Па тупіку праходзяць двойчы: першы раз, як заходзяць у яго, ідуць з упэўненасцю, што гэтая пуцявіна вядзе да мэты, і другі раз, калі вяртаюцца назад з веданнем, што гэтая дарога вядзе ў тупік. Калі ступаеш на сляды свае, выходзячы з тупіка, ты ўсё роўна ідзеш наперад. Да мэты. На сляды свае? . Я на слядах. . Але.. Але як вырвацца з круга? З вечнага круга вяртання?

Ці ёсць у крузе пачатак? Дзе ў крузе канец?

З якой кропкі ні пачынай рух, яна праз нейкі час стане канцом. Няма ў крузе пачатку – няма канца. Круг – гэта сістэма, якая пачынаецца і канчаецца ў кожнай кропцы.

Ці ёсць пачатак майго жыцця? Нараджэнне А да народзінаў, дзе мой пачатак? Не было б бацькі – не было б і мяне. Мой выток ад бацькі Але бацька таксама быў камусьці





сынам. Да бацькі мой пачатак у дзядоў (а сёння ж яны, Дзяды!) . І так бясконца. Няма ў мяне пачатку. Дзе ж канец? Я памру... Але Хрыстос сцвярджае і пераконвае, і я веру Яму, што душа ўваскрэсне і будзе жыць вечна!

Чалавек – гэта сістэма, якая пачынаецца і канчаецца ў кожнай кропцы часу? Чалавек – гэта прамая? Але куды вядзе яго шлях? Чалавек – гэта..

«Дарога – гэта гасцінец, па якім я іду»,– сказаў адзін голас. «Не! Дарога – гэта тое, што я праходжу. Гасцінец будзе і без мяне, а без маёй хады шляху не будзе...»– запярэчыў другі.

Чалавек – гэта крыж! Яму трэба верыць, яго несці, ім ратавацца. Трэба ісці!

Начхаць мне на іхнія кругі і петлі, на гэта д'яблава кола, пайду нацянькі! Да лямпачкі мне, што сатаннё каламуціць ваду, пайду напралом, напрасткі, я засвячу гэта чортава кола, я выведу іх на чыстую ваду! Што мне з таго. дзесяць, трынаццаць? Плюнуць! І расцерці!

Памажы мне, Госпадзе! І я зноў засеў за машынку.

**Во-сь**

**Мой лёс**

**В О С Ь**

**КРРУУЦІЦЦА І РРРЫ-ЫПІЦЬ,**

**ГРУКАЕ, КОЦІЦЦА КОЛА ЗА МНОЙ, КОЛА ДОЛІ**

**МАЁЙ НАСЦІГАЕ: БЛІЖЭЙ І БЛІЖЭЙ, ДАЛЕЙ І ДАЛЕЙ**

**АДБЯГАЕ ДЗЁН ЛІХІХ КАЛАЎРОТ, ФАТУМУ КРУГАВАРОТ, БО**

**Ў ТАКІ Ж САМЫ ВОСЕНЬСКІ ЧАС, ЯК І ТРЫНАЦЦАЦЬ ГАДОЎ НАЗАД,**

**НА МНЕ ЯНО ЗНОЎ. ПАДАЛА ШЭРХЛАЕ ЛІСЦЕ. А МОЖА, ДЗЕСЯЦЬ ЛЕТАЎ І**

**ЗІМ ПРАЙШЛО? ХТО ІХ КАЛІ ПАДЛІЧвАЎ? НА МНЕ ЯНО ЗНОЎ! ПЛАНІДЫ СВАЁЙ**

**НЕ ПАЗБЕГ, – ЦЯПЕР ГРУВАСЦІЦЦА ЗНоЎ НА ДУХ МОЙ, ДУШУ І ЦЕЛА, НЕ ЎЦЯЧЭШ**

**НАЗАД АД ЯГО: ЗРАБІЛА ПАЭТАМ– «Я» ЎсЯРЭДЗІНЕ КОЛА, НІБЫТА ВАВЁРКА ВЁРТКАЯ я**

**І ЗНАДВОРКУ, ЗА КОЛАМ – «Я», І ВОООССЬ ДЗІВА: КРУГАМ МЯНЕ СПАРАДЗІЛА, АЛЕ ПРА-**

**ЛЕЗ ПРАЗ ЯКІЯ ПАКУТЫ, ЯК ГЛІНА Я – вЕДАЕ ТОЛЬКІ МАЦІ: «ЯК І ЗАЙЦАМ БЫЎ «я»,**

**ЯК БЫЎ ПАЯЦАМ, І ДЛЯ ЗДЗЕКУ САБРаЎ НАРОД» – ЧЫТАЎ Я КАЛІСЬЦІ Ў СЫСА,–**

**ЦІКАВА, ЦІ САМ ЁН ПАЗБЕГНУЎ «КРЕсТА КОЛЕСА»? КОЛЬКІ Ж ГАДОЧКАЎ МНЕ**

**ПРЫЙШЛОСЯ АЧОМВАЦЦА, КАБ ЗНОЎ ПАЧУЦЬ У САБЕ ЧАЛАВЕКА, ЯК ЗАГРА-**

**БАЎ Я ВЯСЛОМ ПАЭЗІІ НАЗЛОМ, (НА ЗЛО ВОРАГАМ ГЛУХІМ) ВЯСНОЙ**

**ПАЭЗІІ ГРОБ ПА ЖЫЦЦЁВАЙ ПЛЫНІ, НІБЫ Ў «ГРОБ» ГРОБ я, КАБ**

**НАРЭШЦЕ СКАЗАЦЬ САБЕ, ШТО ТАКІ Ж, ЯК І ЎСЕ АСТАТНІЯ,**

**АЛЕ Ж, ЯКІМ БОЛЕМ ДАЛОСЯ МНЕ ГЭТА, І ВАКОЛ ЯКОЙ**

**ТАКОЙ ВОСІ ЦЯПЕРАКА я КРУЦІЎСЯ І СКРЫПЕЎ**

**СПЕЎ ПЯРОМ СМЕРЦІ – ВОСЬ І ВЫСЬ ГЭТАЙ**

**ДОЛІ І ДАЛІ СПЯВАЕ ТОЛІК, І ЗНАЕ**

**Б О Г**

І боль мой крыху суцішыўся зноў і адышоў. Я доўга ўглядваўся ў круг сваёй долі – ён атрымаўся нейкі квадратны – квадратура круга, падумаў я, невырашальная задача, а квадратура крыжа – непасільная. Колькі ж было гэтых кругоў у маім жыцці? Адно ўзрадавала мяне і яшчэ раз абнадзеіла: Бог апынуўся за колам, значыць, гэта мяне д'ябал круціў? Не, цяпер ён нікуды не дзенецца: ваяваць дык ваяваць!

Хто душу сваю пакладзе за другі свая,– мовіў мой Цар Хрыстос,– той у пашане будзе і займее вянец жыцця вечнага. Як сплаціць мне пазыкі Табе, вечны Раб твой, і вечны прыслужнік у Слова Тваойго, дай мне зброю ў рукі, дай мне Духа Святога, бараніі шчытом веры і шаломам малітвы мяне ахіні, я пайду на вайну, мо з яе не вярнуся ніколі, пракавечны даўжнік, упаду галавою ў траву-палыны, ты мяне не пакінь сярод жарсцяў зямных, добрым словам тады памяні, буду плакаць калі пад лазоравым купалам неба, Ты мяне не шкадуй, бо бядою гартуецца воля, я пайду на вайну, мо назад не вярнуся ніколі, дай мне моцы, Гасподзь, дай мне сілы Свае пад заплаканым небам Айчыны, Ты прымі, атулі, нібы блуднага сына свайго. . Я пайду на вайну .. я пайду... я іду...

Кажуць: праз вызначаныя прамежкі часу вырак спасцігае чалавека. Якая працяглась гэтых прамежкаў – дакладна ведаюць на НЕБЕ. Можа, для кожнага існуе свой інтэрвал паміж ударамі лёсу? Я не ведаю! Адно я спазнаў дакладна, гэта тое, што заблытаўся ў сваім жыцці, заблудзіўся, сярод віхлястых сцяжынак і вочы разбягаюцца, і галава ідзе кругам, заблытаўся ў сабе і ў людзях, адно я пэўна ведаю: штосьці падобнае было ўжо ў мяне аднойчы, ці дзесяць ці трынаццаць гадоў назад, цяпер я ўжо знаю, як мне выйсці на светлы шлях, я знайшоў сабе павадыра, ён выведзе з лабірынта. Я зрабіў клетку, і хутка я заганю туды злодзея, што завязвае людзям вочы, што заблытвае іх жыццёвыя шляхі, там, у КЛЕТЦЫ, ён пакажа свой агідны твар, выявіць сваё паганае аблічча і вышчарыць зубы гнілыя свае. Ён доўга круціў мяне, але Святое Пісанне гаворыць: не капай ямы другому!

Чаго хочуць, што чакаюць ад мяне на гэты раз – я таксама не ведаю! Для нагляднасці параўнаю ўдары Судзьбіны-долі так: першы раз – нібы ўкус камара, другі – быццам шэршань гвазданўў цябе ў лоб, трэці – нібыта абухом па галаве, чацвёрты і – заганяе па вушы ў зямлю. . пяты... шосты... сёмы. Колькі іх можа быць?! Не знаю! Але адчуваю, які страшэнна-магутны і жахлівы, напэўна, бывае апошні ўдар, пасля смерці, ад якога залежыць усё. Каб пазбегнуць яго: рабіце добра справу сваю, рабачаямі будзьце, жывіце па сумленню, і добра справу рабіце, таму што справай сваёю мы апраўдаемся перад Госпадам і справай сваёю ж і асудзімся!

Бог – гэта справа, якую мы робім. І справай мы апраўдаемся перад Усявышнім З правага боку быў укрыжаваны разбойнік, першы з роду людскога, якога Сын ЧАЛАВЕЧЫ ўваскрасіў з памерлых. Як разабрацца, дзе права, дзе лева, спытаеце вы,– гэта проста зусім і складана. Каб не было памылкі і самападману, зрабіце маленькую справу: уявіце сябе на месцы Хрыстовым, на Крыжы, на Гасподнім, сураспніцеся з ім (бо іншага шляху для нас не існуе да ўваскрэсення)– і стане ўсё зразумела вам· глядзіце на свет не ад сябе вы, з крыжа пазірайце вачыма, глядзіце на тэкст мой не ад сябе вы, а з тэксту глядзіце вачыма на словы, на свет, і на дзеі свае, душою глядзіце і розумам, сэрцам і Духам – і стане ўсё зразумелым· дзе права, дзе лева, і дзеяй і справай якой апраўдацца нам перад Хрыстом, таму што·

**БОГ – СПРАВА**

**І ВОСЬ Я і КОЛА КРЫЖА ў дваццаць тры не заўважыў, і туТ**
**Сам без ЯГО падказкі наўрад ці адчуў бы яГО, хоць цяпеР**
**Узрост мой на радасць не той, бо зараз мне трыццаць трЫ**
**Сёння зноў прагнуў злавіць і звязаць мяне вОРАГ гэта ёН**
**Бог гэта справа ЁН справа заўсёды а злева заўжды сатанА**
**Ойча дзякуй ТАБЕ бо Я маю цяпер іншую правую сілу і моЦ**
**Госпада нашага сілу Хрыста абарону рАГАты супрацьь– куЦ**
**Што, хочаце ўведаць яшчэ вы пра інтэрвалы ўдараў крыжа і колА**
**А? Бог наш СПРАВА і на КРЫЖЫ Прамая дарога ў пекла, болей ніЦ**
**Не скажу вам – умейце літары чытаць, ягамосць, і радкі лічыцЬ**





Я адстукаў клетку на машынцы і шмат чаго зразумеў для сябе, многае адкрываю ў тэксце і па сённяшні дзень. Той, каму адкрыта, той усё зразумее, хто сляпы і не бачыць, я не магу яго зрабіць відушчым, я грэшны чалавек і не магу яго ацаліць ад слепаты,– можа, схадзіце ў царкву, калі жывяце ў Мінску – на Прытыцкага ёсць Вялікая царква «Усіх тужлівых радасць» у маленькай палатцы, на ўзбоччы дарогі, але пасярэдзіне Жураўлінага Шляху, можаце ў Кафедральны Сабор схадзіць, ён на ўзгорку стаіць, на Плошчы Волі, дарэчы, цэркаўка, яна заўсёды на высокім месцы стаіць, блішчыць на сонцы залатымі купаламі, адсвечвае чырвоным золатам вечнага жыцця, і б'юць званы, звоняць. бом! бом!! бом!!! Склікаюць сляпых і невідушчых, каб бачылі

А каму зусім не адкрыта, і хто зусім сляпы і невідушчы і мае каменнае сэрца, адколатае з помніка якому-небудзь правадару, хай помніць, што Бог навучыць болем. Хай моліць і просіць Бога, каб Ён навучыў праз боль, пакуль ёсць яшчэ час, пакуль не грымнуў удар у апошні раз. Кінь чытаць маё трызненне і бяжы да царквы, не думай, што будзе час, што яшчэ паспееш, што ў іншы раз..

Іншы раз бывае карысна не толькі чытаць, але і лічыць, не толькі грошы, гадыбарышы, але і словы, радкі, нават інтэрвалы, каб разабрацца, або яшчэ раз пераканацца ў Хрыстовай ісціне

Мы нічога не ведаем, мы робім так, як звыклі, мы вечныя рабы звычак, каб вылушчыцца са старой скуры, бывае карысна чытаць і глядзець на свет новымі вачыма, і, выцершы ногі свае аб прывычку, атросшы пыл з вобуя свайго, прачытаць, напрыклад, зверху ўніз, або знізу ўверх,– тады іншым разам шмат чаго зразумееш, і яшчэ раз пераканаешся ў праўдзе Божай і ў праўдзе сэрца свайго.

**Тады я кола не заўважыў,**
**Таму што яно было маленькім,**
**А я быў вельмі маладым,**
**І мне было проста нясцерпна і цяжка:**
**Мяне вязалі!**
**І толькі, азірнуўшыся на пражытае,**
**Праз колькі год я зразумеў:**
**Штосьці было са мною...**
**Штосьці ад мяне хацелі і чакалі– што? Я так і не даўмеўся.**
**Першы раз праехала–**
**І я стаў паэтам.**
**Усе знакі гавораць, што яно зноў на мне,**
**І трушчыць костку майго Духу,**
**Госпадзе, дай сілы супрацьстаяць, дай моцы мне,**
**Благаславі!**

***8***

*(Раніца 5 лістапада 94 года)*

Я зноў выключыў святло. Чытаў пра сябе малітвы. Падумалася: калі засну, хоць на пяць хвілін, гэта будзе маім канцом. Не! Колькі гадзін? Палова шостай! Рана яшчэ . Але я ўстаў і пачаў апранацца. Пакінуў жонцы запіску: «Я ПАЙШОЎ У ЦАРКВУ» Баяўся, што мне можа што-небудзь перашкодзіць трапіць туды, і гэта будзе маёй пагібеллю Доўга чакаў аўтобуса, падалося, што час спыніўся – мне захацелася бегчы напрасткі, а гэта кіламетраў сем: «Толькі б нічога не здарылася і я трапіў у царкву», непакоіўся я. Вам смешна? Што магло здарыцца, пытаеце вы? У вас што, сястра ў войску служыць, ці страха паехала? Пытаюцца яшчэ, іш ты? Нічога не магло б здарыцца? Вы што?! А калі б мяне зарэзалі па дарозе да царквы? Што тады? Га? А калі б я трапіў пад колы аўтамабіля? Калі б забралі ў міліцыю, ці, скажам, абвінавацілі, што я вунь у той цётки кашалёк з грашыма ўкраў – і сведкі б маглі знайсціся. А што, сказалі б, стаяў побач, можа і ён? Я ж не на гульбішча еду, а ў царкву, а гэта вам не жартачкі Гэта па вечнае жыццё. Гэта не ў піўнушку схадзіць. Ведаеце, колькі небяспечнага падсцерагае нас на кожным кроку? Ведаеце? Асабліва, калі ідзеш у царкву (легіёны не дрэмлюць, як мая маці казала), сотні дэманаў высільваюцца, каб не пусціць вас, гэта вам не уркаган за вуглом у цёмным завулачку,– гэта дэман. Ён падсуне тысячы прычын і думак, і людзей нават падашле, абы вы сказалі. «Потым, будзе яшчэ час!» А часу раз!– і не будзе ў

вас: цюк! бразь – грымнулася цагліна на галаву, і панеслі вас уперад нагамі без споведзі і прычасця, ну і цяперака, дзе ваш час? І святкуе прадонне сваю перамогу. Не думайце, я не з пужлівага дзесятка, але. . але . але... Але калі думаеш пра вечнае, але калі ідзеш у царкву, калі адчуваеш, што па вечнае жыццё ідзеш, і ведаеш. які цяжар грахоў нясеш за плячыма – зведаеце, як боязна тады і жахліва!

Яшчэ ў аўтобусе я заплакаў. І як толькі выскачыў на прыпынку Пятра Глебкі – ірвануўся да царквы. Людзей было мала. Не так даўно пачалі збірацца. у печках «буржуйках», што служаць для абагрэву «палаткі» зімой, разгараліся нядаўна распаленыя дровы.

– Мне патрэбна да Святога Айца! Мне трэба на споведзь!

Людзі спачатку здзіўлена паглядвалі на мяне· «Усім, маўляў, патрэбна на споведзь, усе па гэта прыйшлі»,– выразна гаварылі іх маўклівыя твары. Я ведаў, што ён павінен быць за царскімі «варотамі», але ўварвацца ў святая святых мяне штосьці не пусціла.

Мяне супакоілі, сказалі, што бацюшка хутка прыйдзе. Яго, напэўна, нехта паклікаў, таму што сапраўды ён неўзабаве падышоў да мяне

– Што здарылася?

– Ведаеце, Святы Айцец, мне трэба спавядацца!

– Пачакайце, праз хвілін дваццаць пачнём.

– Мне трэба зараз! Неадкладна, я баюся, калі што-небудзь здарыцца, і я не паспавядаюся, то загіну. Гэта сур'ёзна, у мяне было раней так, я адчуваю гэта.

Я нешта гаварыў яшчэ, а бацюшка стаяў і слухаў, і, калі я нарэшце, замаўчаўшы, паглядзеў яму ў вочы, ён сказаў·

– Не бойцеся, вы пад абаронай царквы, Гасподзь вас не пакіне, нічога не здарыцца. Супакойцеся. Ніхто вас не дасць у крыўду Тут вораг не мае ўлады, яго валадарства там, за дзвярыма. Вы прыйшлі да Бога, а ён усясільны, усяміласцівы.. Я раней крышку сёння пачну. Станьце каля іконкі і ціхенечка маліцеся пра сябе, Ён усё чуе і бачыць. Калі пачнецца споведзь, гаварыце ўсё, што хацелі сказаць, не саромцеся, усе мы грэшныя, адзін Гасподзь беззаганны, галоўнае – не баяцца выкласці свае грахі перад Богам, шчыра пакаяцца ў іх.. – бацюшка гаварыў размерана і спакойна, ціха, але пераканаўча, мне падалося нават, што яму нехта расказаў усё, што адбывалася са мной ноччу, што ён ведае ўсё, што мне патрэбна і як мне дапамагчы.

І сапраўды праз нейкі час наступіла цішыня, я супакоіўся, ведаў ужо, хай трэсне зямля напалам, ці землятрус які – усё адно я паспавядаюся сёння

Адстаяў службу Вярнуўся дахаты.

Жонка сустрэла не так непрыязна, як напярэдадні

– Ну, дзякаваць Богу, прыйшоў,– уздыхнула яна,– а сын ускочыў раніцай і адразу ў кабінет: «А дзе папа, папа пайшоў, папа пайшоў? Папа прыйдзе яшчэ?»,– я таксама спалохалася адразу, ужо потым тваю запіску ўбачыла

Паснедалі разам. Прадстаўленне ў цырку пачыналася акурат пасля абеду У запасе было яшчэ гадзіны тры. Думкі мае сцішыліся, ураўнаважыліся і больш прыземліліся. Не ведаю для чаго, я вырашыў аддрукаваць на машынцы з дзесятак сваіх начных верлібраў, каб была нейкая сувязь і цэльнасць. Я адчуваў патрэбу падзяліцца з кім-небудзь начным кашмарам і адкрыццём. Чаму чалавек так адстойвае сваю праўду, маленькую ісціну, спрачаецца, сустракае ў штыкі аргументы, якія прыводзяцца супраць, раздражняецца, калі пярэчаць яму – не таму, што ў яго дрэнны характар, не, а ўсё ад таго, што хоча суладдзя. Хочацца чуць адгалосак унутранага чуцця і бачання ісціны ў іншых чалавечых сэрцах. Чым больш у цябе аднадумцаў, тым мацней ты стаіш на зямлі. Я спрачаюся не ад жадання быць вышэй за кагосьці, разумнейшым, не ад прагі пахвалы людской – начхаць мне, што падумаюць і скажуць людзі, спрэчка ад памкнення яшчэ раз выверыць і пераправерыць сваю ісціну, і калі знаходжу адгалосак – тады я ўпэўнены ў сабе, тады я жыву ўсім розумам і душою без аглядкі. Жаданне быць зразуметым, падзяліцца з кім-небудзь таксама ад гэтага. «Можа ў цырку сустрэну каго знаёмага, падумаў я – тады верлібры якраз і спатрэбяцца».

**«Што там Ніцшэ наплёў?**
**Ёсць нейкія прабліскі...**
**Але мне здаецца, што гэта штосьці гнілое і смярдзючае,**
**Калі ён Бога адмовіў,**
**Які выратаваў мяне сёння ў царкве:**
**Людзі бачылі гэта.**





**Так, з гною растуць кветы,**
**Але гэта не гаворыць аб тым,**
**Што глеба, на якой стаім,**
**Павінна мяшацца з Небам і быць, прабачце,**
**з гэтага самага...**
**Каб мы ў ім па калена,**
**па пуп,**
**па глотку...**
**Хопіць ужо, наглыталіся!**
**Што, Ніцшэ ўкрыжоўвалі, ці вы ўсе Юды??????**
**Ніц жа за ім няма,**
**За Ніцшэ, за ім– НІШТО!»–**

адстукаў я на машынцы, разбіраючы свае каракулі.

Нарэшце я назваў яго імя, дык ён і сам называў сябе Антыхрыстам – гэта яго сапраўднае імя, і яшчэ імя ўсёй падобнай філасофіі і літаратуры.

Верлібры – заблытаная рэч, імі можна круціць, як хочацца, мы, напэўна, не разумеем верлібраў, можа сам Пан Бог ратуе сваіх паэтаў верлібрамі? Я ж так ясна бачыў Нешта ў цемрыве ночы Што гэта? Як паказаць гэта? Калі гавораць дзве сілы, сутыкаюцца паміж сабою два варагуючыя полюсы – у час такога дыялогу як паміж супрацьлеглымі зарадамі ўзнікае іскра. Можа, гэта і ёсць ісціна?

– Што вы ўсё выкручваеце алегорыям рукі,– запісаў я,– туману напускаеце! Усе вы, так званыя паэты і філосафы, робіце выгляд, быццам сапраўды нешта ведаеце...

– А чаму б і не? Ведаем! Скажы я табе праўду ў лоб – ты ж не паверыш! Гэта ж проста, як Божы дзень: зверху яно ляжыць. Вось і вымушаны я напускаць туману, каб ты праз вобразы дакапаўся да таго, што ляжыць зверху: так ясна ўсё і проста. Але сонца сляпіць вочы – можа, ты хоць праз туман убачыш? Той дакапаецца і ўбачыць ісціну, хто думаць навучыўся, хто не ўмее – для таго туман ніколі не рассеецца. Але ў кім яшчэ трымціць жывая душа, таго мы спачатку плакаць навучым (прымусім?)! Душа, што ўмее плакаць – вучыцца думаць.

Я паставіў кропку, але запісанае не зусім задаволіла мяне: адкуль яно? Чыя размова? Кавалак нечага вялікага. Так можна пісаць кіламетрамі, і ўсё знойдзецца чалавек, якому будзе здавацца, што нешта ёсць там... а на самай справе· звычайная гульня словамі і жангліраванне вобразамі. «А пад паэта закасіць, лягчэй, чым сена касіць»,– пісаў мой цёзка нядаўна.

Трэба нешта простае і зразумелае, накшталт правілаў альбо афарызмаў.

1 Праз не магу – нельга!– запісаў я і задумаўся. Правільна, уся бяда чалавека, што ён хоча і праз «не магу!», думае, што можна скочыць вышэй за сябе самога, укусіць свой локаць, прабіць галавою сцяну, што можна не спаць цэлую вечнасць... і г.д.

2. Нельга ўсё адразу· патроху і паціху! – пісаў я далей і ўсміхнуўся, успомніўшы выпадак з дзяцінства. (Мне тады было гадоў сем, вярталіся з дзедам з сенакосу і пачулі, як у возеры нешта квола боўтала, падышлі: здаравенны шчупак трымаў у пашчы вялізнага карася, ніяк не мог справіцца з ім, выбіўшыся з сіл, ён ляпаў хвастом па вадзе каля берага – дзед з разгону брохнуўся ў ваду і грудзямі наскочыў на рыбін, грабнуў уверх рукамі і выкінуў на бераг. Радасныя, мы неслі дахаты нечаканы ўлоў, і, пасміхаючыся ў вус, дзед сказаў тады: «Во, заглынуць хацеў, а цяпер самога з`ядуць, так і з чалавекам, які шмат глынуць хоча».)

3. Чалавек спачатку шукае кнігу па назве, потым па прозвішчу таго ці іншага аўтара, а некалі будзе шукаць адно СЛОВА!

4. Ён гаварыў: напішу, напішу, напішу... потым, потым, потым. . Але так і не напісаў нічога, таму што жыў у абсурдзе, а трэба было проста схадзіць у царкву

5. Не люблю абсурду – гэта не маё! Але як часта кажу: потым..

6 Баюся, баюся, баюся... Мурашка прапаўзе па стале, а мне страшна: раптам яна не туды ступіць і Сусвет разарвецца на часткі Як добра, што ёсць Бог у небе для ўсяго, і царква на зямлі толькі для чалавека

7. У царкву не ідуць, а пруцца, душачыся сваімі грахамі, што сплываюць салёнымі слязьмі і прарываюцца скрозь слёзы, уцякаюць ад грахоў, і паганяюцца таксама грахамі – нібы бізуны, сцёбаюць яны па спіне і балюча б'юць па пятках... І нясуць, цягнуць, валакуць за сабою і ў сабе цяжэзныя грахі ў царкву. . І не пускаюць у царкву таксама грахі. .

*(Дзень 5 лістапада 94 года)*

Мне зноў зрабілася страшна, і я кінуў пісаць.

Ехаць у цырк, тым больш пасля ачышчэння, пасля царквы не хацелася, можа нават блюзнерствам было б паехаць пасля такога? (З першымі хрысціянамі рымляне распраўляліся амаль што на цыркавых арэнах сваіх амфітэатраў.)

Я спрабаваў заікнуцца жонцы, маўляў, з'ездзілі б самі, а я лепш адпачыў бы, але яна і слухаць не хацела.

Неахвотна пачаў збірацца. Каб не «накруціць яе на новы віток» незадаволенасці і не раззлаваць, апранаў тое, што яна гаварыла, і не спрачаўся. Што будзе – тое будзе! Запіхнуў у кішэню верлібры, узяў нататнік з адрасамі і тэлефонамі, на ўсякі выпадак паглядзеў, ці ёсць грошы.

Горад мне здаўся чужым. Я нават не мог арыентавацца: дзе знаходзіцца цырк? Яна ведае – хай вязе. Я прыглядаўся да людзей, прыслухваўся да іх гамонкі – ці не зразумелі яны што за гэтую ноч? Усё будзённае: звычайныя размовы, штодзённыя клопаты і праблемы. Ніхто не трывожыцца, ніхто не гаворыць пра душу і не думае пра вечнасць. Яны што, усе спяць? Ходзяць, гавораць, нешта робяць і спяць на хаду? Няўжо яны не адчуваюць набліжэння? Гэта ж можа здарыцца ў любы момант? А яны?– толькі вострацъ думкі і цюкаюць імі адзін аднаго, для свайго шкадлівага задавальнення, цюкаюць, быццам сапраўды нешта ведаюць лепш за астатніх, быццам у іх наперадзе тысячагоддзі жыцця і ўсё яны яшчэ паспеюць зрабіць.

Каля цырка выйшлі: я здзівіўся яшчэ, што цырк аказаўся метраў трыста ад Дома літаратара, хоць заўсёды ведаў гэта, але на момант выскачыла з галавы.

Мяне вабна паклікала воля: прайсці па праспекце Францішка Скарыны і, можна, сустрэць Сыса, ці на крайні выпадак якога-небудзь Пазнякевіча,– гэта ж так проста. І дзянёк такі цудоўны, усё адно, як бабіна лета: сонца, людзі, глыбокае сіняе Неба. Як я люблю, калі ападае лісце, калі яно шамаціць пад нагамі, калі спяваюць тужлівую песню, адлятаючы ў вырай, жураўлі. Некалі і мы, кожны з нас паляціць за птахамі нябесным шляхам апошнім... Туга на сэрцы: як крычаць жураўлі! Мо клічуць нас услед за сабою? А лісце падае, кружыцца, шамаціць пад нагамі. Вунь бы прайсціся ў парк Горкага ўсёй сям'ёй і проста пасядзець на лавачцы. І гэты дзень ніколі больш не паўторыцца, і я запомніў бы яго на ўсё жыццё, успамінаў бы і там, за аблокамі: як весела шчабеча і смяецца сын, як падкідае апалае лісце ўгару, падстаўляючы светлую галоўку, і заліваецца срэбным званочкам: «Мама, папа, глядзіце, я зрабіў дождж ык! Дожджык не «вымакае» мяне. Дожджык з лісцікаў...» А мы сядзелі б з жонкай і ўсміхаліся б, і нам было б добра. І яны запомнілі б гэты дзень... Але ёсць нейкія білеты ў цырк... Цесная, душная будыніна, што зрабілі людзі, а тут такі дасканалы свет навокал... Але...

– У колькі пачынаецца?

– У тры гадзіны.

Я зірнуў на гадзіннік: «Сорак хвілін да пачатку!»

– Давай пагуляем?

– Яшчэ чаго не хапала!– незадаволена бзыкнула жонка.

– Ну што я буду сядзець там цэлую гадзіну? Давай білет, ніхто ж не зойме маё месца. Я знайду вас...

Гляну ў квіток, і нешта абарвалася ўсярэдзіне: 13 рад, 31-е месца,– прачытаў я. «Цырк – гэта пастка, мне не трэба туды ісці».

– Не хочаш, як хочаш, я пайду прайдуся...– услых сказаў я.

## 9

*(Дзень і вечар 5 лістапада 94 года)*

І не хлусіў, я так і думаў· калі не сустрэну нікога – вярнуся назад. Няхай будзе не мая воля: чалавек адчувае, калі падманвае,– схаджу да Дома літаратара, а там – будзе бачна. Мне трэба было падзяліцца з кім-небудзь страшнай тайнай, якая апякала мяне, была ўпэўненасць, што я абавязаны сказаць камусьці. «А раптам гэта не набытак бяссоннай ночы, а мой непасрэдны доўг, ускладзены на мае плечы, і некалі потым мяне спытаюць: што ж гэта – Я прыадкрыў табе таямніцу, каб ты пераканаў іншых, Я выбраў цябе для гэтай ролі, а ты не адчуў волі маёй, збаяўся... Збаяўся быць асмяяным, ці ты не чытаў, як Мяне лічылі за вар'ята?» – думаў я. Ну хоць бы якога паэта сустрэць і сказаць ні то жартам, ні то ўсур'ёз: «Давай уваскрэсім памерлых?!» – не зразумеў бы, дык сказаў бы, маўляў, шыза зайшла, суперідэя: мне стала б лягчэй... Паэт зразумеў бы, магчыма... Аблягчыў бы маю ношу – ужо адказнасць была б раздзелена на дваіх.

Як на тое, я нікога не сустрэў па дарозе. У Доме літаратара таксама – нікога са знаёмых. Я шукаў Сыса. Пазваніў з дзяжурнага тэлефона яго суседцы, што жыла паверхам ніжэй, яшчэ званіў камусьці, але адказам – толькі доўгія гудкі...

Падняўся на другі паверх у кафэ. Спытаўся: ці не бачылі Сыса?

– Ён казаў, каб ты да яго прыехаў!

– Сур'ёзна? Адкуль ён ведае? Дакладна? Ён нікуды не з'ехаў?

– Ну, казаў жа, што будзе дома, калі хто будзе пытацца.

Выскачыў на вуліцу. Не стаў тлуміць галавы, чым лепш даехаць да вуліцы Чарвякова, а пайшоў пешкі (добра, што прыхапіў нататнік з адрасамі, з маёй дзіравай памяццю не знайшоў бы яго кватэры). Да «Белай вежы», думаў я, а там ужо патраплю. Падумалася: не блага было б узяць бутэльку гарэлкі – і ўсміхнуўся гэтай думцы: «Эх, вы, паэты?» Куды я іду?– уваскрашаць чалавецтва! Як жа можна так легкадумна такую сур'ёзную справу рабіць на п'яную галаву. Вось наша галоўная немач і памылка: усё добрае замочваем і абмываем і ўсё вялікае пачынаем у час п'янкі або пасля перапою.

Гарэлкі я, праўда, не ўзяў. Сур'ёзныя справы робяцца нацвяроза, нават калі яны ўяўныя і прывідныя.

Сыс аказаўся сапраўды дома.

– Ты?!– здзівіўся ён, адчыняючы дзверы. – Вось ужо каго не чакаў сёння, дык гэта цябе... Усё-такі ты мяне любіш! Праходзь!

– У мяне тут ідэя...

– Што такое?

– Разумееш... Як бы гэта табе сказаць... Ну, словам... Бачыш, ішоў да цябе – усё было ясна, а цяпер баюся, што не зразумееш... Ты толькі не смейся, я можа буду гарадзіць дурноту...

– Ды гавары ты і не стой у парозе. Праходзь. Я зараз чайнік пастаўлю.

Я распрануўся, сабраўся з духам і, калі ён вярнуўся з кухні, выклаў яму:

– Давай уваскрэсім чалавецтва! Ты толькі не смейся, гэта гучна сказана, я сур'ёзна, усё сходзіцца... Я пралічыў, але не ведаю, што для гэтага трэба рабіць?.. Не, піць не буду! Не налівай. Разумееш, трэба дапамагчы,– я паказаў рукою ўверх,– без нас не атрымаецца ўваскрашэння! Ты не ведаеш, што рабіць? Нешта трэба, можа спытацца ў каго... Тут у мяне вершы, пагляндзі, ці не праясніцца што...

– Пакладзі іх куды-небудзь, я потым пагляджу.

– Ну, і Бог з імі,– кінуў я вершы на стол,– потым. Жонка ў цырк пайшла, а я збег, не мог жа я адразу ў цырк пасля ўсяго... Можа, першы раз у жыцці падмануў, ха-ха-ха! Хаця не... Разумееш, трынаццаць гадоў таму, у такі ж самы час, восенню, я гэтак жа хадзіў у цырк, сёння не змог, пасля царквы... І добра, што так. У цябе. Разумееш? Скажаш, супадзенне, не, хлопчык, ці не зашмат? У мяне запісана ўсё... Хопіць! Колькі можна круціцца ў д'ябалавым коле? Трэба штосьці рабіць! Во, глядзі, пашпарт, бачыш, трынаццаць, трыццаць адзін, зноў трынаццаць... дваццаць тры... Ты не крыўдуеш за верш той? Не, малайчына, значыць усё разумееш. Дык вось, трынаццаць, ну, гэта не так важна, хоць і гэта, усё да аднаго, адкуль мы знаем, што важна, а што не? Бог ведае. У Гарадку я жыў у трыццаць першым пакоі, на Ваўпшасава дом быў 31, на Гамарніка пакойчык таксама N 23, а цяпер, успомні, якая мая кватэра?

– Адкуль я ведаю.

– Ты ж дапамагаў пераязджаць? Тройка, адзінка і двойка заўсёды прысутнічаюць, якi нумар, ну?

– Што я кампутар: усё запамінаць? Будзе трэба – знайду. Ну і што, калі ў цябе кватэра пад трынаццатым нумарам, што зменіцца?

– Анічога! У мяне кватэра N 231, але гэта мала што гаворыць, хоць можа і гэта нейкую ролю іграе, разумееш? Мне трыццаць тры гады! Бачыш, бачыш, які ў мяне быў квіток у цырк?– паказаў я білеты,– 13-ты рад, 31-е месца. Разумееш, гэта ўсё знакі, той чытае, хто бачыць, разумееш? Трэба штосьці рабіць!

– Ты не крыўдуй,– вяла прагаварыў ён,– але я нічога не разабраў з таго, што ты нагарадзіў...

– Сур'ёзна?– я прыгледзеўся да яго: «Не, здаецца, не падманвае».– Ты што, не верыш у Бога?

Ён маўчаў

Я думаў, ты... Гэта нельга сказаць у лоб, павінна быць недаказанасць, каб кожны чалавек узрастаў, даходзячы, высільваўся сваім розумам і душой ..

– Давай лепш вып'ем! Прыбег, разбудзіў .

– Не, не, не!.. Я не буду, а то страха паедзе.. Разбудзіў? Я вунь трое сутак не сплю, і нармальна...

І ўсё ж мы выпілі...

– Дык ты што, уцёк ад жонкі?– спытаўся ён як даўмеўшыся.

– Канечне! Надакучыла ўсё. Не разумее яна...

Вы ўсё роўна, як дзеці, наробіце дзялоў, а мне за вас аддувайся.

– Яна ў цырк пайшла.. Не мог жа я пасля споведзі... Ну, дык «падымем» памерлых? Дапаможам? Учора ж былі Дзяды.

– Сур'ёзна? А я і не ведаў...

– Не даюць Дзяды заснуць! Хочуць Дзяды ўваскрэсення! А колькі можна не спаць, ты ведаеш? Што ж маўчыш?

– Ты што, шызануўся ці прыкідваешся? – Ён схадзіў на кухню і прынёс чайнік, які даўно ўжо свістаў там.– Ты быў у бальніцы?

– А ты што, хіба не быў? Калі не быў, значыць, вар'ят!

Бляха! Вакол мяне адны вар'яты сабраліся!– з крыўдай і адчаем прагаварыў ён

– Не хвалюйся, я нармальны! Што дрэннага ў тым, што я хацеў, каб усім было добра? Людзі злыя былі... Ці ты ў Бога не верыш? – тады іншая справа і другія меркі. . Проста мяне не зразумелі тады... І ты быў, я ведаю, іначай не прыйшоў бы да цябе. А дурных няма, ёсць шалёныя, «беснаватыя»... Гэта жахліва! Яны ўсе вар'яты і ненармальныя, гэта ім нічога не трэба, абы жывот набіць! Ці можа ты іхняю меркаю хочаш мераць нас? Вочы разуй, Толя! І кінь піць!

– Сынок, хопіць мяне вучыць! Ты з сабой разбярыся спачатку. Давай лепш вып'ем яшчэ, зараз Галубовіч павінен прыйсці

Мы дапілі гарэлку Курылі і пілі гарбату. Праз паўгадзіны прыйшоў Галубовіч. Дапілі астачу Гаварылі пра жыццё, паэзію і пра Бога. Анатоль даў мне яшчэ грошай на бутэльку: доўга і нудна тлумачыў, як знайсці гастраном· «Пойдзеш прама, потым направа, сто метраў убок і праз дворык. .»

– Не тлумі мне галавы, што я – малы? Спытаюся. Язык да Кіева давядзе, а як вельмі доўгі, то і да Калымы, галоўнае – запісную не забыцца з тваім адрасам.

Я ішоў і радаваўся, які малайчына Сыс, як усё разумее, а толькі прыкідваецца: як мне патрэбна зараз, каб не глядзелі на мяне сямікапеечнымі вачыма.. Успомнілася, як у час уваходзін пасля двухдзённага банкетавання скончылася гарэлка і мы кінулі жэрабя: выпала ісці Сысу. І як усе разгубіліся, кожны шкадаваў напэўна, што жэрабя выпала не яму, баяліся за Сыса: тлумачылі, як не заблудзіцца. І пасля таго, як ён выйшаў, жонка мая сказала: «Не трэба з ім насіцца, як дурні з пісанаю торбаю, ён такі ж чалавек, як і мы.. » (Усё-такі, якая яна ў мяне разумніца!) І як мы радаваліся, калі ён прыйшоў з цыгарэтамі і гарэлкай, жывы і здаровы

Я таксама не заблудзіўся. Мы выпілі яшчэ і за Дзядоў... У хуткім часе я заснуў моцным сном, упершыню за апошнія трое сутак. Прачнуўся, ужо было позна: гарэла святло, за вокнамі стаяла глыбокая ноч разбудзіў гучны голас Грышановіча. Потым яны павезлі мяне дахаты. Затлумілі галаву таксісту, і ён стаў пасярод горада, разгублены, і не ведаючы, куды ехаць і дзе знаходзіцца. Мне прыйшла думка: «Калі сабраць трынаццаць аднадумцаў, аб'яднаць іх Святой ідэяй – можна перавярнуць свет, калі трынаццаць душ зліваюцца ў адну – прыходзіць тайна. З Хрыстом Апосталаў было менавіта столькі. Нас толькі трое, і то якімі вачамі глядзіць на нас шафёр, як на нейкі цуд». Мне здалося, што ў яго душы распачалася вялікая работа.

Жонка сустрэла ветліва Непаразумення і разводаў як і не было. Я пачуваў сябе шчаслівым· іграў на гітары; Грышановіч голасна чытаў свае доўгія вершы; шафёр сядзеў збіты з панталыку незвычайнай кампаніяй; а Сыс, як заўсёды, сядзеў у сваім сховішчы, цікаваў за тым, што адбываецца, і час ад часу кідаў нейкія фразы. Здаецца, яму таксама было добра, ён радаваўся напэўна, што зрабіў нас шчаслівымі. Праз гадзіну яны паехалі, і мы засталіся з жонкай.

Як добра, што я прымірыўся з Верай. Ціхая, спакойная радасць ахінула мяне сваёй пяшчотай. Лагодна і ўтульна. Я прыгрэўся і прытуліўся да сваёй жонкі: усім сэрцам веры́ў – усё будзе добра.

Я быў паміж сном і рэальнасцю ў дрымотным стане. Велічныя і высокія думкі Упэўненасць у заўтрашнім дні. Супярэчлівы зацінуты вузел паволі пачынаў разблытваўца, так мне падалося. Чаму такі спакой і ўпэўненасць? Нешта стаіць за мною, моцнае і магутнае, вялікая сіла, што не дасць аступіцца і сарвацца ў прадонне. Як добра, калі не пакутуеш сумленнем, калі прымірыўся з усімі, пакаяўся Як цудоўна, што ёсць у небе Вялікае і Святое Дзякую Табе за ўсё. за жонку, за сына, за гэтае жыццё, якім Ты адарыў мяне, за сяброў, што не падвялі ў цяжкую хвіліну, не пасмяяліся і зразумелі: што і як трэба рабіць; за ўсіх людзей, з якімі жыву на гэтай зямлі. якія ж яны добрыя, л ю д з і !

## 10

*(Ноч з 5 на 6 лістапада 94 года)*

Я не ведаю, спаў я ці мроіў наяве – але мне было добра, супакойна і сціхотна. Я адчуваў, што Нехта думае пра мяне, Нехта клапоціцца і аберагае. Напэўна, людзі завуць Яго Богам Ён Нябачны, Неспасцігальны і Вечны, Ён Нязменны, Бязмежны, Бясконцы і Ўсюдыісны, Усёведны, Звышмудры і Ўсемагутны, Добры, Святы і Праведны, Ён Сапраўдны і Справядлівы, Ён Творца гэтага свету, Ахоўнік яго і Вышэйшая Сіла і Воля, Ён Доўгацярплівы і Літасцівы – усё гэта Бог Ён ненавідзіць зло і карае няpraўду, але Ён хоча ратунку для ўсіх, таму што Ён ёсць Любоў, і Сына Свайго аддаў на ахвяру за нашы грахі, Ён Святло,– Бессмяротны, Нятленны і Вечны За ім тайна і неразгаданасць, бясконцасць і ўсёабдымнасць. Куды падзелася мая заўсёдная цікавасць? Я ведаю· не ахапіць мне Яго ўсяіснасці Як з ім добра і ўпэўнена. Жыццё ставарае новыя законы. Зямля, зоры, сусвет усё падуладна і ўпарадкавана Яго гарманічным законам. Маленькая зёлачка – і яна цягнецца да сонца Сусвет Вечнасць. Любоў. «Мир движим любовью». Яна пранікае ўсюды Усім кіруе Нешта і я значу ў гэтым вялізным сусвеце? І я патрэбен. Дзякую, Табе, за ўсё.

«Жыццё стварае новыя законы», творыць. жыццё стварае . Жыццё куе.. Жыццё куе свае законы, жыццё куе свае законы...

Жыццё, жы-ц-цё-ё – цягучае, цякучае і салодкае, нібы мёд. Жыццё куе свае законы! Што за гэтымі рукамі? Тайна Вечнасць. Быццё .. Якія яны далікатныя, плывучыя і цякучыя, як само жыццё. «Жыццё куе свае законы» – гэта яны пішуць. Для мяне? Навошта? Запомніць гэта? Жыццё куе свае законы. Жы-ццё ку-е-е сва-е-е за-ко-о-ны. «Итак, не заботьтесь о дне завтрашнем, ибо завтрашний день сам позаботится о своем, довольно у каждого дня своей заботы». Жыццё куе свае законы Што заўтра будзе... «Не рассуждай, не хлопочи» Што заўтра будзе «Дневные раны сном лечи» Што заўтра будзе – невядома «А завтра быть чему-то. » Спазнаеш заўтра. Запомніць гэта? «Запомні». Запаведзь? Першая? Не Не! Першая: возлюби Бога.. Кожнаму свая? Жыццё куе свае законы Жыццё. А колькі іх павінна быць? Дзесяць. А дзе ж астатнія? «Усяму свой час». Майсею дзесяць давалі? «Не спяшайся». Жыццё куе свае законы «Запомні хоць гэтую». Жыццё .. «Дай руку, калі хочаш Лічы. Загінай пальцы». На «Жыццё куе свае законы» – адзін. «Любі Бога» – два. «Любі бліжняга» – тры. «Не забі» – чатыры «Не крадзі» – пяць. «Не чужалож» – шэсць. Сем. «Колькі налічыў?» Сем, але ж павінна быць дзесяць? Я добра помню: десяць, гэта грахоў сем, а запаведзяў дзесяць! «Добра, добра, дзесяць, але ўспомні хоць гэтыя сем» Хмг. «Чаму рука сціснутая?» Лічыў. «Што лічыў?» Запаведзі. «Колькі там?» Сем. «Успомні!» Не магу. «Ну, бач ты які? Давай спачатку· жыццё куе свае законы . » Адзін. Але ж першая не гэтая? любі Бога! «Мне лепш знаць, што для цябе павінна быць першым» Добра, буду, як скажаце «Для цябе важней зараз гэта – жыццё куе свае законы жыві кожны дзень па-новаму Прыслухвайся да жыцця. Яно дасць на ўсё адказ Прыслухвайся да свайго сэрца яно не падмане. Бачыў тайну? Круціў? Круціў! Што зразумеў? Нічога. Што ведаеш? Нічога. А вось глядзі, ты кажаш – круціў, удумайся ў слова «Ну, што ёсць у гэтым слове. слова як слова, нічога цікавага» Эх, ты! Глядзі, слухай· круціў, круціў, круціў... Чуеш, як варочаюцца жорны вечнасці? Мелюць хлеб: кру-кру-кру рыпяць яны, зямныя жорны, трушчаць зерне .. Ага-ага! Чую. А потым· ціў – гэта вось ціўкнула, на якой жорны круцяцца, чуеш, як ціўкнула вось? Кру-ціў, ціў. Зразумеў? Кру-ціў, кру-ціў. Бачыш тайну? Ага! Нават тут, у простым слове, а колькі слоў ведаеш? Колькі ўсіх? І ў кожным тайна. Глядзі, колькі слоў, як пяску марскога, як зорак на небе Бачыш у кожным тайну? Бачыш рэчышча мовы сваёй? Глыбей, глыбей. Бачыш? Яшчэ глыбей Вось тры ракі зліваюцца ў адну Бачыш рэчышча славянскіх муроў? Зразумеў? Яшчэ глыбей! Бачыш, усе словы цякуць з аднаго вытоку? Чуеш сэнс? Бачыш, адкуль выплываюць словы? І куды плывуць? І для чаго? Чуеш вялікае рэчышча моў? Бачыш яго? Жыччэ Жыццё. Жизнь.

Лібэн. Любіць. Кохаць. Кахаць. Мутэр. Мать. Матка. Матуля. Маці. Дитя. Дытына Дзіця. Дзецко. Отец, Ойцец. Бацька. Ойча. Яхве. Бачыш, у кожным слове тайна. А табе запаведзі падавай, як напісана. За́-па-ве-дзі. Бу́кі, ве́дзі. Вядзі! Ве́даць. Ве́ды. Вясці. Вясці за́.. За́паведзі. Дух дыхае, дзе хоча. Літара забівае– Дух жыватворыць. Даю–бяры, і не пытайся. Падай руку: адзін, два, тры, чатыры, пяць... Што ў кулаку? Колькі? Пяць. Успомні. Не магу. Хоць адну? Нічога не помню! Зусім тупы я. «Вось бачыш? Запомні першую: жыццё куе свае законы» Я іх у кабінеце павешу, як лозунгі, добра? «Як будзе трэба, так і зробіш. Жыццё...» Але, Госпадзе, можа я лепш вершам запомню? «Як хочаш». Я назваў цябе гэтым іменем? Гэта і ёсць Ты? «Ну давай вершам, як лягчэй».

Жыццё́ куе́ свае́ зако́ны – бачыш як яно куе? Бачыш якія законы? Якія яны далікатныя? Цякучыя. Як мяняюцца

На кожны дзе́нь, на кожны дзе́нь чуеш, як ляскацiць? Нібы ў кузні· на ко́жны дзе́нь, на ко́жны дзе́нь – ляскаціць: дзе́нь, дзе́нь, дзе́нь.. Як не падобны адзін дзень на другі? Дзі́нь! Дзе́нь – дзі́нь, дзе́нь – дзі́нь – бяжыць час.

Што заўтра будзе, невядома, – адчувае тайну заўтра? Ты думаеш будзе снег, а ідзе дождж, ты збіраешся ісці ў госці, а захварэў і сядзіш дома Заўтра – гэта маё, я ведаю, ты – не. Заўтра ў цябе будзе выпрабаванне, не забудзься ўспомніць Імя́ маё Няма іншага І́мені пад сонцам, якім чалавек уратуецца .. няма імені іншага .. няма́ імені не забудзься. .

А час цячэ, а час ідзе, адчуваеш, як цячэ час? Які ён плынны і цякучы, нібы мёд жыцця. Чуеш, як ён ідзе? Ці-кі-та́, ці́-кі-та́, ці́-кі-та́! Дзі́нь! Цікае гадзіннік вечнасці Ці-кі-та́к, ці-кі-та́к! Толькі та́к. Ча́с ідзе́, час цячэ́, як жыццё Я́ жыццё! Я́ законы жыцця Я́ кую законы на кожны дзень. Я́– кожны дзень. Я́– заўтра. За́ўтра, якое не вядома табе́. Заўтра не забудзься ўспомніць. Я – час, які цячэ. Я – час, той, што ідзе, набліжаецца . Я вечнасць. Я за́.. Я па́ Я ве́. . дзі́ . . . »

Прачнуўшыся раніцай, я доўга думаў: што было са мною ноччу? Дзівосныя рукі нешта пісалі. Гэта я сніў? Але ж, добра помню, як расплюшчваў вочы, помню, мацаў руку сваю – яна была сціснутая: у ёй нешта было. Я спрабаваў успомніць: што там?– і не мог Нібы я раскручваў сусвет, нібы мне дазволілі зазірнуць у таямніцу Нехта пісаў для мяне вершы: далікатна, неназойліва. Якія дзівосныя рукі! Як я любіў гэтыя Рукі· неадрыўна глядзеў бы ўсё жыццё, як яны пішуць вершы Яны тварылі ўсё ад пачатку? Прыйшоў на памяць радок маёй аднакурсніцы· «В руцы Господа попросясь. .» В руцы Господа...

## 11

*(6 лістапада 94 года. Днём.)*

Днём я пайшоў у Кафедральны Сабор Была нядзеля. Заўсёды раней, калі я заходзіў у царкву, адчуваў сябе няёмка, нібыта голы паказваўся на людзях. Звыклай скаванасці не было, наадварот: я трымаўся проста і свабодна, і ў той жа час узвышаны душэўны стан: велічныя і ўзнёслыя думкі, урачыстасць і святочнасць – гэтыя пачуцці перапаўнялі мяне. Хрыстос за «царскімі варатамі» настолькі падаўся жывым і цялесным, што я нават прыўзняўся на дыбачкі і зазірнуў праз галовы людзей: «А хто ж там стаіць? Хто гэта такі прыгожы?»

**«Святы́й Бо́же, Святы́й Кре́пкий, Святы́й Безсме́ртный,**
**поми́луй нас!**
**Святы́й Бо́же, Святы́й Кре́пкий, Святы́й Безсме́ртный,**
**поми́луй нас!!**
**Святы́й Бо́же, Святы́й Кре́пкий, Святы́й Безсме́ртный,**
**по-ми́-луй на-а-ас!!!»**– спявала пеўчая.

**«Сла́ва Отцу́ и Сы́ну и Свято́му Ду́ху, и ны́не и при́сно и во ве́ки веко́в. Амінь»**– падхоплівала людское рознагалоссе.

Гэта быў Хрыстос: аб'ёмнае, фізічнае адчуванне яго выявы бачылася мне ў мроіве ладану. «Жывы Бог!! Ён Жывы!!!» – крычаў я ў сэрцы сваім. Я нават не здзівіўся б, калі б Ён раптам узяў дый выйшаў да людзей, што маліліся перад амбонам. Вунь Ён, за прастолам, у горным месцы, у зялёным плашчы паверх плячэй, з працягнутаю ўперад рукою, увесь у парыве свайго сэрца ідзе да людзей Я адчуваў Яго прысутнасць і тут, усярэдзіне храма. Паглядзеў па баках: лікі святых, іконы, абразы гэтак жа абнавіліся і





былі, нібы жывыя. Чаму я раней не бачыў гэтага? У царкве лунаў Дух Святасці. А спевы, спевы!– вось дзе сапраўды анёльскае славаслоўе, нябесная музыка. Уздым. Узнёслася. Веліч Боскай усёмагутнасці. Усёабдымнасці! Служба скончылася.

Я рушыў дахаты інакшы. Глядзеў на ўсё па-новаму. І раптам да мяне даляцеў плач. Галасіла жанчына каля ўваходу ў метро, што непадалёк царквы.

– Што з вамі? Што здарылася?

– Ключы, ключы. .– захліпалася яна,– выцягнулі ў аўтобусе, укралі. Ад складоў, ой-ой! Ключоў, ключоў столькі. гэта ж замкі трэба мяняць, дзе я грошы вазьму, мяне ж з работы выжануць... і ад кватэры, як я ўлезу... Што мне ра-бі-іць...– галасіла яна.

Я здзівіўся супадзенню: у пятніцу гэтак жа пасеяў недзе ключы. Гэта не проста супадзенне, падумаў я, і ўбачыў прамую сувязь паміж здарэннямі. Жанчына, магчыма, таксама ішла ў царкву, ды з-за ключоў так і не патрапіла. Гады тры назад, калі я збіраўся на першую споведзь – выпадкова амаль не спаліў пакойчык у інтэрнаце: забыўся выключыць кіпяцільнік, ужо пачалі плавіцца фіранкі – я з жахам падумаў тады· ці да споведзі мне было б, калі б сапраўды загарэлася? «Гэта ўсё д'ябальскія хітрыкі, каб адцягнуць нашу ўвагу ад галоўнага.. » – падумаў я.

– Жанчынка, не хвалюйцеся, не плачце . Ключы дробязь, можа знойдуцца яшчэ, прычына не ў ключах, прычына ў вашай душы. Я пазаўчора таксама згубіў ключы, гэта не выпадковасць, гэта нейкі знак... Трэба было так, гэтага ўжо не паправіш. Схадзіце лепш, памаліцеся, гэта д'ябал ловіць вашу душу ключамі, вашу душу ловіць: галоўнае душа, яе трэба ратаваць..

На кароткі час словы, здаецца, пранялі яе, жанчына сцішылася, але потым яшчэ галасней запрычытала·

– Што ж я буду раб-і-іць? Ку-уды-ы-ы ж я пайду!– я адчуваў сваю бездапаможнасць паправіць што-небудзь, дапамагчы ў чалавечай бядзе – Мяне ж з работы выганяць. Столькі замкоў, столькі замкоў... Дзе ж я вазьму гро-ша-ай.

Я памкнуўся дастаць апошнія дзве тысячы, што былі ў мяне, але стрымаўся. якія ж гэта грошы – смех, хіба што дзве шрубкі на іх купіш: давяду яшчэ да большага адчаю.

Не плачце, ну Чым жа мне вам дапамагчы? Давайце завяду вас дахаты. Дзе вы жывяце? Вы не даедзеце ў такім стане, куды ехаць?

Аказалася, што яна была са сваёй маці, са старэнькай бабулькай, апранутай, нібы манашка, ва ўсё чорнае – яна моўчкі і цярпліва пераносіла даччынае гора: сціснутыя ў прамую лінію губы, здаецца, пабялелі ад напругі.

«Ой, колькі ж яшчэ на свеце бяды,– падумаў я,– на кожным кроку нас падсцерагае спакуса і небяспека, колькі гора людскога і слёз чалавечых навокал, рана я пачаў радавацца Колькі яшчэ работы, каб наблізіць царства... Царства нябеснае бярэцца намаганнем, талакою бярэцца царства..

Не спяшаючыся, я пераходзіў ад прыпынку да прыпынку. Углядаўся ў людзей. Нібыта прачнуўся ад жахлівай спячкі: убачыў сябе, ранейшага, збоку. Заўсёды некуды спяшаўся, мітусіўся туды-сюды, як чаўнок у кроснах, нібы аўтамат з зададзенай праграмай Быццам зомбі: чалавек-робат. Не бачыў вакол сябе нікога. Мне здавалася: людзі таксама заўсёды спяшаюцца, блытаюцца пад нагамі – а яны ў той час жылі размераным, спакойным жыццём, прыглядаліся адзін да аднаго, захапляліся прыгажосцю. Чатыры гады я насіўся па гэтых вуліцах, нібы ўчадзеўшы, нікога і нічога не заўважаючы. Упершыню за апошні час я ішоў з пустымі рукамі: ні дыпламата, які стаў часткай майго цела, ні авоські з прадуктамі, ні сумкі – вольныя рукі! Яшчэ жартаваў, дурнота, хваліўся «Усё маё са мною!» А ўсе гэтыя гады навокал жылі людзі, якіх я не бачыў: смяяліся, плакалі, глядзелі ўлюбёнымі вачыма адзін на аднаго і, напэўна, здзіўляліся, бачачы мяне, мітуслівага дзівака...

Маленькі хлопчык на прыпынку, растапырыўшы рукі і смешна раскарачыўшы крывенькія ножкі, чыкільдаў за галубамі: падбягаў, калываючыся, да птушак, нахіляўся і ўсё хацеў злавіць рукамі. «Хоп!» – пляскаў ён далонькамі. Маці стаяла воддаль і ўсміхалася.

О, як я ганарыўся сваімі заўсёднымі справамі, вечнай заклапочанасцю, як пагарджаў тымі людзьмі, што не ўмеюць выкарыстоўваць свой час, людзьмі павольнымі, што ўсякую справу робяць засяроджана і абдумана. А я? Ускочыў у аўтобус і радаваўся, што паспеў менавіта на гэты, дагнаў яго, сэканоміў пяць хвілін: уткнешся ў часопіс ці кнігу, чытаеш, а выскачыш на прыпынку – і бягом, бягом... На работу, у краму, дахаты! І – за працу, хутчэй за працу! Увесь час нешта трэба тэрмінова зрабіць, баішся некуды спазніцца, не паспець. А ці трэба спяшацца? Можа лепш спыніцца, зазірнуць у душу і

спытацца: «А што ж я хачу?» О, як ганарыўся я, што ўмею плённа выкарыстоўваць час – ні адной вольнай хвіліны, каб агледзецца, адумацца. А яны ж заўсёды глядзелі на мяне Якую ісціну я мог даць ім? Чаму я мог навучыць добраму? Яны ведаюць лепш за мяне як трэба жыць! Хіба, назіраючы мяне збоку, заўсёды затурканага, заведзенага чалавека-аўтамата, могуць яны паверыць таму, што я пішу? Не... Чалавек, што носіць у сабе ісціну, не такі: ён ходзіць павольна і асцярожна, нібы цяжарная жанчына, баючыся, каб не пашкодзіць тое, што выношвае ў сабе, – яму няма куды спяшацца, ён ужо знайшоў галоўнае

Я бачыў аднойчы ў юнацтве двух манахаў, даўно гэта было, але, нібыта ўчора, так і стаяць перад вачыма: два чырванашчокія манахі, у чорным адзенні, нават з невялічкімі жывоцікамі, але жываты не выклікалі агіды, а наадварот, пацеху нібы дзіцячыя Вось у чыіх тварах свяцілася ісціна! Вось хто нясе праўду Божую Якія прасветленыя аблічны былі ў іх, нібы лікі святых, што сышлі з абразоў, як павольна, паважна і памяркоўна размаўлялі яны паміж сабой, якімі вачыма глядзелі на свет і на людзей Тады, стоячы ў Століне на прыпынку, я падумаў: «Гэтыя людзі штосьці ведаюць Вось бы і мне даведацца тое ж. А можа падысці і спытацца. што знаеце вы, манахі? Навучыце мяне жыць! Як мне стаць такім жа, як вы?»

## 12

*(Вечар 6 лістапада 94 года)*

Дома жонка сустрэла з радасцю ў вачах, здаецца, і не сварыліся нядаўна Яна выйшла на вуліцу тэлефанаваць свайму брату, а я застаўся з сынам Стаяў ля акна і глядзеў на вуліцу. Па радыё гучала песня Як па-новаму гучала песня

Колькі іх, памерлых, загінуўшых? Нас, жывых,– жменька І ўсе яны чакаюць, каб мы дапамаглі ім сваёю малітваю Ім не было калі спавядацца, пакласці на сябе хроснае знаменне, яны загінулі за нас, а мы павінны адмаліцца за іх.

Гучала песня, цудоўная шчымлівая мелодыя на словы Гамзатава пра салдат, якія ляцяць у вечнасць, нібы журавы

О, Госпадзе, веру ў тваё ўваскрэсенне! Яны ўстануць аднойчы ўсе да аднаго: святыя і пакутнікі, тысячы простых людзей, загінуўшых за Тваю справу. Устануць аднойчы ўсе мае продкі, усе адышоўшыя прыйдуць, уваскрэснуць памерлыя, Госпадзе, і без Твайго імені на вуснах, Госпадзе, даруй ім, я жыву, таму што яны пакутавалі, ім, можа, не было калі памаліцца, але яны сумленна пражылі жыццё, Госпадзе, не пакінь іх!

Веру ў Тваё ўваскрашэнне, верую ў Цябе, Ісусе Хрысце, бачыў сёння ў царкве Ты ЖЫВЫ і ВЕЧНЫ!

Няўжо і ад мяне залежыць, каб яны ўваскрэслі? Няўжо і я магу наблізіць царства нябеснае? Вечнае царства .

Прыйшла жонка. «Можа па сто грамаў на вячэру?» – спыталася яна Як мне не хацелася разбаўляць настрой гарэлкай, але, баючыся, што яна пакрыўдзіцца, пагадзіўся.

Мы селі за стол. Яна парэзала дробнымі скрылікамі сухую каўбасу, дастала з лядоўні салат і зняла з пліты гарачую бульбу, ад якой падымалася пахкая пара, а я наліў у шклянкі гарэлкі.

– Давай, за нашу сям'ю, за нас і за сына! – дзынкнула шкло. Выпілі. Я расказаў жонцы, што бачыў у царкве Ужо каторы раз за гэтыя суткі глядзеў на яе і не пазнаваў. Мне было дзіўна. чаму раней мы не разумелі адно аднаго? Нібыта гаварылі на розных мовах. Увогуле, чаму людзі не могуць паразумецца? Не таму, што ў іх няма жадання (пры адсутнасці жадання не ідуць на кантакт), а таму што жывуць на розных паверхах быцця і спрабуюць зносіцца паміж сабой чуюць урыўкі слоў і сказаў, але не знаходзяць сувязі, не бачаць твару таго, хто гаворыць, не ўлоўліваюць адценняў інтанацыі... Гэта тое ж самае, што чытаць тэкст з аднымі галоснымі або зычнымі Вельмі цяжка зразумець адно аднаго, калі там, дзе ў першага над галавою столь, у другога тое ж месца ўжо пад нагамі Немагчыма, жывучы на розных паверхах быцця, аднолькава бачыць ісціну: з вышыні Эйфелевай вежы чалавеку адкрываецца ўся панарама Парыжа; са скляпення ён убачыць смецце перад акном ды мураша, які ўзбіраецца па травінцы.

Людзі, што жывуць на розных паверхах быцця, ніколі не зразумеюць адно аднаго паразуменне бывае толькі на лесвіцы, калі адзін апусціцца, а другі падымецца – так адбылося і ў нас, праўда, я не ведаю: хто зрабіў ласку і хто першы падняўся ці апусціўся да другога? Аказалася, што мы ўдваіх хочам аднаго і таго ж. Яна гаварыла маімі словамі, гаварыла тое, чаго я намагаўся ад яе чатыры доўгія гады.

– Не трэба нічога ўскладняць,– гаварыла яна.– Калі гэта бутэлька, як яе ні круці, усё роўна яна і застанецца бутэлькай, але лепш, каб яна стаяла на донцы Можна, канечне, паспрабаваць паставіць і на рыльца, але рана ці позна яна ўпадзе, а калі і пастаіць крыху – дык будзе стаяць дагары. Навошта яе ставіць дагары? Мне трэба зусім нямнога: лагоды і крышачку цеплыні, як і ўсякай жанчыне, каліва ўвагі Усё астатняе прыйдзе само У нас сын, за якога мы адказваем перад Богам, якога павінны выгадаваць і выхаваць, каб ён стаў нармальным чалавекам Хочаш працаваць, калі ласка, я табе ўсе ўмовы ствару для працы, але каб работа не засланяла асноўнага сям'і! Каб ты хоць час ад часу заўважаў, што побач з табой жывыя людзі. Уся твая творчасць – гэта смецце, гэта выкідыш, аборты сапраўднага жыцця

Яна гаварыла праўду, і я пагаджаўся Я ўпершыню ўбачыў наша адзінства, зразумеў мы адно Убачыў сямейную еднасць, як трыадзінства Божае. я – айцец, вось сын мой, якому пайшоў чацвёрты год, але які ўжо ўсё разумее і адчувае імгненныя рухі душы; вось жонка мая – усюдыісны дух, які адухаўляе і дыхае, дзе хоча. Бог на зямлі, сярод людзей – гэта наша сям'я. Недарэмна, думаў я, адно з царкоўных таінстваў – вянчанне, ды і сама царква часта параўноўваецца з жаною, а Хрыстос – муж яе Мне здалося нават, што жонка чытае мае думкі не паспею засумнявацца ў чым, як яна тут жа: «Ну што ты зноў, не думай пра гэта!»– абрывае мяне Сапраўды, можа, мы багі, якія спусціліся на зямлю, каб паглядзець, што змянілася сярод людзей за апошнія дзве тысячы гадоў?– падумалася мне. Што мы павінны рабіць? З якой мэтай прыйшлі да людзей? Якая яна ў мяне прыгожая, мая багіня?! А хто ж у нас галоўны? Ну, калі бацька я, дык пэўна, што я, але ж мы АДНО ў трох асобах, мы тры часткі аднаго цэлага, якое называецца сям'я!

## 13

*(Ноч з 6 на 7 лістапада 94 года)*

Пасля вячэры селі перад тэлевізарам. Ішла кінакамедыя, знятая яшчэ да вайны рэвалюцыйны час, энтузіязм працоўных, пераацэнка ўсіх каштоўнасцяў – але ні мне, ні жонцы не было смешна. твары сур'ёзныя і застылыя, нібы высечаныя з каменю. «Хто ж так глядзіць камедыю?»– падумалася мне, нейкія ненармальныя мы, гатовыя ледзь не заплакаць.

– Пераключы на другую праграму, – папрасіла жонка.

– Таму так успрымаецца, – спрабаваў растлумачыць я, – што фільм антырэлігійны, тады над гэтым смяяліся, а зараз трэба плакаць і жахацца свайго вар'яцтва.

Па другой праграме паказвалі канцэрт Маладая спявачка выводзіла сакавітым голасам лірычна тужлівую песню Я патануў у мяккім крэсле. Сын вазіўся каля маіх ног з цацкамі, побач сядзела жонка – і ў той момант калі я прыўзняў рукі, каб сашчапіць іх за галавою – убачыў: тое ж самае адначасова са мною робіць на экране спявачка! Гэты жэст мы рабілі адначасова «Як Крышна» – падумалася мне міжволі. Гэткая ж поза была ў Крышны, калі ён ствараў сусветы – я бачыў гэта калісьці на малюнку «Бхагавадгіты» ў той час, як чытаў яе. Мой сын неўзабаве пачаў пяшчотна туліцца да мяне, быццам баючыся, што я хутка знікну. Я адчуў у сабе варожую прысутнасць. Пазней, успамінаючы гэты момант, мне часта прыходзіла ў галаву фраза «и бес вошел в него»– здаецца, яна з Бібліі, па-іншаму я не магу ахарактарызаваць гэты момант. «Што ж будзе далей?»– цікавасць павяла мяне ў небяспечнае і невядомае. Я бязвольна падпаў пад уладу нейкай сілы, расслабіўся і, вывучаючы яе, праводзіў эксперымент на сабе: пільна прыслухоўваўся, што ж адбываецца са мною? Сын валтузіўся і поўзаў па мне – і праз яго мне бачылася ўсё, дакладней, нейкая іншая сіла паказвала мне праз яго. Я бачыў, як зарадзілася жыццё, як выходзілі з вады жывыя істоты, як па часе яны самаўдасканальваліся і дараслі да чалавека. Вось сын бегае перада мною, як малпачка, вось узяў палку і збівае арэхі .. А вось проста і гаворыць: «Я абяз`янка, бачыш?» (Але ж гэта тэорыя эвалюцыі па Дарвіну, якую я адхіліў у свой час?!) Што гэта, зноў пастка, што ўмела расставілі для мяне? – я не знайшоў адказу. Але што ж будзе далей? Мне здаецца, я бачыў бездапаможнага і кволага чалавека, што спрабуе вырвацца ў космас. Жонка таксама адчула што са мною адбываецца нешта нядобрае. «Антон, што з табою?» – устрывожылася яна, але я маўчаў. Ляжаў на падлозе пад валадарствам невядомага і прыслухоўваўся да сябе. Сын поўзаў

па мне і гэтым паказваў узаемаадносіны паміж людзьмі: вось ён сеў на галаву, і я пачаў задыхацца, ён стаў на мяне нагамі – і я зрабіў выснову· калі сын падрасце і стане на ногі, мне будзе цяжка дыхаць – гэта вечная праблема бацькоў і дзяцей.

– Антон, што з табою!

Я заплюшчыў вочы і ўбачыў святло: «И увидел свет великий, и воссиял свет», – успомнілася мне.

– Антон, што з табой?!!– крычала яна, схіліўшыся нада мной. Кінь гэта!!! Зараз жа выкінь!!! (Пазней, успамінаючы гэты момант, яна гаварыла, што ёй здалося, быццам у мяне гараць мазгі, галава, ахопленая жарам, палае ) А я адчуваў бессэнсоўнасць існавання ўсяго жывога, спустошанасць і выхаладжанасць усякага сэнсу і мэты – тугу і самоту сусветна-планетарных абдымкаў, нечалавечую журботу, якую нельга ўявіць у звычайным стане.

Я лёг на спіну, раскінуўшы рукі. Часта такія малюнкі ёсць на вокладках папулярных часопісаў: зямны шар або космас з арбітамі спадарожнікаў і сузор'яў, на фоне якога чалавек з раскінутымі рукамі і шырока разведзенымі нагамі. Я нічога не рабіў, але раптам сама сабою паднялася рука, і гэтак жа бязвольна ўпала (я не варушыў ніводным мускулам!), тое ж здарылася з нагою. Мне стала страшнавата, было прадчуванне, што зараз мяне могуць забраць кудысьці навекі, проста ў целе.

– Антон! Антон!! Ты чуеш мяне?!!

Я ўстаў – і тут быццам з мяне adсталі душу Я прыставіў палец да сваіх вуснаў, ведаў, што, калі паспрабую нешта сказаць, усё парушыцца, ды і што я мог сказаць, калі сам яшчэ не разабраўся: што гэта? Яна абхапіла мяне ззаду рукамі, потым забегла наперад, пачала трэсці. Самі сабою зрабіліся некалькі фрыкцыйных рухаў: «Што гэта значыць? Мне паказалі, з кім я павінен жыць па закону?» Раптам падкасіліся ногі і я асеў на падлогу. Трэба шукаць ратунку! Мне зрабілася невыносна, я кідаўся туды-сюды і помню, калі зірнуў у люстра – адбіўся ад яго, як сонечны прамень, напэўна тое, Нешта, што апанавала мяне, не хацела бачыць сябе ў люстэрку ці баялася, каб я не ўбачыў яго. У такім стане чалавек не можа доўга быць, мне стала зразумела, чаму людзі іншы раз кідаюцца ў акно: калі не знаходзіш выйсця – выхад можа заставацца адзін Я кідаўся з пакоя ў пакой, не ведаючы, што рабіць. З жахам заўважыў, што волі маёй з кожным імгненнем застаецца ўсё менш і менш: калі спачатку я сам не хацеў гаварыць, каб не спалохаць Нешта, то цяпер адчуў – яшчэ трохі і не змагу вымавіць слова ніколі. Застануся навечна ў турме. Ніколі не растлумачу, што было са мною, ніхто не зразумее, я страчу сувязь з гэтым светам, буду толькі прысутнічаць, як звар`яцелы. Як жонцы даць знак, каб яна дапамагла мне?

Ухапіў чысты аркуш паперы і пачаў маляваць алоўкам праваслаўны крыжык («так становяцца мастакамі!») – гэта было выйсце: нешта адступілася ад мяне, хто ведае, можа адзінае, таму што душа пачала вяртацца: я адчуў у час малявання крыжа – у грудзях цяплее. Жонка стаяла за спіною, потым схілілася і заглянула мне ў вочы, потым на крыж. Папера парвалася. Паміж маляваным крыжам і маёй душой была жывая сувязь. «А як жа кропка?»– нібы «кодам» падумаў я, спрабуючы разабрацца з медытацыямі і выхадамі ў астрал. Пачаў ставіць кропку ў крыж, пратыкаў алоўкам, нібы дзідай, і адчуў, што, калі я праколваю крыж, адначасова адчуваю боль пад рэбрамі, быццам хтосьці коле туды. Я ўстаў. Погляд каўзануўся па сценах.

– Што з табою?– яшчэ раз спыталася жонка.

Я хацеў нешта паказаць на мігі. Але пачала пабольваць галава, зразумеў· мне нагадалі, пагразілі, што ёсць яшчэ і фізічны боль.

І тут міжволі прагаварылася: «КРЫ!!!. .» – я спалохаўся і задушыў апошні склад намаганнем волі, якая яшчэ засталася, упэўнены, што ён быў бы: «ШНА», а потым з мяне паліліся б словы, я стаў бы чаёйсьці магутнай зброяй, аракулам цёмных сіл. Не ведаю, што было б на самай справе, але знаю, што гэта была мяжа, да якой мяне падпіхнулі, дапамогшы зрабіць першы крок, потым быў бы другі, трэці, сёмы...– мяжа, за якой я страціў бы сваю душу навечна.

У пошуках падмогі я зноў мітусліва пачаў глядзець па баках, і вочы спыніліся на выяве Спаса Нерукатворнага, які ў свой час быў на праваслаўным календары і, калі год скончыўся, я акуратна абрэзаў лічбы і прыклеіў вобраз на шпалеры. Я глядзеў на Спаса – такі ж самы, толькі аздоблены, вісеў на выхадзе з царквы «Усіх тужлівых радасць». Упіваўся вачыма ў ікону. Сілы і воля пачалі аднаўляцца. Душа зноў адтайвала і цяплела.

– Маліся!!!– нарэшце змог выкрыкнуць я і з усёй моцы бразнуўся лбом перад іконаю – яшчэ раз!!! Яшчэ!!!





Спешна маліўся і хрысціўся. Жонка забылася нават, як кладзецца каталіцкі крыж і, разгубленая, стаяла пасярод пакоя, не ведаючы, што рабіць... Душа паступова вярталася... Увесь гэты час сын глядзеў на мяне спалоханымі, шырока адкрытымі вачыма і маўчаў. (Потым, праз колькі дзён, ён часта падыходзіў да іконы, гразліва патрасаў пальчыкам і гаварыў: «Божанька сварыцца...», а ў вачах была такая глыбіня і не дзіцячая дасведчанасць, што халадок закрадаўся ў маю душу.)

– Ой, я нічога не зразумела, – спахапілася жонка, – што гэта было?

– Ух, гэта жах! – ускочыў я з каленяў, спрабуючы растлумачыць, – я быў на самым дне пекла, гэта не перадаць, я бачыў яго, гэта сатана, мы паказалі яму дулю – вось яму, хай выкусіць! Маліся, чаго ты стаіш, маліся!..

І мы ўпалі на калені перад Спасам Нерукатворным.

...Цяжка выказаць, што было са мною. Думкі і пачуцці вярталіся, і, нібыта нядаўна народжаны, я вучыўся думаць і адчуваць. Як толькі расшалопаў, якой небяспецы падвяргаўся, як толькі спасцігнуў: Хто выцягнуў мяне з гэтага пекла і ўратаваў – я адразу гляну ў на свой пісьмовы стол, і даў клятву . Да канца дзён маіх...

Прачытаў малітвы і заснуў.

Раніцай балела шыя, так моцна я гвазданууся галавою аб падлогу. Яшчэ не пакінула мяне прадчуванне, што мае думкі ведаюць недзе наверсе, чытаюць іх і чакаюць ад мяне нечага. Што я павінен рабіць? Калі мяне выбралі для той місіі, пра якую нават страшна падумаць, няхай запаляцца вунь тыя тры акны. Няхай пададуць знак. Я чакаў цэлых пятнаццаць хвілін, паглядаючы на гадзіннік,– запалілася толькі адно...

Я стаяў ля акна і глядзеў на прыцішаны Божы свет. Вымытае, як крышталь, неба. Горад толькі пачынаў прачынацца. запальваліся вокны ў суседнім доме, сёй-той ужо спяшаўся на працу. Расчынаўся новы дзень. Як доўга не вяртаўся я да людзей. Як моцна спаў, нібы ў летаргічным сне.

Я зразумеў, што такое творчасць. Узяў гітару і заспяваў сваю любімую песню: пра восень і пра сына... Пра свой лёс.

**Спраўляла восень атрасіны, імжэла восень,**
**А ты не бойся, любы сыне, зімы не бойся.**
**Стаяць дрыготкія асіны, трапечуць лісцем,**
**Спраўляе восень атрасіны, і вецер свішча.**

Я зноў плакаў, як некалі тады, два гады назад, калі пісалася песня, але слёзы ўжо былі іншымі. чыстымі, радаснымі і, напэўна, салодкімі, як шчасце

**Папросіць восень у нябёсаў сабе спагады.**
**Лісток абросены з бярозы дадолу падаў.**
**І клін журлівы, жураўліны ляцеў у вырай...**
**А ты не бойся, любы сыне, любові шчырай...**

Я зразумеў, што такое творчасць. Мяне ратавалі і рыхтавалі да гэтай восені яшчэ два гады таму назад, я плакаў за два гады да гэтага дня аб сённяшніх сваіх пакутах. Мне далі песню, каб я ўратаваўся ёю.

Я ўзяў чысцюткі, белы-белы аркуш паперы і запісаў чатырохрадкоўе:

**Я ратаваўся сам, турбуючыся сынам –**
**Таму, напэўна, людзі любяць «Атрасіны»?**
**Ці трэба песні жыццём і ветрам насняваныя з ліста?–**
**Пад небам вечным нам трэба верыць і любіць Хрыста.**

І быў ранак, і мне было добра: я зразумеў, што такое творчасць. І яшчэ я зразумеў, што ў нас страляюць на ўзлёце, калі мы чыстыя і прасветленыя рвёмся ў нябёсы. Брудныя мы нікому не патрэбны, нават тым, што палююць за душамі: брудныя мы і так іхнія.

І быў ранак...

А днём на працу пазваніў айцец Уладзімір. Аказалася, што я няправільна назваў на споведзі свой хатні адрас, калі дамаўляўся з ім. Вечарам ён прыехаў і асвяціў кватэру. Мы пілі віно «Монастырская изба» і доўга гаварылі. Позна вечарам я праводзіў яго да аўтобуснага прыпынку. І ўжо, калі ён быў у аўтобусе, заўважыў, як праз шкло перахрысціў мяне на дарогу.

І было жыццё... І праз колькі дзён раніцай я доўга перабіраў у кабінеце свае кніжкі, іх назбіралася добрага паўмеха. «А можа ..– падумалася мне,– у нас жа нават на хлеб не засталося?. » Не, як жа гэта я буду смяротнай атрутай гандляваць... Яны ж амаль не загубілі мяне. Толькі туды! Я ўзваліў мех на плечы, а потым нёс цяжкую ношу далёка ад людскіх вачэй ад жылых пабудоваў... І доўга гарэў ачышчальны агонь. «Дрэва, што не дае плода добрага, сякуць і ў агонь кідаюць»,– успомніліся мне словы Дабравесця «Праўду, праўду кажу вам, яны ўжо цяпер атрымліваюць, што заслужылі, гаварыў некалі Хрыстос,– па пладах і ўведаеце іх». Доўга гарэла цалючае полымя.. «Вось вам, «исчадие ада», вот вам,– прыгаворваў я,– гарыце! Вы хацелі загубіць маю душу? Вось мая плата!»– падграбаў я палкаю кнігі ў вогнішча,– вось вам, Іса, Муса, Сын Майрам, як жа ты добра гарыш, Каран,– гэта вам за тое, што пісалі, быццам нам прымроілася, што ўваскрос Хрыстос, што ўкралі Яго, што Ён быў усяго толькі пракрокам...» А вось і табе «Бхагавадгіта», «Жамчужына упанішад», «Навука пра самасвядомасць»– харэ-харэ! Гары гарам! Вось вам– «Агні-Ёга», вось твой агонь, «Праваззвесніца агню» і «Абшчына», а, гэта ты, вялікі тэасоф, Штэйнэр? Давай-давай, прагарай! Я рваў гараскопы Вронскага, адрываў тоўстыя вокладкі тамоў Ніцшэ і Блавацкай ды іншых аўтараў, якія пасягалі на Святыню, якія пасеялі ў маёй душы злое і ганарлівае насенне, сумненне ў той Праўдзе, якую я чуў сэрцам з маленства. Скручваліся старонкі, гарэлі словы, некалі падкрэсленыя мною, усыпаныя маімі знакамі зачаравання і пакланення, чытаныя і перачытаныя ў часы бяссонных начэй. Вы зрабілі сваю справу, дапамаглі разабрацца, што ўся ваша пісаніна – трызненне і хлусня, вы скіравалі да сапраўднай Ісціны болей вы не патрэбныя, вы толькі служыце вяроўкай, якая аблытвае ногі. Доўга гарэў агонь. . «Праўду кажу вам, яны ўжо атрымліваюць сваё» – няхай спраўдзіцца яшчэ раз Тваё Слова, Госпадзе Ісусе Хрысце, прымі маю пасільную ахвяру на алтар славы Тваёй. О, як яны гараць, як кідаюцца попелам у вочы! Не падабаецца, ага? Ідзіце туды, адкуль прыйшлі! У агонь вечны! Там ваша бібліятэка. Гары агонь у славу Тваю, Госпадзе!

Старонкі скручваліся спачатку ў трубачкі, дымелі, пасля нахопліваліся вясёлым агеньчыкам і полымя з'ядала літары, малюнкі, розныя дэманічныя знакі і сімвалы. Праз палову гадзіны засталася гурбачка чорнага попелу. Наляцеў вецер, расшкамутаў шматкі згарэлай паперы. Я дапамог яму: разграб попел палкаю, праверыў, каб не засталося ніводнай літары, насычанай атрутай пагібелі. «Якім судом судзіце, такім і вас будуць судзіць!»– няхай паляць мае кніжкі, усе да адной, калі яны зробяць камусьці дрэннае! Кніга – пацяруха, парахня, попел... «Таму што полымем выпрабоўваюцца благія і добрыя справы». Тое слова не згарыць, якое засталося ў сэрцы, тое СЛОВА ад Бога, што не баіцца агню.

Так, я дзікун, затое я, магчыма, уратую сваю душу, я зрабіў для гэтага першы крок, я ўжо ХАЧУ ўратаваць – а гэта не мала. А вы, культурныя, чытайце, чытайце. Дачытаецеся! Займайцеся медытацыямі і выхадамі ў астрал – бокам усё гэта выйдзе вам, практыкуйцеся, вы яшчэ не ведаеце, што гэта? Да каго шчэміцеся? Спахопіцеся, ды позна будзе! «Се гряду!» Я дзікун, а вы, цывілізаваныя, прылепплівайце вочы свае да блакітнага д'ябла: «галава ў хаце, хвост на страсе». Раскашуйце – не за гарамі, хутка, хутка ўжо прыйдзе!

... Не, усё ж я спалю свае дзённікі і кіну курыць цыгарэтны фіміям д'яблу, яны пакуль яшчэ трымаюць мяне гэтым,– хай пацешацца, але вельмі хутка і гэтая ўлада нада мной скончыцца.

Холадна, холадна, які пранізлівы вецер на гэтай зямлі. Холадна на зямлі, не сагрэцца... Але – якое сіняе неба!

Я ішоў назад лёгкі, светлы і чысты, як у дзяцінстве, калі мама сілай вымывала мне твар з мылам. Свяціла халоднае сонца, але было сіняе-сіняе неба над галавою Я ішоў і чытаў пра сябе немаведама адкуль нахлынуўшыя словы:

**Жыццё куе свае законы:**
**На кожны дзень, на кожны дзень!**
**Што заўтра будзе – невядома,**
**А час цячэ, а час ідзе...**

**Стварае новыя законы**
**На кожны дзень жыццё!**
**Пражыць павінен ты сягоння –**
**Спазнаеш заўтра адкрыццё.**





І свяціла сонца. І было жыццё. . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

## Пастскрыптум.

**Вось мой адказ таму чалавеку, які сказаў: не пішы, можа, гэта цябе д'ябал спакушае? Вось не мой адказ – за мяне сказалі Апосталы: «Служыце адзін аднаму кожны тым дарам, які атрымаў», – прачытаў я ў Першым пасланні Пятра, вось мой адказ служыцелю Гасподняму, – «Умілаваныя! Не цурайцеся вогненнай спакусы, дзеля выпрабавання вам пасыланае, хоць бы дзіўнае здарылася вам», – прачытаў я ў тым жа Пасланні. Дзякую Вам, айцец Уладзімір, гэта Ваш цёзка тысячу гадоў назад ахрысціў паганскую Русь, але ж можаце прачытаць і гэтае ў Пасланні Паўла да Рымлянаў: «Калі ж па дадзенай нам ласцы маем розныя здольнасці, дык калі прароцтва, прароч па меры веры; калі служэнне, служы; калі навучаеш, вучы...»**

**Але ніхто не мае права сказаць паэту: не пішы! Гэта тое ж, што сказаць чалавеку: не дыхай! Паэт не можа не пісаць! Калі Бог забярэ дар – ён і без вашай падказкі перастане і ніколі, паверце, не вымавіць ні слова – не ад сябе ён піша. Калі піша – значыць, Бог дае і патрабуе ад яго.**

**Чым паэт розніцца ад звычайнага чалавека? – ды нічым! Ён такі ж, як і ўсе астатнія, толькі Бог азначыў яго, і даў яму цяжар крыжа, і падараваў талент і сказаў: «Не закопвай яго ў зямлю!» – а толькі тым адметны, што двойчы перажывае сваю радасць, і гэтым шчаслівы; тым ён інакшы ад іншых, што яму трэба адважыцца і другі, і трэці раз ступіць на крывавыя сляды свае, але ступае ён, як і ў першы раз: зноў можа праваліцца і не ведае, ці вернецца назад жывы і здаровы?**

**Хто даў мне права ўслаўляць Імя Госпада? А Той даў права, Хто даў і жыццё. І за гэта з мяне спытаецца, а не з вас. А хто вам даў права гаварыць, калі не вы давалі мне?.. Я ўспомніў, успомніў, што падумаў у першае імгненне, калі мяне ўратаваў Спас Нерукатворны, успомніў, якую клятву даў тады, зірнуўшы на пісьмовы стол – і цяпер не забуду ніколі.**

**Ладуючы рукапіс для часопіса, я зноў пусціўся ў невядомае і неспазнанае. Быў такі момант, калі хацелася скончыць так:**

Я распнуў сваю ісціну на крыжы,
Загнаў Сатану ў клетку і замкнуў яго там,
А потым вярнуўся і доўга ганяўся за д'яблам па чортавым коле,
Пакуль не скруціўся розум –
І Люцыпар, збіўшы замкі, выскачыў з клеткі і злавіў мяне
У апошні раз, і тады ісціна мая паблякла...

**Але калі я даверыў гэтыя словы паперы, раптам з жахам заўважыў, што гэта не проста верш, а – акраверш, першыя літары радкоў якога складваліся ў здзеклівае папярэджванне: Я – З-А-П-І-Й...**

**Гэта быў яшчэ адзін і, відаць, не апошні ўрок. Зарана я ўявіў сябе пераможцам, і таму перад тым, як паставлю кропку, кажу вам свой запавет, здабыты і зразуметы на краі бездані: бойцеся зачараваных кругоў, і не ганяйцеся за Сатаною па чортавым коле, не рабіце яму клеткі і не намагайцеся смяяцца з яго, а то пасмяецца ён з вас, як пасмяяўся некалі з Гогаля, які спаліў свае рукапісы...**

**Той, Хто даў жыццё, даў права казаць гэтыя словы, даў сілы і абарону, таму я хачу скончыць так, як і было задумана раней.**

**Слава Яму! Слава Айцу, і Сыну, і Святому Духу, цяпер і ўвесь час, і на векі вякоў. Амін.**

# Ларыса РАМАНАВА



*Тут агонь цячэ як вада,*
*і паветра робіцца рухам.*
*Дакраніся! І не палохайся болей*
*гэтых белых гарачых сцен,*
*з якіх пакуль немагчыма выйсці.*

## ЧАМУ?
*(Элегія)*

**Ты ніколі не будзеш ведаць,**
**чаму я тут,**
**дзе снег і пыл камянёў**
**болей значаць,**
**чым сад, які ты яшчэ не садзіў,**
**у якім яшчэ не вырасла дрэва Адама і Евы,**
**дзе яблыкі — занадта салодкія, каб іх есці.**
**Ты ніколі не будзеш ведаць —**
**чаму дрэвы маўчаць?**
**Разумеюць іх, можа, толькі птушкі ды вецер.**
**Дрэва расце, хавае свае карані,**
**не ведае, чым яно ёсць.**
**Ты ж хочаш сябе назваць.**
**Ты заўсёды хочаш чагосьці Большага.**
**Яно спачатку жахлівым здаецца,**
**і заўсёды бывае апошнім, але — без імя.**

**Чаму ты так хочаш**
**усё, што табой набыта,**
**пакінуць і болей не дакранацца?**
**Тут агонь цячэ як вада,**
**і паветра робіцца рухам.**
**Дакраніся! І не палохайся болей**
**гэтых белых гарачых сцен,**
**з якіх пакуль немагчыма выйсці.**

1991 г.

*** * ***

**Бачыш? — сонны лунацік-месячык**
**Адчыняе гасцінна Малочны Шлях.**
**Гэта ноч малаком струменіцца**
**У астуджаных**
**снежных маіх вачах.**

**Гэты шлях — ясны зоркавы лівень —**
**Быццам кужалю белы сувой.**
**Іншасвет.**
**І пытанні-малітвы.**
**І нябыт за маёю спіной.**

1995 г.

*** * ***

**На аброчным крыжы**
**мой ручнік вісіць.**
**Не ручнік то —**

мая душа ляціць
        бліжэй к каменю,
                бліжэй к беламу...

1994 г.

* * *

Пасярод пракаветнага бору,
Там, дзе н я м а  р а д з і м ы,
Дзеці збіраюць суніцы,
Пунсова-атрутныя кветкі.
А побач
Высяцца гурбамі снегу
Здранцвелыя дзевы-русалкі.
І кожнае мёртвае цела
Як кімсьці разбураны дом.
    «Ах... Няўтульна на свеце і горка!
    Што нас так мучыць заўсёды?
    Можа, зямля схавае ў сабе
    Ад нямой цішыні і жалю?»

1994 г.

* * *

Раніца — пялёстак ружы —
Пахне, раніць і цалуе.
Мёдам поўная духмяных смолак
Ледзь ляціць пчала дадому
Ў залаты свой церам-вулей...

1995 г.

## ВУЖОВЫ КАРОЛЬ

І часта ў сне не хапае паветра.
Ты ляжыш, паравіты ліянай,
На халодным іржавым скляпенні
І вуснамі чуеш салодкую зорку Лотаць.





І не хочацца болей волі...
І не хочацца нават смерці...
Ты залез аж на крону вяза —
Вязень.
Цар без царства.
Вужовы Кароль.

1994 г.

## САНІТАР

*М.С.*

Раніцай, цёплай, як свет,
Я пайду па сумётах дрэў
Далёка-далёка адсюль,
Туды, дзе не быў ні разу.

Вы ж так хацелі пабачыць
Тое, чаго не бывае,
Вы ж так зразумець хацелі
Дзень, не вядомы нікому.

Ну вось. Хадземце! Квіток вам
У чаргу па штодзённае свята.
Можна смяяцца ці плакаць,
Абы не было няёмка
Слухаць саміх сябе.

Што ж, памаўчыш, ды і толькі,
Калі выносіш з трупярні
Яшчэ аднаго знаёмага
Пісьменніка Беларусі.

А пасля будзе плач ці рогат —
Мо вяселле чыё, ці хаўтуры?
І зямля раптам стане небам,
І не захочацца
                піць...
І не захочацца бачыць,
Тое, чаго не бывае.
І не захочацца клікаць
Дзень, не вядомы нікому...

1990 г.

* * *

**І зноў вясна прыходзіць.**
**І снег па вуліцы сплывае ў мора,**
**Якое дзесь за горадам жыве,**
**Імя якому — «ўчора».**

**Заўсёды «ўчора» за спіною.**
**І я іду, нясу яго з сабою**
**З вясны — у лета,**
**З восені — ў зіму.**
**Няма пачатку, няма й канца яму.**

**Абапал берагоў — бязладдзе сіняй ночы.**
**А хтосьці тут крычыць,**
**І птушка тут прарочыць.**

1993 г.

* * *

**Ты зноў смяешся —**
**Таму што свет недасканалы,**
**Таму што рэчы, й целы нашыя, і думкі**
**Не зразумелыя нікому,**
**Дый нам самім...**

**Ты зноў смяешся —**
**Паволі небыццё змяняецца на дзень.**
**А ўдзень — то шэрань замарозіць свет,**
**То сонца выядае вочы...**

**Хто хоча мудрым быць —**
**Ідзе сляпым**
**Па відных вуліцах у людным месцы,**
**Прыціхлых птушак выпускае з клетак...**

**Ты зноў смяешся —**
**І носішся з сваёй душой,**
**Як з дагарэлай свечкай,**
**Якую мо не трэба ўжо запальваць?**

**Ах, свет! Непазнавальна новы, дзіўны свет**
**Скідае сваю скуру, як змяя...**
**Так, пэўна, й чалавек: жыве у часе**
**І жывіць час сабою,**





**І застаецца неўмiручым —**
**Бо час не памірае.**

**Але ж не смейся —**
**Я, гэткая ж, як і ўсе,**
**Хачу кахаць цябе**
**заўтра, сёння, ўчора.**
**Чакаю кожным днём**
**На вуліцах халодных Менска.**

1993 г.

* * *

**танцам бязмоўным бясконцым**
**аповед ты пачынаеш**
**дыханне ліловага вечара**
**кветку Святога Яна**
**ўплятаеш у валасы**
**зніклыя гукі**
**цемра як збан з вадою**
**межы маўчаць**
**і толькі ты адзін**
**(магчыма вас двое)**
**на полі пад Месяцам ходзіш**
**з кімсьці знаёмым нябачным**
**шэпчаш гаворыш**

1995 г.

## AMOR VINCIT OMNIA

**О, калі цябе няма!**
**Так гаркава жыць здаецца.**
**Калі дзе што пахіснецца —**
**Пэўна, там цябе няма.**

**«Што хадзіць, шукаць па свеце! —**
**Будзем разам мы ўсе ў Леце...»**
**Зернем быць усё ж смачней,**
**Чым для ветру стацца смеццем.**

1994 г.

* * *

Я буду скідаць камяні
З высокай-высокай гары.
Можа, знойдуцца там, пад імі,
Тры кроплі мёртвай вады?

Я іх вып'ю —
Ды павешу свой зрок і голас
На сучок прамоклай сасны,
І рэхам буду лясным,
Стану сабе незнаёмай.

Хто ні пройдзе — мяне не ўбачыць.
Хто захоча — мяне пачуе.
А мой цень у рацэ заначуе
Дый спазнае найгоршае дзіва...

Пройдзе дзень. І другі. І трэці.
Не хапае чагосьці ў тым свеце.
Гляну ў неба
і стануся целам
Простай пекнай сняжынкі,
Што кудысь паляцела...

1994 г.

* * *

Мне млосна ад самой сябе.
Усё — без смаку.
І хлеб — не хлеб,
Усё адно што целы ракавінак.
І снег, як попел, вымецены з печы.
І я, нібы ўчарашні цуд,
Тут — недарэчы.

1995 г.

Францішак КУШАЛЬ

НАШ



*«Гэткая доля нашых вялікіх людзёў, нашых вялікіх паэтаў і нацыянальных прарокаў».*

**Францішак КУШАЛЬ**

# СОРАК ДВА ГАДЫ ТАМУ

*Пра Францішка КУШАЛЯ*

# СОРАК ДВА ГАДЫ ТАМУ

## *(Жменя ўспамінаў аб Алесю Гаруну)*

Першыя мае ўспаміны аб Алесю Гаруну, што друкаваліся недзе ўвосень 1941 г. у менскай «Беларускай Газеце», былі, магчыма, паўнейшыя, чымся тая жменька, што даю тутака, бо тады, у 1941 г , ад трагічных падзеяў на Беларусі ў 1920 г. й майго апошняга разьвітаньня з Алесем Гаруном мінула было адно 21 год, сяньня-ж дайшло яшчэ гэтульскі сама, а сорак два гады ў жыцьці чалавека шмат значыць, асабліва ў дачыненьні да гэткай нясталай ды нятрывалай рэчы, як людзкая памяць.

Упяршыню я сустрэўся з Алесем Гаруном у Менску ў 1918 г Прыйшоў я тады ў Менск пехатою з Забор'я, дзе жылі мае бацькі, зь мясцовасьці, якая ляжыць у сямідзесяцёх вярстох ад Менску й належала ў тых часох да Ашмянскага павету. Мэтаю майго падарожжа ў Менск было дастаць там беларускіх кніжок для бібліятэкі гуртка беларускае моладзі, што я й мае сябры наважылі арганізаваць у мястэчку Івянцы. Беларуская кнігарня зьмяшчалася тады ў двупаверхавым доме на Захараўскай вуліцы, якраз насупраць «Новага» касьцёлу Калі я ўвайшоў у дом, дык адразу пабачыў прылавень, на якім былі акуратна параскладаныя кнігі, а за ім высокага, худога чалавека, апранenага ў жакетку із саматканага вясковага сукна, спад якое было відаць белую палатняную кашулю з каўняром, вышываным беларускім вузорам. Я кагадзе якраз пакінуў быў царскую армію, што разваліласся ў выніку рэвалюцыйных падзеяў, і не патрапіў яшчэ пазбыцца вайсковых звычкаў. Стануўшы на «зважай» перад чалавекам у саматканай жакетцы, я назваў сваё прозьвішча – «Прушынскі» – адказаў мне ён, падаючы руку да прывітаньня. Я ўжо ведаў, што Аляксандар Прушынскі – гэта запраўднае ймя паэты Алеся Гаруна, творы якога я зь вялікім захапленьнем вучыўся напамяць і дэклямаваў, і адразу здагадаўся, зь кім маю гонар пазнаёміцца. Мы разгаварыліся. Алесь Гарун зь вялікай цікавасьцяй распытваў мяне аб тым, што робіцца на правінцыі, як пашыраецца беларуская сьведамасьць сярод сялянства ды інш. Нарэшце, ён напакаваў маю торбу кніжкамі, сказаўшы, што грошы з нас спагоніць за іх тады, калі нашая бібліятэка пачне мець прыбыткі.

## *Пра Францішка КУШАЛЯ*

Павароты яго жыццёвага шляху дагэтуль змушаюць гісторыкаў распачынаць зацятыя спрэчкі. Паколькі «спрачаецца той, хто не ведае» (Лао-цзы), засяродзімся на фактах, якія не падлягаюць сумневу.

Ён з'явіўся на свет у 1895 годзе ў вёсцы Пяршаі Менскага павета Менскай губерні ў сялянскай сям'і і ўсвядоміў сябе беларусам вельмі рана, бо ўжо ў школе пашыраў сярод сяброў «Нашу Ніву», а потым стварыў у Івянцы нацыянальную маладзёжную суполку. З 1915-га да лістапада 1917-га Кушаль служыў у расейскай арміі, якую пакінуў з вайсковым званнем штабс-капітана і дзвюма атрыманымі ў баях узнагародамі.

Падзеі двух наступных гадоў засведчылі яго чынны ўдзел у беларускім руху, што блізка звёў баявога афіцэра з Антонам Луцкевічам, Янкам Станкевічам, Браніславам Тарашкевічам, Аркадзем Смолічам, Сымонам Рак-Міхайлоўскім... З польскай турмы ў Лідзе Кушаля вызваліла згода ўвайсці ў Беларускую Вайсковую Камісію, якая мела на мэце стварэнне беларускіх збройных аддзелаў у войску Пілсудскага. Сярод іншых у БВК працаваў і Аляксандр Прушынскі (Алесь Гарун).

У 20-я–30-я гады Францішак Кушаль служыць афіцэрам у польскім войску. Верасень 1939-га – баі з немцамі пад Львовам і савецкі палон.

Нямецкая акупацыя прыводзіць Кушаля, як і шмат каго яшчэ, да думкі выкарыстаць гэты гістарычны шанец дзеля беларускіх інтарэсаў. У сакавіку 1944-га ён узначальвае толькі што створаную Беларускую Краёвую Абарону. Праз год дывізія «Беларусь» на чале з падпалкоўнікам Ф.Кушалем прарывае нямецкі фронт на лініі Айзенштайн-Цвізель і пераходзіць да амерыканцаў.

Апынуўшыся ў эміграцыі, ён робіцца адным з заснавальнікаў газеты «Бацькаўшчына», што выдавалася ў Заходняй Нямеччыне, кіруе Беларуска-Амерыканскім Задзіночаннем, друкуе ўспаміны і артыкулы з ваеннай гісторыі.

Пра глыбокую неардынарнасць асобы Францішка Кушаля сведчыць і (а мо – найперш) тое, што некалькі дзесяцігоддзяў, да сваёй смерці ў 1968 годзе ў ЗША, ён быў мужам і сябрам нашай выдатнай паэтэсы Наталлі Арсенневай.

Уладзімір АРЛОЎ





Улетку 1918 г., апрача гэтага першага разу, я вельмі часта бываў у Менску то пехатою, то прыязджаючы зь Івянецкімі балаголамі. Кажны раз я наведваў беларускую кнігарню й сустракаўся там з Алесем Гаруном. У гэтым-жа доме на другім паверху зьмяшчалася рэдакцыя беларускай газэты «Вольная Беларусь». Там я пазнаёміўся і зь Язэпам Лёсікам і зь ягонаю жонкаю Вандай Лявіцкай, дачкой ведамага беларускага пісьменніка Ядвігіна Ш.

На сьвеце ўсьцяж не было супакою. Увосень 1918 г. выбухнула рэвалюцыя ў Нямеччыне. Немцы былі змушаныя капітуляваць перад Кааліцыяй. Нямецкія арміі пачалі пакідаць займаныя імі прасторы Беларусі. Сьледам за нямецкай арміяй, што адыходзіла на захад, з усходу йшло бальшавіцкае войска. Неўзабаве ўся Беларусь апынулася пад бальшавікамі. Увесну 1919 г. пачалася новая вайна – польска-бальшавіцкая. Палякі памаршыравалі на ўсход, і 19 красавіка 1919 г. польская армія здабыла Вільню, а колькі месяцаў пасьлей – 8 жніўня 1919 г. заняла Менск. Неўзабаве па заняцьці палякамі Вільні, у травені 1919 г. у Вільні адбыўся беларускі зьезд Віленшчыны і Горадзеншчыны, на якім было пастаноўлена пачаць пад польскай акупацыяй арганізацыю беларускага войска. На зьезьдзе была абраная адмысловая вайсковая камісія, якой і было даручана пачаць захады перад польскім галоўным камандаваньнем аб дазволе на арганізацыю беларускіх вайсковых аддзелаў. Пасьля вельмі даўгіх намаганьняў і перамоваў, толькі 22 кастрычніка 1919 г., галоўнакамандуючы польскай арміяй Язэп Пілсудзкі выдаў нарэшце дэкрэт аб дазволе арганізаваць беларускае нацыянальнае войска. Гэтым-жа дэкрэтам паклікалася Беларуская Вайсковая Камісія (БВК), кажны сябра паймена. У склад камісіі былі пакліканыя дэкрэтам гэткія асобы: на старшыню БВК прызначаўся Паўла Аляксюк, адвакат паводля прафесіі, вельмі актыўны ў тых часох беларускі дзеяч. На камандуючага беларускімі вайсковымі аддзеламі прызначаўся палкоўнік Канапацкі, беларус татарскага паходжаньня. У склад камісіі быў пакліканы й Аляксандар Прушынскі, а, апрача яго, як сябры камісіі, гэткія асобы: Антон Аўсянік, маёр Якубецкі, Сымон Рак-Міхайлоўскі, палкоўнік-інтэндант Якубоўскі й я, капітан Франьцішак Кушаль. Месцам урадаваньня Беларускае Вайсковае Камісіі вызначаўся Менск (аб БВК быў мною ў сваім часе напісаны даўжэзны артыкул «Ад Менску да Лодзі», які друкаваўся ў 1952 г. у лістападзе, сьнежні й студзені ў газэце «Беларус», нумары 21, 23, 24 й 25)

У сьнежні 1919 г. БВК пакінула Вільню й прыбыла ў Менск, дзе заняла даволі вялікі менскі гатэль «Гарні». На першым паседжаньні камісіі быў абраны ейны прэзыдыюм, заступнікам старшыні якога стаўся Аляксандар Прушынскі. Памятаю, што ён станоўка адмаўляўся ад гэтае функцыі, матывуючы сваю адмову слабым здароўем. І запраўды, досьць было глянуць на яго, і кажны мог пераканацца, што перад ім моцна хворы чалавек. Аднак, дармо што ўсе слушныя адмовы, Алесю Гаруну не ўдалося пераканаць камісію, і ён застаўся заступнікам старшыні Прэзыдыюму БВК.

Паўла Аляксюк быў нязвычайна энэргічны чалавек, вельмі добры прамовец. Неўзабаве межы БВК сталіся яму зацесныя. Каб мець магчымасьць шырэйшае дзейнасьці, ён пачаў штораз часьцей выяжджаць у Варшаву, дзе, як казалі тады ў Менску, рабіў «высокую» палітыку Паказаўшыся час-часом у камісіі, ён зноў на даўжэйшы час недзе зьнікаў Ясна, што ўвесь цяжар працы ў БВК зваліўся на плечы хворага Прушынскага, а праца гэтая была вельмі цяжкая й нэрвовая. Бо, не зважаючы на дэкрэт найвышэйшага аўтарытэту галавы Польскае дзяржавы й галоўнакамандуючага польскай арміяй Язэпа Пілсудзкага, справа арганізацыі беларускага войска ад пачатку сутыкнулася зь немагчымымі да абладжаньня перашкодамі.

Перашкоды гэтыя вынікалі найперш із палажэньня, што існавала тады на Беларусі. Зламаўшы супраціў бальшавіцкае арміі, польскае войска рынула за ворагам на ўсход, не даючы яму магчымасьці арганізаваць дзеколечы абарону На прасторах Беларусі, займаных польскай арміяй, зараз-жа арганізоўвалася адміністрацыйная ўлада, ведама, вылучна із спалянізаваных паноў, панкоў, ды падпанкаў.

Неўзабаве ўсе адміністрацыйныя становішчы, а гэтаксама пасады ў паліцыі, былі занятыя гэтымі людзьмі. Зь вельмі малымі выняткамі, усе яны былі эндэцкае арыентацыі, а значыцца – зацятымі польскімі нацыяналістымі, варагамі ўсяго беларускага, бо-ж ведама, што няма горшага беларусаеда, як спалянізаваны беларус. Як і трэба было

спадзявацца, гэтая зграя цалком сабатавала дэкрэт Пілсудзкага. Высыланыя БВК на правінцыю вэрбунковыя агенты звычайна арыштоўваліся й траплялі ў турмы. Ахвотнікаў ісьці ў беларускае войска не дапушчалі ў Менск і страшылі рознымі карамі. Можна сабе ўявіць, як перажываў усе гэтыя несправядлівасьці й перашкоды фактычны старшыня БВК Аляксандар Прушынскі, зьнясілены цяжкой хваробай, а таму асабліва чулы на кажную прыкрасьць ці няўдачу.

Тымчасам, дні йшлі, набліжаўся ліпень 1920 г. БВК удалося зь вялікімі цяжкасьцямі арганізаваць толькі адзін беларускі батальён. Сярод сяброў камісіі пачало расьці і мацнець вялікае незадаваленьне Нарэшце, недзе ў канцы чэрвеня 1920 г у Менск прыехаў Паўла Аляксюк. Адбылося вельмі бурнае пленарнае паседжаньне БВК, і Аляксюку быў аднагодна выказаны недавер Аляксюк падаўся ў дымісію. Тое самае зрабіў і палкоўнік Канапацкі. Беларуская Вайсковая Камісія апынулася ў крытычным палажэньні. Даць рады крызысу было вельмі цяжка, бо Аляксюк быў вызначаны на старшыню БВК дэкрэтам польскага галоўнакамандуючага Справу трэба было ўзгадняць з польскім камандаваньнем Аднак, усе перашкоды ўдалося абладзіць. Новым старшынём БВК згадзіўся быць адзін з былых рэдактароў першае беларускае газэты ў Вільні ў 1904 годзе, «Нашай Долі», Франьцішак Умястоўскі, запрошаны на гэтае становішча ўжо самой БВК. Прыняўшы становішча, Умястоўскі адылі ў Менск ня прыбыў. Давялося Аляксандру Прушынскаму й надалей узначальваць БВК.

За часам польскае акупацыі, дармо што вайна й няпэўнасьць заўтрашняга дня, у Менску шырака разгарнулася беларускае культурнае жыцьцё. Тут стала жылі гэткія выдатныя беларускія пісьменьнікі, як Янка Купала й Зьмітрок Бядуля, даездам зь Вільні падоўгу запыняўся драматург Франьцішак Аляхновіч, які сам рэжысэраваў свае рэчы дзеля паказу на менскай сцэне, часта выступаў ведамы хор Тэраўскага, стала выходзіць беларуская газэта «Беларусь» пад рэдакцыяй выдатнага журналіста й пісьменьніка Язэпа Лёсіка, якога лучыла з Гаруном асаблівая прыязьнь, паўсталая яшчэ за часы супольна адбыванае імі ў Сібіры ссылкі. У гэтым шырокім культурным жыцьці Алесь Гарун браў заўсёды дзейны ўдзел, тым балей, што быў ён у гэным часе й старшынёю Беларускага Нацыянальнага Камітэту, які займаўся арганізацыяй і кіраваньнем усяго беларускага жыцьця ў Менску. Ня было дня, каб у ягоным габінэце ў БВК, пасьля гадзінаў прыкрага й цяжкога ўрадаваньня, ня зьбіраліся на нарады, што цягнуліся да позняе начы, беларускія культурныя працаўнікі дзеля абмяркаваньня пільных справаў з галіны выдавецкай, школьнай ды інш. Гэтак, паважна хворы на сухоты Алесь Гарун, стаміўшыся за дзень да апошняга, мусіў, пасьля кароткага адпачынку, пачынаць назаўтрае гэткі-ж працоўны дзень, тыдзень па тыдні й месяц па месяцы. Нічога дзіўнога, што якраз да яго так хутка прычапілася яшчэ адна хвароба, стаўшыся беспасярэдняю прычынаю ягонае перадчаснае сьмерці

5-га ліпеня 1920 г. бальшавікі пачалі на шырокім фроньце наступ на польскую армію. Паляком давялося адступаць. У Менску была абвешчана эвакуацыя Сябры Беларускае Вайсковае Камісіі зыйшліся, апошні ў Менску раз, на паседжаньне. Яны перагледзелі й адабралі найважнейшыя й найпатрэбнейшыя дакумэнты, бо забраць усяго ня было магчымасьці, падзялілі іх міжсобку, пехатою пайшлі на чыгуначную станцыю й селі ў вапошні эшалён, што пакідаў Менск.

Ніхто з нас не ўяўляў сабе, якую жахлівую паразу дастала на Бярэзіне польская армія. Мы былі перакананыя, што бальшавікі будуць неўзабаве затрыманыя, праўдападобна на Нёмне, і наважылі далёка не падавацца, а затрымацца дзеколечы ў заходняй частцы Беларусі. Найвыгаднейшым месцам супынку здаўся нам Ваўкавыск.

Лета 1920 г. было на Беларусі надзвычайна гарачае Рана й вельмі багата ўрадзіла гароднiна. Беларускія сады аж хінуліся долу ад цяжкіх пладоў Асабліва надзілі стомленых жаўнераў польскае арміі, што адыходзіла на захад, сьпелыя, буйныя вішні. Яны ірвалі іх, елі й папівалі вадой з прыдарожных студняў ды ручаёў Неўзабаве скрозь выбухнула эпідэмія крываўкі (дызэнтэрыі)

Мы прыехалі ў Ваўкавыск каля паўдня наступнага дня ды пайшлі ў горад уладжацца. Зайшлі на рынак. Сяляне прывезлі сюды на продаж поўныя вазы вішняў. Вішні былі буйныя й сакавітыя. Мы ўсе ў вахвоту імі ласаваліся Пад'еў у смак вішняў і Аляксандар Прушынскі. На другі дзень нашага пабыту ў Ваўкавыску сябры БВК зыйшліся ў залі мясцовае гасьцініцы, каб абмеркаваць становішча, у якім мы апынуліся, ды пастанавіць, што рабіць далей. Алесь Гарун на нараду ня прыйшоў. Ня памятаю ўжо, хто зь сяброў сказаў, што «Прушынскі ня прыйдзе, бо ляжыць хворы ў сябе на гасподзе». Я й Антон Аўсянік зараз-жа пайшлі да яго, каб даведацца, што зь ім. Гаспода Алеся Гаруна была на аднэй зь ціхіх бочных вулічак Ваўкавыску і выглядала, як звычайная сялянская хата. Калі мы ўвайшлі ў гэтую хату, дык адразу-ж пабачылі на дзерваным сялянскім ложку, засланым саматканаю коўдраю, Аляксандра Прушынскага Алеся Гаруна. Ён слабым голасам расказаў нам, што ўчора, пад'еўшы вішняў, пачуў вялікую смагу й напіўся, раз і другі, сьцюдзёнае вады. Пад вечар яму зрабілася дрэнна, забалеў жывот. Мучыўся ён ім усю ноч, і цяпер адчувае нязвычайную слабасьць. Пачуўшы гэта, Аўсянік пабег шукаць доктара, а за гадзіну прывёў лекара з вайсковае камандатуры. Агледзеўшы хворага, лекар сказаў, што Аляксандар Прушынскі захварэў на тыповую дызэнтэрыю й дадаў· «Я вам дам паперу, адвязеце хворага на чыгуначную станцыю й чакайце. Неўзабаве праз станцыю будзе праходзіць санітарны цягнік, вось і здайце хворага дыжурнаму лекару гэтага цягніка». Селянін, у хаце якога прыпыніўся Алесь Гарун, сьветка ўсяе гэтае сцэны, згадзіўся адвезьці хворага на станцыю сваім канём. Мы дапамаглі Прушынскаму апранучца, і калі пад ганак пад'ехала каламажка, вывялі яго пад рукі й пасадзілі на воз, бо сам ён стаяць на нагах ужо ня мог. Аўсянік сеў побач із хворым і трымаў яго, абняўшы рукою, усю дарогу, я-ж з хурманом селі ўперадку. Прыехаўшы на станцыю, мы запраўды вельмі мала чакалі на санітарны цягнік. Ён прыйшоў за якія поўгадзіны Я й Аўсянік увялі зусім заслабелага Гаруна ў цягнік і перадалі санітару Тутка, у цягніку, мы – Антон Аўсянік і я, апошні раз паціснулі руку Алесю Гаруну, жадаючы яму барджэй ачуняць.

Колькі год пасьлей – памёр і Антон Аўсянік. І сяньня, хіба, жывы на сьвеце адзін я, што апошні зь Беларусаў бачыў жывога Алеся Гаруна. У 1922 г. у часапісе «Беларускі Сьцяг», выдаваным у Коўні, зьявіліся ўспаміны аб Алесю Гаруну, падпісаныя крыптонімам А.А-к. Няма ніякага сумлеву, што аўтарам іх мог быць адно Антон Аўсянік, што разам зы мною выпраўляў Алеся Гаруна ў вапошняе ягонае падарожжа таго, гэтак памятнага й па сараку год, ліпенскага дня на станцыі ў Ваўкавыску.

Падзеі, тымчасам, не стаялі на месцы Польская армія затрымалася адно пад самай Варшавай, дзе й разьбіла нарэшце бальшавікоў Прыйшло замірэньне Польскае камандаваньне вызначыла месцам дзеля рэарганізацыі й папаўненьня БВК места Лодзь. Неяк увосень 1920 г. БВК атрымала ўрадавы ліст з вайсковага шпіталю ў Кракаве, у якім паведамлялася, што Аляксандар Прушынскі, сябра БВК, памёр ад дызэнтэрыі, і падавалася дакладная дата сьмерці ды месца паховінаў.

Вестка аб сьмерці Алеся Гаруна вельмі цяжка нас уразіла БВК пастанавіла дэлегаваць некага зь Беларусаў у Кракаў, каб дакладна даведацца аб абставінах Гаруновае сьмерці ды знайсьці ягоную магілу, зазначыўшы яе так, каб заўсёды можна было яе адшукаць. Гэткім дэлегатам ахвоча згадзілася паехаць у Кракаў Паўліна Мядзёлка, тады жонка ведамага беларускага дзеяча Тамаша Грыба, які ў тым часе, як эмігрант, жыў у Лодзі. За тыдні два яна вярнулася з Кракава й расказала нам, што ў Кракаўскім вайсковым шпіталі ёй далі ўсе патрэбныя інфармацыі аб сьмерці Аляксандра Прушынскага ды паказалі ягоную магілу. Магіла гэтая знаходзіцца сярод магілаў польскіх жаўнераў, і на ёй стаіць просты дзерваны вясковы крыжык з таблічкай, на якой напісаныя два словы. Аляксандар Прушынскі

Гэткая доля нашых вялікіх людзёў, нашых вялікіх паэтаў і нацыянальных пракокаў. Косьці Максіма Багдановіча тлеюць «над сіняй бухтай» у далёкім Крыме. Янка Купала знайшоў быў дамавіну ў нялюдзкай Маскве. Алесь Гарун супачыў навечна ў чужым польскім Кракаве... Але прыйдзе час, і ўсе яны знойдуць вечны супакой на роднай зямлі, у велічным пантэоне беларускіх нацыянальных гэрояў

*«Конадні». N 7, 1963*

# ЁН+ЁН

## Яраслаў ГАШАК і Франц КАФКА



*«Кніга павінна быць сякерай для мора, замерзлага ў нас».*

Франц КАФКА

*«Жыццё чалавечае наогул такое складанае, што жыццё асобнага чалавека, асмелюся паведаміць, пан паручнік, анікуды не вартае».*

Яраслаў ГАШАК

# ЗЯЛЁНАЯ ГАЛІНКА

## Апавяданні і мініяцюры

## *ПЕРАТВАРЭННЕ ФРАНЦА КАФКІ*

## ПРЫГОДЫ БРАВАГА САЛДАТА ШВЕЙКА Ў СУСВЕТНАЙ ВАЙНЕ

## *УТАЙМАВАННЕ АБСУРДУ*



# ЗЯЛЁНАЯ ГАЛІНКА

## Яраслаў ГАШАК і Франц КАФКА. АНТЫГЕРОІКА АБСУРДУ

*Эсэ*

«Ёсць на свеце гарады, якія з самага пачатку радасна і балюча раняць тваё сэрца. Або, калі выславіцца іначай, заражаюць тваю душу вечнаю тугою па сабе! І не толькі тваю душу. Усякую»,– памятаеце ў Караткевіча, закаханага ў Прагу – горад, які вечна і ўладна прыцягнуў яго да сябе. Гэта унікальны горад! Як любяць паўтараць чэхі, Прага – матка гарадоў. Мінулае тут ціха прытулілася на таямнічых вулачках Старога горада, гатычных вежах сярэднявечча, скульптурах Карлава моста. Ад Карлава моста ідзе Каралеўскі шлях; у два бакі – на Пражскі град праз Малу страну і паўз ратушу, Мытную вуліцу, потым Карлаву Гісторыя пільна сочыць за кожным тваім крокам: брук дванаццатага стагоддзя, муры Кліменцінума, манастыры і храмы усіх канфесій, больш за дзвесце толькі тых, дзе праходзяць набажэнствы, адно з цудаў чалавечага таленту і волі – orloj – гадзіннік на ратушы, Каралінум – рэктарская сядзіба Пражскага універсітэта, мост чатырнаццатага стагоддзя, моравыя слупы – з шаснаццатага, старажытнейшая ў Еўропе сінагога, не гаворачы ўжо пра сэцэсію, архітэктурны мадэрн мінулага стагоддзя.

Цябе прывітае Святы Вацлаў, прыкрые ценем Ян Гус. Вось і храм Панны Марыі перад Тынам, ці Тынскі храм.. У адным з дамоў побач жыла некаторы час сям'я Кафкі. Яна, наогул, часта пераязджала. Акно выходзіла проста ў храм. Так-так. Абразы, алтар, лавы інтэр'ер храма. Трэба толькі ўзняць галаву і зірнуць направа Белыя фіранкі Звычайны дом. Акно. .

Горад гэты мне ўяўляецца асаблівым – са сваім шчаслівым лёсам, які асцерагаў ад знішчэння і разбуральных войнаў. Са сваёй аўрай, якую стваралі выдатныя людзі, творцы розных нацыянальнасцяў Лунае над Градчанамі, над Влтавай і Вышаградам і дух нашага Скарыны, чыя магіла не знойдзена, і дух Кафкі, пахаванага на Альшанах, і Гашака, чый геній народжаны і выпеставаны тут, на крывых вулачках Карлава шляху, у шынках старой Прагі, на кірмашах Жыжкава.

Па Празе я хаджу нямой ад захаплення перад людзьмі, якія не разбурылі ніводнага старога слупа ці падмурка, нават, калі ён замінаў бачыць рэнесансныя формы, ніводнага дома, якім бы нязграбным ён ні здаваўся, не руйнавалі старыя могілкі.

Я вырасла ў горадзе, ушчэнт разбураным у гады вайны, а потым на маіх вачах, ужо пасля вайны, але ваеннымі сродкамі зрушылі вежы катэдры, дзе бралі шлюб мае бацькі, разбуралі старую Нямігу, па якой я хадзіла на працягу дзесяці гадоў у школу, дамы, дзе жылі мае школьныя сябры, дзе захоўвалася неасфера старога Мінска. Гэта мой дзіцячы Арбат – мой боль... Успамінаю сустрэчу з адной акадэмічнай супрацоўніцай па дарозе ў Львоў і яе катэгарычныя выказванні пра нячыстыя стылі, эклектыку, якую, быццам, трэба разбураць. Ці не гэтымі «расавымі» меркаваннямі кіраваліся і іншыя разбуральнікі

таго, што ўцалела ад вайны?.. Які ж добры Анёл ахоўвае сталіцу Чэхіі? Якое трэба мець пачуццё гісторыі, культуры і памяць, каб так шанаваць, так песціць мінулае? Якую прышчэпку супроць ваеннай жорсткасці і абсурду? А мо нездарма Гашак узрос пад гэтым небам?

Намер параўнаць Гашака і Кафку, такіх непараўнальна розных пісьменнікаў, спакушае мяне з 1983 года, калі з нагоды стагоддзя аўтара Швейка, у красавіку, у Празе ладзілася навуковая канферэнцыя. Я даслала заяўку, мяне чакалі, але прыйшлося замест сябе адправіць арганізатарам канферэнцыі перапрашальную тэлеграму. Я прасіла прабачэння, што не змагла прыехаць... Па якой прычыне? Я і зараз яе дакладна не вызначу: паперы ўсе былі здадзены ў адпаведныя аддзелы адпаведных міністэрстваў, усе подпісы былі сабраныя, чыноўнік абяцаў, што паеду. Зараз я прыгадваю яго няшчыры позірк, быццам мы ў нейкім залюстэркавым свеце, дзе гаворыцца адно, а маецца на ўвазе іншае. Прыгадваю, як доўга круціў чыноўнік з папярэдняй інстанцыі запрашэнне, дасланае не аргкамітэтам асабіста, паглядаў незадаволена з такой стомленай пыхай.. Я тут перад ім – маленькі жыхар з вёсачкі, а ён мае дачыненне да самога Замка, дзе гуляе завіхура розных папер, інструкцый, загадаў... Дзе лётаюць, імітуючы дзяржаўную дзейнасць, раі чыноўнікаў, амаль як у Гогаля, але ў антуражы XX стагоддзя... Потым гэты незабыўны ў маёй навуковай біяграфіі чыноўнік з замежнага аддзела выцягнуў нейкую жоўтую паперыну і пачаў мне зачытваць інструкцыю пра тое, што запрашэнне павінна быць даслана за сем месяцаў (чаму сем, а не дзевяць?), а маё прыйшло толькі за шэсць. Ішло з Прагі ў Мінск амаль месяц? Так. Але . Ёсць інструкцыя ..

...У Празе мяне чакалі, забраніравалі пакой у гатэлі, і не маглі даўмецца, па якой такой прычыне мне не выбрацца з Беларусі. На шчасце адзін нямецкі калега завітаў на канферэнцыю без папярэдніх фармальнасцяў, выпадкова трапіў у Прагу і, як мне ён потым распавядаў, вельмі узрадаваў арганізатараў тым, што размясціўся ў прызначаным для мяне пакоі. .

У каторы ўжо раз, не лічачы сумны жнівень 68, калі я, тады аспірантка, мелася ехаць на гадовую стажыроўку ў Карлаў універсітэт, а мяне апярэдзілі танкі, дзяржава не выпускала даследчыка чэшскай літаратуры ў Чэхію. Менавіта тады, упершыню, прывіды прозы Кафкі і вясёлы смех Гашака стварылі ў маім ўяўленні арэол вакол нашай таталітарнай імперыі Яны ўсплывалі ў маёй памяці ўсё часцей на сходах і вучоных радах, розных пасяджэннях, пры наведванні інстанцый і розных чыноўнікаў, якія гулялі ў дурня, ахоўваючы адпаведныя інструкцыі, пазбаўляючы нас нармальнага існавання· «Нідзе яшчэ К. не бачыў такога суплёту службовага і асабістага жыцця, як тут,– яны перапляталіся так цесна, што часам здавалася – служба і асабістае жыццё памяняліся месцамі».

Імёны двух вядомых на ўвесь свет пісьменнікаў XX стагоддзя паставіў побач сам лёс: абодва нарадзіліся ў 1883 годзе – Гашак 30 красавіка, Кафка – 3 ліпеня. Некалькі месяцаў не хапіла Гашаку да сарака гадоў, Кафка перакрые свае саракавіны амаль на год.

Яны жылі ў Празе, якая была тады правінцыяй Аўстра-Венгерскай манархіі. Былі сведкамі агоніі і распаду імперыі Габсбургаў. Абодва не прынялі вайну. Кафку як чыноўніка, займаўшага адказны пост, не прызвалі на фронт і ён застаўся вонкавым сведкам гэтай гістарычнай падзеі; у дзённіку за другое жніўня 1914 года ім зроблены кароценькі запіс: «Германія аб'явіла Расеі вайну. Пасля абеду школа плавання» Амаль у стылі Гашака і яго «партыі памяркоўнага прагрэсу ў межах закону». Як сцвярджаюць біёграфы, сведчыць ліставанне, Кафка паставіўся да вайны іранічна і амаль не звяртаў на яе ўвагі. Што датычыцца Гашака, то і ён вайну ўсур'ёз не ўспрымаў; стаўленне да сусветнай вайны як п'янай сутычкі дзе-небудзь на ўскраіне Прагі забяспечыла раману пра Швейка геніяльны прыём – ad absurdum. Але ж калі ўжо стала немагчыма сімуляваць ідыёта, Гашак быў прызваны пад харугвы Аўстра-Венгрыі, і таму вырашыў здацца ў палон да рускіх, упэўнены, што гэтым ён працягвае барацьбу за вызваленне Бацькаўшчыны. Ён – чэх, які пісаў на роднай мове, пакутаваў ад яе занядбання і здзекаў над усім славянскім з боку чыноўнікаў Габсбургскай манархіі. Яшчэ ў чатырнаццацігадовым узросце гімназіст Гашак прымаў удзел у забастоўцы чэшскага насельніцтва Прагі, пратэстуючы супроць прынятага ў 1897 годзе закона аб першаснасці нямецкай мовы ў дзяржаўных установах Чэхіі. Гашак быў шырока вядомы не толькі сваім анархізмам і багемным жыццём а la Віён, але і, як бы зараз сказалі, сваім дысідэнцтвам.





Кафка, народжаны ў габрайскай сям'і, вучыўся ў нямецкай школе, роднай мовай лічыў нямецкую, на ёй і пісаў. Хваравіты з дзяцінства, ён хварэў і дарослы, лячыўся ад сухотаў. Схільны да неўрозу, часта скардзіўся, што адчувае сябе адчужаным Адчужэнне стала яго ментальнасцю. Адзінота, неабходная як умова творчасці,– яго лёсам, па чэшску – осудам (osud – лёс) Адзінота – яго осуд і ў асабістым жыцці Наканавана яму было застацца бабылём, хаця тройчы быў заручаны· двойчы – з Феліцыяй Бауэр, дальняй сваячкай яго сябра і пісьменніка Макса Брода. Знаёмы з 1912 года, Кафка перапісваўся з ёй амаль пяць гадоў У гэтых лістах прызнанне ў каханні першай жанчыне, ваганні і няўпэўненасць: «Без яе жыць не магу і з ёю не». Пасля канчатковага разрыву з Феліцыяй будуць у Кафкі яшчэ адны заручыны – з Юліяй Вахрызак (студзень 1919 года) і яшчэ адзін разрыў. З 1920 года перапісваўся ён з чэшскай журналісткай Міленай Есенскай, перакладчыцай яго апавядання «Качагар» на чэшскую мову.

Была яшчэ адна жанчына, сяброўка Феліцыі – Грэта Блох, якая нарадзіла ад Кафкі сына, пра што ён даведаўся ўжо перад смерцю. Адзінае дзіця пісьменніка памерла ў сямігадовым узросце. У адным з апошніх лістоў да Феліцыі Кафка прызнаецца, што ён згублены для нармальных чалавечых зносін· «Я народжаны для самоты» Адносіны Кафкі з жанчынамі пільна даследаваны не толькі вучонымі. Да іх звярталіся і вядомыя пісьменнікі Так, Эліас Канэці ў 1969 годзе прысвяціў ім кнігу «Другі працэс», а Тадэвуш Ружэвіч – п'есу «Пастка» У іх – Кафка трагічны і смешны, маркотна-тужлівы і абсурдны

Ваеннае жыццё Гашака хутка становіцца жыццём палоннага. «Прыгоды» па Украіне, Расеі, Сібіры, нялёгкі «анабасіс» чырвонага камісара і рэвалюцыянера падарвалі здароўе Ён вярнуўся ў Прагу ў снежні 1920 года ўжо цяжка хворым, апынуўся ў коле варожасці і збег у прыгожы куточак паўднёва-ўсходняй Чэхіі – Ліпніцэ над Сазавай Апошнія два з паловай гады яго жыцця сцераглі муры старадаўняй фартэцыі, і здавалася – нішто не перашкаджала пісаць пра Швейка, каб не хвароба і часам невыносны боль. Тут у Ліпніцэ на простых могілках і пахаваны Гашак.

У адрозненні ад Гашака, які прайшоў пехатою амаль палову Еўропы і Азіі, Кафка мала выязджаў з Прагі (пераважна на лячэнне), яго сям'я вандравала па старой Празе ў пошуках таннага прытулку Недалёка ад Тынскага храма можна ўбачыць сёння мемарыяльны знак, які ўшаноўвае памяць сусветна вядомага пісьменніка. Кафка пахаваны ў Празе на Альшанах у адной магіле з бацькамі, пераджыўшымі сына. бацька – на сем, маці – на дзесяць гадоў

Яны жылі ў Празе, былой сталіцы Багемскага каралеўства. Там сабралася нямала нямецкамоўных пісьменнікаў, і горад мог супернічаць нават з Венай па інтэнсіўнасці творчага жыцця. Нямецкамоўныя пісьменнікі тут былі як бы на выспе, у прасторы чэшскай культуры Ужо з канца XIX стагоддзя ўзмацняецца яе адраджэнне, чэхі пачынаюць з'язджацца ў Прагу, у выніку чаго нямецкамоўная частка насельніцтва, пераважна камерсанты, чыноўнікі, інтэлігенцыя, апынулася ў меншасці. Сярод іх было багата габраяў, якіх сюды прыгналі хвалі антысіянізму ў Аўстра-Венгрыі У Празе жылі і працавалі Р.М. Рыльке, Ф Верфель, Э. Кіш, К. Вайскопф Большасць з іх пачала выязджаць з Прагі. Кафка застаўся тут назаўсёды. У адрозненне ад сваіх калег ён не шукаў кантактаў з нямецкімі суполкамі, напрыклад, з тымі ж экспрэсіяністамі, хоць у іх выдавецтве, дзякуючы пратэкцыі Макса Брода, друкаваліся яго асобныя творы

Абодва пісьменнікі хадзілі па адных вуліцах, наведвалі адныя кнігарні, вінарні і дамы, напрыклад, Берты Фанта, дзе звычайна збіралася творчая інтэлігенцыя, модныя сацыялістычныя гурткі, якія карысталіся ў тыя часы папулярнасцю ў моладзі Даследчыкі (напрыклад, А.Гулыга), згадваюць, што Гашак і Кафка нават былі знаёмыя, але больш падрабязныя звесткі пра іх знаёмства мне адшукаць не давялося Наўрад ці яны маглі зацікавіцца адзін адным, хоць друкаваліся ў адных і тых жа выданнях. Гашак быў знакаміты сваім багемным жыццём. Яго апавяданні з'явіліся ў друку пад рознымі псеўданімамі ўжо ў першыя гады стагоддзя Калі пачалі выходзіць тонкія сшытачкі рамана пра Швейка, Кафка ўжо быў цяжка хворы і наўрад ці іх чытаў. А вось Макс Брод адгукнуўся на раман станоўчым артыкулам і нават абяцаў сваю падтрымку кнізе, якую, верыў, чакае вялікая будучыня. Гашак адразу падзякаваў хроснаму, так бы мовіць, бацьку Швейка на паштоўцы з выявай Ліпніцэ, а потым, кажуць, падзяліўся навіной: «Вось цяпер пачынаю верыць, што Швейк дачакаецца вялікай кар'еры. Верце мне, бо ўсё збываецца, за што бярэцца габрай».

Ці чытаў Гашак апавяданні Кафкі – дакладна невядома. Але ён не мог ведаць творы, якія Кафка ў тастаменце прасіў спаліць, гэта ўсе яго раманы, большасць мініяцюр. Калі б Макс Брод не ўзяў на душу грэх не выканаць апошняй волі нябожчыка, то не толькі сучаснікі, але і мы нічога б не ведалі пра трагічнага апостала XX стагоддзя і метафізічную бездань яго начных пакут..

Так многа сышлося ў лёсах Кафкі і Гашака, што, мабыць, невыпадкова іх імёны нярэдка ставяць побач: Бертольд Брэхт, напрыклад, параўнаў гашакаўскага героя з героямі Кафкі. Ён зазначыў здзіўленне аднаго і нездзіўленне другога перад абсурдам жыцця. Здзіўленне героя Кафкі і нездзіўленне героя Швейка. Даследчыкі згаджаліся з тым, што Гашак-сатырык стварыў геніяльны нарыс эпохі, манументальную гістарычную эпапею (дарэчы, разважанні аб жанры – у кароценькіх прадмовах аўтара) Трагічны Кафка таксама пакінуў філасофска-абагульняючы вобраз эпохі. Герой Гашака супраціўляецца пад маскай вернаадданага ідыёта абсурду імперыі і, як маленькі каменьчык, што трапіў у падшыпнік, пагражае разбурыць грувасткую махіну. Герой Кафкі – безнадзейны песіміст, загнаны страхам у таямнічы свет унутранага жыцця. Герой Гашака ідзе ў адкрыты свет, соцыум, палітыку, хоць і бароніць сваё асабістае «я». Герой Кафкі замураваны ў прасторы сваёй адзіноты, але асабістага жыцця не мае, схавацца ад Замка немагчыма, як і прайсці да Закона. Персанажы абодвух аўтараў хутчэй антыгероі ў сваёй антыгероіцы.

Па эмацыянальнай псіхалагічнай існасці героі і іх аўтары дыяметральна супрацьлеглыя. вясёлы, жыццярадасны, заўсёды з жартам на вуснах, добрай усмешкай на твары, дзейсны, энергічны Гашак быў безумоўна аптымістам. Аптымізм вымагаў душэўных сіл, але і надаваў іх. Кафка маркотны і тужлівы, незадаволены працаўладкаваннем, няўпэўнены, усміхаўся зрэдку, амаль не жартаваў у лістах да родных і жанчын. Ён аднойчы зазначыў, што яго хвароба – гэта «выплюхнутая праз край духоўная немач». Аналізуючы свой характаралагічны тып, ён піша. «Справа не ў ляноце, дурных намерах ці няўдачах, праз якія ў мяне не можа скласціся ні сям'я, ні сяброўства, ні работа па службе, ні літаратура, справа ў тым, што мне не хапае глебы, паветра, моцы.. Мне бракуе ўсяго, што трэба для жыцця, акрамя што, бадай, звычайнай чалавечай слабасці. У гэтым сэнсе слабасць з'яўляецца агромністай сілай – перапаўняе мяне ўсім негатыўным майго часу, вельмі блізкага мне часу, з якім я не магу змагацца, але які я, так бы мовіць, маю права прадставіць сабою».

Іх чалавечая сутнасць ляжыць адбіткам на тварах. Вось якім убачыў Гашака вядомы мастак, рэдактар сатырычнага часопіса Ёзэф Лада пры знаёмстве ў 1907 годзе: «Твар амаль дзіцячы, амаль жаночы, бязвусы, бясхітрасны, адкрыты свету, але дастаткова было Гашаку падаць рэпліку, як станавілася зразумела, што гэты браток не промах». Твар Кафкі – вочы, у якіх сум і жах, крыўда і нявыплаканыя слёзы Крыўда на бацьку, які быў жорсткі да сына і назаўжды пасяліўся ў снах пісьменніка ў вобразе ката з нажом, прагнучым крыві ахвярнага ягня – сына. Крыўда на ўвесь свет, які можа пачаць раптоўна крычаць, лаяцца, адрываць вушы, як меў звычку рабіць бацька.

Прыхільнік піва і добрай кампаніі Гашак і самотнік Кафка, які больш размаўляе ў лістах, аналізуе сябе, паводзіны сяброў і не можа адважыцца, каб што-небудзь змяніць, нават у сваім асабістым жыцці

Гашак – блазан з вуліцы, за якім прыхаваны другі, трагічны Гашак. Той таксама асуджаны на адзіноту пакут. «Адзін, без сяброў,– заўважыў Багуміл Грабал,– і Швейк, які нястомна шукае добры свет, дзе менш ідыёцтва, дзе ёсць вера». Шукае выйсця і Ёзэф К., проста К. Дарогі вайны, па якіх брыдзе Швейк, і лабірынты Замка Кафкі падобныя і непадобныя ў сваёй абсурднасці.

Абодва пісьменнікі былі надзвычай непрыстасаваныя ў гэтым жорсткім свеце: не рабілі кар'еры, не выбіваліся па службе, калі не лічыць перыяд чырвонага камісарства Гашака, які, зрэшты, прынёс яму адны турботы, бо пасля вяртання на радзіму пісьменнік апынуўся ў коле падазронасці і недаверу. Яны паважалі асобу ў другіх, замардаваных нечалавечымі ўмовамі існавання. «Бяда мая ў тым, што я ўсіх людзей – а самых дарагіх для мяне перадусім – успрымаю добрымі, і розумам і сэрцам так успрымаю (толькі што ўваходзіў чалавек і перапужаўся – на маім твары, звернутым у пустату, адбілася гэтае перакананне) – вось толькі маё цела ніяк не можа паверыць, што яны, калі спатрэбіцца, сапраўды будуць добрымі, яно заходзіцца ад страху, і замест таго, каб дачакацца





праверкі (якая б у гэтым сэнсе сапраўды ратавала свет), павольна лезе на сцяну»,– пісаў Кафка ў дзённіку.

Аўтсайдэрам быў і Гашак, вымушаны збегчы з Прагі, каб у маленькай хатцы ля мураў сярэднявечнага замка здзейсніць задуму і напісаць Вялікую кнігу. Але наўрад ці ён паўтарыў бы словы Кафкі, які многа пісаў у апошнія гады – пасля таго, як захварэў у 1917 годзе на сухоты, пра смерць: «Цябе выслалі ў свет, як біблейскую галубку, ты не знайшоў зялёнай галінкі і зноў вяртаешся ў цёмны каўчэг» Зялёнай галінкай выратавання была для абодвух пісьменнікаў іх творчасць, антыгероіка абсурду.

Розныя чалавечыя лёсы і розныя біяграфіі – розныя тыпы творчасці. Розныя сімвалы імперыі і таталітарызму. Гашак адштурхоўваецца ад шырокага ведання жыцця, абсурд рэчаіснасці выяўляе з дапамогай камічнага, яго альтэрнатывы абсурду Кафка пускае свайго героя ў лабірынты абсурднага свету, адзіна магчымай для яго, а мо – немагчымай рэчаіснасці.

Гашак бліжэй да Рабле і Сервантэса, да класічнай традыцыі Ён ратуецца смехам Кафка адкрывае літаратуру неўратычнага стагоддзя, хворага на тэхнакратызм і вялікія гарады Літаратуру, арыентаваную на псіхааналіз і падсвядомасць. Мастацтва XX стагоддзя часам нагадвае гісторыю хворага. Тое, што ў стагоддзі васемнаццатым успрымалася як норма, у дваццатым стала паталогіяй. Паслядоўніца і вучаніца З.Фрэйда Карэн Хорні, даследуючы неўрозы, многа ўвагі засяродзіла на пачуцці страху і прыйшла да высновы, што страх – гэта чалавечая адкрытасць свету. Усе людзі неўротыкі, бо гэта адкрытасць чалавека.

Абодва ствараюць непаўторны мастацкі свет: у Гашака ён будуецца на законах гратэскавай гульні са словам, учынкам, з жыццёвымі рэаліямі. Яго смешны раман – гістарычная эпапея, з якой багата можна даведацца пра Аўстра-Венгрыю У карыкатурным абліччы прадстае таямніца імперыі, дэмаскуецца яе глупства і міфы Магутны смех ратуе і ачышчае, як зніч. Смех, які, па словах Радка Пытліка, «вызваляе чалавека ад найвялікшага праклёну, ад метафізічнага ўціску і страху» Кафка, наадварот, меў перакананне, што лепш не выходзіць з дому, а чакаць сам-насам. Ён прыслухоўваецца да падсвядомага, падае экзістэнцыю як псіхааналіз, абапіраецца на сон – своеасаблівы культуралагічны знак. Сон як прыём творчасці і выйсце ў бессвядомае Раманы і апавяданні Кафкі – гэта прыпавесці. У іх прадказанне дыктатуры. Сапраўды меў рацыю Габрыель Гарсія Маркес, калі ў кнізе з кідкай назвай «СССР. 22400000 кв. км без адзінай рэкламы кока-колы» пра першы сусветны фестываль моладзі, на якім ён прадстаўляў прэсу, зазначыў: «У Савецкім Саюзе не знойдзеш кніг Франца Кафкі, бо кажуць, ён апостал згубнай метафізікі Аднак, мяркую, менавіта ён змог бы стаць лепшым біёграфам Сталіна».

Паспрабую два тыпы творчасці азначыць у ланцужках:

**Гашак:** Жыццё як Прыгоды. Прыгоды як Супраціўленне Супраціўленне як Сатыра Сатыра як Творчасць.

**Кафка:** Жыццё як Сон. Сон як Быццё. Быццё як Творчасць. Творчасць як Псіхааналіз.

Для Гашака пісаць апавяданні, фельетоны, артыкулы натуральна, як жыць, самавызвавацца і жартаваць. Жыццё яго падобна на мастацкі твор А творчасць супрацьстаіць абсурду.

«Пісаць буду нягледзячы ні на што, што б там ні сталася – гэта мая барацьба за самазахаванне»,– пісаў Кафка ў чэрвені 1914 года. Дададзім – і свой спосаб барацьбы супраць абсурду. Функцыя творчасці Кафкі – псіхааналітычная і асабіста інтымная. Ён пісаў для сябе, не збіраўся нічога друкаваць, нават дзённікі Выхад з друку кніг звычайна выклікаў трывогу, бо пісанне, па словах Кафкі, падобнае на заклінанне духаў. У адным з лістоў да Фелiцыі Кафка прызнаецца: «Не разумею, што са мной лезуць словы і сказы, ад якіх не адбіцца, прыходзяць як бы звонку, але, здаецца, выток іх у патаемным». Існасць выслізгвае па-за воляй, зменлівая і няпэўная. Творчасць Кафкі – маналагічная.

Для Гашака чытач і суразмоўца неабходныя. Ён нацэлены на дыялог. Швейкаванне – стыль паводзін, сродак не звар'яцець у абсурдным свеце.

Экстраверт Гашак і інтраверт Кафка выказвалі сябе ў творах па-рознаму, але сюжэт і кампазіцыя іх раманаў аднолькава падпарадкаваны Асобе апавядальніка, ці, лепш сказаць, спавядальніка. Самааналіз Кафкі – з нетраў яго душы. Душа быццам знаходзіцца на лаве падсудных. Самыя распаўсюджаныя, бадай, у яго матывы судовай

цыганіны бязвінна пакараных. Не дзіва, што аднойчы Кафка выказаўся пра кнігу і яе ўздзеянне на чытача менавіта так: «. кніга павінна быць сякерай для мора, замерзлага ў нас».

Героі твораў Кафкі збольшага могуць скласці як бы два тыпы, адзін. крот, мышы, сараканожка, у якую ператварыўся Грэгар Замза Адным словам, жывая істота, надзеленая чалавечым розумам і пачуццямі,– можа быць і нежывая І другі чалавек на судзе з унутраным адчуваннем страху, чалавек, які не чакае ад свету нічога добрага, які губляе прозвішча, а потым імя, ад якога застаецца адна літара – К. Маленькі чалавечак, біялагічная істота, якой утульна дзе-небудзь у шчыліне, альбо ў нары, абы далей ад людскога тлуму. Істота гэта асуджана на пакуты, бо на гора сваё мае чалавечы розум. Ад яго і скруха. Блуканні па лабірынтах падыходаў да Замка марныя Марныя, напрыклад, намаганні без дай прычыны асуджанага Ёзэфа К. пераканаць суд у сваёй невінаватасці Ён абівае парогі таямнічых устаноў, запісваецца на прыёмы, чакае, калі яго выслухаюць, зразумеюць. Ён прымае прысуд як свой лёс. Чалавек на лаве падсудных – перад сваёй экзістэнцыяй

Цікаўнасць да жывёльнага свету набывае ў Кафкі аналітычны сэнс, быццам пастаўлена за мэту прасачыць рэгрэс на планеце Зямля, бо мітусня цывілізацыі ўспрымаецца пісьменнікам не як часовая, а хутчэй, як канчатковая з'ява. Вось малпа, якую ў выніку эксперыментаў прымусілі стаць чалавекам, у сваёй справаздачы ў Акадэмію шчыра прызнаецца, як многа сапраўднага яна страціла ў працэсе эвалюцыі: па-першае, свабоду, па-другое, лёгкасць перамяшчэння ў прасторы, натуральную сапраўдную ежу .. За пяць гадоў, што прайшлі з яе палону, малпа навучылася таму, чаго патрабавалі настаўнікі· плявацца, курыць, піць гарэлку Няцяжка было пераймаць чалавечыя дзеянні, цяжка было глядзець у пахмурныя вочы людзей,– прызнаецца малпа, а бадай ужо чалавек-малпа, якая раптам скочыла са свайго мінулага ў чалавечае будучае «У Гамбургу, калі я апынулася ў майго першага дрэсіроўшчыка, я хутка зразумела, што для мяне існуе толькі дзве магчымасці· заалагічны сад альбо вар'етэ. Я не вагалася ні хвіліны «Трэба прыкласці ўсе намаганні, каб трапіць у вар'етэ, гэта адзінае выйсце, заалагічны сад – не што іншае, як новая клетка. Патрапіш туды – і табе канец» Нябачанае да таго часу ў гісторыі сканцэнтраванне волі дапамагло малпе дасягнуць узроўню сярэдняга еўрапейца. Стаўшы артыстам вар'етэ, яна нават узяла сабе маленькую выдрэсіраваную малпачку, з якой забаўляецца вечарамі пасля працы: «Днём я не жадаю яе бачыць; у яе вачах адбіваецца вар'яцтва, як і ва ўсіх дрэсіраваных, збітых з панталыку жывёлін; ніхто акрамя мяне гэтага не заўважае, але для мяне гэта невыносна»

Пакутуе ад людскіх праблем і сабака з аповесці Кафкі апошніх гадоў – «Даследаванне аднаго сабакі» Прыгадаем апошнія словы, якія пранесліся ў свядомасці Ёзэфа К. перад тым, як вострае лязо ката́ дакранецца яго шыі: «як сабака». Чалавечыя пакуты выпалі нават на долю моста, халоднага і цвёрдага, перакінутага праз ручай над прорвай непадступнай кручы, куды не залазіў яшчэ ніводзін турыст Можа і не патрэбны гэты мост нікому, балазе ён не пазначаны на карце Цяжка і няёмка ляжаць над прорвай· з аднаго боку рукі ўвайшлі ў зямлю, з другога –ногі Фалды каптана матляюцца па баках. Унізе чутно, як струменіць ледзяны паток, у якім плюхаецца стронга. Раскрыжаваны над прорвай чалавек-мост чакае Яму нічога не застаецца, акрамя гэтага Чакаць каго? Таго, каму спатрэбіцца дапамога Чакаць і блукаць у думках па гарах і лагчынах. . Чакаць, пакуль разваліўся Нарэшце, мост адчуў на сабе прахожага, той выстукаў яго жалезным наканечнікам свайго кія, а потым скочыў абедзвюма нагамі на сярэдзіну тулава Мост скалануўся ад дзікага болю і павярнуўся, каб убачыць прахожага. Не паспеўшы павярнуцца – абрынуўся на вострыя камяні, якія дагэтуль ветліва пазіралі на яго з вады. Мост выканаў сваё прызначэнне. Толькі ў чым яно было?

Гэта маленькая прыпавесць вельмі характэрная для творчага мыслення Кафкі – філосафа, які знайшоў незвычайныя спалучэнні ірэальнага і сваіх душэўных пакут. А дакладней, ён іх не шукаў Ён проста даверыўся сабе, сваім начным прывідам. Карацей кажучы, асмеліўся апісаць начныя кашмары як сапраўднае жыццё, надаючы сваім снам ролю мастацкага прыёму Сон як рэчаіснасць. Сон без абуджэння. Кашмар без надзеі Чаму Кафка баяўся друкавацца – аддаваць людзям свае творы? Не хацеў рушыць залаты сон чалавецтва? Ягоі тугу па падману? – «Нас узвышаючы падман?» Не хацеў быць Касандрай? Баяўся ці шкадаваў чалавека?





Кафка прарочыў чалавецтву лабірынты таталітарызму, неабмежаванасць улады, дзяржаўныя карныя калоніі. Калоніі, Зоны, Лагеры. Напрарочыў і сваю бяду: тры яго сястры загінулі ў канцлагеры. Канкрэтны бюракратычны апарат Аўстра-Венгрыі перыяду заняпаду ў яго фантасмагарычных снах уяўляецца Замкам, да якога нават не дайсці, не кажучы пра тое, каб прабрацца ў яго нетры. Мноства кастэлянаў, упраўленцаў, іх памочнікаў, наменікаў курыруюць вёску, шчыруюць на палетках кіравання, і кожны запалохвае, страшыць, моц і ўладу паказвае. А тыя жыхары вёсачкі, забітыя і затурканыя, са сплюшчанымі галовамі, у змрочным шэрым надвор'і соўгаюцца туды-сюды па бясконцых калідорах улады.:. Людзі гэтыя ўжо неяк прызвычаіліся да сваёй долі. Толькі прыбыўшы звонку землямер аніяк не знойдзе спакою, яго доля раскрыжаваная паміж Замкам, куды ён не можа наблізіцца, і вёскай, дзе ён вечна чужы. На думку М.Брода, тут залягае іудаісцкая ідэя, а вобраз К.– увасабленне габрайскага лёсу.

Дзяржава – гэта не толькі тое, што цісне звонку. Гэта Замак у самой асобе; галерэі інструкцый, пастаноў, маральных забарон, прымхаў, карацей кажучы, прывіды ўлады. Замак сцвярджае парадак, але парадак канцлагера, зоны. Замак усярэдзіне – гэта турма, якую чалавек успрымае як палац, калі з дзяцінства яго прывучылі да веры ў разумнасць пастаноў і газетных заклікаў. Уся творчасць Кафкі – адно бясконцае эсэ пра страх і чалавека. «Я бачу сябе пад самім сабой, як пад цяжкім крыжам, ён прыціснуў мяне, я раздушаны». З такім адчуваннем Кафка сустракаў кожную раніцу.

Прапанаваная пісьменнікам манера пісаць, у чым пераконвае практыка мастацкай літаратуры другой паловы XX стагоддзя, прыйшлася даспадобы многім. Як успамінае Сімона дэ Бавуар, жонка Жан Поля Сартра, яны пазнаёміліся з раманамі Кафкі ў 1934 годзе і адкрылі новы тып стасункаў чалавека і свету. Габрыель Гарсія Маркес, разважаючы, як ён пачаў пісаць і хто найбольш паўплываў на яго, прыгадвае рускіх класікаў, Біблію, перадусім сваю бабулю і Фолкнера, а потым дадае, што пачаў пісаць толькі пасля таго, як прачытаў Кафку і даведаўся, што так можна пісаць. Відаць, гэта «так можна» разняволіла многіх рэалістаў нашага стагоддзя і яны пачалі рабіць тое, што раней не было магчыма. Зараз мяжа паміж рэалізмам і нерэалізмам бывае ледзьве адчувальная. Калі ў мінулым стагоддзі Стэндаль параўнаў раман з люстэркам, якое праносяць па дарогах жыцця, то сёння яно – гэтае люстэрка, хутчэй разбітае, у аскепках тое-сёе можна і пазнаць. Сёння, у эпоху постмадэрнізму, мастацтва лічыць за лепшае разглядаць у люстэрку самое сябе ці мастака.

І Гашак, і Кафка аднолькава не маглі ўжыцца з абсурдам, востра рэагавалі на яго. Не маглі прыстасавацца. Абодва знаходзілі паратунак у творчасці. Адзін даверыў паперы свае кашмарныя сны і жахі, свой боль ад марнавання чалавечых пачуццяў, ад недаверу да асобы Другі знаходзіў паратунак з дапамогай смеху· абсурду бюракратызаванай Аўстра-Венгерскай манархіі ён супрацьпаставіў абсурд гульні са зместам і словам, падмяняючы высокае нізкім, падзеі гістарычныя натуральна-побытавымі. Чаго каштуе гэты зачын? Пані Мюлерава, пакаёўка Швейка, паведамляе пра забойства эрцгерцага Фердынанда. Швейк афіцыйна прызнаны вайсковай лякарскай камісіяй за ідыёта, пакінуў вайсковую службу, жыве продажам сабак, нечыстакроўных істот, якім ён падробляў радаводныя, зацікаўлена рэагуе на словы пакаёўкі і, націраючы калені лекамі ад рэўматызму, з захапленнем пачынае разважаць. «Які ж гэта Фердынанд, пані Мюлерава? – запытаўся Швейк.– Я ведаю двух Фердынандаў. Адзін працуе падручным у драгерыі Прушы і аднойчы памылкова выпіў пляшку вадкасці для росту валасоў, а другі – Фердынанд Кокашка, што збірае сабачае дзярмо. Абодвух няма чаго шкадаваць». І як кажуць, пайшло-паехала, Швейк за словам у кішэню не палезе, яны з яго сыплюцца, як з чароўнага рога. Ідыёт? Успомнім, якія трапныя адказы ён дае на сапраўды ідыёцкія пытанні пад час ваенна-медыцынскай судовай экспертызы: «Якая найбольшая глыбіня ў Ціхім акіяне? Гэтага я, прабачце, не ведаю, але мяркую, што яна будзе большая, чым ля Вышаградскай скалы на Влтаве». Вось другое пытанне экспертаў: «Колькі будзе памножыць 12897 на 13863?» «729» – не міргнуўшы вокам адказаў Швейк. Апынуўшыся перад камісіяй, у якой сядзелі тры надзвычай сур`ёзныя паны, Швейк закрычаў: «Няхай жыве імператар Франц Ёзэф І!» «Вы верыце ў канец свету?» – сур`ёзна запытаўся ў Швейка адзін з урачоў? «Перш-наперш я хацеў бы гэты канец убачыць»,– адказаў Швейк. Пасля гэтага калегія аднадушна прыйшла да высновы, што Швейк хранічны ідыёт, пра што пераканаўча сведчыць ягоны выкрык:

крысы майго сурдута і расправіў іх на мне. Канец кійка ён усунуў у мае кусцістыя валасы і надоўга пакінуў яго там, дзіка азіраючыся наўкола Але пасля – мне якраз здавалася, што ён ужо за гарамі ды за лясамі – ён скочыў абедзвюма нагамі акурат на сярэдзіну майго цела. Я здрыгануўся ад нечаканага болю, нічога не разумеючы Хто гэта быў? Дзіця? Сон? Разбойнік? Самазабойца? Спакуснік? Вынішчальнік? Я павярнуўся, каб яго ўбачыць. Мост перакульваецца! Не паспеўшы яшчэ павярнуцца, я ўжо абрынуўся і быў насаджаны на вострыя каменьчыкі, што так спакойна ўзіраліся ў мяне з шалёна-бурлівай вады.

# ПРАЎДА ПРА САНЧА ПАНСУ

Санча Панса, ніколі тым, зрэшты, не выхваляючыся, увечары і днём даваў д'яблу, якога ён пазней назваў Дон Кіхотам, мноства рыцарскіх і разбойніцкіх раманаў і, дзякуючы гэтаму, з цягам часу здолеў адвесці ад сябе ўвагу так, што потым той д'ябал нястрымна рабіў самыя вар'яцкія ўчынкі, але яны нікому не шкодзілі з-за адсутнасці аб'екта гэтага вар'яцтва, якім меўся быць менавіта Санча Панса. І вольны чалавек Санча Панса спакойна-абыякава, а можа, з пэўным пачуццём адказнасці, таварышаваў Дон Кіхоту ў ягоных вандроўках і да канца сваіх дзён меў праз тое сабе добрую і карысную забаву.

# МАЎЧАННЕ СІРЭН

Доказ таго, што малыя, дый нават дзіцячыя сродкі могуць дапамагаць уратаванню:

Каб засцерагчыся ад сірэн, Адысей напхаў сабе ў вушы воску і загадаў прыкуць сябе да мачты. Штось падобнае маглі б, вядома, здаўна рабіць усе вандроўнікі, апроч тых, якіх сірэны спакушалі ўжо здалёк, але ва ўсім свеце было вядома, што гэта ніяк не дапамагала. Спеў сірэн пранікаў ва ўсё, а палкасць спакушаных знішчыла б не толькі ланцугі ды мачты. Але Адысей пра гэта не думаў, хоць, магчыма, даўно пра гэта чуў. Ён цалкам даверыўся прыгаршчы воску ды гурбе ланцугоў і, наіўна цешачыся са сваіх хітрыкаў, плыў насустрач сірэнам.

Аднак у сірэн ёсць жахлівейшая за спеў зброя, а менавіта маўчанне Хоць такога

матыў геданізму ў літаратуры. Адзінае моцнае пачуццё, якому ён мог аддацца дарэшты, было эрасам самае літаратуры.

4

Дзень службоўца страхавой канторы Франца Кафкі дзяліўся нябачнай рысаю на дзве часткі. У першай ён, як і ягоны «двайнік» Рыгор Замза, старанна выконваў службовыя абавязкі, даручэнні, трымцеў перад начальствам, хаця і мог дазволіць сабе нечаканыя штукарствы, на якія, аднак, ніхто не звяртаў такой вялікай увагі, як ён сам. Пасля службы, а другой гадзіне апоўдні ён варочаўся дахаты і клаўся спаць. Увечары былы службовец перажываўператварэнне – ён паглыбляўся ў свет, дзе былі кнігі, пісьмовы стол, рукапісы. Ён пісаў гадзінамі, дазваляючы сабе пад самую раніцу кароткі сон. Часам сну не было наогул. А часам ява пераходзіла ў сон гэтаксама незаўважна, як гэта адбывалася з насельнікамі ягоных твораў. Даходзіла да таго, што некаторыя рэчы мроіліся яму наяве.

Гэткі самы незаўважны пераход явы ў сон – у «Ператварэнні», «Вясковым лекары», «Выкрыцці махляра», «Вершніку на скрыні» і дзесятках іншых навелаў, абразкоў, прыпавесцяў Кафкі. Большасць ягоных твораў, як адзначалася, створаны паводле паэтыкі сну-бачання. Але гэта не проста занатаваныя сны, як лічаць некаторыя. Занатоўваць – значыць адчуваць рысу паміж рэальным ды ірэальным. У свеце Кафкі такой рысы не існуе.

Ён выразна адчуваў розніцу паміж унутранай воляй, імкненнем тварыць – і тым, што гэтую волю стрымлівае, нявечыць. Адзін з атрыбутаў варожасці наваколля, знак, які ўжываў Кафка для вызначэння





ніколі не было, але можна ўявіць, што некаму ўдалося б уратавацца ад іхняга спеву, але ад маўчання – ніколі. Ніщто зямное не можа супрацьстаяць пачуццю магутнейшай за ўсё іншае пыхі, якая ўзнікае ў таго, хто перамог сірэн сваімі сіламі.

І сапраўды, усеўладныя пявунні не спявалі, калі прыбыў Адысей, – ці з тае прычыны, што яны меркавалі справіцца з гэтым супернікам адно пры дапамозе свайго маўчання, ці таму, што яны забыліся на ўсякія спевы, убачыўшы бясконца шчаслівы твар Адысея, які думаў толькі пра ланцугі ды воск.

Але Адысей, так бы мовіць, не чуў іхняга маўчання, думаў, што яны спяваюць і што толькі ён абаронены ад таго, каб чуць іх спеў. Яго пагляд слізгануў па выгінах іх шыяў, па абліччах з адбіткамі глыбокіх уздыхаў, па вачах, запоўненых слязьмі, па напалову раскрытых ратах; але яму падумалася, што ўсё гэта мае дачыненне да арый, якія, непачутыя, сціхаюць вакол яго. Неўзабаве, аднак, усё знікла перад ягоным позіркам, скіраваным удалеч; сірэны літаральна знікалі, сустрэўшыся з яго рашучасцю, і тады, калі Адысей быў да іх найбліжэй, ён ужо нічога пра іх не ведаў.

Але яны – прыгажэйшыя, чым калі-небудзь раней выпросталіся і круціліся, дазвалялі ветру вольна развяваць свае пачварныя валасы і свабодна выпускалі на скалах свае кіпцюры. Яны ўжо не прагнулі спакушаць, а хацелі адно як найдаўжэй лавіць водбліск вялікіх Адысеевых вачэй

Калі б сірэны мелі свядомасць, яны б былі проста знішчаныя Але яны вытрывалі, адно толькі адпусцілі Адысея.

Зрэшты, паданне захавала яшчэ адну версію. Адысей быў нібыта такі падступны і хітры, такі ліс, што нават багіні Наканавання не маглі даведацца яго найпатаемнейшых думак. Можа, – хоць гэта не спасцігаецца чалавечым розумам, – ён і сапраўды заўважыў, што сірэны маўчалі, і, пэўным чынам, толькі схаваўся перад імі ды перад багамі за вышэй апісаным позіркам, як за шчытом.

# ПРАМЕТЭЙ

Чатыры паданні апавядаюць аб Праметэі: паводле першага – яго прыкавалі да каўказскае скалы, бо ён здрадзіў багам дзеля людзей і багі наслалі арлоў, што з'ядалі пячонку, якая зноў і зноў адрастала.

Паводле другога – невыносны боль ад удараў дзюбаў прымушаў Праметэя глыбей і глыбей уціскацца ў скалу, аж пакуль ён зусім не зліўся з ёю.

гэтай варожасці, – кайданы. У дзённікавым запісе ад 15 сакавіка 1914 года ён адзначае: «За трунай Дастаеўскага студэнты хацелі несці ягоныя кайданы. Ён памёр у рабочым квартале, на чацвёртым паверсе даходнага дома». Агульнавядомае выказванне Кафкі пра тое, што «ланцугі пакутнага чалавецтва зробленыя з канцылярскай паперы». «Кайданамі», «ланцугамі» ў ягоным уяўленні было ўсё, што звязвае творчае волевыяўленне мастака, у тым ліку служба, сямейнае жыццё, побыт, нават добраўпарадкаваны. Праявы такога побыту бачацца мастаку як штось нежывое, цяжкое, пагрозлівае.

Але, як адзначалася вышэй, рысы паміж рэальным ды ілюзорным у свеце Кафкі не існавала. І вось гэтае нежывое і цяжкое пранікае ў ягоныя творы, напаўняе ягоныя сны кашмарамі, набывае вычварныя формы, застывае ў згустках мёртвага рэчыва, у выглядзе страшных, «нефункцыянальных» рэчаў. Якраз гэтыя застыглыя і раз`яднаныя кавалкі быцця робяць свет Кафкі змрочным і дыскамфортным, яны галоўным чынам і ствараюць настрой тугі, безвыходнасці і адчужанасці, які пануе ў творах. Яны надаюць гэтаму свету рысы гратэскавасці і адчужанасці і адначасна – дапамагаюць пазнаць у ім знаёмыя рэчы ў іх ператворанай якасці. Яны фармуюць непаўторны Кафкаў хранатоп.

Гэта прастора з шматлікімі калідорамі, галерэямі і сходамі, што вядуць у тупікі або нікуды. Тое ж і з вулкамі, дарогамі, што могуць неспадзявана крута ўзняцца ўгару, могуць гадзінамі весці падарожнага да блізкае, здавалася, мэты, а ўрэшце яшчэ больш аддаліць ад яе. Гэтыя дарогі-вулкі робяць бессэнсоў-

Паводле трэцяга – ягоная здрада на працягу тысячагоддзяў забылася, забылася багамі, арламі, ім самім.

Паводле чацвёртага – усе стаміліся ад таго, што страціла сэнс свайго наканавання. Стаміліся багі, стаміліся арлы, у стоме зацягнулася рана.

Засталіся невытлумачальныя скалы. Паданне спрабуе растлумачыць невытлумачальнае. Паколькі ж яно бярэ пачатак з глыбіні праўды, скончыцца яму наканавана зноў у невытлумачальным

# ПАСЕЙДОН

Пасейдон сядзеў за рабочым сталом і лічыў. Кіраванне ўсімі водамі вымагала бясконца вялікай працы. Ён мог бы мець колькі заўгодна памочнікаў і меў іх вельмі шмат, але, надта сур'ёзна ставячыся да сваёй службы, ён яшчэ раз правяраў усе падлікі – так што з памочнікаў карысць была вельмі малая. Нельга сказаць, што гэтая праца цешыла яго: ён рабіў яе, уласна кажучы, толькі таму, што яна была яму даручана; ну, і ён ужо шматкроць шукаў сабе працы, паводле яго выказвання, весялейшай – але заўсёды, калі яму рабіліся нейкія прапановы, высвятлялася, што яму нічога лепей не падыходзіць, як цяперашняя служба. І было цяжка знайсці для яго нешта іншае. Не было ж магчымасці, прыкладам, выдзеліць яму нейкае канкрэтнае мора – не кажучы ўжо пра тое, што тут вылічэнні былі колькасцю не меншыя, а толькі драбнейшыя; да таго ж вялікаму Пасейдону выпадала займаць адно такую пасаду, якая б давала ўладу. А калі яму прапаноўвалася служба па-за воднымі абшарамі, ён ніякавеў ад аднае гэткае думкі· ягонае боскае дыханне давала перабоі, а магутныя грудзі пачыналі калаціцца. Зрэшты, яго скаргі сур'ёзна не ўспрымаліся; калі ўладар назаляе, дык трэба зрабіць выгляд, што саступаеш яму – нават у самай безнадзейнай справе; пра тое ж, каб у сапраўднасці пазбавіць Пасейдона пасады, ніхто і не думаў· ён ад веку быў прызначаны марскім богам, і так яно павінна было заставацца.

Найбольш ён злаваўся – а галоўнай прычынаю таго была яго незадаволенасць сваёй пасадай, – калі чуў, якія ў іншых скlаліся ўяўленні пра яго. нібыта ён увесь час гойсаў па марскіх абшарах з трызубцам у руцэ. Тым часам ён сядзеў тут, у глыбіні акіяна, і безупынна лічыў; і толькі час ад часу падарожжы да Юпітэра разбуралі гэтую аднастайнасць; зрэшты, то былі падарожжы, з якіх ён часцей за ўсё вяртаўся раз'юшаны. Гэтак вось ён амаль што не бачыў мораў – хіба што вобмегам, спешна ўзносячыся да Алімпа; ён па-сапраўднаму іх ніводнага разу і не аб'ехаў. Звычайна ён казаў, што чакае з гэтым да сканчэння свету: калі, перад самым канцом, пасля прагляду апошняга разліку, яшчэ надарыцца магчымасць хуценька зрабіць невялікі аб'езд.

# СУПОЛЬНАСЦЬ

Нас пяцёра сяброў; некалі мы адзін за адным выйшлі з дома; напачатку пайшоў першы і спыніўся пад брамаю, потым выйшаў – а хутчэй лёгка слізгануў, нібы ртутны шарык – з тае брамы другі, спыніўшыся непадалёк ад першага, потым трэці, потым чацвёрты, потым пяты. Урэшце, мы ўсе стаялі ў адным шэрагу. Людзі пачалі на нас звяртаць увагу, паказваць на нас, кажучы: «Гэтыя пяцёра вось цяпер выйшлі з гэтага дома». З таго часу мы жывём разам, і жыццё наша было б мірнае, каб раз-пораз у яго не ўмешваўся нехта шосты Ён нічога нам не робіць, але назаляе – і гэтага досыць; навошта ён лезе да нас, калі мы таго не хочам? Мы яго не ведаем і не жадаем прымаць да сябе. Што праўда, мы, пяцёра, раней таксама не ведалі адзін аднаго і, калі хочаце, не ведаем і цяпер, але тое, што можа быць сярод нас пяцёх, не магчымае і няможна цярпець з тым шостым. Акрамя таго, нас пяцёра і мы не хочам быць ушасцёх. І наогул, які сэнс мае гэтае пастаяннае суіснаванне? Сярод нас пяцёх яно таксама сэнсу не мае, але ж мы ўжо разам, і разам застаёмся, а новай суполкі нам не трэба – менавіта калі браць пад увагу наш досвед. Але як гэта растлумачыць таму, шостаму? Доўгія тлумачэнні сведчылі б пра тое, што ён ужо амаль прыняты ў нашае кола; мы лепей нічога не будзем тлумачыць і не будзем яго прымаць да сябе Няхай ён надзімаецца, колькі хоча; мы адпіхнём яго локцямі, але ж як яго ні адпіхвай, ён усё адно вернецца.

# КРУМКАЧ

Жыў-быў адзін крумкач, які дзёўб мае ногі Боты і панчохі ён мне ўжо прадзёр, а цяпер дзёўб самыя ногі. Ён наносіў удары дзюбаю, потым неспакойна кружляў вакол мяне, потым працягваў сваю працу Побач праходзіў нейкі спадар і спытаўся, чаму я не праганю крумкача.

– Я ж без зброі, – быў мой адказ. – Ён прыляцеў і пачаў дзяўбці; я, вядома ж, хацеў яго адагнаць, спрабаваў яго нават задушыць, ды гэтая жывёліна вельмі дужая,

ным, невытлумачальным усялякі рух:

«Калі мы ўначы прагульваемся па вуліцы і ў наш бок бяжыць нейкі чалавек, відочны ўжо здалёк – бо вуліца перад намі ідзе ўгару, а ў небе поўня, – мы не будзем спрабаваць яго схапіць, нават калі ён слабы і ўвесь у рызманах, нават калі за ім галёкаючы бяжыць нехта яшчэ, а дазволім яму бесперашкодна бегчы далей.

Бо цяпер ноч, і не з нашае віны вуліца ў ззянні поўні ідзе перад намі ўгару; ну і, апроч, мажліва, што абодва гэтыя чалавекі ганяюцца адзін за адным дзеля сваёй забавы; а можа, абодва яны гоняцца за некім трэцім; мажліва, што за першым гоняцца, а ён і не вінаваты; мажліва, што другі хоча забіць першага – і тады мы зробімся саўдзельнікамі ў злачынстве; мажліва таксама, што гэтыя двое нічога адзін пра аднаго і не ведаюць і кожны бяжыць сам сабе, каб адно хутчэй дабрацца да свайго ложка; а можа, гэта лунацікі, можа, той першы – узброены.

А ўрэшце, ці не маем мы права адчуваць стому, ці не выпілі мы шмат віна? Нам усцешна, што ўжо і той другі чалавек знік з нашых вачэй» («Прабяганне людзей»).

Кватэры, падобныя на турмы, судовыя памяшканні, падобныя на кватэры, ні на што не падобныя саборы і замкі, мэбля і хатняе начынне, галоўная функцыя якіх – ускладняць, абцяжарваць людскае жыццё. Нарэшце, самі насельнікі Кафкавага хранатопу – найчасцей чыноўнікі, лекары, юрысты, гандляры, а поруч з імі – гіганцкія жамярыны і краты, вершнікі, што раз'язджаюць на пустых скрынях з-пад вугалю. У гэтым свеце людзі могуць прыпадобніцца мёртвым дрэвам у снезе, шакалы – загаманіць чалавечымі галасамі, а жалезабетонны мост – адчуць пакуту і боль.

Гэты свет цяжка ўпадабаць, яшчэ цяжэй навучыцца жыць у ім ці нават звыкнуцца з магчымасцю існавання ў такім свеце. Тым больш уражвае адкрыццё ўласнай спрычыненасці да гэткага існавання, што прыходзіць па прачытанні Кафкавых рэчаў.

5

Ёсць простае тлумачэнне дзіўнаму, здавалася, жаданню Кафкі – знішчыць уласныя творы, пры ягонай апантанай улюбёнасці ў літаратуру.

Ён сапраўды любіў літаратуру і кнігі – калі гэта былі не ягоныя кнігі.

Ён кленчыў перад Гётэ, сваім літаратурным «бацькам», і не раз, параўноваючы свае рэчы з ягонымі, падкрэсліваў уласныя літаратурныя нямогласць і дылетантызм. Разам з тым ён употай радаваўся, прыкмеціўшы слабіну ў сваіх літаратурных куміраў.

У дачыненні да сябе «літаратураю» ён лічыў адно працэс тварэння, пісьма, снубачання. Да прадукту тварэння – рукапісаў, асабліва кніг – ён ставіўся з нашмат меншай цікавасцю, часта – зусім абыякава, яшчэ часцей – з грэблівасцю. «Чытаючы карэктуру «Прысуду», я выпісваю ўсе сувязі, якія мне сталі зразумелыя ў гэтай гісторыі, наколькі я іх цяпер бачу перад сабой. Гэта неабходна, бо аповед з`явіўся з мяне на свет, як пры сапраўдных нарадзінах, абкрыты брудам і сліззю, і толькі мая рука можа й хоча пранікнуць у цела...» (З «Дзённікаў»).

Магчыма, нават уласнае выдрукаванае слова рабілася ў ягоных вачах чымсь змярцвелым – як тое няўтульнае быццё, што замінала творчае волі. Як

кінулася мне проста ў твар, і я палічыў за лепшае ахвяраваццa нагамі. А цяпер яны ўжо амаль што разадраныя.

– Навошта сябе гэтак мучыць? – прамовіў спадар. – Адзін стрэл – і з крумкачом скончана.

– Няўжо? – спытаў я. – І вы б маглі зрабіць гэта?

– З ахвотай, – адказаў ён, – мне толькі трэба пайсці дадому і ўзяць стрэльбу. Ці не маглі б вы пачакаць яшчэ паўгадзіны?

– Гэтага я не ведаю, – сказаў я і на хвілю здранцвеў ад болю, а потым дадаў:

– Калі ласка, паспрабуйце, на ўсялякі выпадак.

– Добра, – адказаў той спадар, – я паспяшаюся.

Калі мы размаўлялі, крумкач спакойна прыслухоўваўся, пераводзячы свой позірк то на мяне, то на таго спадара. Цяпер я зразумеў, што ён пра ўсё здагадаўся: узляцеў высока ў паветра, выгнуўся назад, каб узяць добры разгон, і, нібы кідальнік кап'я, уткнуў дзюбу глыбока ў мяне, праз мой рот. Падаючы, я з палёгкай адчуў, як ён захлынуўся ў маёй крыві, што запоўніла ўсе глыбіні і пералівалася цераз усе берагі.

# ВАЎЧОК

Адзін філосаф заўсёды швэндаўся там, дзе бавіліся дзеці. І калі аднаго разу ён убачыў хлопчыка з ваўчком, дык адразу ж затаіўся. Як толькі ваўчок пачынаў круціцца, філосаф кідаўся за ім, спрабуючы злавіць. Тое, што дзеці галёкалі, імкнучыся адвярнуць ягоную ўвагу, яго не турбавала; а калі ўдавалася схапіць ваўчок, што круціўся, філосаф рабіўся шчаслівы, але толькі на нейкую хвілю; потым ён шпурляў ваўчок на зямлю і сыходзіў. Бо ён верыў, што, спазнаючы кожную драбніцу – прыкладам, ваўчок, які круціцца, – ён у дастатковай меры спазнае агульныя законы. Таму ён не займаўся вялікімі праблемамі: гэта ён лічыў лішнім. Калі пасапраўднаму спазнавалася найдрабнейшая драбніца, значыць, паводле яго, спазнавалася ўсё – таму ён займаўся толькі ваўчком, які круціцца. І заўсёды, калі збіраліся запусціць ваўчок, філосаф меў надзею, што цяпер ён дасягне свайго; а калі ваўчок круціўся, а ён, задыхаўшыся, лётаў за ім, гэтая надзея рабілася ўпэўненасцю; але калі ён пасля трымаў у руках гэты кавалак дрэва, яму рабілася нядобра, і дзіцячы крык, якога ён перад тым не чуў і які цяпер нечакана гучаў у яго вушах, праганяў яго прэч; ён ківаўся туды-сюды, нібы ваўчок, які гоняць нязграбнымі ўдарамі бізуна.

**Пераклаў з нямецкай Лявон БАРШЧЭЎСКІ**

**бясформенны прах, што застаўся ад чалавека-жамярыны Рыгора Замзы. Варты адно спалення.**

**Кафка не хацеў пакідаць пасля сябе ланцугі, зробленыя з паперы.**

*******

**Тое, што адбываецца з творчай асобай Кафкі ў сённяшнім літаратурным кантэксце, таксама ёсць ператварэнне – але яно закранае перадусім нас, ягоных цяперашніх чытачоў. Ператвараецца нашае ўспрыманне майстра, загнанага тэндэнцыйнай, афіцыёзнай крытыкай у шэрагі «апалагетаў буржуазіі», «заражаных песімізмам і пафасам разбурэння».**

**У амерыканскага фантаста Рэя Брэдберы ёсць навела, якая з'яўляецца адметнай рэмінісцэнцыяй «Ператварэння». У гэтым творы чалавек таксама, як і Замза, абрастае хіцінавым панцырам, змяняецца ў кукалку. Навакольныя з жахам чакаюць наступстваў. Але ператвораны перахітрыў усіх. Па выхадзе з бездапаможнага стану, які ўсе палічылі незвычайнай хваробай, ператвораны чалавек набывае вялікія, бы ў матыля, крылы і адлятае – немаведама куды.**

**У кантэксце гэтае рэчы сама таямніца Кафкавага духу выглядае больш светлай, узвышанай. З іншым пачуццём мы будзем разглядаць сляды ягонага ператварэння – тое, што некаму магло падацца змярцвелым прахам, адкінутым панцырам, аскепкамі існавання.**

**Гэты пыл і друз выглядае інакш, бо асветлены промнем Першаслова – хай сабе і безліч разоў адбітым, мігатлівым, трывожным.**

Пятро ВАСЮЧЭНКА





# ПРЫГОДЫ БРАВАГА САЛДАТА ШВЕЙКА Ў СУСВЕТНАЙ ВАЙНЕ

**Частка I.**

## У ТЫЛЕ.

**Уступ**

**Вялікая эпоха патрабуе вялікіх людзей. Бываюць непрызнаныя героі, сціплыя, без славы і гісторыі Напалеона. Але аналіз іх дзейнасці мог бы засланіць славу нават самога Аляксандра Македонскага. Вы і зараз можаце сустрэць на пражскіх вуліцах бедна апранутага, у паношаным адзенні чалавека, які нават і не здагадваецца пра тое, што ён значыць у гісторыі новай, вялікай эпохі. Ён сціпла ідзе сваёй дарогай, ні да кога не чапляецца, і да яго журналісты не прыстаюць з просьбай пра інтэрв'ю. Калі б вы запыталіся ў яго, як ягонае прозвішча, ён проста і сціпла адказаў бы: «Я – Швейк...»**

**І сапраўды гэты сціплы, ціхі, у абносках мужчына і ёсць той самы бравы салдат Швейк, адважны герой, імя якога калісьці пры Аўстра-Венгрыі было на вуснах усіх грамадзян Чэшскага каралеўства і слава якога не пагасне і ў Рэспубліцы.**

**Я вельмі люблю бравага салдата Швейка, і падаючы чытачам яго прыгоды падчас (першай) сусветнай вайны, я перакананы, што ўсе вы будзеце сімпатызаваць гэтаму сціпламу, непрызнанаму герою. Ён не падпаліў храм багіні ў Эфесе, як гэта зрабіў дурны Герастрат, каб трапіць у газеты і школьныя чытанкі.**

**І гэтага цалкам дастаткова.**

**Аўтар**

### Раздзел I

### Як бравы салдат Швейк ублытаўся ў сусветную вайну

«Ці чулі, укадлушылі нашага Фердынанда», – сказала служанка пану Швейку, які некалькі гадоў таму пакінуў вайсковую службу, калі медыцынская камісія канчаткова прызнала яго ідыётам. Цяпер гэты гіцаль прадаваў сабак – агідных пачвар, якім ён падрабляў фальшывыя радаслоўныя.

Апрача гэтага занятку ён яшчэ пакутаваў ад раматусу і якраз у той момант націраў сабе калені ападэльдокам[1].

«Якога Фердынанда, пані Мюлерава? – спытаў Швейк, не перастаючы масіраваць свае калені. – Я ведаю двух Фердынандаў Адзін служыць у аптэкара Прушы; аднойчы ён там памылкова выпіў бутэльку нейкай вадкасці для росту валасоў. А яшчэ я ведаю Фердынанда Кокашку, які збірае сабачае гаўно. Абодвух не шкода».

«Не, васпане, эрцгерцага Фердынанда. Таго з Конапішцы, такога тоўстага, пабожнага».

«А божачкі! – ускрыкнуў Швейк. – Вось табе і маеш! А дзе ж гэта з панам эрцгерцагам здарылася?»

«Пальнулі па ім з рэвальвера ў Сараеве, васпане. Ён ехаў сабе з эрцгерцагіняй у машыне».

«Глянь ты, пані Мюлерава, у машыне .. Вядома ж, такі пан можа сабе гэта дазволіць. І нават не падумаў, што аўтамабільная паездка можа гэтак скончыцца. Ды яшчэ ў Сараеве! Гэта ж Боснія, пані Мюлерава. Мусіць, туркі падрабілі. Адным словам, не трэба было нам тую Боснію з Герцагавінай браць... Вось якія справы, пані Мюлерава. Эрцгерцаг, напэўна, ужо сканаў. Доўга пакутаваў?»

«Адразу – нябожчык, васпане. А нягож! З рэвальвера –якія жартачкі. Нядаўна ў нас

1 Ападэльдок – мыльна-камфорная мазь з нашатырным спіртам, спіртам і эфірнымі масламі (алеямі).

у Нуслях адзін чалавек таксама гуляў з рэвальверам, дык перастраляў усю сям`ю і вахцёра, які прыйшоў паглядзець, хто гэта там страляе на чацвёртым паверсе».

«Іншы рэвальвер, пані Мюлерава, хоць трэсні – не стрэліць. Залежыць ад устройства. Такіх сістэм – мноства. Але на пана эрцгерцага яны, напэўна, купілі самую лепшую. І я гатовы паспрачацца, пані Мюлерава, што той чалавек, які страляў у эрцгерцага, прыгожа апрануўся Вядома, страляць у эрцгерцага – вельмі цяжкая праца. Не тое, што браканьеру падстрэліць лесніка. Галоўнае, як да яго дабрацца Да такога пана ў лахманах не падыдзеш. Абавязкова трэба ісці ў цыліндры, інакш цябе адразу злапае паліцэйскі».

«Кажуць, васпане, іх там было некалькі»

«Само сабою зразумела, пані Мюлерава, – сказаў Швейк, скончыўшы масаж каленяў. – Калі б вы, скажам, хацелі забіць пана эрцгерцага або самога імператара, то абавязкова з некім параіліся б. Адна галава добра, а дзве – лепш Адзін параіць адно, другі – іншае, і справа закончыцца поспехам, як спяваецца ў нашым гімне. Асноўнае разнюхаць, калі такі пан праедзе побач. Як той пан Лукені, які, памятаеце, праткнуў напільнікам нашу нябожчыцу Альжбету. А яшчэ шпацыраваў з ёю. Вось і верце некаму пасля гэтага: з тае пары ніводная імператрыца цяпер не ходзіць на шпацыр. Яшчэ з многімі людзьмі тое будзе. Пабачыце, пані Мюлерава, яны яшчэ дабяруцца і да расейскага цара з царыцай, а можа нават – крый Божа! – і да нашага гасудара імператара, раз ужо яны пачалі з ягонага дзядзькі У гэтага старога шмат ворагаў, – напэўна, больш, як у таго Фердынанда Нядаўна ў шынку адзін чалавек казаў, што прыйдзе час, калі імператары будуць гінуць адзін за адным, і не дапаможа ім нават дзяржаўная пракуратура. Потым аказалася, што ў яго не было чым разлічыцца, і шынкар прымусіў яго спешна знікнуць. Але той даў шынкару поўху, а паліцыянту – дзве Яго забралі і павезлі ў палукашку, каб ачуняў Та-а-к, пані Мюлерава, дзіўныя рэчы цяпер дзеюцца. Гэта яшчэ адна страта для Аўстрыі Калі я быў у войску, дык там адзін пехацінец застрэліў капітана. Ён зарадзіў ружжо і пайшоў у канцылярыю. Яму сказалі, што тут рабіць яму няма чаго, але ён – усё сваё. яму трэба пагаварыць з капітанам. Гэты капітан выйшаў і адразу ўляпіў яму казарменны арышт Той узяў ружжо і – бах яму проста ў сэрца. Куля з капітана вылецела праз спіну і яшчэ нарабіла шкоды ў канцылярыі: разбіла бутэльку з чарнілам, якое разлілося на службовыя дакументы»

«А што сталася з тым салдатам?» – спыталася хвілінай пазней пані Мюлерава, калі Швейк ужо апранаўся

«Павесіўся на шлейках, – адказаў Швейк, чысцячы свой брыль. А тыя шлейкі былі не ягоныя Пазычыў іх у турэмнага вартаўніка: быццам бы ў яго спадаюць штаны Дык што ён, па-вашаму, павінен быў чакаць, пакуль яго расстраляюць? Вядома ж, пані Мюлерава, у такой сітуацыі ў любога галава ідзе кругам. Турэмнага вартаўніка пазбавілі годнасці і пасадзілі на шэсць месяцаў Але ён іх не адседзеў Уцёк да швейцарцаў і зараз прапаведуе ў нейкім храме. Цяпер, пані Мюлерава, прыстойных людзей мала. Думаецца мне, што эрцгерцаг Фердынанд у Сараеве таксама памыліўся ў тым чалавеку, які забіў яго. Пабачыў, мабыць, нейкага чалавека і падумаў, відаць, што гэта прыстойны чалавек, які так услаўляе яго. А той чалавек узяў дый пальнуў. А колькі ён усадзіў – адну ці больш?»

«Газеты пішуць, васпане, што эрцгерцаг быў, як рэшата. Той выпусціў у яго ўсе патроны».

«Гэта робіцца надзіва хутка, пані Мюлерава, вельмі хутка. Я для такой справы прыдбаў бы сабе браўнінг· ён выглядае, як цацка, але з яго ўмэнт, як не бач можна застрэліць і дваццаць эрцгерцагаў, сухарэбрых ці хай сабе вельмі тоўстых. Хаця, між намі кажучы, пані Мюлерава, у тоўстага эрцгерцага патрапіць лягчэй, чым у худога, як тады ў Партугаліі, памятаеце, застрэлілі свайго караля Такса-а-ма быў тоўсты. Вы ж разумеце, кароль худым не бывае Ну, я пайшоў у шынок «Ля келіха», а калі прыйдуць па тэр`ера, за якога я ўзяў задатак, дык трэба сказаць, што ён у маёй псярні за горадам, што я яму нядаўна падрэзаў вушы і зараз яго нельга перавозіць, пакуль вушы не зажылі, каб іх не прастудзіць. Ключ пакіньце у дворнічыхі»

У шынку «Ля келіха» сядзеў толькі адзін наведвальнік. Гэта быў агент вышуковай паліцыі Брэтшнайдэр. Шынкар Палівец збіраў невялікія падносы з-пад піва, а Брэтшнайдэр дарэмна намагаўся завесці з ім сур`ёзную размову

Палівец быў вядомы грубіян, кожнае другое слова ў яго было «срака» або «гаўно».





Аднак пры гэтым ён быў начытаны і раіў суразмоўніку прачытаць, што наконт гэтага напісаў Віктор Гюго, апавядаючы пра адказ старой гвардыі Напалеона англічанам у бітве пад Ватэрлоо.

«Прыгожае лецейка на дварэ», завязваў Брэтшнайдэр сур`ёзную размову.

«А, усё гэта – гаўно!» – адказаў Палівец, складваючы падстаўкі з-пад піва ў стос.

«Ну і нарабілі нам дзялоў у тым Сараеве», – са слабай надзеяй прамовіў Брэтшнайдэр.

«У якім Сараеве? – спытаў Палівец, – у гэтым нусельскім вінным шынку? Дык там б`юць морды кожны дзень. Вядома, гэта ж Нуслі!»

«У баснійскім Сараеве, шаноўны пане шынкару Там застрэлілі пана эрцгерцага Фердынанда. Што вы на гэта скажаце?»

«Я ў такія справы не лезу З такімі справамі – няхай мяне кожны пацалуе ў сраку» – ветліва адказаў пан Палівец, закурваючы люльку. – Сёння ўблытвацца ў такія справы – зламаць сабе карак. У мяне шынок. Да мяне прыходзяць і заказваюць піва – я і наліваю. Але нейкае Сараева, палітыка ці нябожчык эрцгерцаг – гэта нас не датычыць. Не для нас гэта. Ды і Панкрацам пахне».

Брэтшнайдэр змоўк і расчаравана агледаў пусты шынок.

«Тут раней вісеў партрэт гасудара імператара, памаўчаўшы хвіліну, зноў загаварыў ён – Менавіта там, дзе зараз вісіць люстэрка».

«Праўду, вашаць, кажаце, – адказаў пан Палівец, – вісеў, але мухі спрэс яго пасралі Я закінуў яго на гарышча. Ведаеце, яшчэ хто-небудзь заўважыць, і... пасыпаліся непрыемнасці. А на халеру мне яны?»

«Там у Сараеве, мусіць, кепска было, пане шынкару?»

На гэтае прама пастаўленае падступнае пытанне пан Палівец адказаў вельмі асцярожна.

«Так, у гэтую пару ў Босніі і Герцагавіне бывае страшэнная гарачыня. Калі я там служыў, дык мы нашаму обер-лейтэнанту раз-пораз лёд да галавы прыкладвалі».

«У якім палку вы служылі, шаноўны?»

«Я такіх дробязей не помню, такая брыда мяне ніколі не цікавіла, – адказаў пан Палівец. – Залішняя цікаўнасць – рэч шкодная».

Вышукны агент канчаткова змоўк, але яго хмурны твар павесялеў з прыходам Швейка, які, увайшоўшы ў шынок, заказаў сабе цёмнага піва, дадаўшы пры гэтым. «У вас сёння таксама жалоба?»

Вочы Брэтшнайдэра засвяціліся вялікай надзеяй, і ён коратка сказаў·

«На Конапішці вывесілі дзесяць чорных сцягоў»

«Іх там павінна было быць дванаццаць», – сказаў Швейк, адпіўшы з кухля

«Чаму вы думаеце, што дванаццаць?» – спытаўся Брэтшнайдэр.

«Для роўнага ліку, для тузіна, так лепей лічыць, а калі на тузіны, дык і танней», – адказаў Швейк.

Запанавала цішыня, якую парушыў сам Швейк, уздыхнуўшы:

«Ужо сканаў, небарака, дай Бог яму валадарства нябеснае! Нават не дачакаўся, калі стане імператарам. Калі я служыў у войску, дык адзін генерал упаў з каня і цалкам спакойна забіўся Яму хацелі дапамагчы зноў узлезці на каня, пасадзілі яго, паглядзелі, а ён ужо – спрэс мёртвы. А ён жа намерыўся стаць фельдмаршалам. Здарылася гэта на аглядзе войска Такія агляды ніколі да дабра не даводзяць. У Сараеве, мусіць, быў таксама які-небудзь агляд. Памятаю, аднойчы на такім аглядзе ў мяне на мундзіры не хапала дваццаць гузікаў, дык мяне за гэта пасадзілі на чатырнаццаць дзён у адзіночную камеру, і два дні я там, як Лазар, ляжаў са звязанымі рукамі разам з нагамі. Але дысцыпліна ў войску павінна быць, інакш нізто без дай прычыны і не паварухнуўся б. Наш обер-лейтэнант Макавец нам заўсёды казаў: «Ёлупы, дысцыпліна мусіць быць, інакш вы лазілі б па дрэвах, як малпы, але армія зробіць чалавекам кожнага з вас, вы – ідыёты дурнаватыя!» Ну, хіба ж гэта не так? Уявіце сабе сквер, скажам, на Карлавай плошчы, і на кожным дрэве сядзіць па аднаму салдату без дысцыпліны. Гэта мяне палохае больш за ўсё».

«У тым Сараеве, – накіроўваў размову Брэтшнайдэр, – гэта зрабілі сербы».

«Памыляецеся, – адказаў Швейк, – гэта зрабілі туркі, з-за Босніі і Герцагавіны». І Швейк выклаў свой погляд на міжнародную палітыку Аўстрыі на Балканах: туркі

прайгралі ў 1912 г. вайну з Сербіяй, Балгарыяй і Грэцыяй, яны хацелі, каб Аўстрыя дапамагла ім, а раз гэта не адбылося, яны застрэлілі Фердынанда.

«Любіш турак? – звярнуўся Швейк да шынкара Паліўца, – любіш гэтых нехрысцяў? Праўда, што не?»

«Наведвальнік як наведвальнік, – адказаў Палівец, – хай сабе і турак. Нам, шынкарам, няма ніякай справы да палітыкі. Заплаці за піва і вярзі, што хочаш, – вось мой прынцып. Хто б ні застрэліў таго Фердынанда: серб ці турак, каталік ці магаметанін, анархіст ці младачэх, – мне гэта ўсё роўна»

«Добра, пане шынкару, – адгукнуўся Брэтшнайдэр, які ўжо зноў пачаў губляць надзею, што з гэтых двух яму ўдасца каго-небудзь узяць. – Але згадзіцеся, што гэта вялікая страта для Аўстрыі».

Замест шынкара адказаў Швейк:

«Бясспрэчна, страта ёсць. Вялізная страта. Фердынанда нельга замяніць якім-небудзь ёлупам. Але ён павінен быў бы быць яшчэ таўсцейшым».

«Што вы гэтым хочаце сказаць?» – ажывіўся Брэтшнайдэр.

«Што я хачу сказаць? – задаволена адказаў Швейк. – А вось што Калі б ён быў таўсцейшы, дык яго ўжо б даўно паралюш схапіў. Яшчэ б тады, калі ён ганяўся ў Конапішці за кабетамі, што ў яго маёнтку ў лесе збіралі дровы і грыбы, і ён не мусіў бы памерці такой ганебнай смерцю. Уявіць сабе. дзядзька імператара, а яго застрэлілі! Гэта ж сорам, газеты толькі і пішуць аб ім У нас некалькі гадоў таму ў Будзеёвіцах на кірмашы ў невялічкай сутычцы праткнулі нажом аднаго гандляра скацінай, нейкага Бржэціслава Людвіка. У яго быў сын Багуслаў, дык, бывала, куды ён ні прыйдзе прадаваць свіней, ніхто ў яго нічога не купляе, а кожны толькі й кажа. «А, гэта сын таго праткнутага, то і сам ён, мусіць, добры жуль». Ён вымушаны быў у Крумлаве скочыць з моста ў Влтаву, потым трэба было яго выцягваць, уваскрашаць, трэба было выпампоўваць з яго ваду. І ўрэшце яму трэба было сканаць на руках урача пасля таго, як той даў яму нейкі ўкол».

«Аднак, дзіўныя ў вас параўнанні, – шматзначна сказаў Брэтшнайдэр, – спачатку гаворыце пра Фердынанда і тут жа пра гандляра жывёлай».

«Што вы, якія параўнанні, – бараніўся Швейк, – няхай Бог мяне ратуе, калі я каго-небудзь з кім-небудзь параўноўваў! Пан шынкар мяне ведае. Праўда, што я нікога з нікім не параўноўваў? Мне толькі не хацелася б быць у скуры той удавы эрцгерцага. Што яна зараз будзе рабіць? Дзеці – сіроты, маёнтак у Конапішці без гаспадара... Выходзіць замуж за нейкага новага эрцгерцага? Які сэнс? Паедзе яна з ім у Сараева і аўдавее другі раз. Гэта, жыў у Зліве ля Глубакі некалькі гадоў таму адзін ляснік і меў ён такое брыдкае прозвішча Піндзёўр. Яго застрэлілі браканьеры, і засталася ўдава з двума дзеткамі, а праз год узяў яе зноў ляснік, Пэпік з сям'і Шаўлавых з Мідлавараў І яго таксама застрэлілі Тады яна трэці раз выходзіць замуж, і зноў за лесніка, дый кажа сабе: «Да трох разоў перапускаюць. Калі й зараз не пашанцуе, тады я ўжо не ведаю, што мне рабіць». Вядома ж, і трэцяга яе мужа застрэлілі, а ў яе ад трох леснікоў засталося аж шасцёра дзяцей. Дабралася яна аж да канцылярыі самога князя, у Глубаку, і там стала скардзіцца пра свае пакуты ад тых леснікоў Ёй там параілі Яраша з Ражыцкай гаці, які загадваў рыбнай гаспадаркай. І што б вы думалі? Падчас лоўлі рыбы яго ўтапілі, а з ім ужо яна нажыла двое дзетак. Потым яна ўзяла сабе канавала з Воднян, і той яе аднойчы ноччу рубануў сякерай і пайшоў сам у паліцыю прызнавацца. Калі потым у Піску яго вешалі, ён укусіў за нос святара і сказаў, што, наогул, ні аб чым не шкадуе, а таксама тады ён сказаў яшчэ нешта непрыстойнае пра гасудара імператара».

«А вы не ведаеце, што ён сказаў пра яго? – пытаўся Брэтшнайдэр голасам, напоўненым надзеяй.

«Гэтага я вам не магу сказаць, таму што ніхто не адважваўся паўтараць. Але гэтыя словы былі настолькі жудасныя, што адзін судовы саветнік, прысутны пры тым, звар'яцеў, і яго дагэтуль трымаюць у ізаляцыі, каб не выявілася, што той канавал сказаў яму Была гэта не звычайная знявага гасудара імператара, якая гаворыцца на п'яны розум»

«А якія знявагі ў адносінах да гасудара імператара робяцца з п'янага розуму?» – спытаўся Брэтшнайдэр.

«Панове, прашу вас, змяніце тэму, – умяшаўся шынкар Палівец, – ведаеце, я гэтага не люблю. Яны нешта вякнуць, а чалавеку – непрыемнасці потым».

«Якія абразы гасудара імператара гаворацца з п'янага розуму? – паўтарыў Швейк – Усялякія. Напіцеся, папрасіце сыграць вам аўстрыйскі гімн, і вы пабачыце, што вы самі пачняце малоць. Навыдумляеце столькі ўсяго на гасудара імператара, што калі б хоць палова з таго была праўда, то хапіла б ганьбы на ўсё жыццё. Але ён, старэнькі, праўду кажучы, гэтага не заслужыў. Ну, вось, напрыклад, ён страціў сына – яшчэ маладога, поўнага сіл мужчыну; жонку ягоную Альжбету праткнулі напільнікам; потым не стала Яна Орта. А брата – мексіканскага імператара –застрэлілі ў нейкай крэпасці, паставіўшы да сцяны. А зараз, на старыя гады, падстрэлілі і ягонага дзядзьку Жалезныя нервы трэба мець! І пасля гэтага які-небудзь п'янчуга ўспомніць пра імператара і стане яго зневажаць. Калі сёння нешта выбухне, то я пайду добраахвотнікам і буду служыць гасудару імператару аж да самага скону!»

Швейк грунтоўна напіўся з кухля і працягваў:

«Вы думаеце, што гасудар імператар усё так і пакіне? Вы яго мала ведаеце. Вайна з туркамі павінна быць! «Вы забілі майго дзядзьку, дык наце вам па мордзе!» Вайна будзе напэўна. Сербія і Расія нам дапамогуць у гэтай вайне. Ну і рэзацца ж будуць!»

У момант прароцтва Швейк выглядаў прыгожа. Яго лагодны твар, круглы, як поўня,ззяў натхненнем. Па-ягонаму ўсё было проста і ясна.

«Можа стацца, – ён працягваў апісваць будучыню Аўстрыі, – што ў выпадку вайны з Турцыяй на нас нападуць немцы, таму што яны з туркамі ў згодзе. Гэта такія паганцы, што на свеце другіх такіх не знойдзеш. Але мы можам аб'яднацца з Францыяй, якая з семдзесят першага года вострыць нож на Германію. І ўсё пойдзе, як па масле. Вайна будзе! Больш я вам нічога не скажу».

# УТАЙМАВАННЕ АБСУРДУ

**У вайсковай часці ў Бабруйскай крэпасці, дзе я служыў, была свая бібліятэка, але гашакаўскага бравага салдата Швейка я там не адшукаў. Не таму што трымалі на руках або замыкалі – не было зусім. Хаця рыхтык перад гэтым выйшла ў свет чарговае – масавае – выданне знанага паўсюль рамана.**

**Свой Швейк, свае Санчы Пансы, Цілі Уленшпігелі, Сімплікусы Сімпліцысімусы, Фігара, Несцеркі, Хаджы Насрэдзіны, Васілі Цёркіны, у тым ці іншым варыянце, былі, можна лічыць, у кожнай роце, у кожным калгасе, цэху, класе, ва ўсякай больш ці менш арганізаванай групе людзей. Народная большасць, шарагоўцы яго, свайго ротнага (калгаснага і г.д.) дурня, які бачыў усё навокал навыварат і рабіў ад супрацьлеглага, наадварот, любілі, шанавалі і ахоўвалі ад тупых абаронцаў існуючай сістэмы, накшталт якога-небудзь прыдзірлівага падпаручніка Дуба ці вечна п'янага фельдкурата Каца, звышпільнага агента тайнай паліцыі Брэтшнайдэра ці рэнегата паручніка Лукаша, з яго канфідэнцыяльным прызнаннем: «Застанемся чэхамі, але ніхто пра гэта не павінен ведаць. Я – таксама чэх...» Але чаму яго, кніжнага, узятага з іншай эпохі, нацыянальна так ярка афарбаванага, баялася і наша армейскае, і ўсякае іншае начальства?**

**Вядома, гэта спрашчэнне, відавочная мадэрнізацыя класікі, калі мы сёння вычытваем у выдатным творы толькі тое, што адгукаецца нашаму болю і трывогам, і не зважаем на, магчыма, важнае, дарагое сэрцу аўтара. Аднак такая ўжо ўласцівасць нашага духоўнага зроку, што мы ў любой з'яве вылучаем найперш актуальнае, падвёрстваючы пад яго свой непаўторны вопыт жыцця, набыты ў эксперыментальных умовах пабудовы таталітарнага грамадства і завяршэння «вялікай перабудовы». Тым больш што і сам Яраслаў Гашак у сваёй прадмове да рамана старанна пераводзіць гаворку з плана высока-духоўнага ў побытава-звычайны план: «У наш час вы можаце сустрэць на пражскіх вуліцах бедна апранутага чалавека, які і сам не падазрае, якое яго значэнне ў гісторыі новай, вялікай эпохі. Ён сціпла ідзе сваёй дарогай, ні да кога не чапляецца, і да яго не чапляюцца журналісты з просьбай аб інтэрв'ю. Калі б вы спыталі, як яго прозвішча, ён адказаў бы проста і сціпла: «Швейк». Ніхто не здзівіцца, спаткаўшы гэтага сціплага, «бедна апранутага чалавека» на вуліцах беларускіх гарадоў, мястэчак і вёсак. Ён, паводле слоў Гашака, не падпаліў храм багіні ў Эфесе, як тое зрабіў асёл Герастрат, каб трапіць у школьныя падручнікі, «і гэтага ўжо дастаткова». Ну, а на пытанне, як яго прозвішча, ці не Швейк часам, замест адказу вельмі нават можа быць вясёлая іскрынка смеху ў вачах.**

**Зрэшты, сам Швейк заўсёды быў дужа сур'ёзны, нават тады, калі навокала ўсе клаліся ад рогату. Не, ён не прыкідваўся, калі паводзіў сябе гэтак. Ён нарадзіўся (дадамо: ва ўяўленні пісьменніка) менавіта такім. Гэта быў яго спосаб жыцця, сама-**

Брэтшнайдэр падняўся і ўрачыста прамовіў: «А вам больш і не трэба гаварыць. Хадзем са мной на калідор, там я вам нешта скажу»

Швейк выйшаў за агентам тайнай паліцыі на калідор, дзе яго чакала невялікае здзіўленне, калі яго сусед па піве паказаў яму арла і заявіў, што арыштоўвае яго і зараз жа адвядзе яго ў паліцэйскую ўправу Швейк намагаўся растлумачыць, што тут, відаць, нейкая памылка, бо ён абсалютна не вінаваты ён не сказаў ніводнага слова, якое магло б некага пакрыўдзіць.

Але Брэтшнайдэр сказаў яму, што Швейк дапусціў некалькі злачынных дзеянняў, сярод якіх мае месца і дзяржаўная здрада.

Потым яны вярнуліся ў шынок, і Швейк сказаў пану Паліўцу:

«Я выпіў пяць кухляў піва і з еў рагалік з сасіскай Налі мне яшчэ чарку слівавіцы, і я мушу ісці, бо я арыштаваны».

Брэтшнайдэр, паказаўшы пану Паліўцу свайго арла, глядзеў нейкі час на шынкара, а потым запытаўся:

«Вы – жанаты?»

«Так».

«А ваша жонка можа весці гандаль за вас?»

«Можа».

«Тады ўсё ў парадку, пане шынкару, – весела сказаў Брэтшнайдэр – Паклічце сюды вашу пані, перадайце ёй справу, а вечарам я за вамі прыйду»

«Не хвалюйся, – радаваўся Швейк. – Мяне пасадзяць толькі за дзяржаўную здраду».

«А за што мяне? – бедаваў пан Палівец. – Я ж быў такі асцярожны »

Брэтшнайдэр усміхнуўся і з трыумфальным выглядам патлумачыў:

«За тое, што вы сказалі, што мухі сралі на гасудара імператара Яны там вам таго гасудара імператара выб'юць з галавы»

І Швейк пакінуў шынок «Ля келіха» ў суправаджэнні агента тайнай паліцыі. Калі яны выйшлі на вуліцу, Швейк, пазіраючы яму ў твар з лагоднай усмешкай, спытаўся.

«Мне сысці з тратуара?»

«Чаму?»

«Я думаю, што паколькі я арыштаваны, то й не маю права хадзіць па тратуары»

Уваходзячы ў вароты паліцэйскай управы, Швейк сказаў:

«Мы цудоўна бавілі час. Вы часта бываеце ў «Ля келіха»?»

А ў той час, як Швейка вялі ў прыёмны пакой, у «Ля келіха» пан Палівец перадаваў шынок сваёй заплаканай жонцы, своеасабліва суцяшаючы яе:

«Не плач і не раві! Што яны мне могуць зрабіць за загаджаны мухамі партрэт гасудара імператара?»

Вось такім чароўным, мілым спосабам увайшоў у сусветную вайну бравы салдат Швейк. Гісторыкаў зацікавіць тое, што ён так далёка зазірнуў у будучыню. Калі ж пазней падзеі разгортваліся інакш, як ён апавядаў у «Ля келіха», мы павінны памятаць, што Швейк не атрымаў патрэбнай дыпламатычнай адукацыі.

**выяўлення і самасцвярджэння. Калі б ён хоць раз задумаўся над сваімі паводзінамі і ўсвядоміў сваю грамадскую, гістарычную ролю руйнавальніка «асноў», ён бы смяяўся разам з усімі і ператварыўся б урэшце ў звычайнага пустасмеха, які нікому нічым не пагражае. Швейк-блазан, камедыянт, прытворшчык, пудзіла гарохавае вельмі добра ілюструе тэорыю карнавалізацыі, якую так пераканальна абгрунтаваў Міхаіл Бахцін і з дапамогай якой даў магчымасць сучаснікам асэнсаваць, дзе яны знаходзяцца, як збудаваны навакольны свет людскіх адносін. Ён сапраўды ўвасабляе ў сваёй спецыфічнай дзейнасці народную праўду аб быцці, стыхійнае разуменне адноснасці чалавечых ведаў аб свеце, неканчатковасці ўсяго, што было, ёсць і будзе. Адсюль фамільярнасць адносін героя да іерархічнай будовы грамадства, падзеленага саслоўнымі бар'ерамі, яго спантаннае імкненне развенчваць усё афіцыйнае, штучнае, абесчалавечанае.**

**Развенчвае Ёзэф Швейк заўсёды з дапамогай увенчвання, прыніжае ўзвышаючы, камікуючы, прафануючы. Ён разыгрывае ролю бязвіннага боўдзілы, які прастадушна выказвае сваю адданасць начальству, і гэтак дасягаецца вынік, адваротны задуманаму. Першая рэакцыя героя на новую сітуацыю – даверлівае і яўна шчырае яе прыманне: як той казаў, усё існае – сапраўднае. Сумнявацца ж у сапраўднасці існага не даводзіцца. Але ці разумнае яно? Беспадстаўныя прэтэнзіі Аўстра-Венгерскай, як і ўсякай іншай, імперыі на веліч, што падаўляе сваёй пампезнасцю, пыхлівасцю, эпічнасцю прыватнага чалавека з яго і без таго ўкарочаным войнамі, хваробамі,**





### Раздзел 2

## Бравы салдат Швейк у паліцэйскай управе

Сараеўскі замах напоўніў паліцэйскую ўправу шматлікімі ахвярамі Іх прыводзілі адну за адной, і стары інспектар у прыёмным пакоі гаварыў сваім лагодным голасам

«А гэты Фердынанд вам будзе дорага каштаваць!»

Калі Швейка зачынілі ў адну са шматлікіх камер другога паверха, ён знайшоў там таварыства з шасці чалавек. Пяцёра з іх сядзелі вакол стала, а ў кутку на простым ложку, нібы старонячыся астатніх, сядзеў мужчына сярэдніх гадоў Швейк пачаў выпытваць аднаго за адным, чаму іх пасадзілі

Ад усіх пяцярых, што сядзелі ля стала, ён атрымаў амаль адзін і той жа адказ: «З-за Сараева», «З-за Фердынанда», «З-за таго забойства эрцгерцага», «За Фердынанда», «За тое, што ў Сараеве ўкадлушылі эрцгерцага»

Шосты – ён стараніўся гэтых пяцярых – сказаў, што з імі не хоча мець нічога агульнага, каб на яго не ўпала падазрэнне, бо ён тут сядзіць з-за спробы забойства аднаго гаспадара з Голіц з мэтай рабунку

Швейк падсеў да стала да таварыства змоўшчыкаў, якія ўжо ці не дзесяты раз апавядалі адзін аднаму пра тое, як сюды трапілі.

Усіх іх, апрача аднаго, схапілі ў шынках, альбо ў вінных скляпах, альбо ў кафэ. Выключэнне складаў незвычайна тоўсты пан у акулярах, з заплаканымі вачыма, якога арыштавалі дома ў ягонай кватэры, таму што за два дні да замаху ў Сараеве ён аплаціў рахунак за двух сербскіх студэнтаў-палітэхнікаў у шынку «У Брэйшкі», а яшчэ агент Брыксі бачыў яго ў іх кампаніі п'янага ў «Манмартры» на Ржэцезавай вуліцы, дзе, як ён сам пацвердзіў у пратаколе сваім подпісам, ён таксама заплаціў за іх.

На ўсе пытанні на папярэднім следстве ў паліцэйскай управе ён жаласліва канькаў адну і тую ж стэрэатыпную фразу:

«У мяне ж магазін канцылярскіх тавараў».

На што атрымліваў такі ж стэрэатыпны адказ:

«Гэта не апраўданне для вас»

Малога росту пан, якога арыштавалі ў вінным склепе, быў выкладчыкам гісторыі і апавядаў гаспадару склепа гісторыю розных замахаў Яго арыштавалі якраз у той момант, калі ён заканчваў псіхалагічны аналіз усіх замахаў наступнымі словамі:

«Ідэя замаху такая ж простая, як Калумбава яйка»

«Як і тое, што вас чакае Панкрац», – дапоўніў яго выслоўе на допыце камісар паліцыі

Трэці змоўшчык быў старшынёй дабрачыннага гуртка «Дабраміл» у Годкавічках. У той дзень, калі быў зроблены замах, «Дабраміл» наладжваў у парку урачыстасць з канцэртам. Жандарскі вахмістр прыйшоў і запатрабаваў ад удзельнікаў гуляння, каб яны разышліся, таму што ў Аўстрыі жалоба, на што старшыня «Добраміла» прыхільна сказаў:

«Пачакай хвілiначку, няхай яны ўжо дайграюць «Гэй, славяне!»

**непасільнай працай векам. На працягу жыцця аднаго пакалення, аднак, зруйнаваліся тысячагадовыя рэйхі і вялікія імперыі з іх тупа самаўпэўненымі фюрэрамі і бяздарнымі правадырамі-недавукамі, безаблічным мноствам зафіксаваных на сваім дабрабыце столаначальнікаў і фанабэрлівых служакаў-фанфаронаў, мільёнагаловай чарадой збыдлелага насельніцтва, гнанага страхам і інстынктам самазахавання па дарозе ў нікуды.**

**Вайна, якую вядзе Швейк, не мае ні пачатку ні канца. У карчме, паліцэйскім участку, дурдоме, турме, войску, у палоне – усюды ён сутыкаецца з светам, пастаўленым на галаву Герой сцінае ў гідры дзяржаўнай сістэмы галовы, якія тут жа адрастаюць зноўку: не памагае і прыпальванне жартам, смехам, іроніяй. З мазаікі эпізодаў, сцэн, сутычак урэшце вырастае малюнак таталітарнага паноптыкума, густа населенага дзіўнымі персанажамі, пра якіх цяжка сказаць, ці было ў іх наогул маленства, такія яны ўсе пыхлівыя, сур'ёзныя, афіцыйныя. Генерал-маёр Шварцбург які «столькі ўвагі аддаваў прыбіральням, быццам ад іх залежала перамога аўстра-венгерскай манархіі», генерал Рынк фон Фінкельштэйн, які вылучаецца паталагічнай жарсцю судзіць і вешаць, тупы салдафон і даносчык падпаручнік Дуб, знаток статутаў і закончаны ідыёт кадэт Біглер, звышпільныя сышчыкі, злаcлівае чынавенства, нікчэмныя абывацелі, фарысеі, ханжы, «мяснікі ў генеральных штабах» і «жывёла на зарэз», якая дазваляе сябе гнаць на фронт, каб яе там «пасеклі на лапшу», – менавіта такою была «шматковая», рознапляменная Аўстра-Венгрыя ў пачатку стагоддзя. Што ж, імперыя як**

А цяпер ён сядзеў тут з паніклай галавой і наракаў:

«У жніўні ў нас новыя выбары прэзідыума, і калі я да тае пары не вярнуся дамоў, можа здарыцца, што мяне не выберуць. Дзесяць разоў запар мяне выбіралі старшынёю. Такой ганьбы я не перажыву!»

Дзіўную штуку сыграў нябожчык Фердынанд з чацвёртым арыштантам, чалавекам незаплямленай рэпутацыі і высакароднага характару. Цэлыя два дні ён ухіляўся усялякіх размоў пра Фердынанда, аж нарэшце вечарам у кафэ за мар'яжам, пабіўшы жалудовага караля званковай казырнай сямёркай, сказаў·

«Сем кулек, як у Сараеве».

У пятага мужчыны, які, як ён сказаў, сядзіць тут «з-за таго забойства пана эрцгерцага ў Сараеве», яшчэ і сёння валасы дуба стаялі, а барада пакалмацілася ад жаху так, што галава яго нагадвала морду натапыранага пінчэра. Ён тады ў рэстаране, дзе яго арыштавалі, наогул і слова не вымавіў, нават і газет не чытаў пра забойства Фердынанда, ён сядзеў за сталом адзін, калі раптам да яго падышоў нейкі суб'ект, сеў насупраць і хутка яго спытаў:

«Вы чыталі пра гэта?»

«Не чытаў».

«Ведаеце пра гэта?»

«Не ведаю».

«А ведаеце, у чым справа?»

«Не ведаю і не хачу ведаць»

«Аднак гэта вас павінна было б зацікавіць»

«Не ведаю, што мяне павінна цікавіць? Я выкуру цыгару, вып'ю некалькі кухляў, павячэраю, а газеты не чытаю. Газеты хлусяць. Нашто мне нервавацца?»

«Значыць, вас нават не цікавіць забойства ў Сараеве?»

«Мяне наогул ніводнае забойства не цікавіць, хай сабе яно адбылося ў Празе, у Вене, у Сараеве ці ў Лондане. Для гэтага існуюць адпаведныя ўстановы, суды і паліцыя. Калі недзе некага заб'юць, то так яму і трэба. А чаму ён такі ёлуп неасцярожны, што дае сябе забіць?»

Гэта былі яго апошнія словы ў той размове Пасля гэтага ён толькі праз пяціхвілінныя перапынкі паўтараў·

«Я не вінаваты, я не вінаваты!»

Гэтыя словы ён выкрыкваў перад варотамі паліцэйскай управы, гэтыя словы ён будзе паўтараць, калі яго павязуць у пражскі крымінальны суд, з гэтымі словамі ён увойдзе ў сваю турэмную камеру

Наслухаўшыся жудасных змоўніцкіх гісторый, Швейк палічыў слушным растлумачыць зняволеным усю безнадзейнасць іхняй сітуацыі.

«Ва ўсіх нас справы – дрэнь! – пачаў ён словы суцяшэння. – Няпраўда, што вы кажаце, быццам бы вам, усім нам за гэта нічога не будзе На што ж тады паліцыя, як не для таго, каб карала нас за нашы доўгія языкі Калі ўжо наступіў такі небяспечны час,

**імперыя, толькі век яе быў кароткі, і падкараціць яго дапамог бравы салдат Швейк, выварочваючы яе прагнілую сутнасць на святло.**

**Народная смехавая культура існавала і развівалася ў тым ці іншым выглядзе і ў самыя жорсткія часіны таталітарнага ўціску. Думка народная супрацьстаяла афіцыйнай ідэалогіі і выказвала свой асаблівы пункт погляду на свет з дапамогай такіх забароненых жанраў, як анекдот, дасціпнае мудраслоўе, прыпавесць, рэпліка, фігура ўмаўчання. Уплыў гэтай думкі адчуваўся ў многіх лепшых творах савецкіх пісьменнікаў. Патрэба ў здаровым народным поглядзе на многія сучасныя працэсы, з'явы, рэчы шматкроць узрасла ў канцы другога тысячагоддзя, калі відавочнай стала абмежаванасць чалавечай дзейнасці на планеце, вычарпанасць прыродных рэсурсаў, бязглуздасць ідэй новага «перадзелу свету». Як утаймаваць абсурд нашага зямнога існавання, узмоцнены за кошт спецыфічных праблем перыяду распаду таталітарнай сістэмы? Прыклад Ёзэфа Швейка ў гэтым сэнсе вельмі і вельмі павучальны. Вялікія магчымасці «маленькага чалавека» ў змаганні з жорсткай ваеннапаліцэйскай дзяржавай, якая старанна прышчэплівае масавай свядомасці думкі пра новыя войны за «жыццёвую прастору», «нацыянальныя інтарэсы» або, калі мець на ўвазе сучаснасць, за «сацыялістычную ідэю» ці за «светлае капіталістычнае заўтра». Дзе яны, сучасныя Швейкі, з іх «сумленнымі», «адкрытымі» фізіяноміямі, тварамі з «нявінным выразам», «дабрадушнымі ўсмешкамі», «добрымі вачыма», «круглымі, усмешлівымі абліччамі з вялікімі вушамі, што**





што страляюць нават у эрцгерцагаў, дык няма чаго здзіўляцца, што нас вядуць у паліцыю. Усё гэта робіцца дзеля шыку, каб зрабіць рэкламу Фердынанду перад пахаваннем. Чым болей тут нас будзе, тым для нас лепш, бо нам будзе весялей. Калі я служыў у войску, аднойчы пасадзілі нас паўроты. А колькі невінаватых людзей было асуджана? Не толькі ў войску але і народнымі судамі. Памятаю, адну жанчыну засудзілі за тое, што яна задушыла двух блізнят-немаўлятак. Хаця яна прысягала, што не магла задушыць блізнят, бо ў яе нарадзілася толькі адна дзяўчынка, якую ёй удалося задушыць цалкам безбалесна, яе ўсё ж засудзілі за забойства двух чалавек. Альбо той нявінны цыган з Забегліц, што ў калядную ноч уварваўся ў дробную краму. Ён бажыўся, што зайшоў пагрэцца, але гэта яго не выратавала. Калі ўжо суд нешта возьме ў свае рукі – прапала! І гэта кепскае павінна адбыцца. Хіба ж усе людзі такія мярзотнікі, як пра іх можна падумаць? Але як сёння можна адрозніць прыстойнага чалавека ад шэльмы, асабліва ў такую сур'ёзную часіну, калі нават Фердынанда ўкакошылі? У нас таксама, калі я служыў у войску ў Будзеёвіцах, у лесе за вучэбным пляцам застрэлілі сабаку нашага пана капітана. Калі ён даведаўся пра гэта, сабраў нас усіх, вышыкаваў і кажа. няхай выйдзе кожны дзесяты. Я, само сабой зразумела, таксама быў дзесятым. Мы стаялі «смірна», нават не варушыліся. Капітан ходзіць вакол нас і раве: «Нягоднікі! Прахвосты! Жулікі! Гіены стракатыя! Усіх вас за гэтага сабаку ў карцэр! Пасячы вас на локшыны! Перастраляць усіх і зрабіць з вас адбіўныя катлеты! Знайце – я вам спуску не дам Усіх у карцэр на два тыдні!» Вось бачыце, тады мова йшла пра сабачку, а зараз – пра самога эрцгерцага. Тут трэба столькі страху, каб жалоба была адпаведная».

«Я не вінаваты, я не вінаваты», паўтараў ускудлачаны мужчына.

«Ісус Хрыстос быў таксама не вінаваты, – сказаў Швейк, – а яго тым не менш укрыжавалі. Нідзе ніколі ніхто не цікавіўся лёсам нявіннага чалавека. Maul halten und weiter dienen[1], як гаварылі нам у войску Гэта самая мілая справа».

Швейк лёг на ложак і спакойна заснуў

За той час прывялі двух новых арыштантаў Адзін з іх быў басніец. Ён хадзіў па камеры, скрыгатаў зубамі і праз кожнае слова казаў· «...тваю маць!» Яго мучыла думка, што ў паліцэйскай управе знікне яго латок з таварам.

Другім прыбышанам быў шынкар Палівец, які, пабачыўшы свайго знаёмага – Швейка, разбудзіў яго і трагічным голасам вымавіў:

«Я ўжо тут таксама!»

Швейк шчыра пацінуў яму руку і сказаў:

«Мне сапраўды вельмі прыемна. Я быў упэўнены, што той пан стрымае слова, раз ён сказаў, што прыйдзе за вамі Такая дакладнасць – добрая рэч»

Пан Палівец адзначыў, што такая дакладнасць – гаўно, і паціху спытаў у Швейка, ці не зладзеі астатнія арыштанты, бо яму як шынкару гэта магло б пашкодзіць.

Швейк яму растлумачыў, што ўсе, апрача аднаго, якога пасадзілі за спробу

[1] Трымай язык за зубамі і служы (нямецк.).

**тырчаць з-пад насунутай фуражкі»? Якія высмеялі б жахлівую сур'ёзнасць людзей, што зацыкліліся хто на празе ўлады, хто на бізнесе, а хто на жаданні «прыгожа жыць», занядбаўшы пры гэтым сваю неўміручую душу. Якія адчынілі б перад намі гістарычны «вялікі час» і вывелі б на шырокія прасторы Сусвету, дзе мы адчулі б сябе свабоднымі...**

**Духоўны змест знанага рамана Гашака куды шырэй звыклага сатырычнага высмейвання «асобных недахопаў». Жыў гэты пісьменнік у адзін час з Томасам Манам, Каралам Чапекам, Джэймсам Джойсам, Марселем Прустам, Францам Кафкам, якія менш за ўсё былі летапісцаміадлюстравальнікамі, а найперш даследчыкамі-псіхолагамі, філосафамі, паталагаанатамамі эпохі. Першая сусветная вайна прадэманстравала ўсю абсурднасць зямнога існавання, дзе самыя высокія ідэі дзеля свайго ўвасаблення вымагаюць акіянаў чалавечай крыві, а ўсякая спроба рацыяналізаваць свет завяршаецца новай трагедыяй і ўрачыстасцю ірацыяналізму. Яраслаў Гашак з дапамогай свайго бравага героя прапанаваў найбольш бяскроўны і небалючы спосаб прыручэння абсурду, якім народная большасць карысталася даўно і ахвотна. Швейк вяртаў ашалелы ад відовішча крывавага балю свет у нармальнае становішча раўнавагі дабра і зла, святла і цемры, няхай сабе хісткай і часовай. Ён пасмейваўся не проста над вахмістрам Фландзеркам ці капітанам Сагнерам, паручнікам Лукашом ці фельдфебелем Ванекам, абжорам Балоўнам ці п'яніцаю Кацам, а над тымі людскімі слабасцямі, якія перашкаджаюць бачыць наваколле яснымі вачыма. Рэч не ў канкрэтных персанажах сус-**

забойства гаспадара з Голіц з мэтай яго рабунку, належаць да іх кампаніі: яны сядзяць тут з-за эрцгерцага.

Пан Палівец пакрыўдзіўся і сказаў, што ён тут не з-за нейкага прыдурка эрцгерцага, але з-за гасудара імператара. А таму што ўсе гэтым зацікавіліся, ён стаў апавядаць ім, як мухі заседзілі гасудара імператара.

«Запэцкалі яго, гадаўкі, – закончыў ён аповед сваёй прыгоды, – і давялі мяне аж да турмы. Я ім гэта не дарую», – дадаў ён з пагрозай.

Швейк зноў паваліўся спаць, але спаў нядоўга, бо за ім прыйшлі, каб адвесці яго на допыт

Такім чынам, паднімаючыся па сходах у трэцяе аддзяленне на допыт, Швейк нёс свой крыж на Галгофу, нічога не падазраючы пра свае пакуты.

Пабачыўшы надпіс пра тое, што пляваць у калідоры забараняецца, ён папрасіў у вартавога, каб той дазволіў яму плюнуць у плявальніцу, і, ззяючы сваёй прастатой, увайшоў у канцылярыю са словамі.

«Добры вечар усім вам разам, панове!»

Замест адказу нехта ткнуў яго пад рэбры і падштурхнуў да стала, за якім сядзеў пан з халодным тварам чыноўніка з рысамі звярынай раз`юшанасці, нібыта ён толькі што сышоў са старонкі кнігі Ламброза «Пра тыпы злачынцаў».

Пан крыважэрна паглядзеў на Швейка і сказаў·

«Не прыкідвайцеся ідыётам»

«Нічога не зробіш, – сур`ёзна адказаў Швейк. – Мяне ў войску правяралі на ідыятызм, і спецыяльная камісія афіцыйна прызнала мяне ідыётам. – Я – афіцыйны ідыёт».

Пан з тварам злачынца заскрыгатаў зубамі·

«Прад`яўленыя вам абвінавачанні і ўчыненыя вамі злачынствы сведчаць пра тое, што ў вас усе дома».

І тут ён пералічыў Швейку цэлы шэраг розных злачынстваў, пачынаючы з дзяржаўнай здрады і канчаючы абразай Яго Вялікасці і членаў імператарскага дому У цэнтры гэтага шэрагу злачынстваў вылучалася ўхваленне забойства эрцгерцага Фердынанда, адкуль адгаліноўваліся новыя злачынствы, сярод якіх заблішчэла злачынства падбухторвання, паколькі ўсё гэта адбывалася ў грамадскім месцы

«Што вы на гэта скажаце?» – пераможна спытаў пан з прыкметамі звярынай раз`юшанасці

«Цалкам дастаткова, – адказаў нявінна Швек. – Празмернасць шкодзіць»

«Вось бачыце, вы ж самі прызнаяцеся»

«Я ўсё прызнаю. Строгасць павінна быць. Без строгасці ніхто нічога не дасягнуў бы Калі я, гэта, служыў у войску. »

«Заткніся! – раскрычаўся паліцэйскі камісар на Швейка. – Адказвайце толькі тады, калі я пра нешта пытаюся! Зразумелі?»

«Як не зразумець, – сказаў Швейк, – пакорліва дакладваю, што разумею і ва ўсім,

**ветнай гісторыі і нават не ў «тыповых абставінах», а ў адвечнай чалавечай прыродзе, адпачатку запраграмаванай на бясконцае паўтарэнне крызісаў і катаклізмаў. Чалавек пластычны і можа з часам змяніцца, а абставіны, як бы неспрыяльна ні скаліся, не здымаюць з яго неабходнасці рабіць маральны выбар. Яшчэ Першатворца падаў прыклад, як спраўляцца з хаосам і цемрай, сказаўшы: «Няхай будзе святло!» Нам застаецца ўзгадваць гэтыя словы раз-пораз, па меры таго, як вакол нас пачынае гусцець змрок і згасаць святло. Канчатковая перамога наўрад ці дасягальная ў межах зямнога бытавання, але святло далёкай зоркі дазваляе нам трымаць напрамак. Калі Швейк гаворыць у канцы раманна слынную фразу пра сустрэчу «у шэсць гадзін вечара пасля вайны», то ён мае на ўвазе і канкрэтную сустрэчу дзе-небудзь у падвальчыку «Ля чашы» за куфлем піва пасля заканчэння першай сусветнай вайны, і больш аддаленую сустрэчу пасля завяршэння апошняй вайны на Зямлі, калі людзі зразумеюць злачыннасць усякіх войнаў і ўсякіх крывавых разборак.**

**Яраслаў Гашак, нягледзячы на свой вядомы антырамантызм і варожасць да дыдактыкі, усё ж верыў у ідэалы і ў магчымасці здаровага чалавечага розуму. У рэальным жыцці ён не раз апрабоўваў спосаб барацьбы з усюдыісным злом, якім так ахвотна карыстаўся яго герой, разыгрываючы ролю «геніяльнага ідыёта» (азначэнне Юліуса Фучыка), сцвярджаючы «неафіцыйную народную праўду» (азначэнне Міхаіла Бахціна). Розыгрышы, фарсы, містыфікацыі, аўтарам і выканаўцам якіх мноства разоў быў сам пісьменнік, выразна даводзяць яго правату. Нават**





пра што вы жадаеце гаварыць, я змагу арыентавацца»

«З кім вы знаходзіцеся ў зносінах?»

«Са сваёй служанкай, вашаць».

«А ў мясцовых палітычных кругах не маеце нікога знаёмага?»

«Маю, ваша міласць. Я купляю вячэрні выпуск «Нацыянальнай палітыкі», як кажуць, «сучку»

«Прэч!» – залямантаваў на Швейка пан са звярыным выглядам

Калі Швейка выводзілі з канцыляры, ён сказаў·

«Дабранач, вашаць!»

Прыйшоўшы ў сваю камеру, Швейк паведаміў арыштаваным, што такі допыт – адзін смех, дый годзе: спачатку трошкі на вас там пакрычаць, а потым выганяюць.

«Раней, – працягваў Швейк, – было намнога горш. Чытаў я калісь у адной кнізе, што абвінавачаныя, каб давесці сваю невінаватасць, павінны былі босыя хадзіць па распаленым жалезе і піць расплаўленае волава. А калі хто не хацеў прызнавацца, яго абувалі ў іспанскія боты і падвешвалі на дыбе альбо пажарнай паходняй падсмальвалі яму бакі, як зрабілі са святым Янам Непамуцкім Казалі, ён пры гэтым так роў, быццам бы яго рэзалі нажом, і не пераставаў крычаць, пакуль яго ў непрамакальным мяшку не скінулі з Элішчынага моста Такіх выпадкаў мноства. А яшчэ потым чалавека чвартавалі альбо саджалі на кол недзе каля Музея А калі ж злачынцу проста кідалі ў склеп на галодную смерць, ён, нібы зноў нарадзіўшыся, адчуваў сябе вельмі шчаслівым

Сядзець сёння ў турме – адно задавальненне, – выхваляўся Швейк, – ані табе чвартавання, ані іспанскіх ботаў; ложак – ёсць, стол – ёсць, лаўка – ёсць, мы не душым адзін аднаго ад цеснаты, суп нам даюць, збан вады прыносяць, нужнік пад самым носам. Ва ўсім відаць прагрэс. Праўда, трохі далекавата хадзіць на допыт· па трох сходах і вышэй на паверх, але затое на сходах чыста і жвава. Аднаго вядуць сюды, другога – туды, маладых, старых, мужчынскага і жаночага полаў Радасна, што тут ты не адзін. Кожны спакойна ідзе сваёй дарогай і не баіцца, што ў канцыляры яму скажуць: «Мы тут параіліся і вас заўтра чвартуюць альбо спаляць – паводле вашага ўласнага выбару». А выбар, роздум – сапраўды цяжка, і я мяркую, панове, што многія з вас у такія моманты былі б вельмі заклапочанымі. Канешне ж, умовы сёння палепшыліся на нашу карысць».

Як толькі Швейк закончыў абарону сучаснага зняволення грамадзян, наглядчык адчыніў дзверы і крыкнуў:

«Швейк, апраніцеся і йдзіце на допыт!»

«Я то апрануся, – адказаў Швейк, – супраць гэтага я нічога не маю, але баюся, што тут нейкая памылка. Мяне ўжо адзін раз выгналі з допыту. А потым я таксама баюся, каб астатнія паны, што сядзяць тут, не пакрыўдзіліся на мяне, што я ўжо другі раз іду на допыт, а яны там ні разу за вечар не былі Яны могуць мець да мяне прэтэнзію»

«Вылазь прэч і не пікні!» – было адказам на праяву джэнтльменства Швейка.

Швейк зноў апынуўся перад панам злачыннага тыпу, які без усялякіх уступаў спытаў яго цвёрда і рашуча:

**тады, калі канчатковай мэты не ўдавалася дасягнуць. Як у выпадку, калі Гашак стварыў парадыйную «Партыю ўмеранага прагрэсу ў рамках закону» і высунуў у 1911 годзе сваю кандыдатуру ў імперскі парламент. Ён атрымаў усяго сорак галасоў на выбарах, але ўся Чэхія пацяшалася са спектакля, у які ён ператварыў выбарчую кампанію. Заклікі з яго прамоў, праграмы і маніфеста ведалі лепш чым растыражаваныя іншымі «сур`ёзнымі» партыямі штампы: «праяўляць больш строгасці да бедных», «змагацца супраць укарочвання сасісак», «мы абаронім вас ад землятрусу ў Мексіцы», «гарантуем усё, што хочаце: піва, гарэлку, сасіскі і хлеб». Нават вестка пра смерць вялікага пісьменніка была ўспрынята сучаснікамі ў першы момант як чарговы розыгрыш. Эган Эрвін Кіш, напрыклад, выскачыўшы з-за стала, дзе стаялі куфлі чэшскага піва, закрычаў: «Лухта! Яроўшак зноў дурачыць увесь свет... Колькі разоў паміраў ужо Гашак? Гэта дзесятая яго смерць. Ярда не можа памерці так рана. І наогул ён ніколі не пакіне гэты свет – ён неўміручы».**

**Поспехі прыхільнікаў карнавалізацыі рэчаіснасці звычайна былі часовымі. Квазікарнавальныя спадзяванні, якіх стала і ў Чэхіі, і на Беларусі, і ў Расіі, часцей за ўсё не апраўдваліся. Таталітарызм не разумеў жартаў і крута абыходзіўся з аматарамі пасмяяцца. Сталін, як вядома, яшчэ ў пачатку 30-х гадоў перакрыў шлях да шырокага чытача спачатку Андрэю Платонаву, а затым Міхаілу Булгакаву. На ліст Андрэя Мрыя ён наогул не адрэагаваў, хаця аўтар яго і спадзяваўся на наяўнасць гумару ў «друга працоўных»: «Нават цяпер, праз 10 гадоў, у мяне**

«Ва ўсім прызнаяцеся?»

Швейк утаропіў свае добрыя, блакітныя вочы на няўмольнага чалавека і лагодна сказаў·

«Калі вашаць жадаюць, каб я прызнаўся, дык я прызнаюся, мне гэта не зашкодзіць. А калі ж вы скажаце: «Швейку, не прызнавайся ні ў чым!» – я буду выкручвацца да самага скону»

Строгі пан нешта пісаў у пратаколе і, падаючы Швейку ручку, звярнуўся да яго, каб ён падпісаў.

І Швейк падпісаў паказанні Брэтшнайдэра і наступны дадатак:

«Усе вышэйпададзеныя абвінавачванні супраць мяне – сапраўдныя».

Ёзэф Швейк.

Падпісаўшы паперу, ён звярнуўся да строгага:

«Яшчэ што-небудзь падпісаць ці, можа, мне прыйсці раніцай?»

«Раніцай вас адвязуць у крымінальны суд», – было сказана яму

«А ў колькі гадзін, вашаць? Каб, не дай Бог, не праспаць».

«Прэч!» – другі раз за дзень залямантавала вашаць з другога боку стала, перад якім стаяў Швейк.

Вяртаючыся ў свой новы, з мярэжамі на вокнах дом, Швейк сказаў канваіру:

«Тут усё ідзе як па масле»

Як толькі за Швейкам зачыніліся дзверы, сябры-вязні засыпалі яго пытаннямі, на якія Швейк адказваў ясна і выразна:

«Я адразу прызнаўся, што, мусіць, я забіў эрцгерцага Фердынанда»

Шасцёра мужчын з жахам пахаваліся пад вашывыя коўдры Адзін толькі баснiец сказаў·

«Добра дошлі!»[1]

Кладучыся на ложак, Швейк паскардзіўся.

«Кепска, што тут няма будзільніка».

Раніцай аднак яго разбудзілі і без будзільніка роўна а шостай гадзіне. У зялёным «воране» павезлі яго ў абласны крымінальны суд.

«Ранняя птушачка ўжо дзюбкай калупае, а позняя толькі вочкі працірае», – сказаў свaім спадарожнікам Швейк, калі зялёны «воран» выязджаў з варот паліцэйскай управы.

**Пераклаў з чэшскай**
**Іван ЛУЧЫЦ-ФЕДАРЭЦ**

[1] Віншую цябе! (сербск.).

**мільгае ерэтычнаая думка, што калі б выпадкова гэтая кніжка (раман «Запіскі Самсона Самасуя». – М Т ) была прагледжана Вамі, яна выклікала б у Вас вясёлы смех і ніякага непрыязнага пачуцця да «рэакцыйнага пісакі, што руйнуе асновы новага жыцця». Сказана ўсё дакладна і пра «ерась», і пра «руйнаванне асноў», а што да гумару, то апошняя забарона на смех з`явілася пасля смерці А.Мрыя, калі нявінныя жарты Міхаіла Зошчанкі былі заклеймаваны як «здзеклівыя». У канцы 40-х і пачатку 50-х ужо была папулярнай прыпеўка: «Нам не всякие нужны Салтыковы-Щедрины, и такия Гоголи, чтобы нас не трогали». Ажыўленне пачалося пазней – ад вясёлага зубаскальства Ільфа і Пятрова, раманы якіх былі «дазволены» і многія цытавалі іх ледзь не на памяць, і да іранічна-здзеклівага развітання з нядаўна сканалай эпохай у рамане Венядзікта Ерафеева «Масква – Петушкі», ад баявітых «фельетонаў у вершах» Пімена Панчанкі і да сучаснай «меніппавай сатыры» ў паэме Ведзьмака Лысагорскага. Грамадская думка пакрысе выходзіла з глыбокага анабіёзу, і ўсеабдымна-іранічныя адносіны да таталітарнага мінулага сёння ўспрымаюцца як выяўленне абсалютнай свабоды.**

**Бравы салдат Ёзэф Швейк перакульвае яшчэ адзін куфель чэшскага піва і выбіраецца з падвала, тагачаснага аналага апазіцыйнага андэрграўнда, на вуліцу. На гэты раз давайце пастараемся з ім не размінуцца. А пазнаем мы яго па адтапыраных вушах, нацягнутай на самыя вочы фуражцы і круглым твары, на якім блукацьме ўсмешка блазна, хітруна, шэльмы і пройды.**

**Міхась ТЫЧЫНА**





# ГЭТЫЯ ПІСЬМЕННІКІ

## Пра неабходнасць паперы

У 1936 годзе Савецкі Саюз наведаў французскі пісьменнік Андрэ Жыд. Адзначаючы недахопы сацыялістычнага ладу жыцця, у адным са сваіх памфлетаў ён сказаў, што ў гатэлі, дзе жыў, не было туалетнай паперы. Ох і накінуліся тады на яго маскоўскія газеты: маўляў, бачыш, чаго захацеў гэты буржуй, гэты прапаведнік буржуазна-мяшчанскага індывідуалізму· мы жывём і ўсім задаволены, а яму падавай яшчэ і туалетную паперу У большасці газет адказ на даволі шырокую крытыку Андрэ Жыдам камунізму звычайна і абмяжоўваўся спрэчкамі аб туалетнай паперы, відаць, каб савецкі чытач не ўведаў, пра што там яшчэ гаварыў французскі пісьменнік.

У 1937 годзе ў Маскву прыехаў другі сусветна вядомы пісьменнік Ліён Фейхтвангер. Сваю кнігу ён так і назваў: «Масква 1937» Напісаў лаяльна да Савецкага Саюза, але пра паперу ўсё ж сказаў, праўда, не вельмі канкрэтна, маўляў, не хапае асобных відаў паперы.

На гэты раз газеты не выказалі абурэння.

## Жалезная логіка

Праз гадоў пятнаццаць як вярнуўся Алесь Пальчэўскі з Сібіры, я дазволіў сабе спытацца ў яго:

– Што вам, Аляксандр Восіпавіч, інкрымінавалі ў трыццатыя гады?

– Выклікалі мяне да следчага, ён аб'явіў, што мой сябра арыштаваны за левы ўхіл. Я адказаў, што да гэтага ўхілу не належу і не маю ніякага дачынення.

– Мы знаем, что вы не принадлежите к нему Но ваши друзья на вас-то рассчитывали. Поэтому мы должны вас изолировать,–заявіў следчы і дадаў· – Вы должны благодарить, что мы своевременно оградили вас от вовлечения в контрреволюционную организацию.

Сапраўды, жалезная логіка.

## Як дзед Маўр стаў боцманам

У Аляксандра Міронава, былога марака, удзельніка чалюскінскай эпапеі, у пасляваенны час узнік сур'ёзны сямейны канфлікт Каб пагасіць яго, пісьменніка выклікалі на партбюро, затым пачалі абмяркоўваць на партыйным сходзе. І тут устаў Янка Маўр і пераканаў пісьменнікаў, што Аляксандр Міронаў не заслугоўвае спагнання. З таго часу Аляксандр Міронаў стаў называць дзеда *боцманам.* Сам жа ён называў сябе капітанам. Боцманская «пасада» дзеду прыйшлася вельмі даспадобы, і ён заўсёды, калі збіраўся на мора ў Кактэбель, каб адпачыць там разам з Аляксандрам Міронавым, браў з сабой цяльняшку

## Хто жулік?

1949 год. Невялікая кампанія пісьменнікаў сабралася ў старым мінскім рэстаране «Беларусь» Нехта загаварыў пра Цанаву – тагачаснага міністра ўнутраных спраў БССР. Піліп Пестрак выказаўся адназначна:

– Жу-у-лік!

За суседнім сталом двое мужчын насцярожыліся, відаць, яны былі вушамі той самай цанаваўскай установы. Адзін з пісьменнікаў адразу падняўся і, каб не згледзелі яго, збег з рэстарана. Як успамінаў удзельнік гэтай застольнай бяседы Іван Шамякін, сітуацыю выправіў сапраўдны акцёр у жыцці Андрэй Макаёнак.

Гэта я – жулік?!– выгукнуў на ўсю залу Андрэй Ягоравіч і ўдарыў сябе ў грудзі.

– Піліп Сымонавіч спачатку сумеўся, а тады скеміў і зарагатаў:

– Ха-ха-ха-ха!

## Анекдот пра Пестрака

Адзін старажытны палкаводзец, выступаючы ў рымскім сенаце, заўсёды заканчваў сваю прамову фразай:

– А Карфаген павінен быць разбураны!

Піліп Пестрак звычайна пачынаў сваё выступленне перад пісьменнікамі словамі:

– А гэны Броўка!.

Не ведаю, па якіх прычынах Піліп Сымонавіч быў у нейкім канфлікце з Пятром Усцінавічам. На гэты конт пісьменнікі нават склалі такі анекдот

Купаецца Піліп Сымонавіч у возеры. Раптам ён напароўся бокам на карэнне карча.

– П-сс. І тут Броўка! – здзівіўся Піліп Сымонавіч.

## «Ваш верш непрыгодны...»

Расказваюць, як нібыта Мікола Засім, даючы ацэнку твору аднаго маладога аўтара, закончыў свой ліст такімі словамі:

«Ваш верш непрыгодны для друку зусім.

З прывітаннем Мікола Засім»

## Клопат Рыгора Шырмы

Рыгор Раманавіч Шырма журыўся: «Начальства – гэта такі цёмны пачатак. Мне далі парторга, прафорга і камсорга. А хору – няма?!»

## Маршал Бялевіч

«Пры жыцці Антон Бялевіч чаго толькі не вытвараў»,– гэтыя словы былі сказаны мне яго сябрам Пятром Прыходзькам. І сапраўды. Неяк Іван Калеснік расказваў, як у Віцебску, куды Бялевіч прыязджаў збіраць матэрыял для кніжкі пра бацьку Міная, Антон Пятровіч выдаў сябе за маршала.

Было так. Другі сакратар абкома партыі паабяцаў паэту, што прыедзе за ім да гасцініцы на машыне. Бялевіч у дамоўлены час спусціўся ў вестыбюль і стаў хвалявацца, што няма ні машыны, ні сакратара. Нейкі чалавек падышоў да паэта і незадаволена запытаў·

– Чаго вы так хвалюецеся, вы хто такі?

– Я маршал Бялевіч.

Я ведаю прозвішчы ўсіх маршалаў, але Бялевіча. не чуў

– Ёсць такі маршал,– па-вайсковаму адчаканіў паэт

Тут з'явілася бліскучая чорная «Волга», і Антон Пятровіч расцалаваўся з другім сакратаром абкома.

– Мусіць, ёсць такі маршал,– услых сказаў чалавек.

Другім разам Антон Бялевіч ішоў са сваімі сябрамі ля будынка штаба Беларускай ваеннай акругі.

– Хочаце, я прайду ў будынак праз пасты, прапанаваў ён.

– Давай, Антон,– падтрымалі яго прыяцелі.

Антон Пятровіч упэўнена накіраваўся ў вароты і, паказваючы на дзверы штаба, загадаў вартавому:

– Далажыце: ідзе генерал Бялевіч.





Вартавы толькі і паспеў, што аддаць чэсць. Праз колькі хвілін паэт спакойна і паважна выйшаў да сваіх сяброў.

На гэты раз Антон Пятровіч улічыў віцебскі вопыт і для большай верагоднасці пайшоў нават на паніжэнне сабе звання з маршала да генерала.

## Як яно лепей

Даўнавата гэта было. У Крупкі прыехалі выступаць Захар Бірала, Міхась Скрыпка і Алесь Махнач. У размове выявілася, што ва ўсіх жонкі значна маладзейшыя за іх. У Махнача на шаснаццаць гадоў, у Біралы яшчэ маладзейшая, а ў Скрыпкі дык і на вельмі многа. Нехта з іх сказаў: можа не варта было з маладымі жаніцца. Міхась Скрыпка кінуў на гэта:

– Лепш хай застанецца, чым не хопіць.

## Міхаіл Святлоў

Цяпер не магу прыпомніць, як дакладна называлася гэтае свята: дэкада, тыдзень ці дні рускай літаратуры. Ды гэта не так і важна, бо сутнасць тая самая, усё тады праводзілася па стандарту, аднолькава. На гэты раз прыехалі такія майстры слова, як Аляксандр Пракоф'еў, Міхаіл Святлоў . Рускія пісьменнікі жартавалі ад душы, але найбольш гаварылі пра Святлова. Найчасцей паўтаралі дзве паэтавы рэплікі.

Цяжка захварэў Міхаіл Аркадзьевіч на лёгкія. Вось ідзе ён з палачкай па бальнічным двары і кажа: «Цяпер я абапіраюся на палачку Коха»

Пішу гэтыя радкі і раптам успомнілася, што ў тыя дні Міхась Стральцоў хадзіў да Міхаіла Аркадзьевіча ў гатэль, каб узяць інтэрв'ю для газеты «Літаратура і мастацтва». Гаворка адбылася, як расказваў Міхась, незвычайна кароткая. Смяртэльна хворы паэт сустрэў беларускага празаіка словамі: «Ну што я вам скажу, малады чалавек? .» Але кароткі абмен фразамі даў нямала ўражанняў для Стральцова. Дарэчы, незадоўга да смерці, будучы ў мяне на дачы, Міхась зноў нагадаў гэтыя словы Святлова.

У тыя святочныя дні я ўпершыню ўбачыў Міхаіла Святлова ў нейкай незвычайнай іпастасі: ён стаяў адзін у кутку амаль пустога вестыбюля Палаца прафсаюзаў, бо ўсе пайшлі ў залу, стаяў самотны. Мяне здзівіла: такая жыццесцвярджальная яго паэзія і такая самотная постаць паэта. Я тады не ведаў, што рак высмоктвае з яго ўсю жыццёвую энергію. Але ў напружаныя гадзіны, лежачы ў бальніцы, кажуць, ён крычаў:

– Рак у мяне ўжо ёсць, прынясіце яшчэ піва.

## Трагічны жарт

Вядома, што Астап Вішня ў 1934 годзе быў рэпрэсіраваны і толькі праз дзесяць гадоў вярнуўся на Украіну. Як ён казаў, так скончыў дзесяцігодку. Калі следчы вёў допыт і інкрымінаваў яму, што быццам пісьменнік хацеў застрэліць першага сакратара ЦК Кампартыі Украіны Постышава ў яго кабінеце (допыт следчы вёў па-руску), то Астап Вішня запярэчыў:

– Вождей я предпочитаю стрелять только на свежем воздухе.

Божа мой! Нават у такіх абставінах ён яшчэ мог жартаваць.

## «Чаму было не ўзяць?»

Раз пайшла гаворка пра Астапа Вішню, то я нагадаю яшчэ адзін выпадак. У сталым узросце яго жонка, а ёй тады было пад шэсцьдзесят, прыйшла дадому і кажа:

– Ты ведаеш, я сустрэла знаёмую, дык яна мне дала трыццаць гадоў

– Як давала, то чаму ты не ўзяла?– здзівіўся сатырык.

**КРЫНІЦА № 6**

**1995**

ШТОМЕСЯЧНЫ КУЛЬТУРАЛАГІЧНЫ ЧАСОПІС

ВЫДАЕЦЦА СА СТУДЗЕНЯ 1988 ГОДА

**Заснавальнікі:**
**СП Беларусі, калектыў рэдакцыі**



**Выдаецца на беларускай мове**

**Рукапісы аўтарам па пошце не вяртаюцца**

**Пішыце:**
**220807, г. Мінск, ГСП, вул. Кісялёва, 11**

**Звaніце:**
**366-071, 366-142**

Падпісана да друку з арыгінал-макета 15. 07. 95. Фармат 60x84 1/8. Афсетны друк.
Папера афсетная. Ум.-друк.арк. 13,02. Ум.фарба-адб. 14,35. Ул.выд.арк. 14,52.
Тыраж 4000 экз.
Кошт дагаворны. Зак. 863.

**Надрукавана з арыгінал-макета заказчыка ў друкарні выдавецтва**
**«Беларускі Дом друку», 220013, г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79.**